АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# ПОМНІКІ МЕМУАРНАЙ ЛІТАРАТУРЫ БЕЛАРУСІ XVII ст.

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1983

ББК 83.3Бел1
П55

Укладанне, уступны артыкул і каментарыі
кандыдата філалагічных навук А. Ф. Коршунава

Рэдактар
В. В. Барысенка, акадэмік АН БССР

Рэцэнзенты:
А. А. Лойка, доктар філалагічных навук,
П. Р. Казлоўскі, доктар гістарычных навук,
У. М. Свяжынскі, кандыдат філалагічных навук

**Помнікі** мемуарнай літаратуры Беларусі
П 55 XVII ст./АН БССР, Ін-т літ. імя Я. Купалы; [Уклад., уступ. артыкул і камент. А. Ф. Коршунава].— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— 175 с.

У пер.: 1 р. 70 к.

У кнізе разглядаюцца два значныя, але мала даследаваныя помнікі беларускай мемуарнай літаратуры XVII ст.— дзённікі Фёдара Еўлашоўскага і Яна Цадроўскага. Іх тэксты суправаджаюцца прадметна-біяграфічнымі каментарыямі.

Выданне разлічана на літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, усіх тых, хто цікавіцца мінулым Беларусі.

П $\frac{4603010201-171}{М 316-83}$ 117—83 ББК 83.3Бел1

*Светлай памяці дарагога, незабыўнага настаўніка і друга, доктара філалагічных навук, прафесара ЮЛЬЯНА СЯРГЕЕВІЧА ПШЫРКОВА*

*прысвячаецца*

# ЛЕПШЫЯ ЗДАБЫТКІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МЕМУАРЫСТЫКІ

Творы мемуарнай літаратуры, змешчаныя ў гэтым выданні, даволі дакладна адлюстравалі грамадска-палітычнае і культурнае жыццё Беларусі другой палавіны XVI — пачатку XVII ст. Таму, каб навукова ацаніць гэтыя помнікі нашага пісьменства, патрэбны невялікі экскурс у мінулае.

У гісторыі Беларусі XVI стагоддзе было якасна новым этапам яе развіцця. Дзякуючы далейшаму сацыяльна-эканамічнаму прагрэсу, умацаванню гарадоў, росту таварнай вытворчасці і выхаду яе на еўрапейскі рынак якраз тады пачалі складвацца спрыяльныя ўмовы для з'яўлення на гістарычнай арэне новых класавых сіл, фарміравання ў асобныя саслоў'і шляхты і гараджан.

Новыя павевы часу, якія ў краінах Заходняй Еўропы азнаменаваліся вялікімі геаграфічнымі і навуковымі адкрыццямі, наклалі свой адбітак на жыццё беларускага народа, развіццё яго нацыянальнай культуры. Яны ў значнай ступені садзейнічалі актывізацыі мясцовай грамадска-палітычнай думкі, узрастанню класавай і нацыянальнай самасвядомасці народа, узмацненню антыфеадальных і антыклерыкальных тэндэнцый. Усё гэта вяло да секулярызацыі грамадскага мыслення, узнікнення новых духоўных запатрабаванняў, аслаблення манаполіі царквы як адзінага ў тыя часы духоўнага заканадаўцы ў палітыцы, маралі, асвеце, культуры.

Сацыяльна-эканамічнаму прагрэсу ў XVI ст. садзейнічала далейшае развіццё таварна-грашовых адносін у Вялікім княстве Літоўскім, куды тады ўваходзіла і Беларусь. Будучы зацікаўленай у атрыманні дадатковых сродкаў для паляпшэння свайго дабрабыту, шляхта стала праяўляць павышаную цікавасць да сельскай гаспадаркі, прадукцыя якой з канца XV ст. пачала карыстацца шы-

рокім рыначным попытам, асабліва ў гандлі з замежнымі краінамі. Пасля прыняцця ў 1528 г. Статута Вялікага княства Літоўскага шляхта стала свабодна распараджацца сваімі ўладаннямі. Таму цяпер яна не прамінала магчымасці пашырыць іх граніцы за кошт абшчыннага землеўладання.

Павелічэнне правоў і эканамічнай вагі шляхецкага саслоўя садзейнічала яго палітычнаму ўзвышэнню і суправаджалася паступовым запрыгоньваннем раней свабодных сялян. Яскравым сведчаннем таму можа служыць прынятая ў 1589 г. трэцяя рэдакцыя Статута Вялікага княства Літоўскага. Абапіраючыся на ўрадавыя прывілеі, шляхта стала пануючай у дзяржаве, істотна ўплывала на яе палітычнае жыццё. Зразумела, што гэта прывяло да абвастрэння супярэчнасцей паміж інтарэсамі шляхецкага саслоўя, з аднаго боку, і буйной арыстакратычнай вярхушкі, радавітых магнатаў, з другога.

У досыць працяглай па часе, напружанай і жорсткай па характару палітычнай барацьбе шляхта паступова здолела дамагчыся істотных поспехаў. Ужо ў другой палавіне XVI ст. ёй удалося абмежаваць палітычную дыктатуру магнацкай вярхушкі, дабіцца таго, што ніводнае значнае пытанне знешняга або ўнутранага жыцця дзяржавы не магло вырашацца без адзінагалоснай волі сейма, у склад якога ўваходзілі як магнаты, так і выбраныя прадстаўнікі павятовай шляхты. Такая значная палітычная заваёва садзейнічала росту асабістай ініцыятывы шляхты, пашырэнню яе палітычнага кругагляду, крышталізацыі індывідуалістычных рысаў, што патэнцыяльна вяло да анархіі, потым наклала адмоўны адбітак на гістарычны лёс дзяржавы.

Фарміраванне замкнутай шляхецкай касты прывяло да больш рэзкага размежавання насельніцтва на правамоцных людзей шляхецкага стану і пазбаўленых правоў прасталюдзінаў. Узнік яшчэ адзін вузел непрымірымых сацыяльна-класавых супярэчнасцей.

Глыбокаму расслаенню тагачаснага беларускага грамадства садзейнічала таксама бурнае развіццё гарадоў, ператварэнне іх, паводле Магдэбургскага права, у асобныя адміністрацыйна-гаспадарчыя і культурныя цэнтры. У іх інтэнсіўна канцэнтравалася рамесніцкая вытворчасць, рос прыватны капітал, што стварала спрыяльныя ўмовы для пашырэння ліхвярства і зараджэння з ліку багатых мяшчан мясцовай буржуазіі.

Юрыдычна засведчыўшы аўтаномію гарадоў, Магдэбургскае права ўзмацніла сацыяльныя супярэчнасці ў гарадскім асяроддзі, якое фарміравалася і папаўнялася за кошт сялян, што шукалі тут ратунку ад прыгоннага занявольвання. Асабліва востра гэтыя супярэчнасці адчуваліся ў тых шматлікіх гарадах, якія належалі на правах прыватнай уласнасці буйным феадалам,— там гараджанам даводзілася весці ўпартае змаганне за сваю аўтаномію. Гэта барацьба патрабавала згуртаванасці і ініцыятыўнасці. Што датычыцца згуртаванасці, дык яна асабліва праяўлялася ў супрацьдзеянні ўзмоцненаму пранікненню каталіцызму на беларускія землі (пачатак яму быў пакладзены яшчэ вялікім князем літоўскім Ягайлам). З другога боку, кансалідацыі садзейнічаў сам характар развіцця рамесніцкай вытворчасці, заснаванай на вузкай прафесіянальнай спецыялізацыі. Шпаркі рост прадукцыйных сіл абумовіў павелічэнне ў гарадах удзельнай вагі гандлёва-рамесніцкага люду, стварэнне цэхавых карпарацыйных абшчын, якія ў сваім далейшым развіцці выйшлі за першапачатковыя рамкі вузкіх прафесійна-філантрапічных арганізацый і сталі выразнікамі саслоўных інтарэсаў гараджан.

Рост апазіцыі служылай шляхты і баяр супраць магнатаў, барацьба гарадоў за сваю аўтаномію, выдзяленне гараджан у самастойнае правадольнае саслоўе стваралі спрыяльныя ўмовы для актыўнага праяўлення прыватнай ініцыятывы, развіцця ў чалавеку індывідуальнага пачатку, росту палітычнай і нацыянальнай самасвядомасці. Гэта ў сваю чаргу адкрывала новыя магчымасці для самасцвярджэння і развіцця асобы, для абнаўлення грамадскага жыцця і нараджэння ў ім новых поглядаў на чалавека і яго месца ў навакольным свеце.

Выхад на палітычную арэну беларускай шляхты і гараджан адбываўся ў складаных умовах грамадскага жыцця Вялікага княства Літоўскага. Яно было напоўнена вострым і непрымірымым саслоўна-класавым антаганізмам, рэфармацыйным рухам, які потым змяніўся каталіцкай контррэфармацыяй. Апошняя паклала пачатак узмоцненай феадальна-каталіцкай агрэсіі і прывяла да ліквідацыі самастойнасці Вялікага княства Літоўскага.

Узнікшы ў краінах Заходняй Еўропы, рэфармацыйныя ідэі знайшлі спрыяльную для сябе глебу ў Вялікім княстве Літоўскім. Тут яны вылiлiся ў сацыяльна-палітычны рух, які прынята называць Рэфармацыяй.

Яна з'явілася заканамерным вынікам пачатку распаду феадальнай сістэмы і зараджэння ў ёй якасна новых, буржуазных адносін. Ва ўмовах Вялікага княства Літоўскага рэфармацыйны рух даваў пэўныя выгады для шляхецкага саслоўя — якраз на яго рабіў стаўку кароль Рэчы Паспалітай Сігізмунд II Аўгуст, калі пачаў барацьбу з палітычным панаваннем магнацтва.

З другога боку, ідэалагічная дактрына Рэфармацыі набыла прыцягальную сілу таксама для мясцовых феадалаў. Яна давала ім патэнцыяльную магчымасць перакласці частку цяжару ваенных выдаткаў на царкву, багатае духавенства, якое раней такіх выдаткаў ніколі не несла. Натуральна, што за многія стагоддзі свайго існавання царква, асабліва каталіцкая, якая знаходзілася ў Рэчы Паспалітай у больш прывілеяваным становішчы, чым праваслаўная, стала адной з асноўных апор феадалізму. Яна вельмі разбагацела за кошт тых шматлікіх зямельных ахвяраванняў, якімі яе надзялялі прыхаджане і дзяржава.

Паколькі надзеленае выключнымі прывілеямі духавенства з'яўлялася багатым і пануючым саслоўем, яно выкарыстоўвала ўсе магчымасці, каб бязлітасна эксплуатаваць сялян і гарадскіх рамеснікаў. Яно стрымлівала развіццё свецкіх навук, рэгламентавала нормы духоўнага жыцця чалавека, не дапускала вальнадумства. Вось чаму ў прыхільнікаў ідэй Рэфармацыі духавенства выклікала шырокую апазіцыю. Таму не выпадкова, што свецкія феадалы, імкнучыся пашырыць свой ідэалагічны і палітычны ўплыў на грамадства, ахвотна далучыліся да ўзнятай пачынальнікамі рэфармацыйнага руху барацьбы супраць царкоўнага і манастырскага землеўладання, пасталіся выкарыстаць яе ў сваіх прыватных інтарэсах.

Барацьба рэфарматараў за абмежаванне эканамічнай і палітычнай магутнасці царквы, хоць яна вялася таксама пад рэлігійным сцягам, досыць хутка ўцягнула ў сваю арбіту значную частку мясцовай дробнай шляхты і нават жыхароў гарадоў і мястэчак Вялікага княства Літоўскага. Не застаўся ў баку ад павеваў часу і каралеўскі двор Сігізмунда II Аўгуста, дзе знаходзілі прытулак шматлікія выхадцы з іншых краін. Падтрыманая каралеўскім дваром Рэфармацыя грунтоўна аслабіла пазіцыі каталіцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім. Яна абуджала грамадскую думку, садзейнічала далейшаму развіццю кніжнай справы, рэвізіі біблейскіх тэкстаў і кніг культа-

вага прызначэння. Яна яшчэ больш абвастрыла саслоўна-класавыя супярэчнасці, садзейнічала развіццю вальнадумства і рацыяналізму ў Беларусі і Літве.

Змагаючыся супраць царквы, яе магутнага ўплыву на грамадска-палітычнае жыццё, самі ідэолагі рэфармацыйнага руху, аднак, не адмаўляліся ад рэлігіі. Яны выступалі за яе захаванне, але толькі ў абноўленай форме, больш прыстасаванай да інтарэсаў той часткі грамадства, ад імя якой яны ўключаліся ў барацьбу, імкнучыся ажыццявіць адно з галоўнейшых сваіх патрабаванняў — стварыць новую, больш танную царкву, якая карысталася б не латынню, а роднай, зразумелай народу мовай.

Рэфармацыя была кароткачасовай, але значнай і яркай з'явай у грамадска-палітычным і культурным жыцці беларускага народа. Сацыяльная барацьба рэфарматараў садзейнічала фарміраванню яго грамадскай самасвядомасці, развіццю асветы і кнігадрукавання, пачатага яшчэ Ф. Скарынам у першай чвэрці XVI ст., спрыяла станаўленню арыгінальнай беларускай культуры, пашырэнню антыфеадальных і рацыяналістычных ідэй.

Аднак у Вялікім княстве Літоўскім, як і ў Рэчы Паспалітай у цэлым, лагер рэфарматараў раз'ядаўся супярэчнасцямі. Яго прыхільнікі не змаглі захаваць адзінства. З абвастрэннем антыфеадальнай класавай барацьбы і пад націскам каталіцкай рэакцыі Рэфармацыя распалася на разрозненыя рэлігійна-сектанцкія плыні і ў рэшце рэшт вымушана была сысці з палітычнай арэны.

Усе гэтыя зрухі, што адбываліся не на карысць Рэфармацыі, сталі на Беларусі праяўляцца ўжо ў канцы 50-х гадоў XVI ст., калі феадальныя вярхі тагачаснага грамадства, напалоханыя ростам дэмакратычных тэндэнцый, пачалі адступаць ад рэфармацыйнага руху, пераходзіць на бок каталіцкай рэакцыі. Пазбаўленая трывалай сацыяльнай апоры на шырокія масы, якія моцна трымаліся традыцыйнага праваслаўнага веравызнання, беларуская рэфармацыйная плынь хутка выявіла сваю сацыяльную абмежаванасць і слабасць. Вось чаму, нягледзячы на патэнцыяльна закладзеныя ў ёй прагрэсіўныя тэндэнцыі, яна не здолела іх поўнасцю рэалізаваць і набыць такі шырокі размах, як у многіх краінах Заходняй Еўропы.

Будучы не ў стане абмежаваць землеўладанне буйных магнатаў, вядучую ролю арыстакратаў у кіраванні дзяржавай, у сярэдзіне XVI ст. мясцовая шляхта ў выніку не-

спрыяльных абставін, выкліканых Лівонскай вайной (1558—1582), пайшла на цесны саюз з польскай шляхтай і паступова стала галоўнай апорай каталіцкай экспансіі ў Вялікім княстве Літоўскім. Заключаная не без яе згоды Люблінская унія з Польшчай (1569) адкрыла свабодны доступ на тэрыторыю княства ваяўнічаму каталіцкаму Ордэну езуітаў, нядаўна запрошанаму ў Польшчу для барацьбы з Рэфармацыяй.

Смерць у 1572 г. апошняга нашчадка Ягелонскай дынастыі Сігізмунда II Аўгуста, пры якім пратэстанцка-рэфармацыйны рух карыстаўся пэўнай падтрымкай каралеўскага двара, досыць працяглае бескаралеўе, што наступіла затым, яшчэ больш ускладнілі развіццё Рэфармацыі. А ўступленне на трон Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя (1576—1586) і яго яўныя сімпатыі да езуітаў падрыхтавалі ў дзяржаве ўмовы, якія дазволілі контррэфарматарам перайсці ў актыўнае і небеспаспяховае наступленне — спачатку супраць пратэстантаў, а потым і супраць праваслаўных. У часы панавання Сігізмунда III Вазы (1587—1632) дзякуючы славутай Брэсцкай уніі 1596 г. Ватыкану ўдалося навязаць частцы праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага саюз з каталіцкай царквой.

Рэлігійная палеміка, выкліканая рэфармацыйным рухам, з небывалай сілай узмацнілася ў часы феадальна-каталіцкай рэакцыі. У канцы XVI ст. пытанні веравызнання набылі ў Рэчы Паспалітай востры палітычны характар. Яны станавіліся тады «надзённымі пытаннямі часу, і ўсе лепшыя людзі лічылі сваім свяшчэнным абавязкам прымаць у вырашэнні іх самы жывы і непасрэдны ўдзел»[1] незалежна ад канфесіянальнай прыналежнасці.

Праследуючы дзяржаўна-палітычныя мэты, кіруючыя колы Рэчы Паспалітай імкнуліся з дапамогай езуітаў і розных сеймавых пастаноў дыскрэдытаваць нацыянальна-рэлігійныя інтарэсы праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і уніфікаваць спрэчныя канфесіянальныя пытанні на аснове вучэння рымска-каталіцкай царквы. Натуральна, што такія планы мелі сваёй мэтай яшчэ больш заняволіць бяспраўныя беларускі і ўкраінскі народы, заглушыць іх узрослую нацыянальную

[1] Голубев С. Т. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники.— Киев, 1883, т. 1, с. 60—61.

самасвядомасць і самабытную культуру. Ліквідацыя праваслаўнага веравызнання, на думку ініцыятараў уніі, павінна была прывесці да пазбаўлення гэтых народаў іх ідэалагічнай апоры і тым самым падарваць братняе адзінства праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны з рускім народам.

Калі для шляхты Вялікага княства Літоўскага акаталічванне і паланізацыя яшчэ ў нейкай ступені здаваліся выгаднымі, бо дзякуючы ім яна магла набыць сабе юрыдычную роўнасць з польскай шляхтай, дык для сацыяльных нізоў Беларусі і Украіны ажыццяўленне Люблінскай і Брэсцкай уній вяло да ўзмацнення эканамічнага, палітычнага, нацыянальнага і духоўнага заняволення.

Зразумела, што пры такіх абставінах нават само праваслаўнае веравызнанне станавілася для сацыяльных нізоў Беларусі і Украіны прычынай шматлікіх пакут. Таму палітыка акаталічвання і апалячвання выклікала ў народных нізах гарачае імкненне ўзняцца на барацьбу за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы, за сваю мову, культуру, звычаі і традыцыі, за тое, каб застацца гаспадарамі ўласнага лёсу. І ў цяжкі час суровых выпрабаванняў, якія пачаўся ў апошнія дзесяцігоддзі XVI ст., беларусы і ўкраінцы паказалі сябе мужнымі і стойкімі патрыётамі роднага краю. Яны праявілі сябе як сапраўдныя змагары ў час казацка-сялянскіх паўстанняў, у той непрымірымай і абвостранай ідэалагічнай барацьбе, якую ім навязвалі і якую яны вымушаны былі весці ў XVII ст. супраць Брэсцкай уніі 1596 г., нацыянальна-рэлігійнага прымусу ў «аднавернай» Рэчы Паспалітай.

Вось такой была тая складаная грамадска-палітычная рэчаіснасць, што знайшла сваё адлюстраванне ў мемуарных творах Фёдара Еўлашоўскага і Яна Цадроўскага.

## I

Першы беларускі мемуарыст Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі (1546—1617) па свайму сацыяльнаму паходжанню належаў да той дробнапамеснай шляхты, якая, па трапнаму вызначэнню акадэміка Я. Ф. Карскага, яшчэ «цікавілася мясцовай рускай пісьменнасцю, рабіла пераклады, распаўсюджвала іх, пісала самастойныя творы, займала розныя дзяржаўныя выбарчыя пасады і ў той жа час гатова была выконваць даручэнні знатных паноў,

апякунства якіх для дробнага дваранства было важней за дзяржаўную службу»[2].

Біяграфічныя звесткі пра Ф. Еўлашоўскага, якія сёння вядомы нам, надзвычай скупыя і цалкам грунтуюцца на яго ўласных успамінах. З іх відаць, што нарадзіўся ён 7 лютага 1546 г. у Ляхавічах (цяпер раённы цэнтр Брэсцкай вобл.) у праваслаўнай сям'і. Бацька яго быў прадстаўніком даўняга баярскага роду, які з цягам часу збяднеў, але пры фарміраванні шляхецкага саслоўя здолеў атрымаць набілітацыю і карыстаўся ўласным гербам.

Першапачатковую адукацыю Ф. Еўлашоўскі атрымаў дома, дзе з пяці гадоў яго пачалі «бавити рускою наукою». Будучы чалавекам дапытлівага розуму, шляхам самаадукацыі ён набыў параўнаўча шырокія і глыбокія веды па матэматыцы, справаводству і юрыспрудэнцыі, дзякуючы чаму карыстаўся вялікай павагай у сучаснікаў.

У васемнаццацігадовым узросце Ф. Еўлашоўскі пачаў самастойнае жыццё. Надзвычай здольны ад прыроды і адукаваны юнак хутка звярнуў на сябе ўвагу не толькі мясцовых паноў і падпанкаў, але і такіх знатных тагачасных магнатаў, як маршалак дворны і ваявода трокскі Мікалай Крыштоф Радзівіл (1549—1616), маршалак земскі і гетман ліфляндскі Ян Еранім (Еранімавіч) Хадкевіч (?—1579), ваявода кіеўскі і маршалак зямлі валынскай Канстанцін Астрожскі (1528—1608). Еўлашоўскага выкарыстоўвалі для налічэння і збору падаткаў. Яму даручалі весці важныя судовыя справы ў розных судовых інстанцыях.

Прымаючы пад увагу вялікія юрыдычныя здольнасці і багаты практычны вопыт свайго земляка, навагрудская шляхта ў 1579 г. пасылае Ф. Еўлашоўскага павятовым паслом на Варшаўскі вальны (агульны) сейм, дзе яму было даручана прыняць удзел у выпрацоўцы важнага дзяржаўна-прававога дакумента — «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага». А калі ў навагрудскім земскім судзе аказалася вакантным месца падсудка, у 1592 г. яго выбралі на гэту пасаду. Займаў ён яе да канца жыцця.

Як тыповы прадстаўнік шляхецкага саслоўя, абавязанага несці ў дзяржаве ваенную службу, сваё самастойнае жыццё Еўлашоўскі пачаў з удзелу ў Лівонскай вайне — у бітве з рускім войскам пад камандаваннем П. Шуйска-

[2] Карский Е. Ф. Белорусы: Старая западнорусская письменность.— Пг., 1921, т. III, вып. 2, с. 108.

га, якая адбылася 26 студзеня 1564 г. каля в. Івацішкі пад Лепелем. Колькі часу правёў ён на гэтай вайне, нам невядома. Сам жа ён толькі зазначаў, што яму апрыкралі досыць частыя выезды для ўдзелу ў баях. З пункту погляду Еўлашоўскага, гэта вайна не прыносіла Вялікаму княству Літоўскаму ніякай карысці, а для яго асабіста засталася ў памяці таму, што яму тады давялося многа перажыць. Відаць, напалоханы рознымі непрыемнасцямі, ён пакінуў ваенную службу і перайшоў у двор да Яна Ераніма Хадкевіча. Якраз прыдворная служба ў гэтага вяльможы прынесла яму грамадскае прызнанне.

Дзякуючы таму што Ф. Еўлашоўскі сумленна і шчыра служыў сваім мецэнатам, яго добра ведалі на каралеўскіх дварах Сігізмунда II Аўгуста, Стэфана Баторыя і Сігізмунда III Вазы. Ён быў асабіста знаёмы з членамі іх світы, якія лічылі яго сваім чалавекам. І, трэба меркаваць, гэта акалічнасць адыграла пэўную ролю ў атрыманні Еўлашоўскім каралеўскіх прывілеяў. У 1577 г. Стэфан Баторый даў яму пасаду пінскага і сервечскага мастаўнічага, а ў 1592 г. Сігізмунд III Ваза — пасаду падсудка навагрудскага.

Дасягнуўшы гэтых пасад і маючы за плячыма багаты жыццёвы вопыт, у 1603 г. Ф. Еўлашоўскі ўзяўся за пяро, каб пакінуць сваім нашчадкам звесткі пра сваё жыццё, расказаць пра асабістыя ўражанні ад грамадска-палітычных падзей, якія ўсхвалявалі яго і здаваліся вартымі ўвагі.

У сваіх успамінах, пабудаваных на канкрэтным жыццёвым матэрыяле, аўтар стварыў цэлую галерэю вобразаў прадстаўнікоў дробнай і сярэднемаёмаснай шляхты Вялікага княства Літоўскага другой палавіны XVI — пачатку XVII ст. Мемуарыст імкнуўся паказаць іх светапогляд, сацыяльны быт. Свае назіранні ён падаў у выглядзе летапісных запісаў, у строгай храналагічнай паслядоўнасці, што паслужыла падставай пазнейшым даследчыкам назваць яго запісы «Дзённікам».

Ф. Еўлашоўскі жыў у вельмі складаны і напружаны час, калі Вялікае княства Літоўскае было арэнай вострых саслоўна-класавых супярэчнасцей і непрымірымай ідэалагічнай барацьбы, калі пытанні рэлігіі вылучыліся на авансцэну дзяржаўнай палітыкі, якая выклікала шырокую назадаволенасць у розных сацыяльных слаях грамадства і вяла да ўзнікнення шляхецкіх мяцяжоў і сялянска-казацкіх паўстанняў. Аднак, як сведчыць тэкст

успамінаў, Еўлашоўскі не праяўляў асаблівай цікавасці да палітычных падзей свайго часу, хоць па характару сваёй службы яму часта даводзілася сутыкацца з рознымі дзяржаўнымі дзеячамі Рэчы Паспалітай. Пытанні вялікай палітыкі мемуарыст адносіў да кампетэнцыі вялікіх паноў, выбраных дзеля гэтага самім богам. Вось чаму ён абыякава і бегла расказаў пра такія надзвычай важныя ў дзяржаўным жыцці Вялікага княства Літоўскага падзеі, як Люблінская унія 1569 г., Лівонская вайна, барацьба за трон у часы перажытых ім трох бескаралеўяў, Кракаўскі сейм 1603 г., дынастычная вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй. Пра іншыя важныя падзеі таго часу ў сваім творы ён нават і не ўспомніў.

Сваю абыякавасць да дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай Ф. Еўлашоўскі тлумачыў тым, што ён не меў намеру паўтараць сказанае пра гэтыя падзеі іншымі людзьмі. Вось чаму, канстатуючы той або іншы факт, ён зазначаў: «Опускаю то, яко ведуючи, достаточне то от иншых выписано». Варта падкрэсліць, што пра такія значныя падзеі, як Брэсцкая царкоўная унія 1596 г. або першае публічнае праследаванне езуітамі пратэстантаў, якое мела месца ў канцы XVI ст. у Вільні, Еўлашоўскі прама не ўпамінае, хоць апошняя з іх мела самае непасрэднае дачыненне да яго веравызнання. Пра адносіны аўтара да гэтых падзей мы можам толькі здагадвацца, калі ён у пачатку ўспамінаў са смуткам зазначае, што вось калісьці розніца ў веравызнанні не з'яўлялася перашкодай для сяброўскай дружбы, і таму лічыць ранейшы час «залатым» у параўнанні з пачаткам XVII ст.

Аднак пры ўсёй вонкавай палітычнай індыферэнтнасці Ф. Еўлашоўскі часам свае адносіны да падзей выяўляў вельмі выразна. Так, прыгадваючы часы першага бескаралеўя ў Рэчы Паспалітай, мемуарыст зазначыў, што, калі над аб'яднанай дзяржавай навісла ваенная пагроза з боку татарска-турэцкіх заваёўнікаў, польскія паны спалохаліся, што Вялікае княства Літоўскае скасуе дзяржаўны саюз з Польшчай, і вельмі баяліся, каб яно не дамовілася з рускім царом Іванам Грозным. У іншым месцы аўтар спецыяльна падкрэсліў, што на Варшаўскім сейме 1578 г. «маршалковал межи послами» не паляк, як гэта было ў сеймавай практыцы Рэчы Паспалітай, а прадстаўнік Беларусі і Літвы — князь Лукаш Болька Свірскі. Усведамляючы сябе грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага, мемуарыст ганарыўся яго дзяржаў-

нымі дзеячамі і пры кожным зручным выпадку імкнуўся супрацьпаставіць сваё, мясцовае, польскаму.

Успаміны Ф. Еўлашоўскага маюць для нас асаблівую цікавасць як літаратурны помнік, дзе надзвычай ярка і маляўніча пададзены шматлікія эпізоды з жыцця і быту прадстаўнікоў тагачаснай дробнамаёмаснай шляхты Вялікага княства Літоўскага, таго сацыяльнага асяроддзя, сярод якога яму досыць часта даводзілася бываць. Мемуары, па сутнасці, уяўляюць сабой своеасаблівы зборнік надзвычай цікавых, месцамі нават сюжэтна разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх стаіць жывы, рэальны чалавек з уласцівымі яму рысамі характару і псіхалогіі, абумоўленымі канкрэтнымі сацыяльнымі ўмовамі таго часу.

Пішучы ўспаміны, Ф. Еўлашоўскі перш за ўсё імкнуўся выхаваць сваіх дзяцей у духу тых уласных ідэалаў, якімі ён сам кіраваўся ў нялёгкім жыцці. Іменна гэтай акалічнасцю была абумоўлена яго прывязанасць да фактаў уласнай біяграфіі, якую ён падае ў строгай храналагічнай паслядоўнасці, карыстаючыся, відаць, запісамі, што рабіліся раней у дзённіку.

Для грамадска-палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай у пачатку XVII ст., калі Ф. Еўлашоўскі пачаў прыводзіць у строгі храналагічны парадак свае ранейшыя запісы, была характэрна вострая антыфеадальная і нацыянальна-рэлігійная барацьба. Пастаянныя сваркі і разлад унутры пануючага класа, частыя войны, адкрытая інтэрвенцыя ў Расію — усё гэта, разам узятае, прыводзіла ў рух вялізныя масы людзей. Назапашаныя ўражанні ад убачанага, пачутага і перажытага былі настолькі моцнымі, што прымушалі відавочцаў, удзельнікаў падзей брацца за пяро, каб занатаваць іх для гісторыі, не даць ім сцерціся ў памяці нашчадкаў.

Іменна ў гэты перыяд у беларускай літаратуры нараджаецца гісторыка-мемуарная проза, стваральнікамі якой у асноўным былі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя. Тады амаль што немагчыма было знайсці такую шляхецкую сям'ю, якая не вяла б сваіх дыярыушаў. І тут не было нічога дзіўнага: сама шляхта як сацыяльнае саслоўе, выходзячы на грамадска-палітычную і культурную арэну жыцця, накладвала свой адбітак на характар яго развіцця. У дыярыушы яна заносіла ўспаміны не толькі пра сваё асабістае жыццё, але і пра важнейшыя палітычныя падзеі ў краіне. Аўтары гэтых успамінаў, як пра-

віла, імкнуліся быць дакладнымі, як мага праўдзівей і паўней узнавіць факты і падзеі, якія яны тлумачылі і ацэньвалі ў адпаведнасці са сваімі ўражаннямі. Такое непасрэднае і шчырае самавыяўленне мемуарыстаў прыдавала іх запісам характар каштоўнага дакумента свайго часу.

Не былі выключэннем тут успаміны навагрудскага падсудка Ф. Еўлашоўскага, якія ахопліваюць сабой перыяд з 1566 да 1604 г. і якія ён пачаў пісаць у 1603 г. Яны з'яўляюцца самым раннім помнікам з усіх вядомых нам зараз твораў мемуарнага жанру ў старажытнай беларускай літаратуры. А таму яны ў пэўнай меры могуць служыць нам паказчыкам, па якому можна меркаваць, як адбывалася станаўленне і далейшае развіццё гэтага жанру. Прамога ўзору такога віду творчасці ў часы, калі пачаў ствараць свае мемуары Ф. Еўлашоўскі, яшчэ не было. І паколькі ён імкнуўся адлюстраваць свой час у дакументальна-гістарычным плане, то яму не заставалася нічога іншага, як выкарыстаць для сваіх успамінаў даўно вядомую, традыцыйную для летапісаў форму пагадавых запісаў, якая дазволіла яму захаваць храналагічную паслядоўнасць тых падзей і змен у грамадскапалітычным і сямейна-бытавым жыцці, непасрэдным сведкам якіх ён быў на працягу амаль што сарака год.

Увогуле ўспаміны Ф. Еўлашоўскага надзвычай лаканічныя. Але ў гэтай лаканічнасці ёсць і станоўчая вартасць. Аўтару не ўласціва шматслоўе, расцягнутасць апавядання. Ён імкнецца пісаць сцісла, але ёмка, дасягаючы гэтай ёмістасці выразнымі штрыхамі або трапнымі дэталямі, выхапленымі з паўсядзённага жыцця свайго часу. Такім чынам, у чытача ствараецца ўражанне, нібы ён прысутнічае пры данай падзеі. Трапна прыкмечаная і ўдала выкарыстаная дэталь у Еўлашоўскага заўсёды нясе ў сабе сэнсавую нагрузку. У адных выпадках яна дапамагае аўтару адцяніць канкрэтную рысу характару таго чалавека, пра якога ідзе гаворка, у другіх канцэнтруе апавяданне пра той або іншы жыццёвы эпізод.

Так, у прыватнасці, для таго каб даць пэўнае ўяўленне аб тым ці іншым сваім сучасніку, Ф. Еўлашоўскі знарок засяроджвае ўвагу на якой-небудзь адной канкрэтнай для данай асобы маральна-бытавой рысе, якая прадвызначае яго сімпатыі або антыпатыі да той ці іншай постаці. Як правіла, гэта вызваляла мемуарыста ад не-

абходнасці даваць падрабязную псіхалагічную матывіроўку паводзін адпаведнай асобы. Для яго, чалавека, светапогляд якога грунтаваўся на рэлігійным светаадчуванні, не падлягала сумненню, што ён, многа пражыўшы і шмат чаго пабачыўшы ў сваім жыцці, справядліва падыходзіць да з'яў грамадскага жыцця і да ацэнкі паводзін кожнай канкрэтнай асобы, з якой яму калісьці давodзілася сутыкацца пры тых або іншых акалічнасцях.

Кіруючыся меркаваннем, што кожны жыццёвы крок чалавека прадвызначаны наканаваннем звышнатуральных сіл, Ф. Еўлашоўскі ўспрымаў жыццё свайго часу такім, якім яно было, і нават не дапускаў думкі, што грамадства можна пераўтварыць. Чалавек для яго незалежна ад сацыяльнага становішча і месца ў грамадска-палітычным жыцці — гэта толькі праяўленне боскай волі. Сацыяльнае ж дабро і зло — гэта спрадвечныя антаганісты, паміж якімі, на думку мемуарыста, павінна быць не варожасць (яна, маўляў, наступіла толькі ў канцы XVI ст.), а імкненне да яе пераадолення. Адсюль і вынікае ўсёдаравальнасць Еўлашоўскага ў дачыненні да яго нядобразычліўцаў, якія псавалі яму настрой і прыносілі нямала непрыемнасцей. Мемуарыст імкнуўся да таго, каб адносіны паміж людзьмі заўсёды засноўваліся толькі на добрых учынках, як гэта было ў так званы «залаты век». Добрыя паводзіны чалавека ў грамадскім жыцці, маўляў, не застануцца незаўважанымі — яны прынясуць заслужаную павагу, забяспечаць заступніцтва бога.

Дзякуючы таму што Ф. Еўлашоўскі пастаянна кіраваўся такім правілам, ён быў жаданым чалавекам у шырокіх колах свайго асяроддзя — яно стварыла яму аўтарытэт і матэрыяльны дабрабыт, забяспечыла адпаведныя пасады і блізкае знаёмства з урадавымі коламі. Яго выключная таварыскасць служыла яму своеасаблівай візітнай картачкай у вышэйшых сферах, дзе ён знаходзіў сабе аднадумцаў і мецэнатаў. Натуральна, што такі вялікі аўтарытэт і папулярнасць мемуарыста выклікалі непажаданую для яго зайздрасць у шматлікіх нядобразычліўцаў, ад якіх ён, паводле ўласных сцвярджанняў, заўсёды знаходзіў сабе абарону ў бога. Вось чаму пры кожным зручным выпадку аўтар не забываў выказаць яму сваю бясконцую ўдзячнасць за тое, што той яго ніколі не пакідаў, цудоўна абараняў ад непрыяцеляў.

Прыхільна ставячыся да людзей і іх жыццёвых пат-

рэб, мемуарыст ніколі не прамінаў магчымасці чым-небудзь дапамагчы ім. Ён, натуральна, разлічваў і спадзяваўся на тое, што яны ў пэўны час адплацяць яму тым жа. Але само жыццё хутка засведчыла, што людзі часта забываюць дабрату і робяць наадварот. Вось чаму мемуарыст з асаблівай павагай і ўдзячнасцю ўспамінаў тых, хто калісьці зрабіў яму нешта добрае, і асуджаў тых, якія за яго дабрачыннасць адплачвалі чорнай няўдзячнасцю. Так, пачынаючы ўспаміны пра сваё юнацкае жыццё, Ф. М. Еўлашоўскі з прыемнасцю зазначыў, што яму ў той час, у 1566 г., пашанцавала спазнаць «великую ласку мужа годного памяти князя Яна Маковецкого, архидьякона варшавского, кустоша и каноника виленского, писара в скарбе короля его милости». Князь праявіў да яго пільную ўвагу і не толькі бескарысна навучыў справаводству, але і пазнаёміў з многімі патрэбнымі людзьмі. Відаць, не без уплыву Макавецкага, бескарыслівага і добразычлівага чалавека, блізкага да караля Сігізмунда II Аўгуста, Еўлашоўскі апынуўся на службе пры двары «вяльможнага пана» Вялікага княства Літоўскага Яна Ераніма Хадкевіча, адкуль пачалося яго грамадскае прызнанне і рост аўтарытэту.

Другім такім чалавекам, які заслужыў доўгую і добрую памяць пасля сваёй смерці, Еўлашоўскі лічыў Андрэя Ждановіча Дароўскага. Каб растлумачыць, чым гэта абумоўлена, мемуарыст падрабязна апісвае тыя неспрыяльныя абставіны, у якія ён трапіў у 1572 г.

Як сведчаць архіўныя дакументы, дзесьці ў канцы 1571 г., не пакідаючы службы ў Яна Ераніма Хадкевіча, Еўлашоўскі пачаў выконваць і даручэнні магната Мікалая Крыштофа Радзівіла, «маршалка дворного, княжати на Олыце и Несвижу» па мянушцы Сіротка. У сувязі з гэтым у пачатку 1572 г. ён затраціў шмат часу на высвятленне прыкрай справы нейкага пана Шахна, дробнага шляхціца са Свержаня, які пасварыўся са сваім суседам Мікалаем Служкай, сынам старосты крычаўскага. У рэшце рэшт цаной вялікага напружання сіл Еўлашоўскаму ўдалося памірыць Радзівіла са Служкай і выкрыць паводзіны пана Шахна. Але занятасць справамі Радзівіла не дазваляла яму заняцца сваімі прыватнымі справамі. Неўзабаве, у пачатку сакавіка 1572 г., нечакана памерла яго маці Феадора. Яе смерць і наступныя сямейныя клопаты прымусілі Еўлашоўскага адмовіцца ад свайго ранейшага намеру паехаць у Венгрыю і Турцыю,

а потым наведаць іншыя далёкія краіны, каб папоўніць веды і навучыцца розным рамёствам.

У тым жа 1572 г., даведаўшыся, што ёсць вакансія на пінскае епіскапства, Еўлашоўскі прыклаў нямала намаганняў, каб атрымаць у Навагрудку ад мітрапаліта Іоны Пратасовіча пасвячэнне бацькі ў епіскапскі сан. Натуральна, што гэта вымагала значных выдаткаў, якія мемуарыст мусіў зрабіць для ўладкавання бацькі на гэту кафедру. Частыя і далёкія паездкі вымагалі вялікіх грошай, а іх не хапала. Таму трэба было шукаць крэдытора. Еўлашоўскі спадзяваўся, што яму ўдасца пазычыць грошы ў тых людзей з-пад Ляхавіч, якім ён «часто в потребах их згожал». Але ніхто з іх не змог яго выручыць патрэбнай пазыкай. Вось тады ён разгубіўся і адчуў сябе вельмі няшчасным чалавекам. Аднак выратаванне прыйшло адтуль, адкуль ён яго менш за ўсё чакаў. З цяжкага становішча мемуарыста выручыў Андрэй Ждановіч Дароўскі, якому ён застаўся надзвычай удзячны і якога пасля ўспамінаў добрым словам за тое, што той пазычыў грошы, чым дапамог пасадзіць бацьку на епіскапскую кафедру ў Пінску.

З асаблівай павагай і любоўю мемуарыст ставіўся да сваёй жонкі Ганны. Яна была для яго ўзорам чалавечай дабрыні і гуманных адносін да людзей. Сям'я Еўлашоўскіх даволі хутка павялічвалася, і ў 1604 г. у іх было ўжо дзевяць сыноў і пяць дачок. Станоўчыя якасці жонкі, падкрэсліваў мемуарыст, адыгралі выключную ролю ў тым, што яму не апрыкрала сумеснае жыццё. Цнатлівая і мужная, ветлівая і далікатная Ганна Еўлашоўская праяўляла клапатлівасць і міласэрнасць да ўбогіх, хворых і засмучаных людзей.

З такой жа сімпатыяй Еўлашоўскі пісаў і пра княгіню Аляксандру Крошынскую, першую жонку Івана Бака з Асташына. У характары гэтай жанчыны аўтар вылучае выключную дабрыню і чалавечнасць. Паводле яго ўспамінаў, нябожчыца была вельмі прыгожай і шляхетнай жанчынай. Гэтыя якасці яе характару ўплывалі і на мужа — пры жыцці першай жонкі Іван Бак таксама быў чалавекам невыказнай дабрыні. Станоўчыя рысы характару Аляксандры Крошынскай яшчэ больш акрэсліваюцца, калі мемуарыст супастаўляе яе з другой жонкай Івана Бака — Таццянай Скумінавай, якая даводзілася княгіні роднай цёткай. У адрозненне ад сваёй пляменніцы Скумінава выступае ў Еўлашоўкага носьбітам усяго адмоў-

нага і злога: яна неспагадлівая да людзей, надзвычай скупая і прагная і гэтыя свае рысы імкнулася перадаць свайму мужу.

З асаблівай увагай Еўлашоўскі сачыў за жыццём мясцовай шляхты. У дзённіку ён адзначаў, калі і дзе той ці іншы пан нарадзіўся або ажаніўся, пры якіх акалічнасцях памёр ці загінуў, дзе пахаваны, чым ён вызначаўся пры жыцці, калі і як аўтару давялося з ім пазнаёміцца. У гэтых адносінах успаміны Еўлашоўскага надзвычай багатыя на рэальна-гістарычныя факты і імёны. У кожным станоўчым або адмоўным вобразе свайго сучасніка аўтар імкнуўся падкрэсліць самае характэрнае, нярэдка супярэчлівае, як гэта можна бачыць на прыкладзе паказаных ім паноў Мікалая Тлухоўскага, Івана Крачатоўскага або навагрудскага пастыра Ліцыніуша.

Так, у прыватнасці, стары слуга Яна Ераніма Хадкевіча Мікалай Тлухоўскі ў абмалёўцы мемуарыста паўстае як чалавек, які ніколі не быў гаспадаром свайго слова: мог ён шмат чаго наабяцаць, але нічога не зрабіць, клясціся ў вялікай дружбе і ў той жа час ашукваць. Разам з Крачатоўскім ён ашукваў не толькі Еўлашоўскага, але і тых паноў, якім яны служылі. У выніку махляры дамагліся таго, што Тлухоўскі забраў сабе багаты маёнтак Сяльцо на Русі, а Крачатоўскі — Малкавічы, Канюхі і Мазуркоўшчыну, якія былі абяцаны сыну Еўлашоўскага. Натуральна, што такія дзеянні Крачатоўскага выклікалі асаблівае абурэнне аўтара, бо ў свой час ён нямала дапамог бацькам ашуканца, а яго самога рэкамендаваў на службу, навучыў яго асновам юрыспрудэнцыі.

Як чалавек набожны Еўлашоўскі быў перакананы ў тым, што кожны несумленны ўчынак рана ці позна заўважыць сам бог, які пакарае за гэта. Іменна так, на яго думку, здарылася з Тлухоўскім: на яго бог наслаў хваробу, ад якой пасля няўдалага лячэння ён раптоўна памёр. Такім чынам, падкрэслівае мемуарыст, спраўдзілася вядомая прымаўка аб тым, што здрадлівае сэрца само сябе паражае. І хоць Еўлашоўскі не радаваўся такой помсце бога яго непрыяцелю, але яна ўмацавала яго веру ў наканаванасць лёсу.

Мемуарыст быў упэўнены ў тым, што і сам ён не пазбег боскага пакарання за тое, што на лютаўскай сесіі земскага суда 1602 г. не падтрымаў суддзю Васіля Зянкевіча і пана Падароўскага, якія хацелі, каб у княстве

Літоўскім судовыя сесіі праводзіліся ў адзін час і па польскаму звычаю. Паколькі ва ўсім Навагрудскім павеце не знайшлося тады ніводнага чалавека, які падзяляў бы пазіцыю Зянкевіча і Падароўскага, Еўлашоўскі таксама, хоць і быў папярэджаны суддзёй, не дазволіў ламаць традыцыю і праводзіў суды па-старому. За гэта, на думку мемуарыста, яго спасцігла кара боская, бо ў час бліжэйшай судовай сесіі Альбрэхт Брyханскі з дапамогай свайго швагра Корсака забіў у Навагрудку Яна Еўлашоўскага, сына аўтара. Калі апошні даведаўся пра гэта злачынства ў час пасяджэння суда, ён папрасіў прысутных пайсці разам з ім на рынак, дзе загінуў яго сын. Але суддзя загадаў затрымаць Еўлашоўскага, а цела забітага сына адвезці дамоў іншым. Болей таго, калі суддзя даведаўся, што забойцам аказаўся яго пляменнік Корсак, то прыклаў усе намаганні, каб толькі яго выбавіць з небяспекі.

Страта сына і расчараванне ў прыяцелях, якія ашукалі яго, так паўплывалі на аўтара ўспамінаў, што ён аслабеў, пачаў часта губляць прытомнасць і таму не мог засядаць на судах. Давялося на яго месца выбраць часовых падсудкаў. Хвароба працягвалася доўга і, відаць, скараціла жыццё мемуарыста.

Са старонак свайго твора Еўлашоўскі паўстае перад чытачом як прыкладны шляхціц, цудоўны сем'янін і надзвычай пяшчотны сын. Ён глыбока паважаў бацькоў, любіў дзяцей, перажываў за іх лёс, не шкадаваў часу, энергіі і сродкаў, каб як мага лепш уладкаваць іх справы.

Ф. Еўлашоўскі яўна ідэалізаваў феадальную знаць і ганарыўся тым, што быў даверанай асобай буйных магнатаў. З асаблівай прыемнасцю ён успамінаў сваю службу ў Хадкевічаў — расказваў пра іх сямейныя справы, пра тое, якія цяжкія заданні даводзілася яму часам выконваць у судовых інстанцыях, абараняючы іх радавыя інтарэсы. Не без гонару мемуарыст зазначаў, што на працягу трыццаці год ён праўдзіва і пільна служыў «в потребах» Крыштофа Радзівіла Сіроткі. Больш таго, аўтар і сваім дзецям завяшчаў служыць гэтаму магнату і яго нашчадкам так жа самааддана і шчыра, як служыў ён сам. Еўлашоўскі даражыў сваёй службай у вяльможных паноў, бо лічыў, што такім чынам ён атрымаў доступ у вышэйшае грамадства, права прысутнічаць на каралеўскіх прыёмах, якія наладжваліся ў гонар высокіх асоб. У прыватнасці, аўтару застаўся ў памяці банкет Стэфана

Баторыя ў гонар брандэнбургскага маркграфа ў час Варшаўскага сейма 1578 г. — яму тады давялося апякаць прускага князя.

З'яўляючыся тыповым прадстаўніком свайго часу, Еўлашоўскі ва ўсіх незразумелых яму жыццёвых здарэннях схільны быў бачыць праяўленне боскай волі. Сведчаннем яе здаўся яму выпадак са Стэфанам Вадашынскім, якому нейкі астролаг прадказаў смерць ад удару маланкі на шасцідзесятым годзе жыцця. Прароцтва, паводле сцверджання мемуарыста, аказалася надзвычай дакладным, бо Вадашынскага сапраўды забіў гром пад сасной, куды ён схаваўся ад дажджу.

Аднак веравызнанне Еўлашоўскага ўсё ж не было цвёрдым і паслядоўным. У 19 год ён захапіўся пратэстантызмам, стаў прыхільнікам моднай тады рэлігійнай плыні евангелістаў. Праўда, рацыяналізм пратэстантаў спалучаўся ў ім з верай у рознага роду забабоны. Варта падкрэсліць таксама, што ў сваіх поглядах на рэлігію мемуарыст быў верацярпімым — рознасць веравызнанняў не з'яўлялася для яго перашкодай у сяброўскіх кантактах з людзьмі.

Аб кім ці аб чым не расказваў бы Еўлашоўскі, ён заўсёды імкнуўся пісаць жыва і маляўніча, з захаваннем яркіх дэталей і падрабязнасцей, паколькі яго больш за ўсё цікавілі з'явы і факты штодзённага, прыватнага жыцця і быту яго сучаснікаў. Паказальныя ў гэтых адносінах апісанні трагічнай шляхецкай бойкі, якая адбылася на адной з віленскіх вуліц у 1580 г., смерці караля Сігізмунда II Аўгуста, пераправы праз Нёман, паведамленні пра паўстанне Севярына Налівайкі ў 1595 г. і налёт палкоўніка Мартыненкі на цэнтральныя паветы Вялікага княства Літоўскага, а таксама апавяданні пра здарэнне з ляхавіцкім млынаром Янушам, пра забойства сына мемуарыста Яна.

Успаміны Ф. Еўлашоўскага — помнік чыста свецкай літаратуры, які дае багаты матэрыял для разумення эпохі, у якую ён жыў і пісаў, таго сацыяльнага асяроддзя, з якога ён паходзіў. Гэта была эпоха, калі пад уздзеяннем новых гістарычных умоў адбывалася ломка старых, традыцыйных шляхецкіх уяўленняў, калі ў грамадска-палітычным, нацыянальным, рэлігійным і культурным жыцці краіны было многа самых разнастайных плыней, калі «залаты век» шляхецкай вольнасці параджаў у дзяржаве непажаданыя парасткі сацыяльнага

эгаізму і неўтаймаванага анархізму, супрацьстаяць якім быў бяссільны нават сам кароль.

Яркімі прыкладамі такіх выдаткаў шляхецкай вольнасці з'яўляюцца тры выпадкі з судовай практыкі Рэчы Паспалітай, пададзеныя ў мемуарах Еўлашоўскага. Першы з іх звязаны з судовым іскам, які ўзбудзіла сястра Уладзіміра Забалоцкага, забітага нейкім Гарэцкім у Вільні 23 красавіка 1580 г., супраць Крыштофа Радзівіла Перуна, кашталяна трокскага, што справацыраваў гэту шляхецкую бойку з трагічным зыходам. Хоць Забалоцкі быў вельмі блізкім і дарагім чалавекам для караля Стэфана Баторыя, сястра пацярпеўшага працэс праіграла, бо на судзе інтарэсы свайго сына абараняў сам віленскі ваявода Мікалай Радзівіл.

Два іншыя прыклады судовай цяганіны Еўлашоўскі падаў з уласнага жыццёвага вопыту: першы выпадак — калі яму ў 1602 г. давялося прыцягваць да адказнасці Альбрэхта Бруханскага за забойства свайго сына, другі ж — калі ў ліпені 1586 г. аўтар адстойваў перад каралём Стэфанам Баторыем інтарэсы жонкі Яна Ераніма Хадкевіча і яе дзяцей ад нахабных прэтэнзій пана Тараноўскага.

Само сабой зразумела, што ва ўсёй паўнаце паказаць разнастайныя праявы жыцця свайго сацыяльнага асяроддзя аднаму Еўлашоўскаму было не пад сілу. Ён зрабіў толькі тое, што мог. Але зрабіў з добрым веданнем справы. Аўтар здолеў жыва і маляўніча расказаць аб убачаным, пачутым і перажытым. Якраз у гэтым і заключаецца адна з галоўных вартасцей яго ўспамінаў як помніка гістарычна-мемуарнай літаратуры канца XVI — пачатку XVII ст.

Мова ўспамінаў Ф. М. Еўлашоўскага з'яўляецца яскравым сведчаннем узмацнення паланізатарскай палітыкі правячых колаў Рэчы Паспалітай. У мемуарах многа не ўласцівых тагачаснай беларускай пісьмовай мове граматычных форм, слоў і цэлых выразаў. Мова Еўлашоўскага густа насычана паланізмамі. «І гэта,— зазначаў Я. Ф. Карскі,— зразумела: аўтару даводзілася ўвесь час мець справу са знатнымі панамі, якія гаварылі па-польску. Ён часта і доўга бываў у Варшаве і наогул у польскіх краях, урэшце, і грамату ён ведаў польскую і як пратэстант не меў справы з царкоўнаславянскімі кнігамі»[3].

[3] Карский Е. Ф. Белорусы, т. III, вып. 2, с. 110.

Мова ўспамінаў Еўлашоўскага шмат у чым ужо згубіла свой нацыянальны каларыт, стала цяжкай для ўспрыняцця. Яна служыць нагляднай ілюстрацыяй таго, якімі цяжкімі і супярэчлівымі шляхамі адбывалася развіццё беларускай літаратурнай мовы на пачатку XVII ст. Жывая, народная беларуская мова здавалася Еўлашоўскаму, як і многім іншым прадстаўнікам тагачаснага шляхецкага асяроддзя, не зусім дасканалай для літаратурнага ўжытку, у пэўнай ступені грубаватай. Таму ён імкнуўся «падцягнуць» яе да больш «далікатнай», з пункту погляду апалячанага шляхціца, польскай мовы. У гэтых адносінах мемуарыст, па сутнасці, ішоў па таму ж шляху, што і пазнейшыя дзеячы брацкага руху, якія ў сваёй антыкаталіцкай палемічнай публіцыстыцы замест жывой беларускай мовы шырока выкарыстоўвалі царкоўнаславянскую і польскую, адступаючы тым самым ад традыцыі, якую ў пачатку XVI ст. заклаў славуты беларускі першадрукар Францыск Скарына.

Успаміны Ф. Еўлашоўскага ў тым выглядзе, у якім яны захаваліся да нашых дзён, абрываюцца на запісе ад 2 студзеня 1604 г., калі памёр сусед і прыяцель мемуарыста Беньямін Чаркоўскі.

З апублікаваных намі архіўных матэрыялаў[4], у прыватнасці з ліста Мікалая Крыштофа Радзівіла да Еўлашоўскага ад 11 лістапада 1611 г., вынікае, што апошні сапраўды жыў у другім дзесяцігоддзі XVII ст. Значыць, ён быў сведкам не толькі эпідэміі і галодных гадоў пачатку стагоддзя, але і мяцяжу шляхты пад кіраўніцтвам Мікалая Забжыдоўскага і Януша Радзівіла, а таксама польска-літоўскай інтэрвенцыі ў Маскву, якая была арганізавана Рэчай Паспалітай і скончылася правалам у 1612 г. Так што недахопу ў гістарычным матэрыяле, вартым занатавання і перадачы нашчадкам, у Еўлашоўскага не было. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што працяг яго ўспамінаў, як і іх пачатак, да нашага часу не захаваўся. Не выключана, аднак, што мемуарыст спыніў свае запісы таму, што сыны яго, для якіх яны рабіліся, сталі ўжо дарослымі і самі былі сведкамі ўсіх значных і вартых увагі падзей дзяржаўнага і грамадска-палітычнага жыцця пачатку XVII ст.

---

[4] Коршунаў А. Ф. Новыя даныя аб Фёдары Еўлашоўскім.— Весці АН БССР. Сер. грамад. навук, 1983, № 1, с. 116—117.

## II

Адметным па сваёй жанравай і кампазіцыйнай структуры творам мемуарнай літаратуры другой палавіны XVII ст. з'яўляюцца ўспаміны Яна Цадроўскага, якія складаюцца з двух амаль не звязаных паміж сабой частак, напісаных на польскай мове.

Першая з гэтых частак, большая па памеру, уяўляе сабой хранлагічныя запісы з гісторыі асабістага жыцця мемуарыста, даведзеныя да 13 снежня 1672 г.

Зазначыўшы, што нарадзіўся ён 3 сакавіка 1617 г. у Пагосце за Слуцкам разам са сваім братам-блізнюком Стэфанам ад бацькі Яна Цадроўскага і маці Соф'і Цёлкаўны Камароўскай, мемуарыст пачаў свае ўспаміны з 1631 г., калі бацька накіраваў яго з братам у Прусію на вучобу ў Кралевецкую акадэмію. Колькі часу і якія канкрэтна навукі вывучалі браты ў гэтым цэнтры Рэфармацыі, Ян Цадроўскі не паведамляе. Ён толькі адзначыў, што ў 1635 г. бацька зноў накіраваў іх для працягу вучобы ў Кракаўскую акадэмію, куды яны ў пачатку 1636 г. былі запісаны слухачамі.

Пасля вучобы ў Кракаўскай акадэміі, у 1637 г., бацька ўладкаваў дваццацігадовага Яна на прыдворную службу да харунжага Вялікага княства Літоўскага князя Багуслава Радзівіла, у якога ён, па ўласнаму сцверджанню, прабыў 32 гады. Але ў чым заключалася яго служба гэтаму буйному магнату, Ян Цадроўскі не паведамляе.

У час службы ў Багуслава Радзівіла, у 1638—1639 гг., Яну Цадроўскаму давялося суправаджаць князя ў яго падарожжы па краінах Заходняй Еўропы — наведаць Германію, Данію, Галандыю, Францыю і Англію.

У Гданску Радзівіл пагрузіў на судна, якое плыло ў Амстэрдам, неабходныя рэчы, а сам з усёй сваёй світай скіраваўся па сушы праз землі Заходняй Прусіі ў Шлезвіг-Гольштэйн. У час гэтага падарожжа мемуарыст разам з князем наведаў Шчэцін, Любек і Гамбург — гарады, якія тады ўваходзілі ў Ганзейскі саюз і адыгрывалі вялікую ролю ў гандлёвых і палітычных зносінах тагачасных прыбалтыйскіх краін. Там, на тэрыторыі Шлезвіг-Гольштэйна, яны сустрэлі дацкага караля Хрысціяна IV, а каля Рытвега (цяпер Ратцэбург) — сялян, якія, па сведчанню Яна Цадроўскага, гаварылі на мяшаным нямецкалітоўскім дыялекце і вялі сваё паходжанне ад «ярулаў, продкаў літоўцаў».

Накіроўваючыся з Гамбурга ў Амстэрдам, Радзівіл спыняўся ў Гронінгене і Франкеры, дзе тады ўжо існавалі свае універсітэты, а потым, відаць, у 1638 г. апынуўся ва Утрэхце. Адтуль падарожнікі скіраваліся ў Парыж. У сталічным горадзе Францыі прабылі яны месяцаў сем, а потым праехалі па ўсёй французскай зямлі аж да італьянскіх граніц.

У Парыжы Радзівіл наведаў Людовіка XIII і вёў з ім ад імя караля Уладзіслава IV Вазы перагаворы адносна вызвалення з турмы яго брата, польскага каралевіча Яна Казіміра Вазы, які па падазрэнню ў шпіянажы быў пасаджаны ў французскую турму і за якога князь асабіста ручаўся Людовіку XIII.

Пра вынікі гэтых перагавораў Ян Цадроўскі ніякіх звестак не паведамляе. Як і пра тое, дзеля чаго пасля перагавораў князь разам са сваёй світай паплыў з французскай крэпасці Кале ў англійскі порт Дуўр, а адтуль накіраваўся ў Лондан на сустрэчу з каралём Карлам Сцюартам.

З Англіі Багуслаў Радзівіл вярнуўся разам з Цадроўскім у Галандыю і жыў ва Утрэхце. Адсюль ён адправіў марскім шляхам частку сваёй світы ў Вялікае княства Літоўскае, а назіранне за ёю даручыў мемуарысту. Да Гданска Цадроўскі даплыў без прыгод, а там падарожнікі пераселі ў лодкі і скіраваліся ў Кралевец.

У 1640 г. Юрый Рэчыцкі, які тады быў аканомам усіх маёнткаў Багуслава Радзівіла, накіраваў Яна Цадроўскага ў Галандыю, каб завезці князю грошы і неабходны правіянт. У другое падарожжа ў Галандыю мемуарыст адбыў з Гданска па Балтыйскім моры на гандлёвым караблі купца Пятра Петэрсона, які і сам знаходзіўся на гэтым караблі. Гэта паездка не абышлася без прыгод. Яны пачаліся за Кільскім мысам, калі на моры пачаўся моцны шторм. Карабель, перагружаны збожжам, у час шторму пачаў небяспечна нахіляцца набок. Каб выратавацца, маракі адкрылі зверху палубу і пачалі высыпаць збожжа ў мора. А калі чарговы вал вады зноў ударыў па караблі, то яго ледзь не перакуліла. Шукаючы ратунку, пасажыры вывесілі на судне знак тапельцаў — чорны сцяг. «Але ў такі вялікі шторм,— падкрэсліваў Ян Цадроўскі,— кожны думаў пра сябе», а таму на гэты знак ніхто не звярнуў увагі.

Потым, калі судна павярнула ветрам назад, да Кільскага мыса, падарожнікі ўбачылі на гарызонце некалькі

кой. А сэнаторове, допровадивши его, зараз и с паном троцким розехали.

Потым на первшы съем з вядомостен кролевскон сестра Влодымирова, которая ту с Полоцка з мужом была взята, позвала была пана троцкого. Там также сам пан воевода виленский пана троцкого заступовал (л. 27). А маючи вшытэк сэнат по собе, кроля ублакгал и сестре Влодымэрове цось пенезми дал.

На он час при забитю Влодымира кроль в тым свым запаленым гневе написал был цэдулэ рукою своею: кто был Влодымир, яко лят двадцать чтыры стравил на дворех кроля вэнкгэрского и полского, мужне завше в речах рыцэрских поступуючи, а тэкго дня у спикненю и збунтованю людским згинул. И хтял то меть на хоругви над гробэм его*.

Ям был добре вядом Влодымера[202]. И не учинил того он с пыхи якей, не чапкуючи пану троцкому, але з мелянколиэй свэй велкей, же, ядонц, сам з собою мовил, мыслил. И частокроть на спотканю з паны миял их, запомнявшисе, хоть кго друкгий чапкованем почастил. То аж напомненый от слуг, волал за ним, волал за бога просечи, абы не мел за зле (л. 28).

В тэж часы был у кроля в Вилни гонец московский[203], стараючисе о вызволене вязней и о примире.

Року того ж 80, чирвца пятого дня, дворяне кролевские, зослани, во Троках[204] поймали и, приведши до Вилни, Григора Остика[205] дали до везеня пану маршалкови[206]. Которого потом, судивши и неяких намов и порозуменя его з Москвою досвятчивши, дано его стять 18 дня того ж месяца чирвца в месте Виленском пред костелом Свентоянским. А кроль яко вчора выехал был не войну, и был потом под Луками[207].

В Слуцку[208] на тот час были 4 докторы: сандомирский Бартолян, краковский Мартин Фоксос, любелский Лаврэнцыуш, слуцкий[209], тэж старый и добрый. Там се веле панов, пань и розного стану люди были на лекарство зъехали. И яко кому пан бог здарил, отправовалисе.

Року того ж 80, вресня 5, король его милость под московским (князем.—*А. К.*) Луки взял был. И люди под меч дано было, яко упорный. Который замок потом за примирем вернен московскому.

---

* Далей у рукапісе пакінута свабоднае месца на шэсць радкоў тэксту.

В тэж часы пан Филон[210], убэзпечоный през фальшиве шпекги з невеликим людом, припал был до Смоленска[211]. А там велке войско было московское, же аж тэй же ночи Филон уходил. Люди наших сила погинуло. Там же суседа моего Михай[ла] Зверова, москвитина, поймано и обешено. Был ми то велким неприятелем. Пане боже, отпусть му!

В том же року был кроль его милость, змовляючисе о потужности пришлое войны[212] (л. 29).

Року 1581, генваря 20, в пятницу, жона моя мила Ганна Болотовна уродила мне сына Яохима ту ж предэ днем, а на цалым зэкгару годины 14. Тот на сесь час вжо то три роки во Влошех у княжати Мантуанского[213]. Пане боже, му блокгослави!

В мес[яц]ы чирвцу Москва, невядоме в руске земе вторгнувши, огнем, мечем и забранем велкие шкоды починила.

Того ж лета и в есени, в року 81, король Стэфан был под Псковэм[214], гдем иж пре[з] хоробы мое не был. Слухам рад инших[215], кторы, вядоми будучи, о том выписали.

Бородич пан Иван[216], повинный мой, едучи с-под Пскова, умарл в дорозе кгрудня 22 дня, а похован у Кгравжишкох[217].

Року 1582, названого от мене нещасливого с пэвных причин, же ми в ним марца 22 умарл милый, а едыный же у мене рожоный брат мой Иван в месте Виленском. И не дошла ме та вядомость пре[з] злую дорогу аж за тыйдень. А през который тыйдень, будучи я в дому моим[218], яко у тридцати милях[219] от Вилни, тэскнилэм барзо, жаловалэм и мовилэм до жоны моей, же запэвне ми брат умер. Так то сэрца людцке чую[ть] здалека припадки дятэк и милых приятелей своих.

А прото ж ездилом до Вилни и далэм тело его поховать, водле порученя его, у светое Тройцы в цэркви руской. Зажилэм жалю над обычай и злое дороги.

А едучи (л. 30) назад, ледвосмы вси не потонули на Немне реце под Ивем[220]. Ям был з гостем[221] якимсь едэн там приехал. И юж се з нами п[а]ром починал был на нутре заливать. И так напоминаючи превозников, абы се не ленкали (бо юж были шосты порутили, мовечи, же гинем), а горечо пану богу се молечи переехали.

А после слуги, з возом моим и со всеми конми едучи, на том же местцу тонули. Кони спыхали, а тым болшей лодки заливали, же все дощечки вода знесла. А воз пред-

ними колы завесилсе в лоди, ктора на кгуре шла. А другая се лодя у воде занурыла. Люде превозни и слуги мои были в лоди. А инши, побравшисе конем за окгоны, не ведели, што се з ними дее. Ано коне шли тэж за лодею вниз, куды вода несла, аж е потом на берег, где и я был, принесло межи лозы. И там се ратовали. Ово толко, здумявшисе дивным судом божим, хвалилэм насветше име его.

Потом сен[тябра] 23 отдалэм сестру мою панну Зофею за пана Щасного Самсоновъского[222].

Месяца паздэрника 21, в неделе, умерл зацный и богобойный муж Иван Третяк, приятель дому нашого. А по нем декабра 10 умарла добрая тэж приятелка моя, пани Твиклинская Дорота Кграбовская. А сам (муж яе.— *А. К.*) по ней на великон ноц умарл року 83.

Року 1583 по Кгромнице[223] зима се постановила моцно по первших неуставичностях.

Мялэм на тэн час у себе велким приятелем старостэ ляховицкого* (л. 31) пана Сымона Шлятковского[224], которему дня 21 лютого жона Сулимянка умарла з великим жалем веля люди. А за нею в том же року, новэмбра 18, и сам Шлятковский умер, чловек привелкон доброть свое вечне кгодный памети.

В том року 83 пани виленская[225] в повете Новгородском мешкала. А я з роков на другие роки уставичне и в розные поветы: до Новгородка, Менска[226], Слонима[227] и Волковыйска[228] ездить мусял. А в посте мусялэм у Вилни (быць.— *А. К.*) и знову о святках там же быть для справ задворных[229], которых се намножило было. Мандатов всих было 17. Розмышлялэм в себе, яко за живота пана виленского и едэн позэв по некго не был, але се тепер накгродило. Приятеле не дбали на онэ захованя давнэ, кождый своего щастя смотрел. А Ходкевича жадного в раде кролевской не было, а наконец и даровать му не мели, вэтуй, пане боже, на потым.

Року 1584, февраля 5, оженилсе был пан Мартин Окунь[230] с панною Боянэцкою. А назаютр оженилсе пан Ян Монвиж[231] с панною Мложевъскою. Отправовала тэ весэля пани виленска в Ляховичах з велким достатком, ова вшистко пекнэ часу своего.

В марцу мел справ панских сила у Вилни пред кро-

---

* Пасля гэтага слова ў рукапісе закрэслен радок: «которему дня 21 лютого жона умарла», які потым перанесен у тэкст на л. 32.

лем, и в речах кролевских пилновалэм, и взывано ме на интыкгаторство.

В том року пани виленская мяла затруднене не малое з Матфеем Волком[232], который, маючи еще от самого пана его милости фолварк ляховицкий Павлюковский[233] у петисот копах грошей, справил был собе другий лист неправдивый на другую такую ж суму пенезей (л. 32), для чого аж сама ездить до права мусила и очевисто первей у земствах[234], а потом и у кгродку фалш задавала. Потом же он того листу отступил, и то аж у пришлом року. В том року 84, августа 28, уродил ми се сын мой Лаврын[235].

Року 1585 зима была барзо тепла. Быдло на полю бывало и колы ездчано. Пан Кгзовский старый[236] в лютым парализжэм рушоный, а 8 марца умарл.

Мая 26 перун замок на Мыши[237] запалил, который бардзо прудко згорел. Того ж дня, а подобно в одной година, ударил перун в дворе моем у сырницу и голубинец, але не запалил и не забил ничого. Дите ту ж было и голубята в голубинцу.

Того ж року, месяца новэмбра 3, жона моя сына Мартина уродила в ночи на 13 година*.

Року 1586, будучи мне у писара ляховицкого Федора Зенкевича[238] на чти, у других зваде а за моим розважаню, ранено ме в руку левую и неведялэм от кого. А то было стычня 19 дня. А кгосподар был цалый. Предсе потом врыхле 23 лютого умарл з горючки. Потом в марцу былэм у Вилни для потребы Кгославского[239] и ездилэм до Ковна[240].

Там же ми марца 5 дня, ночуючи у Рынконтах[241], разбойницы мало были не забили. Але за ласкою божою вилневцов обоз немалый до тое ж стодолы наехали, а разбойницы поутекали. И кгосподар якись тэж нецнота, вымавялсе, же што мел чинить, кгды ж на ноч збересе немало и што хотят, то чинят. Самому пану богу хвала за его оборону!

Там же, до Вилни зворотившисе, далэм был пенези Кгославскому на имене его Скубятовское[242] первей заставою, а потом и на вечность купилэм.

Кроль его милость мешкал того лета в Городне, отпочиваючи от первших прац свых, юж се тэж часом капэлюшэм и рукавицами не мерзил (л. 33), з чого венкгрове

* Далей у рукапісе ідзе пропуск на адзін радок.

сперва шидили. Бавилсе тэж выеждчанем на поле з мысливствэм.

Мне того лета пришло внет (тэрмінова.— *А. К.*) и по двокроть в потребах пани виленское и дятэк пана моего быть. Яко ж мяновите липца 24 мялэм пред кролем справу з Тарановским[243] безносым, кторый по змови з иншими жолнэрми, яко то хорый, на то выставеный был. Розумеючи, же у кроля вмясто ялмужны мел отрымать презыск на добрах панских за заслужоное свое[244], за чим бы инсымплио [!] своих долгов вси дойти могли, позвал был паню виленску и дятки о три тисечи золотых. И кгдым указал истоты кролевске и его самого, яко веле у скарбе славное памети пану виленскому и жолнэром винно, а потом указалэм протэстацыэи сеймовэ, же се заплаты упоминано, и яко се змовили жолнэре, и яку бы шкоду детям пана моего принесло, тэды, по одстапеню моим (яко потым от панов ведял), в так яснэй речи вакгалсе кроль длукго, если то отложить, яком я просил, до заплаты тых сум з скарбу кролевъского, чили зараз присудить на добрах панских. В чом от панов рад, а мяновите пана Воловича[245], пана виленского; пана Глебовича[246], воеводы троцкого[247]; пана Лва Сапеги[248], канцлера[249]; пана Войны[250], подканцлерого[251] (л. 34), спартый будучи, так позволял, мовечи же, конечне, бых ям тэ заслужонэ тому жолнэрови на добрах пана виленского присудил, бы не указано тых протестацый сэймовых, же се упоминано заплаты именем своим и всих жолнэров. И так нам отложоно до заплаты з скарбу, ведля истот кролевских. Веде то бог, кгды то будет[252].

Там же в Городне на тот час июля 12 умарл пан Михал Гарабурда[253], впадши в горючку пятодневную. Не могли докторове ж Буцэла и Сымона[254] урятовать. И тремя днями пред его смертю ознаймили кролеви, и уряды его были назначонэ и упрошонэ иншим.

В том тэж року, окрутного кгрудня месяца 12 дня, тот славный и велцэ зацный пан и монарха велкий, король его милость Стэфан Баторый умарл на замку городенском в милых палацах своих от него збудованых.

Шкода кролю, жесь по велких працах, кторых ест се был з млодости приучил, и тэ лят килка Городном се у отпочиваню своим забавил. А моим зданем, где бысь звыклэй працэй уживал, еще бысь был далей потрвал. Але певней ведял то пан бог, чому так, а не иначей меть хтял.

Рок 1587[255]. Стычня 9 снило ми се, о чим я не мыслил, жем был в месте влоским Мантуи[256], видял кнежей Мантуи, положене замку, места, вод, мостов мурованых. А кгдым то поведял пану Андрееви Скорулскому[257], кторый там бывал, поведял, же там положеня власне так, яко се мне снило. То, снать (л. 35), презентовало ехане (туды.— *А. К.*) нам сына моего милого Явхима, кторый в року 1575 еще поехал и по тэн час там мешка[258].

Марца 10 уродила жонка моя первшу цорку Раину того ж року 87-ого.

Року 1587 по смерти короля его милости Стэфана зходил тот рок элекцыями, бо, порознившисе у обраню пана, едни чекали и прибавили были Максымилияна[259], сына и брата цэсарского, а иншие, которые зэзвали были на Жикгимонта[260], сына кроля швэдского, чекали кго тэж. И затым была им битва в Бычине[261] в року 88, стычня 19 дня, где по прекграню строны Максымиляновой и сам был взятый (вязнем.— *А. К.*), и немало панов полских, кторе з ним преставали.

А Жикгимонт, кроля швэдского сын, за приеханем свым ту ж был зараз коронованый, еще первей (выбраны.— *А. К.*) в року прошлом 87, декабра 27 дня.

Року 1588, стычня 23 дня, Жикгимонт Третий, кроль полский, на Литве присегу повторил, бовем был без наших коронован.

В том року 88-ом былэм с паном Одаховским[262] вэ Шклове и в Копыси[263] недель з осм. А пани виленская для лекарства была у Люблине. А кгды се ей на здровю не поправовало, ехала была до дому. И, едучи, на дорозе в мястэчку, в Козим Рынку[264], умарла 3 дня кветня. А 21 червца погреб ей отправено у Гнезне[265] в костеле евангелицком мурованом.

В том же року, липца 30, жона моя уродила цорку другую. Дано ей име Галшкою (называцца.— *А. К.*).

Року 1589 на нове лято у нас ту в повете Новокгродском муж был барзо добрый Албрыхт Кавечинский[266]. Отдал разэм на едным вэсэлю три цорки свэ замуж. Кторый, сынов (л. 36) не маючи, одно цорэк шесть, не фрасовавалсе нам о то и еще зэзнавал, же так му лепей. А то, снать, чинил с побожности своее, же волю свою подбиял под волю божу. А кгды му се так трафило отдавать замуж разэм три цорки, люди посполити практиковали: не долго быть малженствэ так едного дня отданых. Яко ж потом врыхле умарл му старший зять Ян (імя ў рука-

пісе закрэслена.— *А. К.*) Москальницкий[267], а в року 603 помарли два — Вировский[268] и Высоцкий[269]. Ова не легцэ потреба важить и кглосу людцкого, вэдля онэй приповястки: «вокс попули — вокс деи»[270], бовем о вере оного човека жадэн вонтпить не може. Был и в тым пробатус. И тэкго се он против тэй людскей практыце, ему пэвне вядомэй, важил з зупэлности вяры свэй, же се ведля практыки тэй не мяло стать ниц такекго.

Року 1589, стычня 28 дня, пан Александэр Ходкевич[271] кроля Жикгимонта Третего у Городне перший то кроть привитал, также и кролевую тетку[272] его и сестру его[273], королевну их милость. Мевал в себе сэнаторов из двору кролевского завше на учтах.

Потом была его милости справа 31 стычня о аренде мыт [274] (и маетностей; апошняе слова мемуарыст чамусьці закрэсліў.— *А. К.*) старых литэвских, также аренд з маетности Бирштанское[275] и инших. Мяновано того на 50 тисячей коп. (грошаў.— *А. К.*) литэвских и указовано на то истоты пана небожчика[276]. А в нас намнейшей квитацыэи не было. Ям в тэй справе мовил яко налепей пан бог здарять рачил, венцэй се спускаючи на ласкэ его кролевской милости, а указуючи веле заслуги пана его милости и инше правнэ понеконд причины (л. 37). А были при его кролевской милости сэнаторове: князь Барановский[277], бискуп (плоцкі.— *А. К.* У рукапісе на гэта слова пакінута свабоднае месца), пан Дорогостайский[278], воевода полоцкий, пан подляшский[279], пан Сопега, канцлер. Были вшистцы их милости нам зычливи так, же дэкрэтэм король его милость, даруючи то, отпустить и с того квитовать казать рачил.

Того ж дня княже Семен Слуцкий[280] короля витал пред покоем з орацыею наготованою, а яком ведял, от его милости пана Миколая Криштофа Радивила, воеводы троцкого[281], написанною. Мел при собе зэ двестя особ ланцужно[282], але у пана Александра было тэж нас также веле, а вшистко стары слуги... (слова закрэслена так, што яго нельга прачытаць.— *А. К.*) сивцов болшей, в жалобе по панеи виленской. Тэды кроль и панове болшей очи до нас обрацали и кролеви указовано, же то вшистко слудзы небожчика пана виленского, отца его. Аж нам мило было того щастя заживать, бо зкгола и пан и мы вшистцы зналисмы велкои милость од вшистких люди.

От своих приятелей горейсмы мели, бо, приехавши с того щастя, за якусь опеку поеднал пан Александэр пана

Волского[283] осемънасту сот коп грошей, а при нем и Кумолки[284] — весь коштовну от Гнезна за якимсь то змышленым правом зостали, а панят троцких[285] трима тисечма и шестен сот коп грошей. Тоть то дети пана моего в долги заводить почало.

Потом поеднал князя Семена Слуцкого за неякую весь Хоромцы[286], от небожчика[287] проданую, а на то права не мел и очищать опасалсе[!], был за то заплатить две тысянце злотых. Отдано тэж потом сестру их милости панну Зофею за пана Дорогостайского[288] року 1590 септэмбра 23 у Вилни. И то бысть мусяло з велким коштом их (л. 38).

В тэй есени року 1590 были поветра моровэ на розных местцах, и в Новгородку срокге было.

Окт[обра] 31, року 90, умарл сусед и приятель мой, чловек барзо добрый [беатус вир], пан Валентый Чарковский[289].

Року 1591 пан Александэр Ходкевич посылал по всих маетностях отчизных, напоминаючи урядников, абы границы упэвняли и з сусяды без укрывдзэня их становили. Сам в Мышской маетности выеждчал, где боярове мышсцы Бутримкове зашли были кгрунту Вэрещачиного[290] и, напрацовавшисе там сам немало, потом, вземши мне и старшого Бутримка, на стронэ отъехавши, выпытал вшиткей правды, иж то они зашли и новэ тесы на древе простым трибом положили, а старую там ближей до Мыши указовали. А так, зрозумевши, зараз судьям правду ознаймил, а старою границою от рогу границ Островское[291] и Добромышльское[292] вести тем же Бутримком казал. А хлоп зараз копцы за собою капати казал, кгды ж се на тэ границэ обоя строна згодила; отнесл то его с похвалу веля люди.

Року 1592 яко з есени, так и от нового лета не докучили зимна и снегов не было. И была то зима, праве, безснежна. Колами вси ездили. Пан Александэр был на сеймику трибуналском и не хтял се поднять на Трибунал. А мне пан Григорей Униховский[293] зазрял так, же Жабкэ[294] з Богушевичом[295] обрано было.

Марца 9 княже Ян Сымэон Слуцкий[296] умарл. Чирвца 30 умарл тэж пан Каспар Керсновский[297], подсудок новгородский, у Городеи[298], маетности свэй, положившисе на приполудню спать (л. 39). 16 серпня пан Ян Кароль Ходкевич[299] ехал еще до чужих землей. А пан Александэр доВаршова на сэйм послом ехал.

Року 1592, вресня 1, вэ вторек, на соймику в Цырине[300] обрано на элекцыэи подсудковской на тот уряд чтырех: то ест Ивана Маскевича[301], Оникея Униховского[302], Миколая Подаровского[303] и мене. И з ласки пана бога вшэхмоцного, кторый, яко хцэ, керуе сэрцами кролев и вшэх люди вэдля воли свэй станови, отдано то подсудковство мне. И привилей мне на то принесено до дому без великого стараня моего 28 дня того ж месяца вресня. И выконалэм присегу на тот уряд мой на рокох трекрольских стычня 7 дня року[304] 1593.

Пан Миколай Тлуховский[305], слуга еще небожчика пана, завше ми велку приязнь обецовал и утвержал то руданем, а никгды ниц у панов млодых[306] не допомог, же мое речи шли нещасливе. Потом дошедлэм, же Иван Кречетовский[307], неприятель мой, запомнялый добродейств моих, которыем еще отцу его Хоме, казнодею клецкому, и матери его, кеды ю жиды клецкие были в долгох взяли, показовал, и его от продаваня дров в Ляховичах, голца вземши, до пани виленское залетил и при собе права стоять и приучатисе права казал, змовившисе з тым Тлуховским, не тылко мне, але и панов в их справах ошукивал. А собе накганяли — Тлуховский маетность коштовну на Руси, названую Селцо[308], забрал, а Кречетовский — Малковичи[309], Конюхи[310] и Мазурковщизну[311], што все мне было от панов не толко обецано, але и листы подавано, которых потом Ян Кароль Ходкевич з их направы подписывать и скончить не хтял.

А так, кгды се готовано вэсэле пана Жалинского[312] с панною виленскою Галшкою[313] и Тлуховскому дойзреть поручоно, попадла кго хороба дворска, указуючисе на кглове и на чоле[314]. Чого он (л. 40), хотечи без издебки збыть, казал жидови Балвэрови мазать собе тэ кгузики шарон мастен, не запнувшисе, звлаща зиме. И так зъездил был з Ляховичей до Гнезней, а звротившисе до Ляхович дня 15 стычня року 1593, казал еще лепей намазать. А в тым, кгды та масть сэрца допадла, того ж дня вечор[ом] знагла умарл. Сполниласе на ним та приповесть: «здрадливе сэрцэ само се поразі». Не иж бым се с помъсты божий, над неприятельми моими выконанэй, радовать мел, але тым ствержамсе у вере моей, же мам бокга правдивого, вшэхмоцного, бронячого мне от всих неприятелей моих.

Року 1593 кроль его милость выехал з Варшова до Кгданску и Швецыэи 12 серпня.

В том же року, паздэрника дня 15, умарла зацна и бокгобойна пани конюшина, Зофея Александровна Ходкевичовна-Корицка[315].

Року 1594, мая 20, в пяток, припадла хмура сродзе зимна, спустила снег велкий и лежал три дни. Помарло от тэй хмуры и зимна и вятру кгвалтовного сила людей, по трою индей вэспол, а не мокгли собе помочи. Птаства по гнездах, самэм видял, барзо веле поздэхлых. Страх был и под дахэм седячи.

А троха пред тым, мая 1, отдалэм Яроша, сына моего милого и перворпородного, на службу до пана Яна Кароля Ходкевича. Зыче му с паном его вшелякого блокгославенства божого.

Року 1595 о трех кролех рокисмы судили земске[316] новокгродске (л. 41).

В том року 1595 Наливайко[317], козак, собравши войско козаков, первей се указовал на Подолю[318], у Волошех, кусилсе был и о турецке замки[319]. Потом, врацаючисе до Полски, сплендровал маетности пана Калиновского[320], мстечисе за обешене некгдысь отца его наливайкового, и еще, снать, от отца Калиновского. Там же заюшоный, шедл до Луцка[321], в ярмарк, праве, где бискуп[322], с преднейшими шляхтою выехавши, упоминал и еднал кго за мястэм и купцами. И зложили килка тисячей злотых, а не могло быть без збытков и шкод.

Оттуль, юж лепей заюшоный, удалсе на Полесе аж до Петрыкович[323]. Юж так своволне все починаючи и вколо обсылаючи, подарки собе давать заказуючи. Яко ж и давано. Одно з Слуцка помешкано было. И прето ж убекгл [у] Слуцк новембра 6 дня и был там немало. Заварлисе были на замку з двема сынами, детми малыми пана виленского Яронима Ходкевича[324]. А пан виленский, воевода новгородский пан Скумин[325] и инше панове и шляхта зъехалисе до Клецка[326]. Не ведели, што почать, услышавши, же се и ■ замэк слуцкий (казакі.— *А. К.*) добыли юж.

В тым (часе.— *А. К.*) послал был Наливайко полковника Мартинка, о ктором веле трымал, яко ж и был чловек сэрца велкекго, до Копыля[327] с пентюсэт козаков. Ктором с прикгоды там, потрафивши гайдуков их (міласці.— *А. К.*) пана воеводы виленского [328], впадши до млына и испусту под мястэм, бронили преештя до мяста и так спросне (л. 42) козаков настреляли, и Мартинка забили, же сила их на пляцу (засталося.— *А. К.*).

А иншие назад се цофнувши, по дродзе и хростох зоставили. А инше, пострелеными юж будучи, в огонь скакали и кгорели, бо были стайне дворовую тут, у того млынка будучую, запалили, же се барзо их мало до Слуцка вротило.

Наливайко, стрвожоный тым нещестем а розумеючи, же затым з Клецка зэбрани панове куситьсе мели, онь у Слуцку[329] зараз тэй же годины, яко тых в Копылю бито, новэмбра 25, а он третего дня, новэмбра 27, з вечора, выбравшисе з Слуцка до Омгович[330], знову ку Полесеи вытегнул. И потом кгрудня 13 Могилева[331] моцно добыл, мяста и замку сплендровал и попалил.

Панове за ним выправили Буйвида[332], чловека паменти годного, давши слуг своих, а пан виленский своего двору двесте коней; с которыми, яко розных панов слуккгами, розум сам указуе, яко бы[ло] Буйвидови трудно, же за непослушенством их ничого годного почать не могл, толко, зазябившисе, здрове стратил и у небачных люди на ославе шванковать мусял. Там же згинул Оникей Униховский, чловек сэрца доброго и великого захованя.

Наливайко ходил потом над река Днэпрем вниз*, аж потом порвавшисе з Рогачова[333] за якимись практыками, припадл знову до Петрыкович[334].

Повяты же (л. 43) збекгалисе вкупэ и спрудка потом зъехалисе новгородскии в Копылю, где был его княжацка милость пан Миколай Криштоф Радивил, воевода троцкий[335], напрод вшитких приехавши и килкон сэт чловека, и там же се инши спешили до его милости.

Затым приехал пан воевода новогродский[336] и инше панове. И шиковалисе в полю року 1596, дня 15 лютого. Было людей о три тисечи и так готовых (далей тэкст па фатакопіі прачытаць немагчыма.— *А. К.*), аж мне мило было, давно юж войска не видявши.

Пан воевода се троцкий з справованя людьми вымовал и здавал то пану воеводе новгородскому. Але юж никому не уймуючи, признавам, же досыть се д[е]яло порядкови пристойному.

Пан воевода виленский с повятэм Минским приехал до Шацка[337]. Там же и наши с Копыля ехали[338].

А Наливайко с Петрыкович, бывши в Турове и в Городку[339], болшей удалсе до Высоцка[340] и на Волынь.

---

* У рукапісе: в ним.

Лобода[341], теж отвротившисе от Шацка, шол там же Киевщиною ку Наливайкови* (л. 44).

Року 1602 юж у нас в Новгородку роки звыклэ земске поменяны были на сэйме прошлом през послы наше — пана Зенкевича[342] и пана Подаровского[343], которые, на том сойме зъехавшисе на роки новэ громничнэ[344], з собон се зкгадзали. И вымовялсе пан Подаровский, же о той отмене и замешаню радней ниж поправе роков не ведал, хоть то по некторе соймики успоминано было. Подал на сойме, абы в нас во всем панстве роки не розны, але едны часы звычаем полским постановены были. Але жебы то едно в нашим повете о том, снать, жадного чловека не толко воля, але и помышлене не было.

Пан Василей Зенкевич знал се, же се о то старял и пана Подаровского втегал, жебы и он на то призволил, але се он никгды до того не знал.

И так на тых злых, в сэрцох людских разэрваных роках будучи, я от пана судии того ж то пана Зенкевича напомненый, не зезволяючи з множством люди на зламане тым роком, при нем приставши, судилих мы е.

Не ушедлэм помсты божий, же ми на тых рокох в лютым месяцы, 16 дня, в суботу, забил сына моего Яна, второго по Ярошу, первшим сыне моем, незбожный Олбрыхт Бруханский с помочью (імя ў тэксце рукапісу не названа і пакінута пустое месца.— *А. К.*) Корсака[345], швакгра своего, там же на месте в Новгородку. О чом кгды мне, на судех седячому, ведомость дана, просилэм вшистких, абы там в рынок зэ мнон пошли, где пан судья з ласки свэй продковал. Мне держеть казал, з иншим тяло, юж забитэ, сына мое[го] на сане взявши, на уряд (далей нейкае слова закрэслена.— *А. К.*) и потом до господы моей отпровадить казал (л. 45).

А внет потым, кгды се доведял, же того забитя сына моего был найветшон причинон тот же Корсак, сестранец екго, рушила кго кревность. А од ражене з духа по новокрещенству або давно не было, або на тот час утекло от него проч.

Послал до мне, абых слал за тыми, кторы ехали в покгонен за Бруханскими, жебы се што злого тому сестринку его не стало.

А ям не толко не слал никого, але ани ведял о ничием еханю и о свете: жив лим был або не.

---

* Тут у рукапісе пакінута месца прыкладна ў чатыры радкі.

А назаютр, в неделе[346], маючи в себе Вировского[347], Лоховского[348], Богушевича[349] и инших, приводил ме, абы з ним на судех заседал.

Видяло ми се, жем там был на он час не межи людми, але Каинами[350]. И прето, чогом не рад мовил, мусялэм рэц: — если розумить не хцон моей пригоде, абы их то самых поткало[351].

Потом в понедялэк, кгдым се юж мел з места з тялэм провадить, подал ми пан судья, жебы не вадило постать в рынку з тялэм, а Лицыниус[352] жебы там премовэ учинил.

Я тэды, яко дите от жидов, яко поведаю, з клотэ [!] звабеный и сподеваючисе, же ми улжэ жалю Лицыниус, яко чловек учоный, якон утешнон мовон, казалэм се застановить в месте.

Але же тий Лицыниус, усевши подле пана судьи (л. 46), взял аркгумент з Саломона[353] о своволном млоденцу и также карал сына моего, в кгробе юж будучого.

Я, видечи, же вшитко спросьне калэм и похлебствэм смердяло, казалэм далей ехать, бо друкгекго сына моего мел юж у себе от килку лет в науцэ и твиченю своим, а бодай не горшого выховал. Нех им пан (бог.— *А. К.*) одда, он справедливый судья, бовем за тым нещестем моим вшитки облудные приятеле мое, машкары свэ ухиливши, незбожнэ твары свэ указали и ядовитэ злости свэ явней выливати почали.

Не заспалсе юж велям их пан, бог мой, обронца мой живюнцый. Не вонтпе о его свентэй ласцэ и з иншими, же ми скутэчнон справедливость и экзэкуцыю учинить рачи.

И так плачливым с тых незбожне укнованых роков звротившисе, поховалом тяло того забитого милого Яна, сына моего, в каплицы моей мурованой в маетности мэй Скубятовской дня 21 лютэкго ж.

А в тым тэж часе вышол день уроженя моего 18 лютэкго ж, кторый обсэрвалэм друкгды з радостен, а тэраз с плачем и велкон жалостен, з чого всего нех бэнде похвалено име пана бокга вшехмокгонцэкго (л. 47).

З тэй так велкей жалости мэй — смерти, а тым барзей же забитя сына моего, немней тэж з оказаня облудников, кторы, мнон, час немалый за приятелей се и велки и верни вдаваенц, лудили, пофрасованый впадлэм у велкон а до мянованя не ведеть, якон хоробэн.

Напрод марца 7 дня убумарлом без вшелякей причины на полторы године и, пришедши к собе, былэм мдлый,

аж повторе марца 14 рано обумарвши, также веле о собе не ведял. А того ж дня, увечор убумарши, былэм в зафицэню шесть кгодин зэкгаровых[354]. Потом вэ днях кветневых, приходечи к собе, ехалэм был до Новгородка для роков марковских[355] кветня 23 дня, и на дорозе у Валевцэ[356] трохим был земдлял. И за тым, вжо приехавши до Новгородка, не засядалэм на судех. Обраный на местце мое пан Григорей Немира[357], присегу на три роки учинивши, отправовал их.

В маю зась на рочкох кгродских была справа нам о забите Яна, сына моего, з Бруханским и з сынами его. И пошла была на инше рочки, а у других рочкох до Трибуналу. А потом на рочкох липцовых, в небытности мэй, през Яроша, сына моего, заварта была угода з Бруханскими, вэдля кторэй потым пред судом трибуналским, 13 (дня.— *А. К.*), месяца вресня (л. 48), Бруханский сам и сынове его з цэдул препрашали мне в сынов моих. И ни еден зэшлы [!] иншем им поотпущал. Але иж не ставил отец сына Олбрыхта. Сам за него, водле опису своего, на рок зуполный на везене засел в замку новгородском. И в том похибивши листу своего[358], што мел засесть в дому замковым, по левой руцэ стоячим, то он по той же левой руцэ еще пред домом тым давним замковым збудовал избу собе сам и в тэй засел был.

А я юж не корыстечи в том его седеню[359], а сам там за хоробою моею ехать не могучи, посылалэм з листы моими. Первей зашитый, абы ехал с того грунта. Он до мне отписал, абых му послал на то лист отвороный. Ям и такий лист ему посылал през зятя его Мокгильницкого[360] и през Косаковского[361], до которых, яко они справэ давали, так отповедял: «Не вем, чому ме подсудок зтонд выправуе, вшак тэраз зима[362]. Также и дома и избе седял, также мед пие, яко и дома, и также жона зэ мнон сыпя, што и дома».

И так покгардзэни приятеле вротилисе из тон учинностен моен. И я потом от него жадногом (л. 49) въсказаня и словкам не мял, аж послышалэм, же умарл там в том мешканю своим а, праве, знагла. Были дивне кглосы и мниманя людцке о тэй смерти его. Я замилчивам, яко невядомый в тым ниц пэвного.

Рок 1603. От стычня 22 сэйм вэлкий зачиналсе у Кракове для заповетреня у Варшове. А в нас ту в Новгородку року земске громничнэ сужоно. Але 20 дня, лютэго (месяца.— *А. К.*) пригодне сталисе: бурда (была.—

*А.К.*) пану Зенковичу, судьи нашому, з неяким Лякгэницким, жолнэром з роты князя Порэцкого[363]. За чим се и рота юж зэ Здетеля[364], у пяти милях до нас, была вротила и роков нам досудить не дала, жесьмы се без часу розъехать мусели. Кветня 9 дня пан Самуэль Волович[365] оженилсе з нашон Ходкевичовнон Гальшкон, по Жалинском вдовою зосталою.

О Марку с[вентом][366] хоралэм и не моглэм быти на рокох обраный. На мое местцэ Марко Полонский[367], присегу учинивши на одны тэ роки, отправовал.

Мая 8, на день въступеня панского[368], сынова моя Ярошова[369] уродила сына, кто (л. 50) рекгом я был, вэдля дня тэкго, Станиславэм мяновал. Але Ярош звал кго Янэм. Было дите над подобенство дети вшитких ростропнэ[370], а знало, яко в килка лят, вшитко цуднэ и росло прудко. Потом умарло 7 кгрудня з велкон жалостен в дому моим.

Чирвца зась 29 мялэм за ласкон божон вэсэле в дому моим. Отдалэм цоркэ мое Раинэ за пана Яна Грушовского. Пане боже и добродею мой, рач им блокгославить!

В том року 603 мелом трое писане от милого сына моего Яохима, яко того лета с панэм свым, княжатем Мантуанским[371], был в Нэаполим[372]. Морем там ездил. Якон там велкон учтивость неаполчицы указовали княжати[373], немней, яко велкему монарше. Был там для лекарств.

Мой зась сын, хоть там инших з моря мыто брало[374], здровый был. А потым вэ врэснен, впадши в дивнэ фэбры, 23 дня мало не умарл. А ям ту дома, того ж 23 вресня, зле сны о ним видял и написалэм был в минуцыях тогорочных, утешившисе, же было то в перший квар[те] (л. 51) месяца. Аж з писаня его тот же день 23 обачивши, диновалэмсе судом и справом божим, хвалечи пренасветшее име его.

Далей в том року 603 не было в моей вядомости, што бы писаня годно было. Одно то, же пан Ян Кароль Ходкевич вжо то другий рок в Лифляntех з войски мешка, завешши там паню малжонку[375] и сына Яроша малого. Дэрпту[376], аж кго, праве, знэдивши, ркомо, през трактат достал, замэчки околичнэ побрал и влости сприврацал. Под Рэвель[377] и Нарву[378] уставичне узгоны чинил так бэспечне, яко пред тым вэ чворо на соб[е] з болши[м] войском такей бэспечности не уживано. Пане боже, му блокгослави!

Не слышалэм я венцэй речи щасливых того року, але жалосных. А на есень поветря морового у Вилни и у нас ту в Новгородку, в месте и в повете, добром вядом. И зэштя тэж з свята люди зацных гурмэм, праве, в едным тым року, кторе порендкэм там мяну.

В лютым, 13 дня, под Дэрптэм* забито мэжа годного памети, чловека значне (л. 52) рыцэрского — князя Дмитра Полубенского[379].

В марцу, 12 дня, умарл пан Михал Фронцкевич[380], подкоморый полоцкий. Того же марца, 20 дня, умарл пан Ян Одаховский[381], чловек в чужих краинах длуго бывалый и велцэ чловек добрый, и мой приятель правдивый. О заправде не умял, або не хтял тот заживать облуды.

В тым (месяцы.— *А. К.*) померли по собе прудко швакгрове два — Павел Вировский и Ян Высоцкий[382]. Умарл тэж Миколай Подаровский[383]. За ними тэж и липцу, дня 19, умарл староста несвижский Войтех Першко[384], брат мой милый[385] и чловек велцэ добрый, которого погреб зложоный был зразу на 25 авкгуста.

Але иж с презреня божого, приехавши до Несвижа пан кграбя с Тэнчина[386] того ж дня мянованого, вэ чварток вступил в малженство з княж[но]ю Галшкою, церкою его княжеской милости пана воеводы троцкого. Рач им, пане боже, блокгославить! Ова доброго слугу и час погребу его оборотилсе в вэсэле (л. 53) и дому того велцэ зацного и побожного пана.

А потым погреб тяла пана Першкова отправеный был 4 дня, вресня (месяца.— *А. К.*), также вэ чварток, на котором были их милости сами — княже его милость воевода троцки и пан грабя с Тэнчина[387].

В тым же нещесливым року 603, в листопаде, 20 дня, умарл, а можне речь, упал стлуп панства Литэвского — его милость пан Криштоф Радивил[388], воевода виленский, в Лососинэй[389], именю церки свэй[390], пани Сопэжинэй, канцлеринэй, в хоробе недлукгей.

По ним зараз умарл тэж пан Ян Нарушэвич[391], кашталян жмоитский. Оно того так веле в том року было, аж было с пострахэм велким успоминать.

В том же року, кгрудня, 12 дня, умарл княже Алек-

---

* Пасля гэтага слова ў рукапісе пазначана ўстаўка ў некалькі слоў, якая дапісана на полі, але ў фотакопіі яна напалову абрэзана і таму прачытаць яе немагчыма.

сандэр Острожский[392], воевода волынский, в Красном[393], маетности своей на Подолю*.

Не видивши тэж там доброго товариства, сусед и приятель мой, пан Беньян Чарковский[394] умарл року 1604, стычня 2 дня, не в дому своим, але у Лняникох[395], у пана Григория Униховского[396], где се обадва лечили у неякотось Шкоты, доктора. Мой то был велкий приятель по некеды прешлых нехутях и заздростях, кторых был по ним и по пане Униховским дознал. А бодай и от инших не за то юж (л. 54) нецнотливою заздростен не[щеснон] познавалэм о непогамованэ кглупство.

Розумет же бог, чинячи другому добре, мел бы се в бокгатэй рэнцэ свэй так выдать, жэбы тобе юж не мел чого з ласки свэй дать.

Дзякую и тобе, боже мой, ойче пана нашого Езуса Христуса, же межи иншими дары твоими далэсь ми на то был, жем се од заздрости устрець мокгл так, же никгды сэрцэм моим не пановала и непотребного, яком знал по инших, жалю, хоробе якейсь подобного не чинила [397].

Тэкст успамінаў Ф. М. Еўлашоўскага друкаваўся некалькі разоў. Самая першая публікацыя была зроблена ў 1860 г. Ф. Любамірскім у перакладзе на польскую мову Яўгенія Цямнеўскага [1]. Наступныя дзве публікацыі ажыццявіў У. Антановіч па львоўскай копіі са збораў Асалінскіх, зробленай з арыгінала невядома калі і кім. Друкавалася яна ў 1886 і 1896 гг.[2]

Урыўкі з першай публікацыі У. Антановіча перадрукоўваліся ў «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (Мн., 1959), складзенай і выдадзенай аўтарам гэтай кнігі, а затым у «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай мове» (Мн., 1961).

Праз пяць год успаміны Ф. М. Еўлашоўскага зноў былі надрукаваны С. Дрэўнякам і М. Качмаракам у кнізе «Antologia pamiętników polskich» (Wrocław — Warszawa — Kraków, 1966), а яшчэ праз два гады іх тэкст быў апублікаваны А. Надсонам у перакладзе на англійскую мову (па публікацыі У. Антановіча) у часопісе «The Journal of Byelorussian Studies» (1968, т. 1, № 4, с. 269—348) пад загалоўкам: «The memoirs of Theodore Jeułašeuski, Assesor of Navahrudak (1546—1604)».

---

* Далей так густа і такім дробным почыркам напісана, што паўтара радка рукапісу прачытаць немагчыма.

[1] Pamiętniki Teodora Jewłaszewskiego, nowogrodzkiego podsędka.— Warszawa, 1860.

[2] Киевская старина, 1886, т. XIV, № 1; Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси.— Киев, 1896, вып. 2.

Як сведчыць М. Сякерскі[3], аўтограф успамінаў Ф. Еўлашоўскага цяпер захоўваецца ў Варшаве, у Галоўным архіве старажытных актаў пад шыфрам: Вілянаўскія рукапісы, № 817. Кірылічны тэкст мемуараў, які займае 55 старонак, вельмі забруджаны і так выцвіў, што зараз чытаецца з цяжкасцю.

Да выяўлення аўтографа ўспамінаў публікацыя У. Антановіча лічылася іх аўтэнтычнай копіяй. Аднак пры зверцы гэтай публікацыі з арыгіналам выявілася, што яна, як і копія са збораў Асалінскіх, далёка не дакладная. Перш за ўсё ў тэксце львоўскай копіі, па якой рабілася публікацыя Антановіча, ёсць пропускі тэксту, а таксама скажэнні асобных месц ці, дакладней кажучы, няправільнае іх прачытанне тым, хто рабіў копію. Друкуючы яе тэкст, У. Антановіч, відаць, кіраваўся сучасным яму правапісам і ўнёс у публікацыю не ўласцівую аўтографу літару «ѣ». Разам з тым ён сказіў прозвішча аўтара, напісаўшы «Евлашевский» замест «Евлашовский», як яно гучыць у арыгінале. Больш таго, Антановіч зрабіў недапушчальныя ў тэксталогіі выпраўленніканчаткаў, якія ў аўтографе пададзены ў польскай граматычнай форме, падагнаў гэтыя канчаткі пад формы царкоўнаславянскай мовы. Натуральна, што такая праўка тэксту зніжае навуковую каштоўнасць публікацыі У. Антановіча — яна перадае змест арыгінала, але не дае сапраўднага ўяўлення аб тым, які выгляд мела мова помніка ў пачатку XVII ст. пад пяром аўтара ўспамінаў, у значнай ступені ўжо апалячанага. Як і ў пераважнай большасці прадстаўнікоў тагачаснага шляхецкага саслоўя, выхадцам з якога быў сам Ф. Еўлашоўскі, у яго праявіўся значны ўплыў польскай мовы, пануючай тады ў Рэчы Паспалітай.

У сапраўднасці мова ўспамінаў Ф. Еўлашоўскага насычана паланізмамі і ў граматычных формах, і ў лексіцы, а часам і ў сінтаксічных канструкцыях сказаў. І гэта, прыгадаем ужо цытаваныя словы Я. Ф. Карскага, было з'явай натуральнай, бо аўтар увесь час меў справу са знатнымі панамі, якія гаварылі па-польску. Паланізацыя шляхецкага саслоўя, якая пачалася ў часы рэфармацыйнага руху на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, захапіла і Еўлашоўскага. Праўда, у сваіх запісах ён яшчэ карыстаўся кірыліцкім алфавітам, рэдка прыбягаў да лацініцы, але гэта прывязанасць да кірыліцы істотна не мяняла сутнасці справы, бо граматычны і лексічны склад яго мовы, формы спражэнняў і скланенняў, нават асобныя выразы былі шмат у чым чужымі, прыўнесенымі ў яго родную мову.

Наша публікацыя ўспамінаў Ф. Еўлашоўскага падаецца па фотакопіі, зробленай у Варшаве для Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. У гэтай публікацыі мы імкнуліся захаваць усе арфаграфічныя і лексіка-граматычныя формы арыгінала, што нам не заўсёды ўдавалася. Прычына досыць частых адхіленняў ад агульнага правіла тлумачыцца тым, што, па-першае, вельмі недасканалая фотакопія аўтографа і, па-другое, сам арыгінал успамінаў за доўгі час свайго існавання вельмі знішчыўся. Так, у ім адсутнічае каля дзвюх старонак аўтарскага апавядання пра сваіх бацькоў. Шмат якія старонкі арыгінала (1, 5, 7—9, 11, 32, 35, 36, 43, 44, 47, 52, 55) можна прачытаць толькі часткова, а іншыя (10) і зусім нель-

---

[3] Siekierski M. Pamiętnikarz Fedor Jewłaszewski (1546—po 1614) w świetle nowych źródeł.— Studia źródłoznawcze, 1979, t. XXIV, c. 177—181.

га. У такіх выпадках тэкст даводзілася аднаўляць па публікацыі У. Антановіча і львоўскай копіі.

Рыхтуючы да друку публікацыю помніка, мы ў дужках змясцілі нашы ўдакладненні і дапаўненні, чаго вымагаў сам тэкст дзеля яго лепшага разумення. У дужках пададзена таксама нумарацыя старонак дайшоўшага да нас аўтографа. Даты арыгінала пераведзены на агульнапрынятую зараз арабскую лікавую сістэму. Шматкроп'ем пазначаны месцы, якія не ўдалося прачытаць па той прычыне, што радкі напісаны густа мікраскапічным почыркам або нечытэльна. «Г» выбухное перадаецца ў публікацыі праз «кг», як гэта назіраецца і ў арыгінале, «е» цвёрдае — праз «э», польскае «ę» насавое — праз «ен», а «ą» насавое — праз «он».

У каментарыях да ўспамінаў Ф. Еўлашоўскага падаюцца звесткі пра тых асоб, якія ўпамінаюцца аўтарам або пад уласным прозвішчам, або па іх службоваму тытулу, прыводзяцца гістарычныя даведкі пра названыя мемуарыстам населеныя пункты, царкоўна-рэлігійныя святы, а таксама робяцца некаторыя ўдакладненні, тлумачацца асобныя незразумелыя выразы. Тыя ж словы, якія з'яўляюцца ўстарэлымі або запазычанымі з іншых моў, у прыватнасці з польскай і лацінскай, але ўсё ж не патрабуюць спецыяльнага каментарыя, вынесены ў слоўнік, дзе ім даюцца сучасныя беларускія адпаведнікі. У канцы змешчаны паказальнікі ўласных імён і геаграфічных назваў.

Пры напісанні каментарыяў акрамя літаратуры, указанай у дужках у тэксце, выкарыстаны Вялікая Савецкая Энцыклапедыя, Беларуская і Украінская Савецкія Энцыклапедыі, дарэвалюцыйныя рускія выданні — Вялікая энцыклапедыя, Энцыклапедычны слоўнік Ф. Бракгаўза і І. Ефрона, Рускі біяграфічны слоўнік, польскія выданні — Усеагульная энцыклапедыя, Усеагульная энцыклапедыя з ілюстрацыямі, Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін.

[1] Словы «уродилэмсе от вышейпомененых родичов» яскрава сведчаць аб тым, што раней ішоў тэкст, пачатак рукапісу, які не захаваўся. Там, відаць, аўтар паведамляў не толькі пра сваіх бацькоў, але, магчыма, вызначаў і мэту запісаў. На жаль, гэтага пачатку не было ўжо і тады, калі Я. Цямнеўскі рабіў пераклад успамінаў на польскую мову. А таму цяпер нам невядома, які загаловак твору даў сам аўтар.

[2] Ляхавічы — у часы, пра якія тут ідзе гаворка, былі мястэчкам Навагрудскага ваяводства. З 1940 г.— горад, раённы цэнтр Брэсцкай вобл. Дакладных звестак пра час іх заснавання не захавалася. Як добра ўмацаваны замак і ўладанне вялікага князя літоўскага Ляхавічы вядомы ўжо з XV ст. Пазней належалі магнатам Хадкевічам, з якіх Ян Кароль Хадкевіч меў тут свой замак і жыў у ім. З цягам часу Ляхавічы перайшлі да Сапегаў. У XVII ст. тут была пабудавана крэпасць, якая вытрымала чатыры асады. Першая з іх адносіцца да часу нацыянальна-вызваленчай вайны Багдана Хмяльніцкага (1648—1654), калі крэпасць блакіравалі сяляне і казакі. Другую паўгадовую асаду Ляхавічы вытрымалі ў 1660 г., калі рускае войска пад камандаваннем ваяводы Хаванскага спрабавала іх захапіць. За гэту абарону і за панесеныя ўласныя страты тагачасны начальнік ляхавіцкага гарнізона рэчыцкі намеснік кашталяна Мікалай Юдзіцкі атрымаў потым ад караля Яна Казіміра Вазы кампенсацыю ў суме

21 400 злотых. Тады ж з прычыны аблогі рускім войскам Мазыра ў Ляхавічах пэўны час адбываліся павятовыя земскія сеймікі. Дзве наступныя асады крэпасць вытрымала ў час Паўночнай вайны. Шведы тады занялі Ляхавічы і спрабавалі авалодаць крэпасцю ў 1706 і 1709 гг. З 1775 г. Ляхавічы былі ўладаннем віленскага біскупа Ігнація Масальскага. А пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) былі далучаны да Расіі.

[3] Маецца на ўвазе Фёдар Страцілат (?—7.II 319) — ураджэнец г. Эўхаіт у Малой Азіі. Страцілат быў палкаводцам у імператара Ліцынія, з'яўляўся кіраўніком Марыяндзінскага краю. Пасяліўшыся ў сталіцы гэтага краю Іраклії Панційскай, стаў прыхільнікам хрысціянства і тым самым наклікаў на сябе гнеў язычнікаў. Апошнія неўзабаве пастараліся выклікаць у імператара падазрэнне да свайго палкаводца, а потым паднялі бунт. У выніку Страцілат пасля жорсткага катавання быў бязвінна прысуджаны да смерці. 7 лютага 319 г. яму адсеклі галаву, а затым распялі на крыжы яго цела. Гэта расправа пазней паслужыла хрысціянскай царкве падставай для залічэння Страцілата ў лік святых. У святцах яму быў адведзены дзень 8 лютага.

[4] Ліцыніушы (Ліцынії) — плебейскі род у Рыме. Адзін прадстаўнік гэтага роду Valerius Licinianus Licinius дасягнуў вышэйшага вайсковага рангу, і ў 307 г. імператар Галерый прызнаў яго годным у аўгусты, г. зн. у манархі. Знішчыўшы некалькі сваіх сапернікаў, у 312 г. Валерый Ліцыній стаў імператарам усходняй часткі Рымскай імперыі, у той час як Канстанцін Вялікі быў імператарам заходняй часткі. Хутка паміж імі разгарэлася вайна, якая ў наступным 313 г. закончылася нявыгадным для Ліцынія мірам, а праз год — пазбаўленнем імператарскага трону. Памёр Ліцыній гвалтоўнай смерцю ў 325 г.

[5] Біблія — зборнік старажытных рэлігійных легенд, напісаных у розныя часы многімі асобамі. Нягледзячы на мноства гістарычных памылак, выдаецца царквой за «свяшчэннае пісанне». Першая частка Бібліі, Стары запавет, уключае кнігі, у якіх гаворка ідзе пра дахрысціянскія часы, г. зн. пра часы да нашай эры. Другая, Новы запавет, складаецца з кніг, звязаных зместам з жыццеапісаннем Ісуса Хрыста і пашырэннем яго веравызнання.

[6] Відаць, Ф. Еўлашоўскі меў на ўвазе так званае Пяцікніжжа, якім адкрываецца Стары запавет Бібліі, г. зн. кнігі «Быццё», «Зыход», «Лявіт», «Лікі» і «Другазаконне». Аўтарства іх прыпісваецца прароку Маісею. У 1516 г. былі выдадзены яўрэйскім шрыфтам у Канстанцінопалі.

[7] «...паны, которые ме оборочали до браня поборов и чиненя личб»— ...паны, якія выкарыстоўвалі мяне для збору падаткаў і вядзення рахункаў.

[8] Сігізмунд II Аўгуст (1.VIII 1520 — 7.VIII 1572) — сын польскага караля Сігізмунда I Старога і каралевы Боны Сфорца, апошні нашчадак дынастыі Ягелонаў. У 1522 г., яшчэ пры жыцці бацькі, быў абвешчаны вялікім князем літоўскім. У 1529 г. па волі бацькі прызначаны каралём Польшчы. У 1544 г., пасля шлюбу з Лізаветай (?—1545), дачкой імператара Фердынанда, стаў паўнапраўным вялікім князем літоўскім. На каралеўскі трон Польшчы ўступіў толькі пасля смерці бацькі, у 1548 г. У час кіравання Сігізмунда II Аўгуста Рэфармацыя ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім дасягнула свайго зеніту, бо першапачаткова ён аказваў падтрымку рэфармацыйнаму руху, спадзеючыся выкарыстаць яго для ўмацавання кара-

леўскай улады. Але потым перайшоў у лагер каталіцызму і ў 1564 г. запрасіў у Польшчу езуітаў. Імкнучыся да непадзельнага панавання ў Прыбалтыцы, Сігізмунд II Аўгуст вёў зацяжную Лівонскую вайну з Рускай дзяржавай Івана Грознага. За тры гады да смерці адыграў важную ролю ў заключэнні Люблінскай уніі 1569 г. і стварэнні федэратыўнай феадальнай дзяржавы Рэчы Паспалітай. Пры ім каралю былі вернуты каронныя землі, раздадзеныя магнатам пасля 1504 г. На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пры Сігізмундзе II Аўгусце пачалося ажыццяўленне валочнай памеры, быў уведзены новы Статут Вялікага княства Літоўскага (1566).

[9] Гаворка ідзе пра вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча Грознага (25.VIII 1530—18.III 1584), які атрымаў гэта прозвішча за расправу над баярскай апазіцыяй і ўстанаўленне дыктатуры. Ён першы з князёў назваў сябе рускім царом (1547), а з 1549 г. стаў аднаасобна кіраваць дзяржавай. За час свайго панавання Іван Грозны значна пашырыў усходнія землі Рускай дзяржавы. Дамагаючыся выхаду да Балтыйскага мора, на працягу 25 год (з 1558 да 1583) вёў вайну ў Лівоніі з Вялікім княствам Літоўскім, а потым з Рэчай Паспалітай і Швецыяй. Пасля смерці сваёй першай жонкі Анастасіі Раманаўны (1560) сватаўся да Кацярыны Ягелонкі, сястры Сігізмунда II Аўгуста, якая потым выйшла замуж за шведскага караля Яна Вазу.

[10] Маецца на ўвазе бітва 1564 г. у час Лівонскай вайны каля в. Івацішкі пад Лепелем, калі войска Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем Мікалая Радзівіла, празванага Рыжым, разбіла рускае войска, якое ўзначальваў Пётр Іванавіч Шуйскі.

[11] Ула — левы прыток Заходняй Дзвіны.

[12] Гаворыцца пра Лівонскую вайну, якая з невялікімі перапынкамі вялася на працягу 25 год.

[13] «...аним се за словы их брал»— г. зн. не прымаў пад увагу іх слоў.

[14] Вільня (цяпер Вільнюс) — старажытны літоўскі горад, заснаваны, паводле летапіснай легенды, Гедымінам, які ў 1323 г. зрабіў яго сталіцай Вялікага княства Літоўскага.

[15] Збор хрысціянскі — так рэфарматары называлі свае храмы.

[16] Міністрамі кальвіністы называлі сваіх царкоўных прапаведнікаў.

[17] Мікалай Вендрагоўскі — міністр кальвінісцкага збору ў Вільні, калега Марціна Чаховіца, прыхільнік вучэння Арыя і Соцына. У 1564 г. быў удзельнікам сінода сацыніян у Бжэзіне (Куявы), а 25 снежня 1565 г.— у Венграве. Яму было даручана спыніць канфлікт паміж літоўскімі кальвіністамі і сацыніянамі. М. Вендрагоўскі ў той час ужо вагаўся ў кальвінісцкім веравызнанні, маючы намер парваць з ім.

Асобу прапаведніка Касцяніцкага высветліць не ўдалося.

[18] Ян Макавецкі — князь, мазур па паходжанню. У 1549 г. быў пісарам каралевы Боны. Як вопытны камандзір асабліва праславіўся ў часы Сігізмунда II Аўгуста; будучы ротмістрам, неаднаразова выяўляў вайсковыя здольнасці і адвагу. Памёр у 80 год на вяселлі свайго сына, калі ў час рыцарскага турніра зваліўся з каня і моцна пабіўся.

[19] Кусташ — прыдворная службовая асоба, якая загадвала каралеўскай скарбніцай, адказвала за захаванне бібліятэкі ці музея.

[20] Канонік — каталіцкі святар, які служыў пры вялікіх храмах і падпарадкоўваўся пэўнаму статуту, але не даваў манаша-

скага зароку. Потым гэты духоўны сан стаў своеасаблівай узнагародай.

[21] «...который ме барзей в тэ то личбы выправил и доброго ме пожитку набавил и веле людям в знаемость подал и залетил»— які добра навучыў мяне весці рахункі і тым самым забяспечыў мне значную карысць, і пазнаёміў мяне са шмат якімі людзьмі і раіў ім карыстацца маімі паслугамі.

[22] Кліменцій (Клеменс) VIII (свецкае імя Іпаліта Альдорандзіні) — сын славутага фларэнційскага юрыста. Быў адвакатам, членам вярхоўнага суда па царкоўных справах. У 1585 г. папа Сікст V зрабіў яго кардыналам. Пэўны час Кліменцій выконваў абавязкі папскага пасла (нунцыя) у Рэчы Паспалітай. 30.I 1592 г., пасля смерці папы Інакенція IX, быў выбраны на папскі трон, на якім знаходзіўся да 1605 г. З'яўляючыся папай, займаўся рэлігійнымі справамі Францыі, у выніку чаго прымірыўся з яе каралём Генрыхам IV Бурбонам і ў 1595 г. дазволіў яму развод з Маргарытай Валуа. За гэту паслугу Генрых IV дапамог Кліменцію VIII далучыць да папскай вобласці Ферарскае герцагства. Імкнучыся да пашырэння ўплыву каталіцкай царквы, Кліменцій VIII спрабаваў, хоць і без поспеху, далучыць да каталіцызму індыйскіх хрысціян-фамістаў. Ён санкцыяніраваў стварэнне ў Рэчы Паспалітай уніяцкай царквы. Для разбору рэлігійна-палітычных спрэчак паміж магутнымі тады ордэнамі езуітаў і дамініканцаў арганізаваў славутую кангрэгацыю «De auxilius», але сам у ёй не выносіў прысудаў. Тым не менш існавала падазрэнне, што ва ўзросце 70 год яго атруцілі езуіты. Пры Кліменціі VIII было зроблена выпраўленае выданне Біблії, вядомае пад назвай Вульгаты (потым яна атрымала назву Клеменціны).

[23] Кардынал — вышэйшы духоўны сан у каталіцкай царкве. Яму падпарадкоўваюцца епіскапы і архіепіскапы ўсёй краіны. Кардыналы — бліжэйшыя памочнікі папы рымскага, яго ўпаўнаважаныя асобы. А калі папскі трон становіцца вакантным, на сваім з'ездзе (канклаве) яны выбіраюць папу са свайго ж асяроддзя.

[24] Стэфан Баторый (27.IX 1533—12.XII 1586) — з 1571 да 1575 г. быў сямігродскім ваяводам у Трансільваніі. У снежні 1575 г. польская шляхта, якую ўзначальваў Ян Замойскі, абрала, а 1.V 1576 г. каранавала яго на трон Рэчы Паспалітай. Перад каранацыяй ён ажаніўся з прынцэсай Ганнай Ягелонкай (1523—1596), сястрой бяздзетнага караля Сігізмунда II Аўгуста. Стэфан Баторый даў многія прывілеі шляхце, якая падтрымала яго насуперак магнатам, што рабілі стаўку на Аўстрыю. У барацьбе з магнацкай апазіцыяй новы кароль абапіраўся таксама на каталіцкую царкву, езуітаў, для якіх ён адчыніў многія школы, а ў Вільні дазволіў заснаваць акадэмію. Аб яго адносінах да гэтага ордэна сведчыць сказаная ім крылатая фраза: «Калі б я не быў каралём, дык стаў бы езуітам». Працягваючы барацьбу сваіх папярэднікаў за выхад Польшчы да Балтыйскага мора, у 1577 г. Стэфан Баторый авалодаў партовым горадам Гданскам. У 1578 г. па просьбе шляхты заснаваў у Польшчы і ў Вялікім княстве Літоўскім шляхецкія трыбуналы, якія былі выбарнымі судамі і з'яўляліся вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй. Далучыў да Польшчы Інфляндыю. Імкнуўся да абсалютызму. У 1580 г. санкцыяніраваў смяротную кару смаленскаму ваяводзе Рыгору Осціку, якога ўласны слуга Міроўскі абвінаваціў у здрадніцкіх зносінах з рускімі. Сваёй пастаяннай рэзідэнцыяй Стэфан Баторый выбраў беларускі горад Гродна.

[25] Знайсці звесткі пра кн. Балтрамея Нядвіцкага не ўдалося.

[26] Влохі — па-польску італьянцы, але ў гэтым выпадку, магчыма, маюцца на ўвазе выхадцы з Валахіі, г. зн. румыны.

[27] Евангелікамі ў XVI ст. называлі прадстаўнікоў адной з рэлігійных плыней рэфармацыйнага руху, якія імкнуліся выказваць інтарэсы гарадской беднаты і рамеснікаў.

[28] Гэты сказ дапісаны аўтарам успамінаў на полі рукапісу.

[29] Маецца на ўвазе Войцах з Серпца (у арыгінале Сэпрца), які, паводле Слоўніка польскіх лекараў, складзенага Станіславам Касмінскім і выдадзенага ў 1883 г. у Варшаве, з'яўляўся лекарам, астролагам і віленскім канонікам. У 1534 г. атрымаў ступень бакалаўра, а ў 1539 г.— доктара філасофіі. У 1583 г. быў дэканам філасофскага факультэта Віленскай езуіцкай акадэміі.

[30] «...жебым шедл претив тому безпечне и добро не се мел»— каб я ішоў насустрач той справе бестурботна і не адчуваў сябе добра.

[31] Дарагава — вёска ў цяперашнім Карэліцкім р-не Гродзенскай вобл.

[32] Пахолікі —батракі, найміты. Пахолікамі называліся яшчэ і збраяносцы шляхты ў час ваенных паходаў — яны былі радавымі салдатамі і выконвалі розныя даручэнні сваіх гаспадароў. Але ў адрозненне ад табарнай чэлядзі або звычайных слуг пахолікі прымалі актыўны ўдзел у ваенных бітвах разам са сваімі панамі.

[33] Ручніцай (рушніцай) тады называлася «ручная» стрэльба (пішчаль).

[34] Ольстра — футляр для зброі, які коннікі прывязвалі да сядла.

[35] «Выведане копным обычаем»— рабіць дазнанне паводле правілаў копнага суда.

Копным судом называўся сельскі суд, які ажыццяўляўся ў той ці іншай мясцовасці яе жыхарамі, кожны з якіх выступаў у ролі суддзі пры абавязковай прысутнасці прадстаўніка дзяржаўнай адміністрацыі. Рашэнне гэтага суда абскарджанню не падлягала. Як правіла, копныя суды былі звыклай з'явай у часы бескаралеўя.

[36] «...аж драбинэ зэ вси принеслши, отнято ю»— знялі яе адтуль толькі пры дапамозе лесвіцы, якую прынеслі з вёскі.

[37] «...же се бое[м]»— што я баюся.

[38] Навагрудак — старажытны беларускі горад, цяпер раённы цэнтр Гродзенскай вобл. Вядомы яшчэ з часоў князя Яраслава Мудрага (XI ст.). У сярэдзіне XIII ст. тут знаходзілася рэзідэнцыя вялікага князя літоўскага Міндоўга. З 1415 г. Навагрудак быў рэзідэнцыяй праваслаўнага мітрапаліта Вялікага княства Літоўскага, а ў 1507 г. стаў цэнтрам ваяводства. З 1581 да 1775 г. Навагрудак з'яўляўся месцам збору трыбунала, які склікаўся тут рэгулярна, праз кожныя два гады. За доўгую гісторыю свайго існавання горад неаднаразова падвяргаўся нападам і разбурэнням з боку тэўтонскіх рыцараў.

[39] Лятавец — літаральна паветраны змей. Тут гэта слова ўжыта Еўлашоўскім у пераносным сэнсе і азначае залётніка або нячыстую сілу.

[40] Рокамі (гадамі) земскімі ў тыя часы называліся сесіі земскага суда, якія склікаліся ў цэнтры ваяводства (у гэтым выпадку — у Навагрудку).

[41] Пад панствам Літоўскім Ф. Еўлашоўскі мае на ўвазе ўсю тагачасную тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, куды ўваходзілі і беларускія землі.

[42] Дзень св. Міхала-архангела мае дату — 8 лістапада.

[43] Уладзімір Сямёнавіч Забалоцкі (?—24.IV 1580) — маскоўскі баярын, які доўга быў на службе пры дварах венгерскага і польскага каралёў. Стэфан Баторый вельмі любіў Забалоцкага і таму аплакваў яго забойства, арганізаванае трокскім кашталянам Радзівілам Перуном. У 1566 г. У. С. Забалоцкі з'яўляўся ляхавіцкім старостам, а з 1569 г. стаў старостам трабскім. Вёска Трабы, размешчаная ў 31 км па шашы з Навагрудка ў Ашмяны, цяпер знаходзіцца ў Іўеўскім р-не Гродзенскай вобл. Як пасяленне з княжацкім замкам Трабы вядомы ў гісторыі з XV ст. З 1490 да 1542 г. належалі Гаштольдам, з якіх ваявода трокскі Станіслаў Альбрэхтавіч быў жанаты на Барбары Радзівіл, што потым стала жонкай караля Сігізмунда II Аўгуста. Пасля яе смерці Трабы адышлі ў каралеўскі скарб і з'яўляліся цэнтрам староства (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 272).

[44] Фёдар Іванавіч Колычаў-Разумны (?—1567) — намеснік суздальскі. Быў царскім акольнічым, г. зн. асобай, якой даручаліся тыя ж самыя справы ў кіраванні дзяржавай, што і баярам,— толькі акольнічыя займалі пасля іх другое месца. У гэтых адносінах яны нагадвалі польска-літоўскіх кашталянаў. Акольнічыя, як правіла, засядалі ў царскіх прыказах, прызначаліся намеснікамі і ваяводамі, былі царскімі пасламі і членамі Дзяржаўнай думы. Яны прадстаўлялі цару замежных паслоў і ганцоў, займаліся іх уладкаваннем у сталіцы. У часы Івана Грознага акольнічых было звыш пяці чалавек. У казанскім паходзе 1552 г. Ф. І. Колычаў-Разумны знаходзіўся ў войску і меў званне стольніка. У 1563 г. цар узвёў яго ў баяры. У гэтым сане Колычаў прымаў непасрэдны ўдзел у літоўскім паходзе Грознага пад Полацк. У 1567 г. узначальваў пасольскую місію цара да караля Сігізмунда II Аўгуста, вёў перагаворы аб заключэнні міру і патрабаваў выдачы цару Андрэя Курбскага як здрадніка радзімы. Сустрэча пасольства з дзевяццю членамі каралеўскай рады адбылася ў Гродне. Паколькі кароль не згаджаўся аддаць Грознаму Лівонію ўзамен за Курляндыю, пасольства Колычава закончылася без поспеху, і ў хуткім часе памёр і сам пасол.

[45] Грыгорый Іванавіч Нагой — царскі дварэцкі, удзельнік пасольства Ф. І. Колычава-Разумнага ў Вялікае княства Літоўскае, паходзіў са старадаўняга баярскага роду, які сваяцкімі сувязямі быў звязаны з родам Івана Грознага і нават парадніўся з царом, калі той абвянчаўся з апошняй, сёмай, жонкай Марыяй Нагой.

[46] Васіль Якаўлевіч Шчолкалаў (у Еўлашоўскага Шчолканаў) — рускі палітычны дзеяч і дыпламат часоў Івана Грознага. З'яўляўся даверанай асобай цара Фёдара Іванавіча і прыхільнікам Барыса Гадунова ў яго барацьбе супраць І. Ф. Мсціслаўскага, Ляпуновых, Кікіных, Шуйскіх, Варатынскіх, Колычавых і Галавіных. Быў удзельнікам Лівонскай вайны, членам пасольстваў Ф. І. Колычава-Разумнага (1567) і С. В. Гадунова (1587) да каралёў Сігізмунда II Аўгуста і Сігізмунда III Вазы. Пасля смерці свайго брата Андрэя каля 1595 г. Шчолкалаў заняў яго месца і пачаў звацца дзякам і друкаром («печатником»); адначасова кіраваў Пасольскім разрадам. У 1597 г. вёў у Маскве перагаворы з пасламі аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна і яго брата імператара Рудольфа II Габсбурга аб дзяржаўным саюзе, скіраваным супраць Рэчы Паспалітай і Турцыі. Пры Лжэдзімітрыі I быў узведзены ў акольнічыя, а пры Васілію Шуйскім трапіў у няміласць (Лихачев Н. П. Разрядные дьяки.— Казань, 1888).

[47] Радашковічы — цяпер гарадскі пасёлак Маладзечанскага р-на

Мінскай вобл. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1447 г. У 1568 г. былі месцам збору стотысячнага войска, якое збіралася на Лівонскую вайну, але паход яго не адбыўся. Прычынай такога збору была авантурная спроба караля Сігізмунда II Аўгуста з дапамогай нейкага Казлова, што ўцёк з Расіі ў Вялікае княства Літоўскае, схіліць на свой бок рускіх вяльможаў і захапіць уладу ў Маскве. Але змова Казлова была раскрыта. Самога Казлова і некалькіх вяльмож пакаралі смерцю ў Маскве. Даведаўшыся пра гэта, кароль мусіў распусціць сабранае пад Радашковічамі войска. Толькі адзін атрад з гэтага войска накіраваўся пад камандай Яна Хадкевіча на вайну, каб вызваліць захоплены рускімі замак Улу. На дапамогу асаджанаму Хадкевічам гарнізону з Полацка сюды падаспела дапамога, дзякуючы якой крэпасць вытрымала асаду. Як пра гэта сведчыць ліст Хадкевіча да караля, войска Рэчы Паспалітай праявіла пад Улой сваю баязлівасць, а таму вымушана было адступіць з вялікімі стратамі.

[48] Сойм — так ва ўспамінах Ф. Еўлашоўскага называецца сейм, у XIV—XVIII стст. саслоўны парламент Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

[49] Гродзенскі сейм 1568 г. быў апошнім генеральным («вальным») сеймам Вялікага княства Літоўскага перад тым, як яно аб'ядналася з Польскім каралеўствам у адзіную дзяржаву Рэч Паспалітую. Гэты сейм, па сутнасці, з'яўляўся працягам папярэдняга Гродзенскага сейма, які не быў закончаны з прычыны ваеннай небяспекі з боку Масквы, як аб тым паведамлялася ў лістах Сігізмунда II Аўгуста, разасланых па ўсіх паветах Вялікага княства Літоўскага. Сваю работу сейм пачаў вясной і вынікам яе было рашэнне ўвесці «певный податок серебьщизны» для найму і ўтрымання жаўнераў «место посполитого рушенья», якое выкарыстоўвалася да гэтага часу для абароны дзяржавы ад знешняй небяспекі і з'яўлялася адзінай павіннасцю шляхты Вялікага княства Літоўскага (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 554).

[50] Люблін — старажытны польскі горад, цяпер цэнтр ваяводства. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім датуюцца X ст. У 1241 г. Люблін быў разбураны татара-манголамі. Свайго культурнага росквіту дасягнуў у часы панавання Сігізмунда II Аўгуста. У 1569 г. тут адбыўся агульнадзяржаўны сейм каронnай Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, на якім была абвешчана Люблінская унія — стварэнне адзінай дзяржавы Рэчы Паспалітай.

[51] Люблінская унія — аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага з Польшчай у адну дзяржаву. Унія, г. зн. саюз, была выклікана, з аднаго боку, бояззю польска-каталіцкай партыі, што Вялікае княства Літоўскае пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста, апошняга прадстаўніка каралеўскай дынастыі Ягелонаў, аддзеліцца ад Польшчы, а з другога — няспрыяльнымі і небяспечнымі для Вялікага княства Літоўскага знешнепалітычнымі абставінамі, абумоўленымі Лівонскай вайной. Пытанне аб гэтай уніі абмяркоўвалася яшчэ на Варшаўскім сейме 1563—1564 гг., калі бяздзетны кароль адрокся ад сваіх спадчынных правоў на Вялікае княства Літоўскае ў карысць каронnай Польшчы. Агульны вальны сейм быў склікаНы на 23 снежня 1568 г. Аднак паколькі дэпутаты ад княства збіраліся на Люблінскі сейм вельмі неахвотна і марудна, яго адкрыццё адбылося толькі 10 студзеня 1569 г. Ужо з першых дзён работы гэтага сейма выявіліся кардынальныя разыходжанні па пытанню, на якіх умовах адбудзецца аб'яднанне дзвюх дзяржаў. Польскі праект, распрацаваны кра-

каўскім епіскапам Філіпам Паднеўскім, прадугледжваў, што выбранне і каранацыя будучых каралёў будуць рабіцца толькі ў Польшчы. Меркавалася таксама стварэнне адзінага сейма, сената і манеты. Прадстаўнікі ж княства патрабавалі, каб агульны сейм па выбарах будучага караля праводзіўся на мяжы паміж дзяржавамі, каб каранацыя караля адбывалася не толькі ў Кракаве, але і ў Вільні, каб склікание агульнадзяржаўнага сейма праводзілася пачаргова на тэрыторыі княства і Польшчы, урэшце, каб прызначэнні на дзяржаўныя пасады ў княстве рабіліся толькі з прадстаўнікоў, якія там нарадзіліся. Феадалы Вялікага княства Літоўскага, вядома, баяліся страціць сваё пануючае становішча і прывілеі. Яны згаджаліся на аб'яднанне толькі пры той умове, што будзе захавана самастойнасць і цэласнасць тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Узнікшыя на сейме рознагалоссі прывялі да таго, што літоўскія дэлегаты ў канцы лютага спынілі перагаворы і пакінулі Люблін, не папярэдзіўшы польскіх паслоў. Яны спадзяваліся, што іх ад'езд не выкліча крайніх мер уздзеяння. Але калі кароль Сігізмунд II Аўгуст, абапіраючыся на каталіцкае духавенства, выдаў 5 сакавіка 1569 г. акт аб далучэнні да Польшчы Падляшша, 26 мая — Валыні, 1 чэрвеня — Падолля, а 5 чэрвеня — Кіеўшчыны, затым стаў пагражаць, што пазбавіць уладальнікаў на гэтых тэрыторыях іх памесцяў, феадалы Вялікага княства Літоўскага вымушаны былі згадзіцца на працяг перагавораў і падпісанне Люблінскай уніі. 1 ліпеня 1569 г. на сейме ў Любліне была праведзена ўрачыстая прысяга абодвух бакоў, а 12 жніўня, пасля вырашэння іншых пытанняў, дзяржаўны сейм закончыў сваю работу. Пры ўсіх вострых калізіях гэтага сейма Вялікае княства Літоўскае ўсё ж здолела захаваць пэўную самастойнасць: у рамках створанай федэрацыі яно мела ўласнае войска, заканадаўства, суды, фінансы і сваю дзяржаўную мову. Польскім феадалам забаранялася займаць у княстве дзяржаўныя пасады. На гэтым сейме адбыўся яго падзел на дзве часткі: у адной з іх засталіся сенатары, у другой — паслы, выбраныя на павятовых земскіх сейміках. Іменна з гэтага часу пасольская палата Рэчы Паспалітай стала выступаць як выбарчы орган шляхецкай дэмакратыі з яўнымі прэтэнзіямі на перавагу ў дзяржаўным жыцці Рэчы Паспалітай (Дневник Люблинского сейма 1569 г.— Спб, 1869; История Польши.— М., 1954, т. 1).

[52] Вялікім постам у хрысціянскіх цэрквах называецца сямітыднёвы пост перад вялікаднем.

[53] Сенатарамі княства, якія прымалі ўдзел у рабоце Люблінскага сейма 1569 г., былі віленскі ваявода, ён жа канцлер Мікалай Юр'евіч Радзівіл па клічцы Рыжы, земскі маршалак і жамойцкі староста Ян Еранім Хадкевіч, падканцлер Яўстафій Валовіч, земскі падскарбі Мікалай Нарушэвіч, віленскі кашталян Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч, смаленскі кашталян Дамінік Мікалаевіч Пац, падляшскі ваявода Мікалай Кішка і інш., за выключэннем Яўстафія Валовіча, Мікалая Нарушэвіча і Андрэя Валана, асабістага сакратара Мікалая Радзівіла, якія былі ўпаўнаважаны застацца ў Любліне, каб сачыць за ходам работы сейма (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 1—85).

[54] Вялікая ноч — апошняя ноч перад вялікаднем. У 1569 г. яна прыпадала на ноч з 4 на 5 красавіка.

[55] Універсал — дзяржаўны цыркуляр, указ, грамата з паведамленнем пра якую-небудзь падзею. У іншых выпадках — распараджэнне вайсковага ці адміністрацыйнага характару, абавязковае для выканання.

[56] Карона — Польскае каралеўства, якое на Люблінскім сейме 1569 г. аб'ядналася з Вялікім княствам Літоўскім у федэратыўную феадальную дзяржаву Рэч Паспалітую.

[57] Слова «Літва» тут ужыта як назва ўсяго Вялікага княства Літоўскага.

[58] На Варшаўскім сейме 1570 г. (дзённік гэтага сейма ў кн.: Scriptores rerum Polonicarum.— Cracoviae, 1872, t. 1) вялікую ўвагу прыцягнула да сябе вядомае Сандамірскае пагадненне лютэран, кальвіністаў і мараўскіх братоў Польшчы (1570), якое ўключала дзесяць пунктаў, прысвечаных свабодзе веравызнання і стаўленню іншаверцаў да дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай. Негатыўная пазіцыя, якую заняў кароль Сігізмунд II Аўгуст да гэтага пагаднення, перашкодзіла прыняццю тых пастаноў, якіх чакалі ад сейма. Паколькі сейм не вырашыў пытанняў, якія стаялі на парадку дня, кароль быў вымушаны склікаць новы сейм. Ён быў прызначаны ў Варшаве на царкоўнае свята трох каралёў, г. зн. на 6 студзеня 1572 г.

[59] Ян Кратошскі (?—1583) — інаўроцлаўскі кашталян. Пасля смерці бацькі ў 1569 г. прызначаны на пасаду інаўроцлаўскага ваяводы. Яго зводная сястра Кацярына (ад першай бацькавай жонкі) была замужам за Янам Глябовічам, які потым стаў мінскім ваяводам (Niesiecki K. Herbarz polski.— Lipsk, 1840, t. 5, c. 391).

[60] Рафал Ляшчынскі — радзеёўскі староста, да 1550 г. брэсткуяўскі ваявода. Калі было забаронена сумяшчаць у адным і тым жа ваяводстве дзве пасады, ён добраахвотна адмовіўся ад ваяводства. З тытулам радзеёўскага старосты ўпамінаецца ў сеймавых канстытуцыях 1567 і 1569 гг. На Люблінскім сейме быў паслом ад Пазнанскага ваяводства і падпісаў унію Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам. Двойчы ездзіў у Маскву з пасольскай місіяй: у 1570 г.— для заключэння перамір'я з Іванам Грозным, а ў часы панавання Баторыя — для падпісання мірнага дагавору, якім закончылася Лівонская вайна. Ва ўнутрыпалітычным жыцці Рэчы Паспалітай паслядоўна абараняў інтарэсы шляхты пратэстанцкага веравызнання ад каталіцкіх біскупаў і магнатаў. На Пётркаўскіх сеймах 1550 і 1562 гг. Ляшчынскі нават пагражаў самому каралю. Вынікам яго выступленняў з'явілася ў 1562 г. адмена каралём Сігізмундам II Аўгустам юрысдыкцыі біскупаў над свецкімі панамі адносна іх веравызнання. У часы Сігізмунда III Вазы займаў адно з відных месц сярод кальвініцкай шляхты, аднак перад смерцю адступіўся ад кальвінізму і стаў католікам (Niesiecki K. Herbarz polski, 1841, t. 6, c. 64—65).

[61] Лешна — былы павятовы горад Пазнанскага ваяводства ў Польшчы, родавае гняздо шляхецкага сямейства Ляшчынскіх, якія пабудавалі тут свой замак. Горадам стала з 1574 г. Бурна развівалася ў канцы XVI — пачатку XVII ст., асабліва калі ў 1620 г. тут пасялілася некалькі соцень сем'яў мараўскіх братоў. Доўгі час Лешна было асяродкам рэфармацыйнага руху Вялікай Польшчы і мела сваю школу.

[62] Мікалай Станіслававіч Тальвош (?—1600) — ротмістр коннай роты, дынамундскі староста, 23.III 1566 г. стаў мінскім кашталянам, а ў 1570 г.— жмудскім кашталянам. Будучы мінскім кашталянам, ездзіў паслом у Маскву на перагаворы з Грозным і заключыў там на тры гады перамір'е. На лістападаўскім з'ездзе 1587 г. у Вільні быў выбраны ўпаўнаважаным членам пасольства ў Кракаў для вядзення там ад імя Вялікага княства Літоўскага перагавораў з Сігізмундам

III Вазай аб прызнанні яго вялікім князем літоўскім. У склад гэтага пасольства тады былі выбраны таксама Ян Глябовіч, Леў Сапега, ксёндз Бенядзікт Война, Гаўрыіл Война, літоўскі мечнік Дзмітрый Халецкі, жмудскі староста Ян Кішка і інш. У студзені 1588 г. М. Тальвош адмовіўся ад пасады жмудскага кашталяна і быў прызначаны дворным маршалкам. Пасля смерці Аляксандра Фрыдрыхавіча Пронскага 12.II 1596 г. атрымаў яго пасаду трокскага кашталяна (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 131, 421, 428, 631, 671, 672, 683).

[63] Кашталян — чыноўнік, камендант умацаванага замка. Будучы сенатарам, з'яўляўся другой асобай пасля ваяводы і непасрэдным пераемнікам апошняга. Адсюль значэнне кашталяна ў каралеўскім сенаце і ў самім ваяводстве было неаднолькавым. Яно ўзрастала ў часы ваенных дзеянняў, калі ў яго абавязкі ўваходзіла камандаванне войскам свайго ваяводства.

[64] Гаворка ідзе пра Андрэя Іванавіча Абрынскага (?—1589), які займаў пасаду навагрудскага падкаморыя. У 1569 г. стаў каралеўскім пісарам. На гэтай пасадзе быў да 1585 г. Прымаў непасрэдны ўдзел у перапісцы тэксту трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статута.

[65] Ляхамі тады ў адрозненне ад мазураў, г. зн. жыхароў Плоцкага, Мазавецкага і Раўскага ваяводстваў, называлі палякаў Пазнанскага, Калішскага і Гнезненскага ваяводстваў, якія складалі землі так званай Вялікай Польшчы.

[66] «...гдем списковалэм в потребах короля его милости, хоть ми та послукга мерзила».

У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра амурныя справы караля Сігізмунда II Аўгуста, які быў тройчы жанаты. Першая і трэцяя яго жонкі былі аўстрыйскімі прынцэсамі. Любімай жа жонкай была толькі Барбара Радзівіл, але яна рана памерла. Пасля яе смерці кароль меў наложніц, якіх па яго даручэнню дастаўлялі яму розныя людзі. У ліку гэтых зводаў, відаць, пэўны час быў і Фёдар Еўлашоўскі, паколькі ён сам заяўляў, што такая паслуга каралю была яму непрыемнай і брыдкай.

[67] Венграў — старажытны польскі горад на правым беразе р. Лівец (левы прыток Буга), у 33 км на паўночны захад ад г. Седльцы. Узнік на заходніх граніцах Падляшша, колішняй Драгіцкай зямлі — на яе мяжы з Мазовіяй. Першыя пісьмовыя звесткі пра Венграў адносяцца да 1444 г. У канцы XV ст. горад атрымаў Магдэбургскае права. У XVI ст. належаў Кішкам. Літоўскі крайчы Ян Кішка з Цеханоўца заснаваў у Венграве пратэстанцкую друкарню, дзе выдаваў свае творы Пётр з Ганёндза. У 1565 г. тут адбыўся з'езд пратэстанцкіх багасловаў Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Крыху пазней горад перайшоў да Радзівілаў.

[68] «Лежалэм в тэй хоробе сем недель и отпадывалэм або в рэцыдывэ входилэм трикроть»— ляжаў я ў той хваробе сем тыдняў, і за гэты час тройчы мне лепшала і горшала.

[69] Мясапуст — посны дзень, загавіны перад масленіцай. Прыпадаў на апошнюю нядзелю перад вялікім постам.

[70] Добрэ — калісьці мястэчка, цяпер вёска па дарозе з Варшавы на Венграў, у 45 км ад Варшавы.

[71] Бранск — старажытны горад на р. Нурэц у Падляшскай зямлі (цяпер у ПНР). Пасля знішчэння яго татара-манголамі ў 1241 г. трапіў пад уладу літоўскіх князёў. У 1493 г. атрымаў Магдэбургскае права. У 1507 г. стаў пажыццёвым уладаннем княгіні Алены, удавы вялікага князя літоўскага Аляксандра. Пасля Люблінскай уніі

адышоў пад юрысдыкцыю кароннай Польшчы і стаў павятовым горадам, у якім тады ж быў створаны земскі суд. Да 1768 г. з'яўляўся месцам збору шляхты з усёй Бельскай зямлі для выбару дэпутатаў на галоўны дзяржаўны сейм Рэчы Паспалітай. У час польска-шведскай вайны (1655—1660) быў моцна разбураны, а з Паўночнай вайны пачаўся яго канчатковы заняпад. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Бранск адышоў да Прусіі і стаў павятовым горадам. Паводле Тыльзіцкага дагавору (1807), увайшоў у склад Расійскай імперыі.

[72] Мікалай Крыштоф Радзівіл (1549—1616) — нясвіжскі князь, якога кароль Сігізмунд II Аўгуст празваў Сіроткай, сын маршалка і канцлера Вялікага княства Літоўскага, прыхільніка кальвінізму Мікалая Радзівіла па мянушцы Чорны. Адукацыю атрымаў у Лейпцыгскай акадэміі ў Германіі, пасля чаго падарожнічаў па Заходняй Еўропе. У 1570 г. парваў з кальвінізмам, стаў каталікам і схіліў у каталіцызм сваіх малодшых братоў. Сваю дзяржаўную службу пачаў 20.VI 1569 г. з пасады дворнага літоўскага маршалка. Пры Стэфане Баторыі як удзельнік Лівонскай вайны пад Полацкам 25.X 1579 г. атрымаў пасаду земскага маршалка. 1.VI 1586 г. М. К. Радзівіл стаў трокскім кашталянам, а з 10.VIII 1590— трокскім ваяводам. З 26.III 1604 г. пажыццёва быў віленскім ваяводам. Як заўзяты каталік М. К. Радзівіл падтрымліваў караля Сігізмунда III Вазу ў справах царкоўнай уніі і па яго просьбе ў час Брэсцкага сінода 1596 г. сачыў там за грамадскім парадкам. У 1606 г. падаўляў шляхецкі рокаш (мяцеж), узняты Мікалаем Забжыдоўскім і Янушам Радзівілам. Умацаваў сваю рэзідэнцыю ў Нясвіжы, пабудаваў там фарны касцёл, які захаваўся да нашага часу. Ва ўсіх сваіх уладаннях заснаваў каталіцкія кляштары, будаваў дарогі. На працягу 1582—1584 гг. падарожнічаў па Палесціне і Егіпту, пасля чаго напісаў кнігу «Перэгрынацыя, або паломніцтва ў Святую зямлю». Яшчэ пры жыцці М. К. Радзівіла гэты твор быў перакладзены Трэтарам на лацінскую мову і вытрымаў тры выданні. З лацінскага перакладу Ваўжынец Баркоўскі пераклаў «Перэгрынацыю» на нямецкую мову. Пераклад Баркоўскага выдаваўся пяць разоў. У польскім перакладзе, зробленым з лацінскага Варгоцкім, упершыню «Перэгрынацыя» была надрукавана ў 1617 г., а ў рускім перакладзе — у 1787 г. Апошняе варшаўскае выданне датуецца 1962 г. З часу заснавання Віленскай акадэміі (1579) М. К. Радзівіл з'яўляўся яе апекуном (Kotłubaj E. Galerja nieświżska.— Wilno, 1857, с. 305—319).

[73] Маршалак дворны — першая і самая нізкая ступень у іерархічнай лесвіцы каралеўскіх чыноўнікаў сярэдневяковай Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Выконваў адміністрацыйныя функцыі ў час пасяджэнняў сената і пры каралеўскім двары — паведамляў у паветы загады караля аб прызначэннях на дзяржаўныя пасады, перадаваў распараджэнні адносна пераезду каралеўскага двара з аднаго месца ў другое, вызначаў у час падарожжа месцы пастояў каралеўскага двара, збіраў у дзяржаўны скарб і ў сваю карысць падаткі з гандляроў. Пры адсутнасці земскага маршалка выконваў яго абавязкі ў час прыдворных цырымоній з выпадку прыбыцця замежных гасцей і старшынстваваў у каралеўскім прыдворным судзе, калі там разглядаліся справы павятовых судоў (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego księstwa Litewskiego 1386—1795.— Kraków, 1885, с. 172—173).

[74] Алыка — цяпер гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Валынскай вобл. Вядома па Лаўрэнцьеўскаму і Іпацьеўскаму летапісах з 1149 г.

Калісьці была прыватным уладаннем Кішкаў. У 1513 г. дачка маршалка Вялікага княства Літоўскага Станіслава Кішкі князёўна Ганна падаравала Алыку свайму мужу Янушу Радзівілу па мянушцы Барадаты. Разам з Алыкай яна прынесла яму ў пасаг Нясвіж і Лахву. Іх сын, літоўскі крайчы Ян Радзівіл, з 1544 г. пачаў называць сябе князем на Алыцы. А другі сын Мікалай, празваны Чорным, у час пасольства Вялікага княства Літоўскага да імператара Карла V выстараўся ў яго для сябе і ўсяго роду Радзівілаў грамату на тытул князя на Алыцы, Нясвіжы і Клецку. З дазволу Брэсцкага сейма 1549 г. гэты тытул быў зацверджаны вялікім князем літоўскім Сігізмундам II Аўгустам. У 1564 г. Мікалай Радзівіл Чорны пабудаваў у Алыцы абарончы замак і зрабіў у ім сваю валынскую рэзідэнцыю. Будучы кальвіністам, пасяліў тут прапаведнікаў новай рэлігіі. Пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага пры падзеле яго спадчыны Алыка дасталася ў 1578 г. яго сыну Станіславу Радзівілу, які стаў яе першым ардынатам і займаў пасаду земскага маршалка Вялікага княства Літоўскага. Свайго росквіту дасягнула пры ўладанні Альберта Радзівіла, які потым быў канцлерам Вялікага княства Літоўскага і пакінуў пасля сябе падрабязныя ўспаміны. У 1638 г. ён заснаваў тут акадэмічную школу і семінарыю. У 1654 г. Алыка атрымала Магдэбургскае права. Пасля смерці Альберта Радзівіла перайшла ў спадчыну да нясвіжскага ардыната князя Міхала Радзівіла.

[75] Нясвіж — старажытны беларускі горад на р. Уша (левы прыток Нёмана), цяпер раённы цэнтр Мінскай вобл. Самыя раннія звесткі аб ім адносяцца да 1223 г. У свой час быў цэнтрам Нясвіжскага княства. З першай чвэрці XIV ст. знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. З 1513 г. належаў Радзівілам, якія зрабілі яго сваёй рэзідэнцыяй. У 1562 г. Мікалай Радзівіл Чорны адкрыў тут пратэстанцкую друкарню, у якой Сымон Будны выдаў «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад богам». У 70-х гадах сын Мікалая Чорнага Мікалай Крыштоф Радзівіл па мянушцы Сіротка перадаў гэту друкарню Віленскай езуіцкай акадэміі. Нясвіж, з'яўляючыся горадам-крэпасцю, меў гарнізон прыватнага магнацкага войска. З 1586 г. карыстаўся Магдэбургскім правам, але гарадскі магістрат усё ж падпарадкоўваўся Радзівілу. У час трынаццацігадовай вайны Нясвіж двойчы, у 1655 і 1659 гг., займалі рускія войскі, а ў 1706 г. ён быў разрабаваны шведамі.

[76] Ваявода — у часы Кіеўскай Русі начальнік княжацкага войска. Пазней — начальнік горада і гарадской акругі. У Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай ваяводам называлі сенатара, кіраўніка або намесніка караля ў ваяводстве — адной з буйнейшых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Быў надзелены функцыямі суддзі на падуладнай яму тэрыторыі.

[77] Звестак пра пана Шахна (Шахно) знайсці не ўдалося.

[78] Зямянамі называлі ўладальнікаў нерухомай маёмасці, якая давала ім права галасаваць на сеймах і адрознівала ад простага люду. Апрача дробнапамесных землеўладальнікаў, да ліку зямян належала больш заможная шляхта — старосты, цівуны, дзяржаўцы, войскія, гараднічыя, ключнікі, мытнікі, зборшчыкі падаткаў, ляснічыя, рэвізоры і войты, якія трымалі староствы.

[79] Маецца на ўвазе Новы Свержань, населены пункт у цяперашнім Стаўбцоўскім р-не Мінскай вобл. Знаходзіцца на левым беразе Нёмана. У XV ст. Свержань быў мястэчкам. Доўгі час тут, на мясцовай прыстані, размяшчаліся гандлёвыя склады. За сваё існаванне Свержань досыць часта падвяргаўся спусташальным на-

бегам татара-мангольскай арды, потым яго нішчылі шведы, а ў 1812 г.— французы.

[80] Род Служкаў вельмі даўні ў Вялікім княстве Літоўскім. Сваё паходжанне веў ад Яна Служкі, які яшчэ пры Ягайле пачаў карыстацца шляхецкім гербам. Адзін з прадстаўнікоў гэтага роду з'яўляўся ротмістрам караля Казіміра Ягелончыка. У часы Сігізмунда І Старога Ян Служка быў кіеўскім, любецкім і лоеўскім старостам. Мікалай Служка, пра якога тут ідзе гаворка, памылкова названы Ф. Еўлашоўскім сынам крычаўскага старосты, на самай справе ён з'яўляўся старостам крычаўскім. Ад шлюбу з дачкой Пятра Кміты, які быў чатырнаццатым маршалкам Вялікага княства Літоўскага і памёр у 1551 г., у Мікалая Служкі засталіся два сыны: Крыштоф і Аляксандр. Першы з іх быў дваранінам каралёў Рудольфа і Сігізмунда III Вазы. З 1609 г. і да самай смерці (1620) ён займаў у Латвіі пасаду вендзенскага ваяводы. Другі сын быў мінскім кашталянам (з 12.XI 1618), потым — жмудскім (з 20.III 1628). Пасля стаў мінскім ваяводам (з 2.III 1633). У 1638 г. пайшоў адсюль на Навагрудскае ваяводства. Памёр трокскім ваяводам у ліпені 1647 г.

[81] «...яхать до Угор» — паехаць у Венгрыю.

[82] У гэтым месцы запісы так выцвілі, што прачытаць іх немагчыма.

[83] Чауш — турэцкі прыдворны, у гэтым выпадку — паўнамоцны пасол турэцкага султана Селіма II да караля Рэчы Паспалітай. Хто канкрэтна выконваў пасольскую місію, высветліць не ўдалося.

[84] Якуб Уханскі (1502—1581) — польскі царкоўны і дзяржаўны дзеяч, вядомы юрыст. Сваю службу пачаў з пасады сакратара каралевы Боны, быў яе даверанай асобай. У 1538 г. стаў кракаўскім канонікам, у 1550 г.— хелмскім біскупам. Але, падазраючы Уханскага ў прыхільнасці да Рэфармацыі, папа рымскі не пагаджаўся зацвердзіць яго біскупам. Сваю непрыхільнасць ён працягваў праяўляць і тады, калі кароль Сігізмунд II Аўгуст у 1557 г. прызначыў Уханскага куяўскім біскупам. Будучы з 1562 г. гнезненскім архібіскупам і прымасам каралеўства, Уханскі сапраўды меў намер заснаваць незалежную ад рымскай курыі польскую царкву і стаць яе патрыярхам. Ватыкан прыклаў усе намаганні, каб сарваць гэтыя планы. Пасля прымірэння з папскім дваром Я. Уханскі зноў стаў руплівым яго служкай. У час Люблінскага сейма 1569 г. быў галоўнай дзеючай асобай у стварэнні Рэчы Паспалітай. Пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста прыняў тытул першага князя Польшчы і кіраўніка дзяржавы, стварыў часовы ўрад, кіраваў выбарамі караля Генрыха Валуа, а пасля яго выезду ў Францыю выступіў ініцыятарам выбрання на трон сына аўстрыйскага імператара Максіміляна II Габсбурга эрцгерцага Эрнеста. Уханскі пакінуў цікавую літаратурную спадчыну, у тым ліку ўспаміны аб Варшаўскім сейме 1572 г.

[85] Валент Дэмбінскі (? — 1585) — каронны канцлер Рэчы Паспалітай. У грамадска-палітычную дзейнасць уключыўся ў часы шляхецкага рокашу (мяцяжу) 1537 г., вядомага ў гісторыі пад назвай «пеўневай вайны». Выступіў тады ж красамоўным абаронцам правоў і прывілеяў польскай шляхты. З 1548 да 1550 г. займаў пасаду кароннага рэферэндара, потым быў бецкім кашталянам і адначасова кракаўскім бургамістрам. У 1562 г. стаў каронным падскарбім, а з 17.IX 1564 да 9.V 1576 займаў пасаду кароннага канцлера. У 1576 г. стаў пераемнікам Ераніма Млоцкага на пасадзе

кракаўскага кашталяна, якую займаў да канца жыцця. У гісторыі польскай культуры за ім замацавалася мянушка «польскі Нестар».

[86] Гаворка ідзе пра цяперашні гарадскі пасёлак Свіслач — раённы цэнтр Гродзенскай вобл., размешчаны ля вытокаў р. Свіслач (левы прыток Нёмана). Калісьці Свіслач была цэнтрам удзельнага княства, якое ў XIV ст. увайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. У 60-я гады XIV ст. тут княжыў Сямён Яўнуцьевіч, унук вялікага князя Гедыміна. З 1510 г. мястэчка належала да ліку каралеўскіх сталовых маёнткаў і ўваходзіла ў склад Ваўкавыскага павета Навагрудскага ваяводства.

[87] Ян Еранім Хадкевіч (? — 4.VIII 1579) — граф на Шклове і Мышы, адзін з актыўных дзеячаў вялікакняжацкай апазіцыі на Люблінскім сейме 1569 г., дзе адстойваў правы Вялікага княства Літоўскага і выступаў супраць умоў, якія навязваліся там польскімі пасламі і сенатарамі. У той час у руках Я. Е. Хадкевіча былі сканцэнтраваны тры пасады: земскага маршалка, жамойцкага старосты і ліфляндскага адміністратара і гетмана. Сваю службовую дзейнасць пачаў з пасады стольніка, якую займаў да 1563 г. У 1559 г. у час ваеннай экспедыцыі ў Інфляндыю быў прызначаны гетманам над пяхотай, а яго напарнік, чачэрскі і прапойскі дзяржаўца, Юрый Зянкевіч — гетманам над конніцай. 20.IV 1574 г. за пазычаныя дзяржаўнаму скарбу 6920 коп літоўскіх грошаў кароль Генрых Валуа зрабіў Хадкевіча пажыццёвым дзяржаўцам Ковенскага староства. Яшчэ пры жыцці караля Сігізмунда II Аўгуста, у канцы 1563 г., Хадкевіч быў прызначаны старостам жамойцкім, а з 11.III 1566 г., пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага, атрымаў яшчэ і пасаду земскага маршалка. У 1564 г. атрымаў трэцюю пасаду — адміністратара Ліфляндыі, а 26.VIII 1566 г. стаў яшчэ і яе гетманам. На апошніх пасадах быў да чэрвеня 1578 г., калі па стану свайго здароўя сам добраахвотна здаў іх каралю, што ў тыя часы было досыць рэдкім выпадкам. З 1574 г. Я. Е. Хадкевіч займаў да канца жыцця яшчэ і пасаду віленскага кашталяна. У маладосці захапляўся кальвінізмам, ад якога адмовіўся на Варшаўскім сейме 1572 г., калі разам са сваімі пляменнікамі перайшоў у каталіцызм. Жанаты быў на сястры сандамірскага ваяводы кн. Пятра Збароўскага, які потым быў кракаўскім ваяводам. Вось чаму ў часы бескаралеўя Хадкевіч, праяўляючы актыўную дзяржаўную дзейнасць, падтрымліваў свайго швагра ва ўсіх яго палітычных акцыях (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 15, 80, 92, 169, 317).

[88] Староста — выбарная або прызначаная каралём асоба са шляхты. Выконваў адміністрацыйныя абавязкі на пэўным зямельным надзеле (абавязкова з замкам), падараваным яму каралём у пажыццёвае карыстанне за дзяржаўную службу. У залежнасці ад велічыні надзелу павінен быў трымаць на свой кошт пэўную колькасць войска, а з 1562 г. у дадатак да гэтага абавязку мусіў яшчэ аддаваць у дзяржаўную казну чвэрць сваіх даходаў.

[89] Хто такі быў Фёдар Юрага і ў чым заключалася яго «зацность» (сумленнасць), высветліць не ўдалося. Магчыма, гэта брат каралеўскага маршалка Бенядыкта Юрагі, які меў маёнтак ў Гродзенскім, Навагрудскім і Мінскім паветах, у 1567 г. быў дворным суддзёй Вялікага княства Літоўскага, а ў 1569 г. ад Навагрудскага ваяводства быў вылучаны ў члены камісіі па выпрацоўцы трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статута. Памёр да 1571 г.

[90] Маецца на ўвазе князь Ян Міхайлавіч Масальскі, які быў каморнікам караля Сігізмунда II Аўгуста і выслужыў у яго маёнтак

Пігайлы ў Жэмайціі. Гэты маёнтак за 400 коп літоўскіх грошаў ён аддаў у заклад Багдану Паўлавічу Сапегу. Свой род вёў з першай лініі гродзенскіх Масальскіх — ад Фёдара Міхайлавіча Масальскага, які быў яго дзедам і атрымаў ад караля Аляксейчыцы на Гродзеншчыне (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy.— Warszawa, 1885, с. 239).

[91] Прага — у той час прадмесце, цяпер частка Варшавы, якая знаходзіцца на правым беразе Віслы. 20.VII 1656 г. шведскі кароль Карл X атрымаў тут рашаючую перамогу над польскім войскам, пасля чаго польскі кароль Ян Казімір Ваза вымушаны быў уцякаць з Варшавы, якой авалодалі шведы.

[92] Кнышын — польскі горад на Беласточчыне. У свой час быў любімым месцам адпачынку караля Сігізмунда II Аўгуста, які часта прыязджаў сюды на паляванні. Дзякуючы яму горад стаў хутка развівацца. Тут Сігізмунд II Аўгуст і памёр 7.VII 1572 г., калі ратаваўся ад мору, што ахапіў Варшаву. У часы пошасці, якая лютавала ў Літве ў 1630 г., у горадзе нейкі час знаходзіўся каралевіч Уладзіслаў Ваза, кароль Рэчы Паспалітай у 1632—1648 гг.

[93] Цікава адзначыць, што ў Рэчы Паспалітай, як і ў іншых краінах Еўропы (Германіі, Італіі, Чэхіі і інш.), адлік часу тады пачынаўся з захаду сонца. Такім чынам, першая з 24 гадзін сутак пачыналася неўзабаве пасля захаду сонца, калі ў касцёлах званілі на вячэрнюю малітву. А паколькі захад сонца ў розныя месяцы года бывае ў розны час, то і першая гадзіна старадаўняга адліку часу ў розныя месяцы прыпадала на розныя гадзіны паводле сённяшняга адліку. Фёдар Еўлашоўскі паведамляе, што кароль Сігізмунд II Аўгуст памёр «в понедялэк липца 7 дня, годины 18 або третей с полудня». 7 ліпеня 1572 г. па юліянскаму календару адпавядае 17 ліпеня сучаснага грыгарыянскага календара. Захад сонца 17 ліпеня бывае ў пачатку дзесятай гадзіны вечара, а дакладней, у 21 гадзіну 02 мінуты. Значыць, 18 гадзін старадаўняга адліку сапраўды адпавядае сённяшнім 15 гадзінам.

[94] Пра якія лісты і якія маёмасці згадвае тут Фёдар Еўлашоўскі, высветліць не ўдалося.

[95] Пасламі нямецкага імператара Максіміляна II Габсбурга ў Рэч Паспалітую, пра якіх тут ідзе гаворка, былі чэхі Розенберг і Перштэйн. Прыехаць на выбарчы сейм 1573 г. яны не паспелі. Потым, пасябраваўшы з палякамі, сталі згадваць, што і самі калісьці карысталіся такімі ж вольнасцямі, якія тады мела польская шляхта, але пануючы дом Габсбургаў адабраў іх у чэхаў, стаў прыгнятаць іх сваімі пабораміі знішчаць іх мову. Па сакрэту паслы імператара перасцерагалі палякаў, каб яны не рабілі стаўкі на сына імператара Эрнеста, раілі ім берагчыся аўстрыйскага ярма. А афіцыйна яны выступалі як прадстаўнікі эрцгерцага Эрнеста і выстаўлялі яго кандыдатуру для выбрання на польскі трон. Натуральна, што пры такіх акалічнасцях французскаму паслу Монліку лёгка было забяспечыць сабе шматлікую і моцную падтрымку ў выбранні каралём Рэчы Паспалітай Генрыха Валуа Анжуйскага, брата французскага караля Карла IX і сына Кацярыны Медзічы (Соловьев С. М. История России с древнейших времен.— М., 1960, т. III, с. 627).

[96] Паведамляючы аб тым, што кіруючыя колы Польшчы пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста «обовялисе, абы се Литва з московским (князем.— А. К.) не порозумели», Еўлашоўскі меў рацыю. Для такой асцярогі ў Польшчы сапраўды былі досыць важкія пад-

ставы. Балючая рана, нанесеная на Люблінскім сейме 1569 г. Вялікаму княству Літоўскаму (гл. камент. 51), не паспела яшчэ зарубцавацца, як неўзабаве, праз тры гады, парвалася апошняя нітка, што звязвала княства з Польшчай. Смерць апошняга прадстаўніка дынастыі Ягелонаў давала кіраўнікам Вялікага княства Літоўскага свабоду дзеяння. Адкрывалася магчымасць не толькі самастойна выбіраць сабе правіцеля дзяржавы, але і змяніць умовы уніі з Польшчай, вярнуць княству аднятыя ад яго на Люблінскім сейме Падляшскія, Валынскія і Кіеўскія землі. Для сенатараў княства Літоўскага ўзнік зручны момант, каб разарваць ланцуг, якім яны былі скаваны з Польшчай насуперак уласнай волі. Такім чынам, бескаралеўе давала ім немалыя шансы, што добра разумелі кіруючыя колы кароннай Польшчы. Аднак, нягледзячы на гэта, яны не хацелі ісці на ўступкі дзяржаўным дзеячам княства, баючыся, што ў выпадку, калі яны будуць задаволены, з аналагічнымі прэтэнзіямі можа выступіць і Прусія. Больш таго, у адказ на просьбу княства дапамагчы яму ў абароне сваіх граніц ад Масквы, палякі заявілі, што ў гэтых адносінах княства павінна клапаціцца само пра сябе. Пры такіх акалічнасцях частка сенатараў Вялікага княства Літоўскага пачала весці неафіцыйныя перагаворы з Іванам Грозным, выказала жаданне бачыць царэвіча Фёдара Іванавіча каралём Рэчы Паспалітай. Гэта, вядома, насцярожвала кіруючыя колы Польшчы. Аднак перагаворы з Грозным, якія ад імя сенатараў княства вяліся па чарзе Варапаем, Гарабурдам і Тараноўскім, не далі станоўчага выніку. Прычынай тут было перш за ўсё тое, што, ідучы на перагаворы ў Маскве, сенатары Вялікага княства Літоўскага разлічвалі хутчэй паўплываць на Польшчу, зрабіць яе больш памяркоўнай і дамагчыся ад яе перагляду ўмоў дзяржаўнай уніі, чым сапраўды пайсці на палітычнае збліжэнне з Масквой. Таму не выпадкова княжацкія паслы паставілі Івану Грознаму такія ўмовы, з якімі той пагадзіцца не мог. Добра ведаючы жорсткія нравы рускага цара, кіруючыя колы княства баяліся згубіць свае свабоды, дараваныя ім ранейшымі каралямі. З другога боку, сам Іван Грозны ў час перагавораў таксама вагаўся: даць згоду на выбранне каралём Рэчы Паспалітай свайго сына ці прапанаваць паслам сваю кандыдатуру? Па-першае, пры ўсёй прывабнасці прапановы, цар хацеў, каб яна была пацверджана ў афіцыйным парадку. Па-другое, яму не падабалася сама сістэма выбарнасці манарха — ён адстойваў прынцып спадчыннасці трона. Нарэшце, Іван Грозны заяўляў, што можа пагадзіцца панаваць толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, а не ў аб'яднанай Рэчы Паспалітай. Аб рашэнні цара Гарабурдзе было паведамлена праз дваран Пасольскага прыказа. Усё гэта ў рэшце рэшт прывяло да спынення неафіцыйных перагавораў з Іванам Грозным, а пытанне аб выбранні яго самога або яго сына Фёдара на трон Рэчы Паспалітай нават не было вынесена на абмеркаванне выбарчага сейма 1573 г. Рускі цар нават не прыслаў на яго свайго пасольства (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 99—108).

[97] Гаворка ідзе пра Мікалая Мялецкага (? — 1585) — падольскага ваяводу і вялікага кароннага гетмана, выхадца з заможнага магнацкага роду. Свае маладыя гады ён правёў пры двары нямецкага імператара і вярнуўся на радзіму вопытным воінам. У 1572 г. разам з М. Сяняўскім сабраў на ўласныя сродкі войска і адправіўся ў Малдавію, каб падтрымаць гаспадара Багдана Аляксандравіча Лапуснеанела, польскага васала, які быў сагнаны з трона турэцкім

стаўленікам Івоням. Нязначнымі сіламі Мялецкі разграміў турак. У 1579 г., будучы ўжо гетманам, камандаваў каронным войскам Рэчы Паспалітай у вайне Стэфана Баторыя з Іванам Грозным, прымаў удзел у захопе Полацка (30.VIII 1579). Пасля гэтага добраахвотна склаў з сябе булаву гетмана, якую кароль перадаў Яну Замойскаму. У 1585 г. разам з апошнім заключыў у Львове мір з туркамі. Неаднаразова ездзіў за мяжу з дыпламатычнымі місіямі. Па веравызнанню належаў да пратэстантаў і толькі незадоўга перад смерцю перайшоў у каталіцызм. У часы бескаралеўя Мялецкі кіраваў партыяй прыхільнікаў аўстрыйскай арыентацыі. Відаць, з іх місіяй ён і прыязджаў у Гродна ў час першага бескаралеўя пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста.

[98] Гаворка ідзе пра Мікалая Язлавецкага, які ў 1565 г. стаў камянецкім кашталянам (Украіна) і з'яўляўся паплечнікам Мікалая Мялецкага ў ваенным паходзе 1572 г. у Малдавію. Пасля смерці бацькі быў прызначаны на яго пасаду вялікага кароннага гетмана. На Падоллі і ў Прыкарпацкай Русі валодаў вялікімі воласцямі. Як военачальнік Мікалай Язлавецкі праславіўся ў бітвах з татарамі. У час бескаралеўя пасля смерці Стэфана Баторыя спачатку падтрымліваў кандыдатуру Сігізмунда III Вазы, а потым перайшоў на бок аўстрыйскай партыі, якая ўзначальвалася князямі Збароўскімі і абвясціла каралём Рэчы Паспалітай эрцгерцага Максіміляна Габсбурга, брата аўстрыйскага імператара Рудольфа II. А калі справа ў Сілезіі дайшла да бітвы пад Бычынам, якую выйграў Ян Замойскі ў карысць Сігізмунда III Вазы, Язлавецкі здрадзіў Габсбургу. Такое ваганне Язлавецкага стала прычынай таго, што Сігізмунд III Ваза, стаўшы каралём, не даў яму сенатарскага крэсла і адабраў у яго булаву польнага кароннага гетмана.

[99] Владычство — епіскапства; тэрытарыяльная адзінка царкоўнага кіравання, падуладная епіскапу.

[100] Пенязі — дробная манета. Па тагачаснай шкале грашовых разлікаў Вялікага княства Літоўскага 10 пенязяў адпавядалі аднаму літоўскаму грошу, а 60 грошаў складалі адну капу. Агульная сума грошай лічылася тады ў княстве толькі на копы, г. зн. па шэсць дзесяткаў.

[101] Звестак пра Андрэя Ждановіча Дароўскага знайсці не ўдалося.

[102] Іона IV Пратасовіч-Астроўскі (? — 1557) — да 1568 г. тураўскі і пінскі епіскап, а потым мітрапаліт.

[103] Пінск — старажытны беларускі горад пры злучэнні рэк Струмень і Піна, цяпер цэнтр раёна Брэсцкай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 1097 г., калі ён уваходзіў у склад Турава-Пінскага княства і належаў вялікаму князю кіеўскаму Святаполку. Пасля 1240 г. Пінск стаў цэнтрам самастойнага ўдзельнага княства і прымаў актыўны ўдзел у справах Галіцкага княства. У 1320 г. Гедымін далучыў горад да Літвы і перадаў яго ва ўладанне свайму сыну Нарымунту. З 1471 да 1519 г. Пінск быў уладаннем нашчадкаў кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча, пасля стаў уласнасцю караля Сігізмунда I Старога, а той у 1519 г. падараваў яго сваёй жонцы Боне Сфорца. З 1569 г. Пінск стаў цэнтрам павета (Семенов П. Географическо-статистический словарь Российской империи.— Спб, 1873, т. IV, с. 116—118).

[104] Тураў — старажытны беларускі горад, цяпер гарадскі пасёлак на правым беразе Прыпяці ў Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 980 г. Засна-

ванне горада прыпісваецца яцвяжскаму князю, які пры хрышчэнні быў названы Давыдам. У канцы X — першай палавіне XI ст. Тураў быў важным палітычным цэнтрам самастойнага княства, якое іграла вялікую ролю ў эканамічных сувязях Старажытнай Русі з Польшчай. У горадзе існавала сваё епіскапства. Тут жыў і працаваў славуты дзеяч старажытнарускай культуры епіскап Кірыла Тураўскі (1130—1182) — адзін з буйнейшых красамоўцаў таго часу. У 1240 г. Тураў быў знішчаны татарамі. У канцы XIII ст. апынуўся пад уладай Літвы, але яшчэ да XV ст. захоўваў сваю дынастыю князёў, потым перайшоў ва ўладанне вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы, а пасля яго смерці — да князёў Астрожскіх. У сярэдзіне XVI ст. стаў уладаннем кароны. У 1501 і 1521 гг. Тураў трапляў пад набег крымскіх татараў. За актыўны ўдзел гараджан у нацыянальна-вызваленчай вайне Багдана Хмяльніцкага ў 1649 г. горад быў спалены князем Янушам Радзівілам, які ў той час займаў пасаду гетмана карнага войска Вялікага княства Літоўскага (Семенов П. Географическо-статистический словарь Российской империи, 1885, т. V, с. 280—281).

[105] Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі (1526—1608) — князь, кіеўскі ваявода, валынскі магнат, якому належала многа гарадоў і тысячы вёсак на Украіне і ў Беларусі. З'яўляўся галоўнай апорай праваслаўя ў барацьбе супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Для падтрымкі праваслаўнага веравызнання ў Рэчы Паспалітай у другой палавіне XVI ст. заснаваў у сваёй астрожскай рэзідэнцыі адну з першых украінскіх школ і дзве друкарні — у Астрозе і Дзермане. За яго кошт на працягу 1580—1581 гг. у астрожскай друкарні Іванам Фёдаравым была выдадзена поўная славянская Біблія Генадзіеўскага зводу, прывезеная з Масквы велікакняжацкім дыпламатам М. Гарабурдам. Пры астрожскай друкарні існаваў прыдворны навуковы гурток, да якога належалі віднейшыя дзеячы тагачаснай культуры. Сам Астрожскі вёў ажыўленую перапіску з князем Андрэем Курбскім, Іпаціем Пацеем і львоўскім праваслаўным стаўрапігіяльным брацтвам, апекаваў Герасіма і Мялеція Сматрыцкіх, Васіля Суражскага, Хрыстафора Філалета і некаторых іншых пісьменнікаў таго часу (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 56).

[106] Кракаў — старажытны польскі горад, размешчаны на левым беразе Віслы. У XIV—XVI стст., з 1319 да 1610 г., тут знаходзілася рэзідэнцыя польскіх каралёў. Нягледзячы на абумоўлены пажарам 1609 г. перанос сталіцы з Малой Польшчы ў Варшаву, Кракаў паранейшаму заставаўся месцам каранацыі польскіх каралёў.

[107] Гаворка ідзе пра польскага караля Генрыха Валуа Анжуйскага (1551—1589) — апошняга нашчадка французскай каралеўскай дынастыі Валуа, аднаго з арганізатараў так званай Варфаламееўскай ночы (24.VIII 1572), у час якой каталікі знішчалі пратэстантаў-гугенотаў. На польскі трон кандыдатура Генрыха Валуа была вылучана пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста на Варшаўскім канвакацыйным (выбарчым) сейме, які працягваўся з 6 да 28 студзеня 1573 г. Само абранне адбылося 11 мая на сейме, што праходзіў у полі каля в. Камень, непадалёку ад Варшавы з 5 красавіка да 20 мая 1573 г. У Кракаў Генрых Валуа прыбыў 18.II 1574 г., у хуткім часе там жа адбылася яго каранацыя. У ноч з 28 на 29 чэрвеня новы кароль тайна выехаў з Кракава ў Парыж, каб заняць там спадчынны французскі трон, які стаў вакантным пасля смерці яго брата Карла IX, які памёр 30.V 1574 г. Такім чынам, каралём

Рэчы Паспалітай Генрых Валуа прабыў чатыры месяцы і дзесяць дзён (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 102—116).

[108] Астрог — старажытны ўкраінскі горад на р. Гарынь (правы прыток Прыпяці), цяпер раённы цэнтр Ровенскай вобл. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1100 г. як удзел князя Данілы Васільевіча, пасынка галіцкага князя Данілы, які першы назваў сябе князем Астрожскім. У 1673 г. у сувязі са смерцю кн. Аляксандра, апошняга нашчадка княжацкага роду Астрожскіх, кароль Рэчы Паспалітай Ян III перадаў Астрог Вішнявецкім. Ад іх горад перайшоў да Сангушак, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) быў далучаны да Расіі (Історія міст і сіл УССР. Ровенська область.— Київ, 1973, с. 431—445).

[109] Альбрэхт Ласкі (1533—1597) — сын польскага дыпламата і ваяводы Ераніма Ласкага (1495—1542), з 1565 г. серадзкі ваявода. Сваю дзяржаўна-палітычную дзейнасць А. Ласкі пачаў з таго, што ў 1551 г. уступіў у змову з Васілём Гераклідам Дэспатам і, узначаліўшы набранае ўласным коштам войска, рушыў у Малдавію. Пераможная бітва А. Ласкага прынесла Дэспату малдаўскі трон, і ён абвясціў Ласкага камандуючым арміяй малдаўскіх зямель. Дэспат таксама вярнуў яму расходы па ваеннай экспедыцыі ў Малдавію і ў знак сваёй удзячнасці падараваў г. Хоцін з навакольнай акругай. У 1568 г. Ласкі ўварваўся ў г. Ачакаў і адбіў там ад татараў вялікую колькасць палонных. Калі Турцыя звергнула Дэспата, кароль Сігізмунд II Аўгуст, які не жадаў псаваць дзяржаўныя адносіны з Турэцкай імперыяй і залежнымі ад яе крымскімі татарамі, параіў Ласкаму вярнуць ім г. Хоцін. Будучы чалавекам надзвычайнай амбіцыі, пасля здачы г. Хоціна Ласкі актыўна ўключыўся ў палітычнае жыццё Рэчы Паспалітай і здабыў сабе шырокую папулярнасць сярод шляхты. Гэту папулярнасць ён імкнуўся выкарыстаць у сваіх мэтах — захапіць Малдавію і стаць яе гаспадаром. Для таго каб мець большы ўплыў на шляхту, Ласкі ўрачыста адмежаваўся ад Рэфармацыі, калі яна пайшла ў Польшчы на спад, і перайшоў у каталіцызм. Ён нават марыў заваяваць каралеўскі трон, а калі з гэтага нічога не атрымалася, скіраваў усю сваю энергію на тое, каб каралём Рэчы Паспалітай выбралі Генрыха Валуа Анжуйскага. У часы панавання Стэфана Баторыя Ласкі, нягледзячы на свае шматлікія палітычныя інтрыгі, істотнай ролі ў дзяржаўна-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай не адыгрываў. Пад канец жыцця стаў служыць каронному канцлеру Яну Замойскаму. Але ўжо нічога значнага не здзейсніў; памёр у забыцці. Пасля сябе пакінуў некалькі цікавых твораў на лацінскай мове, дзе выказаў свае погляды на хвалюючыя пытанні таго часу. Чаму Фёдар Еўлашоўскі звяртаўся да пасрэдніцтва Альбрэхта Ласкага ў сваіх перагаворах з кн. Канстанцінам Астрожскім, будзе не зразумела, калі не звярнуць увагу на адну акалічнасць. Справа ў тым, што Альбрэхт Ласкі быў жанаты на Беаце Касцянецкай-Астрожскай, удаве Ільі Канстанцінавіча Астрожскага (1511—1539), брата Канстанціна, былога брацлаўскага і вінніцкага старосты. Якраз па спадчыне ад першага мужа ёй належаў Астрог, які пасля шлюбу з Ласкім дастаўся апошняму. Як сваяка Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага Еўлашоўскі і выкарыстаў яго ў перагаворах з князем. Сваякі дамовіліся паміж сабой адносна Астрога, а Еўлашоўскі дасягнуў сваёй мэты — атрымаў дазвол князя на ўступленне Міхала Еўлашоўскага на епіскапскую кафедру ў Тураве (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 354—355).

[110] Гаворыцца пра смерць пятнаццацігадовага Яраша Хадкевіча, сына Яна Ераніма Хадкевіча, якога Еўлашоўскі называе не па імю, а па службоваму тытулу — «паном виленским». Тады замест слова «кашталян» прынята было ўжываць слова «пан». Таму ў гістарычных дакументах і літаратурных помніках даволі часта сустракаюцца такія выразы, як «пан виленский», «пан троцкий», «пан подляшский» і інш. Для тагачаснага чытача было зразумела, хто ў такім выпадку маецца на ўвазе.

[111] Андрэй Рыгоравіч Хадкевіч (? — 1575) — сын Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча, віленскага кашталяна і найвышэйшага гетмана Вялікага княства Літоўскага, ад яго шлюбу з дачкой чачэрскага і прапойскага старосты Кацярынай Іванаўнай Вішнявецкай. Сваю дзяржаўную службу пачаў з пасады падстолія Вялікага княства Літоўскага, а 6.V 1574 г. атрымаў каралеўскі прывілей на Магілёўскае староства. Памёр у маладым узросце, будучы нарачоным дачкі віленскага ваяводы Мікалая Юр'евіча Радзівіла па мянушцы Рыжы (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 300).

[112] Падстолі — прыдворны чыноўнік, які належаў да «каралеўскага стала» і з'яўляўся кандыдатам у стольнікі. У Польшчы гэта пасада давалася пераважна радавітаму чалавеку. Упершыню была ўведзена там яшчэ Казімірам Вялікім. У Вялікім княстве Літоўскім яе ўвёў Сігізмунд II Аўгуст каля 1559 г. У часы Рэчы Паспалітай у прыдворнай службе існавалі падстоліі каронныя, літоўскія і надворныя. Функцыі іх не зусім выразныя. І тым не менш месца падстолія было вельмі ганаровым.

[113] Якая з дачок М. Ю. Радзівіла маецца на ўвазе, высветліць не ўдалося.

[114] Пад нябожчыкам панам віленскім Фёдар Еўлашоўскі меў на ўвазе Яна Ераніма Хадкевіча (гл. камент. 87), які памёр 4.VIII 1579 г., будучы віленскім кашталянам. Якраз яму і яго сям'і доўгі час служыў Ф. Еўлашоўскі.

[115] Рыцарствам у тагачаснай Рэчы Паспалітай называліся прадстаўнікі ваеннаслужылай шляхты. Гэта было вайсковае саслоўе, якое мела адметную форму адзення і зброі. Камплектавалася яно як з прадстаўнікоў мясцовай шляхты, так і з ліку наёмных іншаземцаў. Апрача ваеннай службы рыцарства не мела ніякіх абавязкаў перад дзяржавай.

[116] Стэнжыца — польскае мястэчка на правым беразе Віслы каля г. Дэмбліна. У 1442 г. стала называцца горадам, потым была сталіцай цэлай зямлі, што ляжала на правым беразе Віслы. Польскім прымасам, гнезненскім архібіскупам Якубам Уханскім 11 мая 1575 г. тут быў скліканы сейм для выбрання кандыдатуры новага караля замест Генрыха Валуа. У 1606—1607 гг. Стэнжыца была месцам збору рокашан (мяцежнікаў), якія выступалі пад камандай М. Забжыдоўскага і Я. Радзівіла супраць караля Сігізмунда III Вазы.

[117] «Ехалэм за позволенем пана моего» — цяжка сказаць, каго тут Еўлашоўскі меў на ўвазе: можа, Мікалая Радзівіла Сіротку, а можа, Яна Ераніма Хадкевіча, бо служыў ён ім абодвум. Мэту паездкі мемуарыст таксама не раскрыў.

[118] Острув — польская вёска непадалёку ад Любліна, над р. Тысяй. Раней скарбовае мястэчка. Належала сандамірскаму ваяводзе Яну Танчынскаму, які потым абмяняў яго на іншы маёнтак з замкам. Пасля гэтага Острув перайшоў у лік каралеўскіх сталовых уладанняў. У 1548 г. кароль Сігізмунд II Аўгуст прыдаў мястэчку

Магдэбургскае права, у сувязі з чым у ім тады было створана войтаўства. Паводле рэвізіі 1564 г., тут налічвалася 275 дамоў. У 1660 г., у час польска-шведскай вайны, мястэчка было спалена шведамі.

119 Стэфан Вадашынскі (? — 4.VIII 1575) — бацька суседзяў Ф. Еўлашоўскага. Займаў пасаду мастаўнічага, у абавязкі якога ўваходзіла сачыць за станам дарог і збіраць мыта, г. зн. падатак.

120 Брэст (Бярэсце) — старажытны беларускі горад у злучэнні Мухаўца з Заходнім Бугам, цяпер абласны цэнтр. Першыя летапісныя звесткі аб ім адносяцца да 1019 г. У сярэдзіне XIV ст. горад аказаўся пад уладай Вялікага княства Літоўскага. З канца XVII ст. (у адрозненне ад Брэста-Куяўскага, размешчанага ў Мазовіі) пачаў называцца Брэстам-Літоўскім. У свой час тут досыць часта праходзілі дзяржаўныя сеймы і лакальныя сеймікі беларускіх і літоўскіх феадалаў, адбываліся вайсковыя канферэнцыі. У 1596 г. Брэст быў выбраны месцам правядзення царкоўнага сабора, скліканага для аб'яднання праваслаўнай царквы з каталіцкай. Гэта аб'яднанне пасля стала называцца Брэсцкай царкоўнай уніяй. На працягу тыдня тут, па сутнасці, засядалі два саборы: уніяцкі і праваслаўны. На уніяцкім саборы аб'яўлена аб прыняцці царкоўнага саюза з каталікамі і зацверджаны ўмовы пагаднення, узгодненага ў Рыме 23.XII 1595 г. праваслаўнымі епіскапамі Іпаціем Пацеем і Кірылам Тарлецкім з папай Кліменціем VIII. Праваслаўны сабор не прызнаў гэтага пагаднення з папай і пракляў уніяцкі сабор. Царкоўная унія 1596 г. дала моцны штуршок нацыянальна-вызваленчаму руху беларускага і ўкраінскага народаў, скіраванага супраць палітыкі акаталічвання праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны (Семенов П. Географическо-статистический словарь Российской империи, 1863, т. 1, с. 314—315).

121 Палюбічы — вёска на тэрыторыі цяперашняй Польшчы, знаходзіцца непадалёку ад г. Уладавы.

122 «...же не дба[ет] никгды, ежелих где потреба была з душным збавнем» — ніколі не турбуецца аб тым, што ўзнікне неабходнасць у выратаванні душы (перад смерцю).

123 Гаворка ідзе пра Яна Ераніма Хадкевіча (гл. камент. 87).

124 Ліфлянты — Ліфляндыя, або Лівонія, старадаўняя назва сярэдневяковага прыбалтыйскага княства, якое засялялі тады ў асноўным фінскія і літоўскія плямёны. На поўдні яго межы праходзілі па Заходняй Дзвіне, на захадзе даходзілі да Рыжскага заліва, на поўначы — да Эстоніі, і на ўсходзе — да Чудскога возера, якое тады называлася Пейпус. З даўніх часоў Ліфляндыя была цесна звязана са славянамі і ў XII ст. знаходзілася ў леннай залежнасці ад Полацкага княства. У XIII ст. была заваявана Ордэнам мечаносцаў. У час Лівонскай вайны была занята войскам Івана Грознага, але, паводле ўмоў Ям-Запольскага мірнага дагавору 1582 г., частка Ліфляндыі, якую складалі Дзвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі і Дрысенскі паветы, адышла да Рэчы Паспалітай. Галоўным цэнтрам яе быў Дзвінск (зараз Даўгаўпілс). Гэту частку Ліфляндыі ў XVI і XVII стст. у Рэчы Паспалітай называлі Інфляндыяй, Інфляндскім ваяводствам (Семенов П. Географическо-статистический словарь Российской империи, 1867, т. 3, с. 64—74).

125 Гаворка ідзе пра вёску Боркавічы — цяпер цэнтр сельсавета Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Размешчана за 29 км на паўднёвы ўсход ад Верхнядзвінска, на р. Дрысе. Па тагачаснаму адміністрацыйнаму падзелу Боркавічы адносіліся да Ліфляндыі.

[126] Валынь — украінская тэрыторыя, якая атрымала сваю назву ад неіснуючага цяпер г. Валынь. У часы Еўлашоўскага яна ахоплівала значную частку цяперашняга беларускага Палесся і ўсё Украінскае Палессе.

[127] Дадатковых звестак пра маршалка шляхты Мазырскага павета Стэфана Лозку выявіць не ўдалося. Вядома толькі, што ён быў жанаты на Лізавеце (Гальшцы) Гулевічаўне, першым мужам якой быў сын Іпацея Пацея Хрыстафор.

[128] Цяжка сказаць, пра якое Бабіна ідзе тут гаворка, бо пад гэтай назвай вядома некалькі населеных пунктаў: вёска і фальварак над р. Быхаўна, у 18 км ад Любліна; вёска над р. Ломніца, на дарозе Львоў—Перамышль—Рагацін—Бурштын; мястэчка ў колішнім Пшэмысльскім павеце; мястэчка і замак на Падоллі ў цяперашняй Хмяльніцкай вобл. Не выключана, што маецца тут на ўвазе вёска Бабінск цяперашняга Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл.

[129] «...кгды бронено вырване моста» — калі ратавалі мост ад веснавой паводкі.

[130] «...былэм на комисыэи в Менску» — быў у Мінску пасрэднікам у земскім судзе.

[131] Відаць, маецца на ўвазе князь Іван Васільевіч Саламярэцкі (? — 1578), які спачатку быў мсціслаўскім і радомскім старостам, а 16.III 1566 г. стаў кашталянам толькі што створанай тады Мсціслаўскай кашталяніі. І. Саламярэцкі меў зямельныя ўладанні каля Мінска (Саламярэчча, Сёмкаў Гарадок і інш.). У чым заключаўся сэнс яго спрэчкі з гарадскімі ўладамі Мінска, Еўлашоўскі не паведамляе і высветліць нам не ўдалося (Niesiecki K. Herbarz polski.— Lipsk, 1841, t. 8, c. 456; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 114).

[132] Торунь — старажытны польскі горад. Заснаваны ў 1231 г. на правым беразе Віслы, у яе ніжнім цячэнні. Дзякуючы свайму зручнаму геаграфічнаму размяшчэнню досыць хутка развіўся як гандлёвы цэнтр. Ад палавіны XIV да пачатку XVII ст. належаў да Ганзейскага саюза. 19.X 1446 г. у Торуні быў заключаны мірны дагавор паміж Польшчай і Прусіяй, паводле якога Прусія стала залежнай ад Польшчы. У 1576 г. тут адбыўся польскі сейм, а ў 1645 г.— з'езд католікаў і пратэстантаў Рэчы Паспалітай для заключэння рэлігійнага пагаднення. У гістарычнай літаратуры гэты з'езд называецца Торуньскай размовай.

[133] Гаворка ідзе пра Бялу-Падляску — польскі горад на Падляшшы, на р. Кшна (левы прыток Заходняга Буга). У дакументах таго часу гэты павятовы горад называўся Белай. Заснаванне яго прыпісваецца трокскаму ваяводзе Пятру Янавічу Беламу (? — 1498), тагачаснаму спадчынніку Алыкі і Нясвіжа. У XVI ст. горад быў уласнасцю Ільінічаў, ад якіх у 1568 г. яго набыў Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Ён пабудаваў тут замак, заснаваў гімназію, якую назваў акадэміяй (нейкі час яна была філіялам Кракаўскай акадэміі). У 1706 г. шведскі атрад па загаду караля Карла XII спустошыў гэты горад.

[134] Максімілян II Габсбург (1527—12.X 1576) — германскі імператар. Выхаванне атрымаў пры двары свайго дзядзькі, іспанскага караля Карла V, дзе і ажаніўся з яго дачкой Марыяй. З 1549 да 1551 г. з'яўляўся віцэ-каралём Іспаніі, прыхільна ставіўся да пратэстантаў, але, баючыся бацькі, які не падзяляў прыхільнасці сына і пагражаў пазбавіць яго права на імператарскі трон, Максімілян застаўся католікам. У 1562 г. стаў каралём Чэхіі і Венгрыі, а ў 1564 г.— імператарам Свяшчэннай імперыі. Праз год нанёс пара-

жэнне трансільванскаму ваяводзе Запалі, які ўчыніў змову з турэцкім султанам і падбухторваў яго аб'явіць вайну імператару. Падтрыманы значнымі грашовымі субсідыямі пратэстантаў і католікаў, Максімілян у 1566 г. сабраў стотысячнае войска і павёў яго супраць турак. Тым часам султан Сулейман II (1520—1566) быў ужо нябожчыкам, а яго пераемнік Селім II (1524—1574) вывеў турэцкае войска з тэрыторыі Венгрыі і заключыў з імператарам перамір'е на восем год. У 1568 г. Максімілян выступіў заступнікам за Нідэрланды перад каралём Іспаніі і прыклаў усе намаганні, каб пакласці канец рэлігійным спрэчкам. Калі Генрых Валуа пакінуў польскі трон, прапанаваў Рэчы Паспалітай выбраць каралём свайго сына Эрнеста, але палякі аддалі перавагу трансільванскаму ваяводзе Стэфану Баторыю. Выключная верацярпімасць Максіміляна II Габсбурга рэзка вылучала яго з асяроддзя сучасных яму дзеячаў. Важнымі актамі яго рэлігійнай палітыкі былі «Religionas sekuration» («Рэлігійная бяспечнасць», 1571) і «Literae majestatis» («Святасць дагавору», 1575). Максімілян пакінуў пасля сябе 5 сыноў (з іх Рудольф і Мацвей былі імператарамі) і 3 дачок. Адна з іх, Лізавета, была жонкай французскага караля Карла IX Валуа.

[135] Гаворка ідзе пра Торуньскі сейм 1576 г., дзе вырашалася пытанне аб працягу вайны супраць Прусіі — за выхад Польшчы да Балтыйскага мора (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 153—157).

[136] Якую функцыю кожны з названых венграў выконваў пры каралеўскім двары Стэфана Баторыя, высветліць не ўдалося.

[137] Казімір IV Ягелончык (1427—1492) — сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, бацька польскага караля Сігізмунда I Старога. Адзін з прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў. Быў спачатку, у 1440 г., абвешчаны вялікім князем літоўскім, а 25.VI 1447 г. — польскім каралём. Значную частку свайго панавання правёў у войнах з суседзямі Польшчы, за кошт якіх пашыраў яе межы і павялічваў свой палітычны ўплыў на краіны Заходняй Еўропы. У выніку трынаццацігадовай вайны з крыжакамі (1454—1467) Казімір IV далучыў да Польшчы Памор'е, у 1454 г. паставіў у ленную залежнасць Прусію, у 1456 г. адарваў ад Сілезіі Асвенцімскае княства, а ў 1462 г. адняў ад Літвы Раўскую, Гастынскую і Белзскую землі на Падляшшы. У 1471 г. скасаваў Кіеўскае княства іператварыў яго ў ваяводства ў складзе Літвы. У тым жа годзе пасадзіў на чэшскі трон свайго сына Уладзіслава II, які ў 1490 г. стаў яшчэ каралём Венгрыі. Пашырэнне польскіх дзяржаўных граніц на поўначы і ўдзел у змаганні за кароны Чэхіі і Венгрыі адцягнулі ўвагу Казіміра IV Ягелончыка ад паўднёва-ўсходніх і ўсходніх граніц. І гэта выкарысталі туркі, якія пасля заваявання Канстанцінопаля (1453) захапілі ў 1484 г. Кілію і Акерман (цяпер Белгарад-Днястроўскі), адрэзаўшы тым самым Польшчы выхад да Чорнага мора. Панаванне Казіміра IV Ягелончыка было перыядам хуткага эканамічнага развіцця дзяржавы. Ва ўнутрыпалітычнай дзейнасці кароль абапіраўся на шляхту. У 1454 г. ён падараваў шляхце спецыяльны статут, паводле якога яна потым пашырыла сваё заканадаўства і стала галоўнай палітычнай сілай у Польшчы.

[138] Шклоў — старажытны беларускі горад на правым беразе Дняпра, цяпер раённы цэнтр Магілёўскай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 1535 г. У XVI ст. горад з'яўляўся спадчынай магнатаў Хадкевічаў, якія тытулавалі сябе «графамі на Шклове». У 1619 г. трокскі ваявода Аляксандр Хадкевіч пабу-

даваў тут кляштар дамініканцаў, падараваў яму багатую бібліятэку. Ад Хадкевічаў Шклоў перайшоў ва ўладанне Сяняўскіх, а ад іх — да Чартарыйскіх. У 1762 г. горад быў надзелены Магдэбургскім правам.

[139] «А хоть у вере руской трвала» — і хоць прытрымлівалася праваслаўнага веравызнання.

[140] Ярош Еўлашоўскі (1578 — ?) — першы сын мемуарыста. У 1613 г. займаў пасаду суддзі ў навагрудскім земскім судзе.

[141] Звесткі пра Станіслава Петрашэўскага і Яна Грушоўскага знайсці не ўдалося.

[142] Гаворка ідзе пра дом Яна Ераніма Хадкевіча (гл. камент. 87).

[143] Пад назвай Нядзведзічы (Мядзведзічы) тады існавалі дзве вёскі і фальварак над р. Уша ў Навагрудскім павеце і валасны (гмінны) цэнтр у заходняй частцы Слуцкага павета. Якраз гэты валасны цэнтр, які па сучаснаму адміністрацыйнаму дзяленню знаходзіцца ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобл., маецца тут на ўвазе. У гэтых Мядзведзічах раней была каталіцкая парафія Слуцкай дыяцэзіі. У 1645 г. віленскі епіскап пабудаваў тут парафіяльны драўляны касцёл Пятра і Паўла. Мядзведзіцкая гміна ўключала ў сябе дзесяць сельскіх старостваў, якія ахоплівалі 46 вёсак.

[144] Валяр'ян Пратасевіч-Сушкоўскі (1504—1580) — князь, сенатар, актыўны дзяржаўна-палітычны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Сваю дзейнасць пачаў у 1533 г. пробашчам (г. зн. парафіяльным ксяндзом) у Крожах, потым, з 1545 г., быў канонікам жмудскім і прыватным канцлерам каралевы Боны Сфорца. У 1547 г. стаў віленскім канонікам, у 1554 г. — луцкім біскупам, а з 1566 г.— віленскім біскупам. В. Пратасевіч узначальваў каталіцкую рэакцыю ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1569 г. разам з віленскім войтам Аўгусцінам Ратундусам ён запрасіў сюды езуітаў. Звяртаўся да караля Стэфана Баторыя з заклікам забараніць у Вільні пабудову кальвінісцкіх збораў і школ. На Люблінскім сейме 1569 г. па прапанове караля Сігізмунда II Аўгуста быў выбраны ў склад каралеўскай камісіі па выпраўленню другой рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г. Паходзіў, відаць, з пінскіх князёў (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 44, 100, 106).

[145] Відаць, маецца на ўвазе Рыгор Макаровіч, мінскі земскі суддзя, які ў лістападзе 1587 г. уваходзіў у склад пасольства ад Вялікага княства Літоўскага ў Кракаў — да караля Сігізмунда III Вазы. У дзяржаўных актах Вялікага княства Літоўскага гэты Макаровіч упамінаецца ў 1590 і 1613 гг.

[146] Гданск (Данцыг) — старажытны партовы горад, цяпер цэнтр ваяводства ў Польшчы. Размешчаны на левым беразе так званай Мёртвай Віслы, за 7 км ад Гданскага заліва на Балтыцы. У гістарычных крыніцах упершыню ўпамінаецца ў канцы X ст. У XII ст. быў у складзе Польскага княства. Як стратэгічны пункт і гандлёвы цэнтр неаднаразова падвяргаўся нападзенню Брандэнбурга і Тэўтонскага ордэна крыжакоў. У 1303 г. разам з усім польскім Памор'ем стаў здабычай тэўтонцаў. З 1358 г. Гданск уваходзіў у Ганзейскі саюз. У 1410 г., хутка пасля славутай Грунвальдскай бітвы, гараджане паднялі паўстанне і заявілі аб сваім далучэнні да Польшчы, але рыцарам удалося падавіць паўстанне і ўтрымаць горад за сабой. У 1456 г. гараджане паўсталі зноў. На гэты раз, паводле ўмоў Торуньскага міру (1466), горад быў канчаткова далучаны да

Польшчы. У канцы XV ст. стаў важным портам на Балтыцы. Адстойваючы правы вольнага горада, гараджане часта ўступалі ў канфлікт з польскімі каралямі, у выніку чаго ў 1576—1577 гг. тут мелі месца ваенныя дзеянні Стэфана Баторыя, пра якія згадвае Еўлашоўскі. Пасля працяглай і ўпартай бітвы, якая каштавала вялікіх ахвяр абодвум бакам, Баторый асадзіў Гданск і ў канцы 1577 г. прымусіў гараджан прысягнуць Польскаму каралеўству. Знішчальныя дынастычныя войны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, развязаныя Сігізмундам III Вазай і прадоўжаныя яго сынамі Уладзіславам IV і Янам Казімірам, былі прычынай спаду гандлёвай актыўнасці Гданска ў XVII ст. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. адышоў да Прусіі.

147 Сервеч — вёска над аднайменнай рэчкай у цяперашнім Карэліцкім р-не Гродзенскай вобл. У канцы XVI і першай палавіне XVII ст. была ўладаннем Маскевічаў, двое з якіх, Самуіл і яго сын Багуслаў Казімір, пакінулі пасля сябе цікавыя ўспаміны. Мемуары Самуіла Маскевіча ахопліваюць час ад 1594 да 1621 г. і падрабязна расказваюць пра польскую інтэрвенцыю перыяду рускай смуты. Успаміны ж Багуслава Казіміра прысвечаны часам нацыянальна-вызваленчай вайны Багдана Хмяльніцкага і ваенным дзеянням рускага ваяводы І. А. Хаванскага на тэрыторыі Беларусі ў 1660 г. У XVII ст. Сервеч была цэнтрам гміны (воласці) Навагрудскага ваяводства.

148 Гаворка ідзе пра валынскага магната Яфіма Карэцкага (? — 1612) — сына луцкага, брацлаўскага і вінніцкага старосты кн. Богуша Карэцкага. Рана застаўшыся без бацькі, ён быў пад апекай Яна Хадкевіча, які выхаваў яго ў ваяўнічым духу і потым выдаў за яго замуж сваю дачку Ганну. Ад гэтага шлюбу ў Карэцкага былі два сыны, Самуіл і Кароль, і пяць дачок. Будучы валынскім кашталянам, Яфім Карэцкі ўласным коштам выставіў вялікае войска для паходу на Маскву ў час рускай смуты, а таксама на вайну супраць крымскіх татараў і на падаўленне рокашу М. Забжыдоўскага і Януша Радзівіла. У 1596 г. далучыўся да царкоўнай уніі і прымушаў да яе падуладных сялян. Пасля уніі разам са сваёй чэляддзю займаў землі Кіева-Пячэрскага манастыра, рабаваў манастырскіх сялян, а ў 1598 г. захапіў мястэчка Хотаў і зруйнаваў там манастырскі двор. У сувязі з гэтым у 1596—1602 гг. паміж ім і Кіева-Пячэрскім манастыром цягнулася судовая справа, якая дзякуючы стаdon стараннем архімандрыта Нікіфара Тура і кн. Канстанціна Астрожскага была вырашана каралём у карысць манастыра (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 175).

149 Лукаш Баляслававіч Свірскі (1554—1597) — князь, маёнткі якога знаходзіліся ў Ашмянскім і Навагрудскім паветах і ў Жэмайціі. У сярэдзіне XVI ст. быў пісарам віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага. У 1565 г. кароль Сігізмунд II Аўгуст прызначыў яго надворным маршалкам, пазней зрабіў маршалкам шляхты Браслаўскага павета. На Люблінскім сейме 1569 г. быў уведзены ў склад каралеўскай камісіі на выпраўленню другой рэдакцыі Літоўскага Статута 1566 г. У 1584 г. быў прызначаны асэсарам каралеўскага надворнага суда, дзе разглядаліся справы земскіх судоў (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 195, 317, 318, 320, 321, 393, 486, 514; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 515—516).

150 Па сведчанню польскага храніста М. Бельскага, Іван Падкова (?—1578) — запарожскі казак з малдаван. Жывучы сярод казакоў, выдаваў сябе за брата малдаўскага гаспадара Івоні, жорстка

замардаванага туркамі ў 1574 г. Малдаване, не задаволеныя сваім новым гаспадаром, турэцкім стаўленікам Пятром Мірчычам па мянушцы Храмы, паслалі пасольства да Падковы і запрасілі яго заняць гаспадарскі трон. Абапіраючыся на дапамогу запарожскіх казакоў пад камандай гетмана Шаха, Іван Падкова пачаў барацьбу супраць Пятра Мірчыча, згуртаваў вакол сябе малдаўскіх сялян. Аб'яднанымі сіламі ён разбіў войска Мірчыча, вызваліў Ясы і ў лістападзе 1577 г. быў абвешчан малдаўскім гаспадаром. Але пратрымаўся на троне толькі два месяцы. Супраць Падковы стварылася моцная кааліцыя турэцкага султана Амурата III (1574—1595) і трансільванскага ваяводы Хрыстафора Баторыя, які дзейнічаў па падказцы свайго брата, польскага караля Стэфана Баторыя. У 1578 г. вялікае турэцкае войска пачало наступленне на Малдавію. Каб стрымаць яго і заручыцца дапамогай запарожскіх казакоў, Падкова вымушаны быў адступіць на Украіну. Але да Запарожскай Сечы ён не дайшоў, бо брацлаўскі ваявода Ян Збаражскі параіў яму адмовіцца ад сваіх намераў і накіравацца ў Варшаву, каб там памірыцца з каралём. Кароль жа, не жадаючы абвастраць сваіх адносін з турэцкім султанам Амуратам III, загадаў арыштаваць Падкову і пасадзіць пад варту ў Львове да асобага распараджэння. Па невядома чыйму загаду ў чэрвені 1578 г. Падкова быў пакараны смерцю. Імя гэтага кіраўніка вызваленчай барацьбы малдаўскага і ўкраінскага народаў супраць турэцка-татарскіх захопнікаў праслаўлена ва ўкраінскім і малдаўскім фальклоры. Т. Р. Шаўчэнка прысвяціў яму паэму, а румынскі пісьменнік М. Садавяну — гістарычную аповесць.

[151] Гайдукі — узброеныя вартавыя і пасыльныя магнатаў. У Рэчы Паспалітай гайдукамі называлі таксама наёмных салдат з венгерскай пяхоты, а ў Венгрыі — беглых сялян, якія ўцякалі ад прыгнёту турэцкіх улад і вялі з імі непрымірымую вайну.

[152] «...и пута нань вложоно над надее его»— і аковы на яго ўздзелі, пазбаўляючы надзеі.

[153] Георг Фрыдрых з Аншпах (1539—26.IV 1603) — брандэнбургскі маркграф, сын Георга Набожнага, пляменнік (па бацьку) Альбрэхта Гогенцолерна, вярхоўнага кіраўніка Усходняй Прусіі. Даводзіўся досыць блізкім сваяком польскай каралеўскай дынастыі Ягелонаў. На трон Заходняй Прусіі, цэнтрам якой быў Брандэнбург, Георг Фрыдрых з Аншпах уступіў у 1566 г. Як і яго дзядзька Альбрэхт I Гогенцолерн (1510—20.III 1568), ён з'яўляўся гарачым прыхільнікам Рэфармацыі, а таму аказваў моцнае супрацьдзеянне каталіцкай рэакцыі і езуітам. У 1577 г. польскі кароль Стэфан Баторый, будучы сюзерэнам Прускага герцагства, прызначыў Георга Фрыдрыха з Аншпах рэгентам пры псіхічна хворым кіраўніку Прусіі Альбрэхце Фрыдрыху (1553—1618), які быў пасаджан на трон герцагства пасля смерці свайго бацькі і даводзіўся стрыечным братам Георгу Фрыдрыху з Аншпах. Нягледзячы на супрацьдзеянне пануючых саслоўяў герцагскай Прусіі, рэгент навёў парадак у ёй па ўзору свайго брандэнбургскага маркграфства. Са смерцю ў 1603 г. гэтага бяздзетнага рэгента ў Прусіі пагасла старшая лінія Гогенцолернаў, а права на Прускае герцагства канчаткова перайшло да брандэнбургскіх курфюрстаў малодшай генерацыі.

Пышны прыём, наладжаны Стэфанам Баторыем і яго жонкай Ганнай Ягелонкай у час Варшаўскага сейма 1578 г. у гонар Георга Фрыдрыха з Аншпах, быў абумоўлены не столькі правіламі прыдворнага этыкету, колькі досыць блізкім сваяцтвам паміж сюзерэнам і яго леннікам.

[154] Маркграбямі (маркграфамі) у сярэдневяковай Германіі называлі валадароў пагранічных абласцей або акруг з ваенным кіраўніцтвам, якія называліся маркамі. Пазней слова «маркграф» стала ганаровым тытулам некаторых нямецкіх князёў.

[155] Ян Замойскі (8.IV 1542—1605) — сын хэлмскага кашталяна кальвініста Станіслава Замойскага, вядомы польскі дзяржаўны дзеяч. На працягу некалькіх год (пачынаючы з 1560 г.) вучыўся ў замежных універсітэтах (Парыж, Страсбург і Падуя). У Італіі вывучаў латынь і юрыспрудэнцыю. Вынікам гэтай вучобы была яго кніга «De senatu Romano» (1563). Пасля вяртання з-за мяжы, дзе ён прыняў каталіцкае веравызнанне, стаў сакратаром каралеўскай канцылярыі і прывёў у належны парадак дзяржаўны архіў. У час першага бескаралеўя (1572) Замойскі актыўна дзейнічаў на шляхецкіх сейміках і з'ездах. Пасля выбрання Генрыха Валуа быў сярод польскіх паслоў у Парыж, адкуль суправаджаў караля ў Кракаў. Да таго часу Ян Замойскі займаў пасаду бэлзскага старосты. Панаванне ж Генрыха Валуа прынесла яму багатае Кнышынскае староства. У час другога бескаралеўя (1574) спачатку ўзначальваў партыю «пястаўцаў», якая жадала выбраць на трон паляка, а затым перайшоў на бок прыхільнікаў Стэфана Баторыя, для якога стаў правай рукой у барацьбе супраць магнатаў. Новы кароль зрабіў яго спачатку падканцлерам (1576), потым канцлерам (1578), а ў 1581 г. каронным гетманам. Пры Баторыі Ян Замойскі быў ініцыятарам усіх праектаў дзяржаўных рэформ у Польшчы, карыстаўся вялікай павагай сярод шляхты. Да таго ж у 1583 г. ён яшчэ парадніўся з каралём сваім шлюбам з яго пляменніцай Грызельдай. Прымаў удзел ва ўсіх ваенных паходах караля. Пасля смерці Баторыя становішча Замойскага ўскладнялася варожасцю да яго з боку князёў Збароўскіх. Але, нягледзячы на гэта, яму ўдалося дабіцца выбрання на трон Сігізмунда III Вазы і ў 1588 г. у бітве пад Бычынай не толькі разбіць войска Збароўскіх, але і паланіць іх стаўленіка на каралеўскі трон аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна, брата імператара Рудольфа II Габсбурга. Аднак Сігізмунд III не апраўдаў надзей Замойскага. Не падзяляючы знешняй палітыкі караля, якую той праводзіў пад уплывам Аўстрыі, Замойскі пранікся да яго антыпатыяй. Кароль жа ў сваю чаргу перашкаджаў Замойскаму ў ажыццяўленні яго планаў, з прычыны чаго зменшыўся яго ўплыў на дзяржаўнае жыццё Рэчы Паспалітай. На ваеннай арэне Замойскаму ўдалося аказаць рад паслуг Рэчы Паспалітай. Так, сваімі паходамі ў Малдавію (1595, 1600) ён умацаваў польскі ўплыў на Малдавію. У 1601 і 1602 гг. дасягнуў бліскучых поспехаў у барацьбе супраць паўстаўшых ваяводаў. Нямала намаганняў прыклаў для развіцця навукі. Дапамагаў Стэфану Баторыю ў запрашэнні ў Польшчу вядомых еўрапейскіх вучоных і пісьменнікаў. З многімі з іх сам знаходзіўся ў дружбе, з'яўляўся іх апекуном. На месцы свайго радавога маёнтка Скокаўка Ян Замойскі заснаваў г. Замосце і па ўзору італьянскіх універсітэтаў у 1594 г. адкрыў у ім акадэмію. Другі раз Ян Замойскі быў жанаты з Кацярынай Радзівіл і такім чынам парадніўся з Радзівіламі пратэстанцкага веравызнання, але жонку ўсё ж схіліў да каталіцызму.

[156] Канцлер — вышэйшы дзяржаўны саноўнік у тагачасных Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Валодаў дзяржаўнай пячаткай, вёў нагляд за ўстанаўленнем і захаваннем законаў, вядзеннем судовых спраў. Ён жа звычайна кіраваў зносінамі з іншаземнымі краінамі. Праз яго рукі праходзілі ўсе дакументы за подпісам кара-

ля, якія ён павінен быў завяраць, а потым сачыць, каб яны абавязкова былі занесены ў кнігі дзяржаўнай канцылярыі. Для выканання гэтай работы канцлеру прызначаўся каралеўскі пісар (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 645—651; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 159).

[157] Святкі (зялёныя святкі) — каталіцкае свята, якое прыходзіцца на сёмую нядзелю пасля вялікадня. У праваслаўных — гэта сёмуха, тройцын дзень. Як і вялікдзень, святкі пастаяннай даты не маюць. Звычайна адзначаюцца ў канцы мая або ў пачатку чэрвеня ў залежнасці ад таго, калі бывае вялікдзень.

[158] Гаворка ідзе пра Андрэя Іванавіча Абрынскага (гл. камент. 64).

[159] Аляксандр Рыгоравіч Хадкевіч (?—VIII 1578) — другі сын вялікага літоўскага гетмана Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча ад яго шлюбу з Кацярынай Іванаўнай Вішнявецкай. Каля 1570 г., яшчэ пры жыцці бацькі, атрымаў у спадчыну ад яго Гродзенскае староства, а пасля смерці брата Андрэя ў дадатак стаў яшчэ і магілёўскім дзяржаўцам. У чэрвені 1576 г. быў сярод літоўскіх паслоў, якія ў Варшаве прымалі ад караля Стэфана Баторыя прысягу Вялікага княства Літоўскага. У час першага бескаралеўя (1572) пазычыў дзяржаўнай казне 8000 коп літоўскіх грошаў. Пры Баторыі прымаў удзел у ваенных дзеяннях на тэрыторыі Інфляндыі, дзе пэўны час камандаваў наёмнымі жаўнерамі, а потым па хваробе мусіў перадаць камандаванне кн. Крыштофу Радзівілу Перуну. Памёр А. Р. Хадкевіч у маладым узросце, бяздзетны (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 138, 143, 145, 285, 366, 367, 633—635, 724).

[160] Гаворка ідзе пра замак Супрасль, пабудаваны яшчэ ў XVI ст. навагрудскім ваяводам А. І. Хадкевічам за 15 км ад Беластока, на р. Супрасль. Непадалёку ад замка той жа магнат заснаваў праваслаўны Благавешчанскі манастыр. Але манахі не маглі вынесці шумных баляў, што адбываліся ў замку, і таму ў 1500 г. перанеслі манастыр на некалькі кіламетраў ніжэй па цячэнню ракі. У 1627 г. ён перайшоў у рукі уніятаў, а ў 1722 г. уніяцкі мітрапаліт Леў Кішка заснаваў тут друкарню, у якой выдаваліся царкоўныя і свецкія кнігі. Як мястэчка, заселенае выхадцамі з Прусіі, Супрасль пачаў адлік сваёй гісторыі толькі з 1824 г. (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 475, 591, 718).

[161] Гл. камент. 42.

[162] Цяжка сказаць, каго меў на ўвазе Еўлашоўскі пад «его милостью», бо названы вышэй Аляксандр Рыгоравіч Хадкевіч тады ўжо не жыў.

[163] Гродна (Городень, Городня) — старажытны беларускі горад на Нёмане, цяпер абласны цэнтр. Па летапісных крыніцах вядомы з 1128 г., калі быў цэнтрам удзельнага княства Усевалада Давыдавіча, якое ў першай палавіне XIII ст. аказалася ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Горад неаднаразова разбураўся крыжакамі. З 1376 г. тут княжыў Вітаўт. У яго часы Гродна дзякуючы свайму гандлёваму і палітычнаму значэнню фактычна з'яўлялася другой сталіцай Вялікага княства Літоўскага. У 1391 г. горад атрымаў Магдэбургскае права, а з 1579 да 1586 г. тут знаходзілася каралеўская рэзідэнцыя Стэфана Баторыя. У 1591 г. у Гродне была заснавана брацкая школа. У XVI—XVII стст. — цэнтр рамесніцтва. На Гродзенскім сейме 1793 г. быў зацверджан другі падзел Рэчы Паспалітай. У 1795 г. горад увайшоў у склад Расіі.

[164] Кесь (потым Вендэн, Цэсіс) — так першапачаткова, у рускіх

летапісах, называўся латышскі горад, цяпер раённы цэнтр Латвійскай ССР. Размешчаны на р. Гаўя, за 90 км на паўднёвы ўсход ад Рыгі. Як горад Кесь быў заснаваны, відаць, венедамі, якіх потым выцеснілі мечаносцы. У 1201 г. апошнія захапілі Кесь, назвалі яго Вендэн і зрабілі рэзідэнцыяй свайго гермейстара. Горад уваходзіў у Ганзейскі саюз, вёў гандаль з Ноўгарадам і Псковам. У 1547 г. вендэнскі замак штурмавала войска Івана Грознага. Абаронцы, не жадаючы здацца, узарвалі сябе разам з замкам. У 1582 г. горад трапіў пад уладу Рэчы Паспалітай, а ў 1588 г. вендэнскі ландтаг (парламент) прысягнуў на вернасць каралю Сігізмунду III Вазе. У 1629 г. аказаўся пад уладай Швецыі. У 1703 г. быў заняты войскам Пятра І. З 1785 г. стаў павятовым горадам.

165 Гаворка ідзе пра слуцкага князя Юрыя II Юр'евіча (?—9.XI 1578), які належаў да роду Алелькавічаў. Да Люблінскай уніі 1569 г. быў сенатарам Вялікага княства Літоўскага. Аднак пасля прыняцця уніі не трапіў у лік сенатараў агульнадзяржаўнага сейма Рэчы Паспалітай. Гэта акалічнасць потым служыла прычынай частых спрэчак на канвакацыйных сеймах у часы бескаралеўяў 1572, 1573 і 1576 гг. Па жонцы Кацярыне Юрый II Юр'евіч даводзіўся зяцем кракаўскаму ваяводзе Станіславу Танчынскаму. У 1576 г. атрымаў прывілей на Бабруйскае староства. Як і яго продкі, быў храбрым воінам. На вайну ў Інфляндыі разам са сваім братам Сямёнам у 1556 г. узброіў уласным коштам 4000 рыцараў, а ў 1564 г. сам камандаваў значным войскам. Юрый II Юр'евіч знаходзіўся ў сваяцтве з магнатамі Хадкевічамі і Радзівіламі. Так, яго сястра князёўна Соф'я (?—1571) выйшла замуж за трокскага кашталяна Юрыя Аляксандравіча Хадкевіча. Унучка, князёўна Соф'я Юр'еўна, стала жонкай біржанскага князя Януша Радзівіла. Яе шлюб потым стаў прадметам вострых спрэчак паміж Радзівіламі і Хадкевічамі — гэтыя спрэчкі ледзь не выліліся ў грамадзянскую вайну. Жонка Юрыя, стаўшы ўдавою, 16.X 1579 г. выйшла замуж за трокскага кашталяна Крыштофа Радзівіла Перуна.

166 Пра гэта свята гл. камент. 38.

167 Сіневіцы — дакладна такога населенага пункта ў гістарычна-геаграфічных даведніках знайсці не ўдалося. Магчыма, маецца на ўвазе адна з трох вёсак Сінявічы, якія цяпер знаходзяцца ў Гродзенскай вобл. (у Гродзенскім, Дзятлаўскім і Мастоўскім р-нах).

168 Іван Бак — шляхціц з Навагрудскага ваяводства, зяць князя Івана Васільевіча Крошынскага і Алены Скумінай. У паведамленнях невядомага «літвіна» аб паражэнні маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай (26 студзеня 1564 г.) называюцца роты Баркулаба Корсака і Бака. Відаць, меўся на ўвазе той самы Іван Бак, які даводзіўся сваяком Баркулабу Корсаку, бо жонка апошняга была сястрой цесця Івана Бака і тым самым роднай цёткай яго жонцы, Аляксандры Іванаўне Крошынскай.

169 Па сучаснаму адміністрацыйнаму дзяленню Асташын знаходзіцца на тэрыторыі Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл., на беразе р. Сервеч. Калісьці быў уласнасцю Бакаў, потым Швыйкоўскіх. Ян Швыйкоўскі пабудаваў тут цагляны кальвініцкі храм.

170 Аляксандра Іванаўна Крошынская (?—3.V 1579) — жонка Івана Бака, па маці паходзіла з роду Скуміных-Тышкевічаў (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, с. 190).

171 Звестак пра Туганоўскага і Падароўскага знайсці не ўдалося.

172 Гаворка, відаць, ідзе пра збор сродкаў на пабудову ці рамонт пратэстанцкага храма ў Навагрудку.

[173] Відаць, маецца на ўвазе Альбрэхт Бруханскі.

[174] Дабрамышль — вёска на правым беразе Шчары, цяпер цэнтр сельсавета ў Івацэвіцкім р-не Брэсцкай вобл.

[175] Цяжка сказаць, пра якую канкрэтна Дзераўную гаворыцца ў Еўлашоўскага, бо пад гэтай назвай у былым Навагрудскім ваяводстве існавалі тры вёскі. Па цяперашняму адміністрацыйнаму падзелу яны адносяцца да розных раёнаў: цэнтр сельсавета ў Слонімскім р-не Гродзенскай вобл., вёска ў Баранавіцкім р-не Брэсцкай вобл. і вёска ў Стаўбцоўскім р-не Мінскай вобл. Мемуарыст, на жаль, не ўказаў, які ў гэтай вёсцы быў млын — вадзяны ці ветраны. Калі вадзяны, то гаворка магла ісці пра Дзераўную Слонімскага р-на.

[176] Валока — зямельная мера, налічвала ад 30 да 40 моргаў. Валока ў 30 моргаў раўнялася 20 дзесяцінам і адпавядае 21,36 га.

[177] «А сумы прибавил за выкупно»— а грашовыя даходы павялічыў за выкуп.

[178] Відаць, Еўлашоўскі памыліўся і замест 140 сот назваў 14 сот коп. Калі гэта так, то разлікі выглядалі б наступным чынам: 14 000 коп літоўскіх грошаў раўняліся 29 200 польскім злотым. А гэта значыць, што Іван Бак атрымаў чысты даход у суме 14 200 злотых — амаль удвая больш у параўнанні з тым, колькі каштавалі тыя 5 валок зямлі з рудніком і млыном, якія перайшлі яму ад Аляксандра Хадкевіча.

[179] Полацк — старажытны беларускі горад на Заходняй Дзвіне. Упамінаецца яшчэ ў скандынаўскіх сагах як калонія Вялікага Ноўгарада. У рускіх летапісах першыя звесткі аб ім адносяцца да 862 г. Потым тут княжыў Рагвалод, якога каля 980 г. забіў вялікі князь кіеўскі Уладзімір. У другой палавіне XIII ст. Полацкае княства апынулася пад уладай Літвы. У канцы XIV ст. Вітаўт ліквідаваў у Полацку княжацкі трон і ператварыў горад у цэнтр ваяводства. У час Лівонскай вайны, 31 студзеня 1563 г., Іван Грозны аблажыў горад, які пасля моцнага штурму вымушаны быў здацца яму разам з ваяводам Давойнам і мясцовым епіскапам. Для ўмацавання горада і яго абароны цар пакінуў тут трох ваяводаў — князёў Пятра Іванавіча Шуйскага і братоў Васіля і Пятра Сямёнавічаў Сярэбраных-Абаленскіх. Пад уладай цара Полацк знаходзіўся да 30 жніўня 1579 г., калі яго захапіў Стэфан Баторый. У 1580 г. тут была заснавана езуіцкая калегія.

[180] Гл. камент. 40.

[181] Андрэй Трызна — навагрудскі гарадскі суддзя. 15.XII 1576 г. быў прызначаны трокскім ключнікам. На Варшаўскім сейме 1580 г. з'яўляўся разам з Фёдарам Еўлашоўскім членам камісіі па выпрацоўцы статута трыбунала Вялікага княства Літоўскага (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 188, 350).

[182] Маецца на ўвазе статут трыбунала. Трыбунал — вышэйшы дзяржаўны суд Вялікага княства Літоўскага, куды выбіраліся па два прадстаўнікі ад кожнага павета тэрмінам на два гады. Пасяджэнні праводзіліся зімой. Адкрыццё іх прыўрочвалася да каталіцкага свята грамніцы (2 лютага). Першае пасяджэнне трыбунала Вялікага княства Літоўскага адкрылася 2.II 1582 г. Яго сесіі, ці, як іх тады называлі, «рочкі», праводзіліся ў чатырох месцах, дзе разглядаліся судовыя справы толькі пэўных ваяводстваў і паветаў. Так, у Вільні разбіраліся судовыя справы Полацкага і пяці паветаў Віленскага ваяводстваў, Троках — астатніх чатырох паветаў Віленскага ваяводства, Навагрудку — трох паветаў Навагрудскага і двух

паветаў Брэсцкага ваяводстваў, у Мінску — Мсціслаўскага, двух паветаў Віцебскага і трох паветаў Мінскага ваяводстваў.

[183] Пасля зацвярджэння каралём Стэфанам Баторыем статут літоўскага трыбунала 1 сакавіка 1581 г. быў перададзены ў Вялікае княства Літоўскае для яго ажыццяўлення.

[184] «Унивэрсал Поборовый» — дзяржаўны цыркуляр аб прызыве ў войска ў выпадку вайны і аб падатках, звязаных з наборам войска.

[185] Гаворка ідзе пра Хрысціну Збароўскую, удаву Яна Ераніма Хадкевіча, якая была дачкой кракаўскага кашталяна Марціна Збароўскага.

[186] Лукаш Дзялынскі (?—1583) — каронны падчашы, кавальскі і бродніцкі староста, сын Рафаіла Дзялынскага, з 1565 г. брэсцка-куяўскага кашталяна. Прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх войнах Стэфана Баторыя. У час Лівонскай вайны, у 1580 г., Ян Замойскі перадаў яму як свайму швагру камандаванне авангардам стражы, з якой Л. Дзялынскі стаяў пад Суражам, Веліжам, Вялікімі Лукамі і ў іншых месцах. Памёр у маладым узросце. Пасля сябе пакінуў цікавы «Дыярыуш» пра аблогу і штурм Вялікіх Лукаў і іншых гарадоў; у ім апісаны падзеі за час ад 1 жніўня да 25 лістапада 1580 г. (Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582).— Спб, 1889).

[187] Крыштоф Радзівіл па мянушцы Пярун (1547—20.XI 1603) — сын Мікалая Юр'евіча Радзівіла Рыжага, кальвініст. Сваю службу пачаў у 1566 г. з пасады крайчага пры двары Сігізмунда II Аўгуста. У 1569 г. стаў падчашым і адначасова выконваў абавязкі польнага гетмана. Прымаў актыўны ўдзел у Лівонскай вайне пад кіраўніцтвам свайго бацькі, які ў той час быў вялікім гетманам. 16.X 1579 г. Крыштоф Радзівіл стаў падканцлерам Вялікага княства Літоўскага і трокскім кашталянам. У 1584 г. адмовіўся заняць вакантную пасля смерці бацькі пасаду канцлера і 15 лістапада стаў віленскім ваяводам. З 18.IV 1589 г. вялікі літоўскі гетман. У саюзе з князем Канстанцінам Астрожскім выступаў супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. У 1601 г. разам з Янам Каролем Хадкевічам заваяваў бліскучую перамогу над шведамі пад Кокенгаузам. Якраз тады за энергічныя ўдары па праціўніку атрымаў мянушку Пярун. Усім сваім аўтарытэтам падтрымліваў літоўскіх кальвіністаў і пасля смерці Стэфана Баторыя гарантаваў ім свабоду веравызнання. У час бескаралеўя спачатку выступаў за выбранне каралём аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна, а потым схіліўся да кандыдатуры Сігізмунда III Вазы (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 32, 135, 142, 670—672, 692—693 і інш.; Kotłubaj E. Galerja nieswiżska.— Wilno, 1857, c. 83—92).

[188] Гетман вялікі — найвышэйшае званне, якое прысвойвалася начальніку вайсковых сіл у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Апошняе мела свайго ўласнага вялікага гетмана нават пасля аб'яднання з Польшчай у Рэч Паспалітую. Яму падпарадкоўвалася не толькі земскае, але і польнае войска, што ахоўвала граніцы (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 665—667; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 147—148).

[189] Маецца на ўвазе Мікалай Юр'евіч Радзівіл па мянушцы Рыжы (1512—27.IV 1584) — князь, сын пачынальніка літоўскай галіны роду Радзівілаў. У 1544 г. атрымаў ад караля Сігізмунда I Старога пасаду падчашага. Яго сястра Барбара стала другой жонкай Сігізмунда II Аўгуста. Супраываджаў яе на каранацыю ў Кракаў.

З 1550 да 1566 г. займаў пасаду трокскага ваяводы. У 1553 г. стаў польным гетманам, г. зн. камандуючым войскам, якое стаяла на дзяржаўных граніцах для абароны ад знешняга нападу. У 1561 г. атрымаў пасаду вялікага (земскага) гетмана. У 1564 г. прыняў кальвініcцкае веравызнанне. 4.II 1566 г. стаў віленскім ваяводам і канцлерам. Займаў рад іншых дзяржаўных пасад. Па сутнасці, з'яўляўся некаранаваным каралём княства. На Люблінскім сейме 1569 г. узначальваў магнацкую апазіцыю саюзу з Польшчай. Пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста быў фактычным кіраўніком княства. У час другога бескаралеўя, пасля Генрыха Валуа Анжуйскага, узначальваў сенатараў, якія хацелі ўзвесці на каралеўскі трон эрцгерцага Эрнеста, сына нямецкага імператара Максіміляна II Габсбурга. Пад непасрэдным кіраўніцтвам М. Радзівіла ажыццяўлялася падрыхтоўка трэцяй рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага (1588). У Лівонскую вайну (1558—1583) быў галоўнакамандуючым каралеўскіх і княжацкіх войск. Суправаджаў Стэфана Баторыя ва ўсіх яго паходах супраць Івана Грознага. У 1579 г. адмовіўся ад пасады канцлера. Як магутны апякун кальвіністаў М. Радзівіл знаходзіўся ў варожых адносінах з віленскім каталіцкім епіскапам Валяр'янам Пратасевічам і нават адмовіўся паставіць канцлерскую пячатку на каралеўскім прывілеі, выдадзеным езуітам на права ўезду ў Вільню (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 18, 19, 42—44, 67, 89, 102, 104; Kotłubaj E. Galerja nieswiżska, c. 61).

[190] «А стал за бронон завилейскон в дворе своем, прозваном Довойновском»— а спыніўся за брамай завілейскай у сваім доме, празваным Давойнаўскім.

Відаць, Крыштоф Радзівіл Пярун быў у нейкім сваяцтве з Давойнамі, па прозвішчу якіх і называўся гэты віленскі дом, размешчаны па Полацкаму тракту (за ракой Віленкай).

[191] Гаворка ідзе пра Аўгусціна Ратундуса (?—20.III 1592), які пры Сігізмундзе I Старым займаў пасаду сакратара каралеўскай канцылярыі, а потым стаў войтам Вільні. Заўзяты каталік. Пэўны час, ужо будучы доктарам «абодвух правоў» (рымскага і царкоўнакананічнага), вучыўся ў Вітэнбергскім універсітэце, аб чым сведчаць матрыкулы гэтай навучальнай установы за красавік 1538 г. У 1564 г. прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы другой рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага. Быў блізкім чалавекам да кардынала Гозія і разам з ім пераканаў віленскага біскупа Валяр'яна Пратасевіча ў неабходнасці запрасіць у Вільню езуітаў. У тым жа 1569 г. як вялікі і глыбокі знаўца права і гісторыі Вялікага княства Літоўскага Ратундус быў прызначаны сеймам у каралеўскую камісію для «карэктуры права», г. зн. для выпрацоўкі трэцяй рэдакцыі Статута. Каб умацаваць пазіцыі каталіцкай царквы ў княстве, схіліў Яна Ераніма Хадкевіча вярнуцца да каталіцкага веравызнання. Для караля Стэфана Баторыя, які не ведаў дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага, пераклаў на лацінскую мову тэкст другой рэдакцыі Статута. Будучы войтам, праводзіў кадыфікацыю для Вільні Магдэбургскага права (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 91, 195; Baryczowa Marja. Augustyn Rotundus Mielecki, wojt wileński i apologeta Litwy. B. m. i r.).

[192] Войт — тагачасны кіраўнік горада з Магдэбургскім правам, потым сельскі староста. У XVI ст. старшынстваваў у гарадскім судзе.

[193] Каморнік — гэты тэрмін у XVI ст. меў некалькі значэнняў. Каморнікамі тады называліся часовыя пастаяльцы, беззямельныя сяляне, якія жылі ў чужой хаце, судовыя выканаўцы, а таксама прыдворныя слугі, якія загадвалі каралеўскімі палатамі.

[194] У лік сенатараў Вялікага княства Літоўскага пасля Люблінскай уніі 1569 г., не лічачы каталіцкіх епіскапаў Жэмайціі і Вільні, уваходзіла 26 чалавек. Паводле дзяржаўнай значнасці, іх месцы ў сейме размяркоўваліся так: віленскі ваявода і кашталян, трокскі ваявода і кашталян, староста Жэмайціі; за імі ішлі «перыферыйныя» ваяводы — смаленскі, полацкі, навагрудскі, віцебскі, брэсцкі, мсціслаўскі, мінскі; далей — земскі маршалак, канцлер, падканцлер, земскі падскарбі, дворны маршалак; урэшце, гетманы — вялікі (земскі) і польны. Да каго з гэтых сенатараў ездзіў Уладзімір Забалоцкі, сказаць сёння цяжка, бо мы не ведаем, хто з іх у гэты час знаходзіўся ў Вільні (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 564, 565).

[195] Пулгак — разнавіднасць мушкета.

[196] Гарэцкі — шляхціц, які меў на Ашмяншчыне нейкі маёнтак. Паколькі трабскі староста У. Забалоцкі (гл. камент. 43) хацеў падпарадкаваць яго сваёй уладзе, Гарэцкі ўчыніў з ім бойку і забіў яго мячом непадалёку ад манастыра св. Духа.

[197] «А Влодымир добыл шаблицы,ктору носил с правэй рэнки, и левон се рэнкон бронил потэжне»— а Уладзімір дастаў шаблю, якую насіў з правага боку, і магутна абараняўся левай рукой.

[198] Слова «Масква» ўжыта мемуарыстам тут у этнаграфічным сэнсе — як збіральны тэрмін для абазначэння жыхароў Маскоўскай дзяржавы.

[199] Корд — кароткі меч.

[200] Ян Барухоўскі (?—13.IV 1584)—мазавецкі князь. Быў пазнанскім, потым кракаўскім канонікам. У час Люблінскага сейма 1569 г., будучы каралеўскім сакратаром, падпісаў акт аб далучэнні (а дакладней, аб інкарпарацыі) да кароннай Польшчы Падляшша, Валыні і Кіеўскага княства. З 8.IX 1577 г. займаў пасаду варшаўскага дэкана, а ў 1578 г. Ян Замойскі перадаў яму сваю пасаду кароннага падканцлера. У 1583 г., пасля смерці Шымана Лугоўскага, ён стаў пшэмысльскім біскупам і адначасова працягваў выконваць абавязкі падканцлера.

[201] «Над то ниц венцэй не мовечи»— нічога больш не гаворачы.

[202] «Ям был добре вядом Влодымера»— я добра ведаў Уладзіміра.

[203] Маецца на ўвазе прабыванне ў Стэфана Баторыя маскоўскага ганца Грыгорыя Афанасавіча Нашчокіна, які па даручэнню Івана Грознага ў студзені 1580 г. прыбыў у Літву разам з каралеўскім ганцом Лапацінскім, каб дамовіцца аб вызваленні з палону падданых цара, захопленых каралём у Полацку. Апрача таго, Нашчокін павінен быў узгадніць з Баторыем пытанне аб прыездзе ў Рэч Паспалітую царскіх паслоў для заключэння перамір'я (Соловьев С. М. История России с древнейших времен.— М., 1960, т. 3, с. 656).

[204] Трокі (цяпер Тракай) — старажытны літоўскі горад у 23 км на захад ад Вільнюса. У 1321 г. вялікі князь Гедымін пабудаваў тут свой замак і на адзін год зрабіў Трокі сталіцай княства. Пасля смерці Гедыміна сталі рэзідэнцыяй князя Кейстута, а потым яго сына Вітаўта. Як умацаваны цэнтр мелі абарончае значэнне ў ба-

рацьбе супраць крыжакаў. З 1413 г. Трокі — цэнтр ваяводства. У часы княжання Вітаўта, з 1397 да 1430 г.,— гэта палітычны цэнтр Вялікага княства Літоўскага. Тут вялося дзяржаўнае і дыпламатычнае справаводства. У XVI ст. Трокі з'яўляліся месцам зняволення апазіцыянераў (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 41, 188, 310, 349, 350, 351).

[205] Гаворка ідзе пра браслаўскага старосту Юрыя Юр'евіча Осціка, які з 1566 да 13.IV 1578 г. быў мсціслаўскім, а потым смаленскім ваяводам. Па даносу свайго слугі Міроўскага быў абвінавачаны ў здрадніцкіх зносінах з маскоўскім баярынам Нашчокіным (гл. камент. 203). Як дзяржаўнага злачынцу, што нібыта дамагаўся далучэння беларускіх зямель да Рускай дзяржавы, яго арыштавалі, а 18.VI 1580 г. пакаралі смерцю.

[206] Земскім маршалкам у той час, з 25.X 1579 г., быў Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка (гл. камент. 72). Земскі маршалак займаў першае месца сярод міністраў княства. Пад яго кіраўніцтвам знаходзіліся суд і ўся адміністрацыя краю. Пры ўступленні на гэту пасаду земскаму маршалку (яго называлі маршалкам вялікім) выдаваўся спецыяльны жэзл, які з'яўляўся сімвалам яго ўлады. У час работы дзяржаўнага сейма земскі маршалак разам з дворным маршалкам уладкоўваў паноў, размяркоўваў кватэры. У каралеўскай радзе выконваў функцыю старшыні: прадстаўляў слова, заклікаў да цішыні і парадку, папярэджваў аб выступленні караля, абвяшчаў аб каралеўскіх прызначэннях на тую або іншую дзяржаўную пасаду. Праз земскага маршалка кароль выказваў свае абяцанні адносна ўзнагарод і падараванняў. У часы бескаралеўя ад земскага маршалка залежалі тэрмін і месца з'ездаў шляхты для выбрання новага караля. Калі ўзнікала патрэба, ён пасылаў мандаты з выклікам на каралеўскі суд. Земскі маршалак выносіў прысуды парушальнікам парадку і спакою ў каралеўскай рэзідэнцыі — мог нават пакараць смерцю. У час прыдворнага цырыманіялу, калі кароль урачыста выходзіў да народа, абодва земскія маршалкі — польскі і Вялікага княства Літоўскага — неслі перад ім маршальскія жэзлы, і тады ніхто, нават член каралеўскай сям'і, не меў права ісці паміж імі і каралём.

[207] Вялікія Лукі — старажытны рускі горад на р. Ловаць (каля 260 км на паўднёвы ўсход ад Пскова). Першыя летапісныя звесткі аб ім адносяцца да 1166 г. Назву горад атрымаў, відаць, ад калена (лукі), якое тут утварала Ловаць. У старажытнасці быў пад уладай Ноўгарада. У 1478 г. князь Іван III далучыў Вялікія Лукі да Маскоўскага княства. У час Лівонскай вайны горад быў захоплены Стэфанам Баторыем і з 1580 да 1582 г. знаходзіўся пад уладай Рэчы Паспалітай. У часы рускай смуты, у 1611 г., горад быў дашчэнту разбураны Ілжэдзмітрыем II («Тушынскім злодзеем»). Аднаўляцца пачаў толькі пасля 1619 г., калі па загаду цара Міхаіла Фёдаравіча Раманава яго засялілі ўральскія і данскія казакі.

[208] Слуцк — старажытны беларускі горад на р. Случ, цяпер раённы цэнтр Мінскай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 1116 г., калі ён належаў вялікаму князю кіеўскаму Уладзіміру Манамаху. У XV — пачатку XVII ст. у горадзе княжылі Алелькавічы, якія неаднойчы знаходзіліся ў апазіцыі да вялікіх князёў літоўскіх, выступалі за ўз'яднанне з Маскоўскай дзяржавай, змагаліся супраць татарскіх нашэсцяў. У XVI ст. тут існавала школа, а з 1581 да 1612 г. і друкарня, дзе друкаваліся кнігі на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. У 1600 г. апошняя спадчынніца Алель-

кавічаў князёўна Соф'я III Юр'еўна выйшла замуж за Януша Радзівіла і прынесла яму ў пасаг свой радавы маёнтак.

[209] Станіслаў Бартолян — доктар, родам з Сандаміра, вучыўся ў Кракаўскай акадэміі і там у 1588 г. атрымаў ступень бакалаўра, а ў 1590 г.— доктара філасофіі. У 1589 г. стаў шляхціцам. Як сакратар караля Сігізмунда III Вазы не раз ездзіў з важнымі даручэннямі ў Германію, Францыю, Англію і Іспанію. Памёр у 1618 г.

Марцін Фокс (Фоксіюш) паходзіў з шатландскага шляхецкага роду. Бацькі яго пераехалі ў Польшчу, відаць, з-за рэлігійных праследаванняў. Нарадзіўся ў Кракаве, там жа вучыўся на філасофскім факультэце акадэміі, які закончыў са ступенню магістра «вызваленых навук». Быў прыдворным астролагам караля Сігізмунда II Аўгуста. З 1566 г. знаходзіўся ў Італіі, дзе вывучаў медыцынскія навукі. Пасля атрымання ступені доктара медыцыны, у 1572 г., вярнуўся ў Польшчу. У ліпені 1573 г. узначаліў у Кракаўскай акадэміі кафедру медыцыны, заснаваную яшчэ Мацеем з Мяхова. У 1585 г. з'яўляўся рэктарам Кракаўскай акадэміі. Незадоўга перад смерцю быў прызначаны каралеўскім лекарам.

Асобу «любелского», г. зн. люблінскага, доктара Лаўрэнція высветліць не ўдалося.

Доктарам «слуцким», якога мемуарыст нават не назваў па імю, відаць, мог быць толькі Пётр Умястоўскі з Клімант. Каля 1575 г. ён стаў доктарам філасофіі ў Кракаве. У 1580 г. нейкі час знаходзіўся ў Парыжы. Вярнуўшыся на радзіму, Умястоўскі пасяліўся на Валыні, у Клевані, якая належала Чартарыйскім. У 1589 г. жыў у Слуцку (Kośmiński Stanisław. Słownik lekarzów polskich.— Warszawa, 1883, с. 19, 122, 526).

[210] Гаворка ідзе пра Філона Сямёнавіча Кміту-Чарнабыльскага (1530—1587). Сваю дзяржаўную дзейнасць ён пачаў у 1562 г. каралеўскім ротмістрам. З 1567 г. і да канца жыцця быў аршанскім старостам. Вылучаўся сваёй ваяўнічасцю. За ваенныя заслугі перад Рэчай Паспалітай кароль Стэфан Баторый выдаў яму ў 1579 г. грамату сенатара з намінальным тытулам смаленскага ваяводы. У часы зацяжнога бескаралеўя (1572—1574), выконваючы даручэнне сенатараў Вялікага княства Літоўскага, развіў на граніцы з Расіяй бурную агентурную дзейнасць і ў сваіх лістах з Оршы паведамляў у Вільню звесткі аб пагранічных справах і дзяржаўна-палітычным жыцці Маскоўскай Русі. У час Лівонскай вайны, у 1580 г., выконваў абавязкі каменданта Вялікіх Лукаў, займаўся ўмацаваннем пагранічнай паласы (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 287, 431, 675—678, 680, 681, 714; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці.— Мн., 1975, с. 11—25).

[211] Смаленск — старажытны горад на Дняпры, адзін з буйных цэнтраў на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі». З 1054 г. з'яўляўся рэзідэнцыяй удзельных смаленскіх князёў. У 1395 г. ім авалодаў літоўскі князь Вітаўт. У XV ст. тут вялося беларускае летапісанне. З 1.VIII 1514 да 1611 г. знаходзіўся ў складзе Расіі і быў яе крэпасцю на граніцы з Рэчай Паспалітай. Нягледзячы на гэта, Вялікае княства Літоўскае захоўвала ў сваім сенаце (ён называўся каралеўскай радай) пасаду смаленскага ваяводы. Яна была чыста намінальнай, з'яўлялася ганаровай узнагародай, якая давала права яе носьбіту мець тытул сенатара і займаць месца ў каралеўскай радзе, аднак без тых даходаў, якія мелі іншыя ваяводы. Гэта ўзнагарода была сродкам набілітацыі для тых служылых людзей Вялікага княства Літоўскага, якія не вылучаліся знатнасцю свайго паходжан-

ня. Праз такую набілітацыю прайшлі Васіль Тышкевіч (з 1569 да 13.VIII 1571 г.), Рыгор Багданавіч Валовіч (з 1572 да 1578 г.), Юрый Юр'евіч Осцік (з 15.IV 1578 да VI 1579 г.), Філон Сямёнавіч Кміта-Чарнабыльскі (з 18.X 1579 да 1587 г.) і інш.

[212] «...змовляючисе о потужности пришлое войны» — дамаўляючыся аб размаху будучай вайны.

[213] «Тот на сесь час вжо то три роки вэ Влошех у княжати Мантуанскога» — вось ужо споўнілася тры гады, як той знаходзіцца ў Італіі, у князя мантуанскага. Еўлашоўскі не адзначыў, чаго яго сын ездзіў у Мантую, што ён там рабіў у мантуанскага князя. Гэтым князем, відаць, з'яўляўся прадстаўнік пануючага роду Ганзагаў, з якімі значна пазней парадніўся польскі кароль Уладзіслаў IV Ваза.

[214] Пскоў — старажытны рускі горад на р. Вялікая. Калісьці быў цэнтрам самастойнага княства з развітым гарадскім вечам. Першыя пісьмовыя звесткі пра гэты горад адносяцца да 914 г. Як стратэгічны пункт на шляху да Вялікага Ноўгарада Пскоў часта быў месцам бітваў з немцамі і літоўцамі. У 1410 г. горад прызнаў над сабой уладу маскоўскага князя, але часова захаваў сваю самастойнасць. З XVI ст. у палітычнай гісторыі Расіі Пскоў іграў ролю стратэгічнага плацдарма ў яе барацьбе з Вялікім княствам Літоўскім за панаванне ў Прыбалтыцы. У час Лівонскай вайны яго абарону ўзначальваў ваявода І. П. Шуйскі, сын П. І. Шуйскага, які пацярпеў паражэнне ад князя М. Ю. Радзівіла Рыжага і загінуў у бітве 1564 г. каля в. Івацішкі пад Лепелем. Горад вытрымаў працяглую асаду войска Стэфана Баторыя і ў 1581 г. спыніў яго далейшы рух на рускую Поўнач.

[215] «Слухам рад іншых» — слухаю іншых дарадчыкаў.

[216] Дадатковых звестак пра Івана Бародзіча (?—22.XII 1581) знайсці не ўдалося.

[217] Граўжышкі — цяпер вёска, цэнтр сельсавета ў Ашмянскім р-не Гродзенскай вобл. Раней мястэчка. Заснаванне Граўжышак адносіцца да сярэдзіны XI ст. У свой час былі касцельнай парафіяй Нарушэвічаў, Бятрымскіх, Кірдзеяў, Рудамінаў, Ромераў, Корсакаў. Прадстаўнік апошніх ашмянскі земскі суддзя Ян Мікалай Корсак у 1618 г. даў багаты фундуш (капітал) на пабудову тут новага каталіцкага касцёла.

[218] Дзе знаходзіўся ўказаны дом Еўлашоўскага, сказаць сёння цяжка.

[219] Міля — старажытная мера адлегласці, розная па сваёй даўжыні ў розных краінах Еўропы. У Еўлашоўскага адлегласць вымяраецца польскімі мілямі, роўнымі 7146 м.

[220] Іўе — цяпер гарадскі пасёлак на Іўянцы (правы прыток Нёмана), раённы цэнтр Гродзенскай вобл. Як населены пункт Іўе вядома ўжо з XVI ст. Некаторыя гісторыкі блытаюць Іўе з Еўем (цяпер літоўскі горад Вевіс), сцвярджаючы, што ў XVII ст. у Іўі існавала друкарня віленскага праваслаўнага святадухаўскага брацтва і што там у 1619 г. была надрукавана славутая «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага.

[221] Гасцьмі раней называлі купцоў, прыезджых людзей наогул.

[222] Звесткі пра Шчаснага Самсонаўскага знайсці не ўдалося.

[223] Грамніцы — каталіцкае рэлігійнае свята, адпавядае праваслаўнаму срэценню. У святцах яму адведзена пастаянная дата: у католікаў — другога, а ў праваслаўных — пятнаццатага лютага.

[224] Больш дакладных звестак пра Сымона Шляткоўскага (?—18. XI 1583) у нашым распараджэнні няма.

[225] Маецца на ўвазе Хрысціна Збароўская, удава Яна Ераніма Хадкевіча (гл. камент. 87, 185).

[226] Менск — старая назва Мінска. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1067 г. З 1104 г. ужо вядомы як цэнтр удзельнага княства, якое ў першай чвэрці XIV ст. аказалася ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У сярэдзіне XVI ст. Мінск стаў цэнтрам ваяводства. Тут праводзіліся сесіі («рочкі») земскага трыбунала, на якіх разглядаліся судовыя справы Мсціслаўскага, Віцебскага і Мінскага ваяводстваў. А паколькі зямельныя ўладанні Хадкевіча знаходзіліся якраз у іх межах, то і разгляд судовых спраў, звязаных з маёмасцю Яна Ераніма Хадкевіча, праводзіўся ў Мінску. Еўлашоўскі мусіў тут выступаць як упаўнаважаны абаронца інтарэсаў гэтага роду.

[227] Слонім — старажытны беларускі горад на Шчары. Заснаваны ў канцы IX ст. Каля трох стагоддзяў знаходзіўся пад уладай рускіх князёў. У 1241 г. быў разбураны татара-мангольскімі заваёўнікамі, а ў 1245 г. захоплены літоўскім кн. Міндоўгам. З 1315 г. пад уладай Літвы. У 1392 г. згубіў сваю адносную самастойнасць і ў 1413 г. быў далучаны да Трокскага ваяводства. З 1632 г. і да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) быў месцам правядзення генеральных сеймаў.

[228] Ваўкавыск (Ваўкавыйск) — старажытны беларускі горад на р. Рось, цяпер раённы цэнтр Гродзенскай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 1252 г. На працягу доўгага часу горад быў аб'ектам барацьбы літоўскіх князёў з валынскімі, але ў пачатку XIV ст. Літва падпарадкавала яго сваёй уладзе. З 1500 г. Ваўкавыск стаў цэнтрам павета Навагрудскага ваяводства. У пачатку XVI ст. атрымаў Магдэбургскае права. Быў месцам правядзення павятовых шляхецкіх соймікаў.

[229] Задворныя справы — судовыя справы, разгляд якіх адбываўся ў каралеўскім задворным судзе, тагачаснай вышэйшай судовай інстанцыі. Яго прыгавор («вырак») быў канчатковым і абскарджанню не падлягаў.

[230] Звестак пра Марціна Окуня знайсці не ўдалося.

[231] Гаворка ідзе пра шлюб нейкага прадстаўніка роду Дарагастайскіх-Кухмістравічаў, якія мелі дадатковае прозвішча Монвід (у Еўлашоўскага — Монвіж). А маладая, напэўна, даводзілася швагеркай Хрысціне Збароўскай.

[232] Дадатковых звестак пра Мацея Волка выявіць не ўдалося.

[233] З Паўлюкоўскага фальварка, відаць, пазней вырасла в. Паўлюкоўшчына, якая знаходзіцца непадалёку ад Ляхавіч.

[234] Земства — стары орган мясцовага самакіравання. Займаўся грамадскімі і гаспадарчымі справамі шляхты.

[235] Гэты сказ напісаны на полі, у верхнім левым вуглу рукапісу, упоперак асноўнага тэксту.

[236] Асобу Гзоўскага высветліць не ўдалося.

[237] Мыш (Новая Мыш) — калісьці мястэчка, цяпер вёска, цэнтр сельсавета ў Баранавіцкім р-не Брэсцкай вобл. Да XVI ст. была ўласнасцю караля. У 1563 г. Сігізмунд II Аўгуст перадаў мястэчка з навакольнымі вёскамі ва ўласнасць Яну Ераніму Хадкевічу як узнагароду за ваенныя заслугі. Адначасова кароль дазволіў яму насіць тытул графа, які бацька Я. Е. Хадкевіча атрымаў для сябе і сваіх нашчадкаў ад імператара Карла V. Ад таго часу Хадкевічы пачалі тытулавацца «графамі на Мышы, Шклове, Быхаве і Глуску». Сын Яна Ераніма Ян Караль Хадкевіч пабудаваў у Мышы школу.

Дачка ваяводы Аляксандра Хадкевіча Ефрасіння, выходзячы замуж за кароннага харунжага Пракопа Сяняўскага, падаравала яму ў першай палавіне XVII ст. мястэчка Мыш у якасці пасагу. Ад Сяняўскіх мястэчка потым пераходзіла да Юдзіцкіх, Масальскіх і Несялоўскіх. У час нацыянальна-вызваленчай вайны Багдана Хмяльніцкага мястэчка было некалькі разоў знішчана. А ў 1660 г. навагрудскі кашталян Мікалай Юдзіцкі пасяліў тут езуітаў.

[238] Фёдар Зянкевіч — ляхавіцкі пісар, паходзіў з шляхецкага роду герба Сестранец або Ляліва, аселага на Навагрудчыне ў XVI ст. У 1570 г. ад імя сенатараў Вялікага княства Літоўскага выконваў пасольскую місію ў Кракаве. Дадатковых звестак пра яго адшукаць не ўдалося.

[239] У чым заключалася «патрэба» Гаслаўскага, дзеля якой Еўлашоўскі ездзіў у Коўна, высветліць не ўдалося, як і адшукаць звестак пра самога Гаслаўскага.

[240] Коўна (зараз Каўнас) — адзін са старажытных гарадоў Літвы. Паводле легенды, заснаваны ў пачатку X ст. князем Кунасам непадалёку ад упадзення р. Нярыс (літоўская назва Віліі) у Нёман. Першыя летапісныя звесткі пра горад адносяцца да 1280 г. За Коўна доўгі час вялася напружаная барацьба літоўцаў з крыжаносцамі, у якой горад часта пераходзіў з рук у рукі і быў неаднаразова зруйнаваны. У XVII ст. стаў гандлёвай таможняй Літвы.

[241] Рынконты (зараз Рыкантан) — вёска ў Тракайскім р-не Літоўскай ССР, знаходзіцца прыкладна ў 20 км на паўночны захад ад аўтамагістралі з Вільнюса на Каўнас.

[242] Скубятоўскае — маёнтак, які Фёдар Еўлашоўскі спачатку ўзяў пад заклад у пана Гаслаўскага, а потым купіў. Па геаграфічных даведніках адшукаць гэту мясціну не ўдалося.

[243] Гаворка, відаць, ідзе пра каралеўскага ротмістра Андрэя Тараноўскага, удзельніка пасольства ад паноў-рады Вялікага княства Літоўскага да Івана Васільевіча Грознага ў 1573 г. адносна вылучэння кандыдатуры самога цара або яго сына Фёдара на каралеўскі трон Рэчы Паспалітай. Пазней Тараноўскі стаў падсудкам навагрудскага павятовага суда (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 105—106).

[244] «Розумеючи, же у кроля вмясто ялмужны мел отрымать презыск на добрах панских за заслужонае свое» — разумеючы, што замест каралеўскай міласціны можа атрымаць судовы выйгрыш за сваю службу з панскіх (г. зн. хадкевічаўскіх) маёнткаў.

[245] Гаворыцца тут пра Яўстафія Багданавіча Валовіча (?—1587). Яго дзяржаўна-палітычная дзейнасць пачалася са службы пісарам у віленскага ваяводы Яна Юр'евіча Глябовіча. У 1551 г. Валовіч стаў пісарам караля Сігізмунда II Аўгуста. У той час ён быў дзяржаўцам медніцкім і магілёўскім. Будучы пісарам караля, летам 1561 г. Я. Валовіч быў прызначаны дворным маршалкам і земскім падскарбім. У 1553 г. разам з полацкім ваяводам Станіславам Давойнам ездзіў з пасольскай місіяй у Маскву, каб весці з Іванам Грозным перагаворы аб міры. З пасады земскага падскарбія і каралеўскага пісара 11.III 1566 г. быў пераведзены на пасаду падканцлера Вялікага княства Літоўскага, а 20.VI 1569 г., вызваліўшыся ад абавязкаў дворнага маршалка, стаў трокскім кашталянам. У час Люблінскага сейма 1569 г. аказаўся сярод лідэраў вялікакняжацкай апазіцыі да дзяржаўнай уніі з Польшчай. Як сенатар стаў уплывовай асобай пры вырашэнні дзяржаўных спраў. У часы першага і другога бескаралеўя (1572, 1574) Валовіч праяўляў ціка-

васць да перагавораў з Іванам Грозным адносна вылучэння цара (або царэвіча Фёдара) кандыдатам на вакантны трон Рэчы Паспалітай. У гэтай сувязі паміж ім і аршанскім старостам Філонам Кмітай-Чарнабыльскім вялася ажыўленая перапіска. У красавіку 1576 г. разам са сваім дваюрадным братам Рыгорам Валовічам, што быў кашталянам навагрудскім, і далёкім сваяком маршалка Іванам Валовічам Яўстафій Валовіч ездзіў у Гродна на каранацыю Стэфана Баторыя на трон Вялікага княства Літоўскага. Пры Баторыі, пасля смерці Яна Ераніма Хадкевіча (1.X 1579), стаў канцлерам і адначасова з'яўляўся кашталянам віленскім, старостам брэсцкім і кобрынскім (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 64, 73, 80, 161, 163, 179, 185, 268, 295; Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 30—33, 42, 56, 61, 63, 70, 74, 89, 99, 104, 118, 121).

[246] Ян Янавіч Глябовіч (1544—1590) — удзельнік абароны Полацка ў час Лівонскай вайны. Разам з полацкім ваяводам Станіславам Давойнам здаў Полацк і тры гады знаходзіўся ў рускім палоне. Вярнуўшыся на радзіму, быў у 1571 г. прызначаны кашталянам мінскім, а ў 1576 г. у дадатак стаў яшчэ і старостам Радашковіцкага староства. У 1579 г. са сваім атрадам прымаў удзел у Лівонскай вайне Стэфана Баторыя. У 1580—1586 гг. займаў пасаду земскага падскарбія, адначасова выконваў абавязкі дзяржаўнага пісара і сенатарскага ўрадніка. 30.II 1585 г. здаў пасаду кашталяна мінскага і стаў кашталянам троцкім, а з 1.VI 1586 г., пасля смерці Стэфана Збаражскага, стаў трокскім ваяводам. Па свайму веравызнанню быў кальвіністам. У сваім маёнтку ў Заслаўі заклаў друкарню, дзе Сымон Будны ў 1574 г. выдаў на польскай мове Біблію ва ўласным перакладзе. Апрача таго, Глябовіч служыў пэўны час у Заслаўі пастырам сацыніянскай абшчыны (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 59, 65, 110, 186; Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 136, 138—141, 171, 234, 295, 334, 335, 390, 440, 629, 632—634, 636, 664, 672, 682, 728, 733).

[247] Пасля гэтага слова ў рукапісе закрэслена частка тэксту (больш радка), дзе можна толькі прачытаць: «пана Дорогостайского, воеводы полоцкого».

[248] Леў Іванавіч Сапега (1557—1633)—дзяржаўны і палітычны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. За актыўны ўдзел і мужнасць, праяўленую ў баях пад Тарапцом, Завалачам, Вастравам і Псковам у час Лівонскай вайны, у 1581 г. атрымаў ад караля Стэфана Баторыя спачатку пасаду дзяржаўнага сакратара, а 2.II 1585 г.— падканцлера. У красавіку 1589 г. Сігізмунд III Ваза прызначыў Сапегу канцлерам. Як дзяржаўны дзеяч стаў вядомы тым, што склаў тэкст Статута для Трыбунала Вялікага княства Літоўскага па ўзору адпаведнага Статута, складзенага Янам Замойскім для каронай Польшчы. Потым упарадкаваў і за ўласны кошт надрукаваў трэцюю рэдакцыю Статута Літоўскага (1588), а з 1611 г. наглядаў за ўпарадкаваннем дзяржаўных актаў, якія цяпер вядомы пад назвай Літоўскай Метрыкі. Дальнабачны палітык Л. Сапега адмоўна ставіўся да рэлігійнага фанатызму. У час заключэння царкоўнай уніі 1596 г. займаў памяркоўную пазіцыю і асуджаў гвалтоўныя дзеянні уніяцкіх дзеячаў. Калі пачалася руская смута, прымаў удзел у каралеўскай інтэрвенцыі ў Расію, а ў 1618 г. быў дарадчыкам каралевіча Уладзіслава ў час яго паходу на Маскву. А калі і гэта інтэрвенцыя не дала плёну для каралеўскага двара і Рэчы Паспалітай, Л. Сапега прыклаў усе намаганні, каб заключыць з Расіяй Дэўлінскае перамір'е. Ён неаднаразова накіроўваўся з дыпламатычнымі

місіямі ў Маскву. У час славутай Хоцінскай бітвы з туркамі (1621) абараняў Вялікае княства Літоўскае ад шведаў. У 1623 г. адмовіўся ад пасады канцлера і стаў віленскім ваяводам. Гэту пасаду з 1625 г. сумяшчаў да канца жыцця з абавязкамі вялікага гетмана. Памёр і пахаваны ў Вільні. Пасля сябе пакінуў багатую і цікавую эпісталярную спадчыну (Kognowicki. Żywot Lwa Sapiehi.— Sanok, 1855; Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 193, 218—220, 417, 461, 606, 607, 635, 636, 672, 673, 681).

[249] Звычайна дакладны ў сваіх запісах Фёдар Еўлашоўскі ў дадзеным выпадку, гаворачы пра судовыя справы жонкі Яна Ераніма Хадкевіча, якія ёй даводзілася мець у 1586 г., дапусціў памылку, назваўшы Льва Сапегу не падканцлерам, а канцлерам (гэта пасада тады яшчэ належала Я. Валовічу).

[250] З роду Войнаў падканцлерам Вялікага княства Літоўскага быў толькі Габрыель Мацвеевіч Война (? — 1615). Але Еўлашоўскі і тут, называючы Войну падканцлерам, дапусціў памылку, бо гэту пасаду ён заняў толькі ў красавіку 1589 г. А ў час, пра які ідзе гаворка, Габрыель Война займаў пасаду дзяржаўнага пісара (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 163, 271, 313).

[251] Пасля гэтага слова ў рукапісе закрэслены два словы. Адно чытаецца «панов», другое прачытаць немагчыма.

[252] «Веде то бог, кгды то будет» — ведае тое бог, калі яно будзе.

[253] Міхал Багданавіч Гарабурда (?—12.VII 1586) — дыпламат Вялікага княства Літоўскага, добра знаёмы са звычаямі царскага двара Івана Грознага, куды пачынаючы з 1560 г. ён досыць часта ездзіў як пасол. Сваю службовую дзейнасць пачынаў каралеўскім дзячком (1560—1563), потым стаў прыватным пісарам караля Сігізмунда II Аўгуста. У снежні 1566 г. атрымаў пасаду дзяржаўнага сакратара Вялікага княства Літоўскага і займаў яе да 1585 г. З'яўляўся адным з буйнейшых кіраўнікоў праваслаўнай партыі ў княстве. У часы першага бескаралеўя (1572) ад імя гэтай партыі вёў у Маскве перагаворы з царом пра выбранне яго або царэвіча Фёдара на каралеўскі трон Рэчы Паспалітай. Аднак паколькі Гарабурда побач з іншымі ўмовамі запатрабаваў ад Грознага прыняць рымска-каталіцкае веравызнанне, яго перагаворы не далі ніякіх вынікаў. Незадоўга да смерці, у 1585 г., Гарабурда атрымаў ад Стэфана Баторыя пасаду мінскага кашталяна (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 110, 266, 269, 270; Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 98, 102, 106, 118, 403, 532, 633, 661, 672, 673, 677, 678, 711).

[254] Буцэла Мікалай — італьянец, родам з Падуі, дзе працаваў хірургам, фармацэўтам і, магчыма, прыватным празектарам анатоміі. Перамяніўшы веравызнанне, схаваўся ў Белюна, потым пераехаў у Вену, затым — у Сямігроддзе, адкуль разам з дваром Стэфана Баторыя, якога якраз выбралі каралём Рэчы Паспалітай, пераехаў у Польшчу. Будучы прыдворным лекарам, відаць, аказаў немалыя паслугі, бо Стэфан Баторый сваім прывілеем ад 20 лютага 1586 г. падарыў яму маёмасць у Гродна. Пазней кароль Сігізмунд III Ваза прывілеем ад 12 красавіка 1589 г. зрабіў Буцэла польскім шляхціцам. Памёр у Кракаве ў 1610 г.

Сімонюс Сымон — італьянец, родам з Лукі. Вымушаны быў эміграваць пасля перамены веравызнання. Каля 1565 г. вывучаў філасофію ў Жэневе і Гейдэльбергу, пазней выкладаў медыцыну ў Лейпцыгу. У 1576 г. прыехаў у Польшчу і па хадайніцтву Буцэла застаўся лекарам пры Стэфане Баторыі. Раптоўная смерць караля

ў 1586 г. стала прычынай зацятай барацьбы паміж Сімонюсам і Буцэла. Сімонюс вымушаны быў пакінуць Польшчу і паступіць на службу да аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна, потым вандраваў па розных краінах Еўропы, нарэшце зноў вярнуўся ў Кракаў, дзе і памёр у 1602 г. (Kosmiński Stanisław. Słownik lekarzów polskich, 1883, с. 55, 458).

[255] Дата ў рукапісе стаіць на полі — у ніжнім левым вуглу.

[256] Мантуя — горад на поўначы Італіі, зараз адміністрацыйны цэнтр правінцыі. У старажытнасці быў населены этрускамі. З II стагоддзя да н. э. стаў рымскім горадам, з IX ст. — графскай рэзідэнцыяй, а з XIII ст. — гарадской рэспублікай. У XII—XIII стст. Мантуя ўваходзіла ў Ламбардскую лігу. У 1328 г. тут пачаў княжыць род Ганзагаў. Адна з прадстаўніц гэтага роду Людвіка Марыя Ганзага дэ Нэверс у 1645 г. стала другой жонкай аўдавелага польскага караля Уладзіслава IV Вазы. Гэты шлюб сведчыў, што сувязі Мантуі з Рэчай Паспалітай былі тады досыць моцныя.

[257] Андрэй Скарульскі быў членам гуртка Радзівіла Сіроткі. Паводле «Дыярыуша» Альбрэхта Радзівіла, суправаджаў Радзівіла Сіротку ў яго падарожжы па «святых месцах» Блізкага Усходу, з'яўляўся кавалерам ерусалімскага ордэна. У 1606 г. Скарульскі прымаў удзел у вырашэнні маёмасных спраў паміж нейкім Мікулічам і зяцем Радзівіла Сіроткі графам Габрыелем Танчынскім, дапамагаў Танчынскаму і ў 1611 г. У «Дыярыушы» Альбрэхта Радзівіла ў запісе ад 2.III 1636 г. Скарульскі ўпамінаецца як маршалак ковенскай шляхты (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 104).

[258] «поехал и по тэн час там мешка» — паехаў і знаходзіцца там да гэтага часу, г. зн. да 1604 г.

[259] Максімілян Габсбург — аўстрыйскі прынц (эрцгерцаг), сын імператара Максіміляна II Габсбурга (гл. камен. 134) і брат імператара Рудольфа II Габсбурга, які панаваў з 1576 да 1612 г. Пасля смерці Стэфана Баторыя польскія сенатары-магнаты аўстрыйскай арыентацыі, на чале якіх стаялі князь Андрэй Збароўскі і папскі нунцый пасол Ганібал дзі Капуа, у процівагу шляхецкай партыі кароннага канцлера Яна Замойскага рэкамендавалі эрцгерцага Максіміляна сваім кандыдатам на польскі трон, а 22.VIII 1587 г. абвясцілі яго каралём Рэчы Паспалітай. Але заняць трон яму не далося, бо ў крывавай бітве пад Бычынам у Сілезіі Ян Замойскі разбіў яго наёмнікаў і паланіў самога Максіміляна — зрабіў яго вязнем і пратрымаў у Краснастаўскім замку (Галіцыя) да 1590 г., пакуль яго не вызваліў адтуль узведзены на польскі трон Сігізмунд III Ваза. Але нават і пасля ўсіх няўдач Максімілян не губляў надзеі вярнуць сабе каралеўскі трон Рэчы Паспалітай — вёў нават пра гэта перагаворы з рускім царом, жадаючы заручыцца яго падтрымкай (Соловьев С. М. История России с древнейших времен, т. 4, с. 208, 211, 214, 219, 223, 224, 227, 240—243, 250, 307, 368, 369).

[260] Сігізмунд III Ваза (26.VI 1566—30.IV 1632) — сын шведскага караля Іаана Вазы. Быў выбраны каралём Рэчы Паспалітай дзякуючы энергічнай дзейнасці канцлера Яна Замойскага. Па лініі маці (Кацярыны Ягелонкі) даводзіўся ўнукам былому каралю Сігізмунду I Старому і пляменнікам Сігізмунду II Аўгусту. Каралеўскі трон Рэчы Паспалітай займаў з 19.VIII 1587 да 30.IV 1632 г. Адначасова як спадчыннік па бацьку быў і каралём Швецыі (1592—1604). Вызначыўся як заўзяты католік. У час яго панавання ў Рэчы Паспалітай адбылася славутая Брэсцкая царкоўная унія 1596 г. Сваімі жорсткімі метадамі садзейнічаў пашырэнню уніяцтва сярод белару-

скага і ўкраінскага праваслаўнага насельніцтва. Гарачая прыхільнасць Сігізмунда III да каталіцызму з'явілася прычынай пазбаўлення яго права на каралеўскі трон у пратэстанцкай Швецыі і ледзь не каштавала жыцця ў Рэчы Паспалітай. У барацьбе за спадчынны шведскі трон Сігізмунд III Ваза ўцягнуў Рэч Паспалітую ў зацяжную дынастычную вайну са Швецыяй. У час рускай смуты пачаў інтэрвенцыю ў Расію і нават сам хадзіў з войскам пад Смаленск, патрабуючы царскі трон для свайго сына Уладзіслава. У знешняй палітыцы быў пад уплывам аўстрыйскага двара Габсбургаў, з якім яго звязвала сваяцтва праз жонак. Гэта выклікала незадаволенасць пэўнай часткі патрыятычна настроеных польскіх феадалаў.

[261] Бычына — старажытны горад на пагранiччы з Сілезіяй. Існаваў ужо ў X ст. Вядомы дзякуючы пераможнай бітве Яна Замойскага, якая адбылася пад Бычынай 24 студзеня 1588 г. з наёмным войскам эрцгерцага Максіміляна. Вынікам бітвы была капітуляцыя Максіміляна.

[262] Асобу пана Адахоўскага высветліць не ўдалося. Відаць, гэта быў слуга Яна Ераніма Хадкевіча.

[263] Копысь — цяпер гарадскі пасёлак у Аршанскім р-не Віцебскай вобл. Першыя звесткі аб ім адносяцца да 1059 г. Спачатку ўваходзіў у Полацкае, а потым у Смаленскае княствы. У другой палавіне XIV ст. Копысь трапіў пад уладу Літвы. У пачатку XVI ст. належаў князям Астрожскім, а ў 1594 г. як пасаг Кацярыне Астрожскай дастаўся Крыштофу Радзівілу Перуну, які тады з'яўляўся віленскім ваяводам і гетманам Вялікага княства Літоўскага. К. Радзівіл пабудаваў тут свой умацаваны замак і кальвінісцкі збор. Паездка ў 1588 г. Фёдара Еўлашоўскага ў Копысь з панам Адахоўскім, відаць, абумоўлена патрэбай уладзіць пытанне аб значным доўгу, які Хадкевічы павінны былі сплаціць Радзівілам.

[264] Гэта месца рукапісу не паддаецца расшыфроўцы, таму што невядома, у якім сэнсе тут называецца «Козий Рынок». Калі ў геаграфічным, дык такога мястэчка ў геаграфічных даведніках адшукаць не ўдалося. Хутчэй за ўсё гэта бытавы тэрмін, але і ў такім выпадку цяжка сказаць, пра якое мястэчка тут ідзе гаворка.

[265] Гнезна — цяпер цэнтр сельсавета ў Ваўкавыскім р-не Гродзенскай вобл., размешчаны на р. Нятуце (прыток Росі), у 12 км на паўднёвы захад ад Ваўкавыска. Падставай для такога меркавання служыць тое, што княгіня Хрысціна Збароўская-Хадкевіч была кальвіністкай і, па сцверджанню Еўлашоўскага, была пахавана ў евангелічным храме. Дапусціць існаванне евангелічнага храма ў цэнтры каталіцызму, старадаўняй сталіцы Польшчы г. Гнезна, мала верагодна. Да таго ж, відаць, жыхарку Вялікага княства Літоўскага нішто не магло звязваць з тэрыторыяй Пазнанскага ваяводства, якое ніколі не ўваходзіла ў склад княства і дзе ніякай нерухомай маёмасці Ян Еранім Хадкевіч не меў. А вось Свіслач, каля якой знаходзіцца в. Гнезна, з 1572 г. з'яўлялася ўладаннем Я. Е. Хадкевіча.

[266] Альбрэхт Кавячынскі — шляхціц, кальвініст. Доўгі час знаходзіўся на службе ў Крыштофа Радзівіла Перуна. Даводзіўся родным братам нясвіжскаму старосце Мацвею Кавячынскаму (? — 1572), які разам з Лаўрэнціем Крышкоўскім 10.VI 1562 г. надрукаваў на беларускай мове ў Нясвіжы пратэстанцкі «Катэхізіс» С. Буднага. Другі брат Альбрэхта Кавячынскага Гектар Кавячынскі ў 1560 г. быў паслом у Інфляндыю, а з 1575 г. з'яўляўся старостам у Алыцы — валынскай рэзідэнцыі Радзівілаў.

[267–269] Звестак пра Я. Маскільніцкага, П. Віроўскага і Я. Высоцкага знайсці не ўдалося.

[270] «Вокс популі — вокс дэі» — лацінская прымаўка: «Голас народа — голас бога».

[271] Аляксандр Хадкевіч (1565—1626) — малодшы сын Яна Ераніма Хадкевіча. Вучыўся на філасофскім факультэце Інгальштадскай акадэміі. Пасля наведаў Італію, дзе ледзь не загінуў і таму ахвяраваўся стаць манахам. Але потым купіў папскі дазвол, які вызваляў яго ад дадзенай клятвы, і выбраў для сябе ваенную прафесію. Прымаў удзел у славутай бітве са шведамі пад Кірхгольмам (цяпер Латвія). З 1604 г. падляшскі ваявода, з 25 лютага 1605 г. трокскі ваявода. У час шляхецкага мяцяжу, узнятага М. Забжыдоўскім і Я. Радзівілам у 1606—1607 гг., абараняў інтарэсы караля і ад яго імя падпісаў дагавор з мяцежнікамі пад Янаўцам. Ваяваў за караля пад Гузавам. У 1613 г. па даручэнню сейма быў накіраваны паўнамоцным каралеўскім камісарам да войска, якое пасля каралеўскай інтэрвенцыі ў Расію абвясціла канфедэрацыю і запатрабавала ад Сігізмунда III Вазы і Рэчы Паспалітай выплаты за сваю ваенную службу. У 1621 г. А. Хадкевіч прымаў удзел у славутай Хоцінскай бітве з туркамі. За ваенныя заслугі свайго бацькі разам з братам Янам Каролем Хадкевічам яшчэ ў 1581 г. атрымаў ад караля Стэфана Баторыя прывілей на вечнае карыстанне г. Свіслач (цяпер раённы цэнтр у Гродзенскай вобл.). У 1619 г. выгнаў са Шклова кальвіністаў і пасяліў там дамініканцаў, якім падараваў багатую на тыя часы бібліятэку, перавезеную з Мышы.

[272] Гаворка ідзе пра Ганну Ягелонку (18.X 1523—9.IX 1596) — дачку караля Сігізмунда I Старога і Боны Сфорца. У час другога бескаралеўя пасля Генрыха Валуа Анжуйскага польская шляхта абвясціла яе сваёй каралевай, а Стэфана Баторыя каралём, абавязаўшы яго ажаніцца з пяцідзесяцітрохгадовай каралевай. Іх шлюб адбыўся ў час каранацыі Баторыя на трон Рэчы Паспалітай 1.V 1576 г. у Кракаве. Ганна Ягелонка даводзілася роднай сястрой Кацярыне Ягелонцы (1526—1587) і цёткай яе сыну Сігізмунду III Вазе.

[273] Роднай сястрой Сігізмунда III Вазы, пра якую тут успамінае Ф. М. Еўлашоўскі, была шведская прынцэса Ганна (1568—6.II 1625). Яна прыехала ў Польшчу разам з братам у 1587 г. і з таго часу правяла тут бязвыезна ўсё сваё жыццё. Пасля смерці сястры Яна Замойскага, якая была замужам за Лукашам Дзялынскім (гл. камент. 186), Сігізмунд III Ваза падараваў на ўтрыманне сваёй сястры багатыя прускія староствы (Бродніцкае і Галуб'інскае), якімі раней кіравала нябожчыца. Прынцэса любіла батаніку, займалася зборам лекавых траў і фармакалогіяй, захаплялася хіміяй. Памерла незамужняй у Галуб'і.

[274] Мыта — даўнейшая гандлёвая пошліна, якая спаганялася ў дзяржаўны скарб за прагон жывёлы, увоз і вываз тавараў праз унутраныя заставы пэўнай адміністрацыйнай адзінкі.

[275] Бірштаны (зараз Бірштонас) — горад на правым беразе Нёмана, у Прэнайскім р-не Літоўскай ССР (каля 35 км на паўднёвы захад ад Каўнаса). У сярэднія вякі былі вядомы як пасад, дзе знаходзіўся паляўнічы замак вялікіх князёў літоўскіх. Гэты пасад спачатку належаў да Пунскага, а потым да Прэнскага староства. З XIX ст. Бірштаны сталі вядомы як курортны горад.

[276] Маецца на ўвазе Ян Еранім Хадкевіч (гл. камент. 87).

[277] Войцах Бараноўскі (1548—1616) — польскі князь, сенатар,

духоўная асоба, памочнік і сябар Яна Замойскага. Жадаючы мець пры сабе чалавека адных з сабой поглядаў і ідэй, Замойскі ўвесь час дапамагаў Бараноўскаму заняць вышэйшыя пасады. Як прыхільнік канцлера Бараноўскі прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці дзяржавы, дзякуючы чаму ўжо ў 1584 г. стаў біскупам перамышленскім, а ў 1585 г.— падканцлерам. На гэтай пасадзе прабыў нядоўга і пасля стаў плоцкім біскупам, у 1606 г.— куяўскім біскупам, а ў 1608 г.— гнезненскім арцыбіскупам. Будучы прымасам, В. Бараноўскі вылучаўся непрыступнасцю і суровасцю свайго характару.

[278] Мікалай Мікалаевіч Монвід Дарагастайскі-Кухмістравіч (каля 1530—28.I 1597) — кальвініст, з 23.III 1566 г. літоўскі стольнік. Прымаў актыўны ўдзел у рабоце Люблінскага сейма 1569 г., на якім каралём Сігізмундам II Аўгустам быў прызначаны ў камісію па рэдагаванню тэксту Літоўскага Статута 1566 г. 7.VII 1576 г. атрымаў ад Стэфана Баторыя пасаду полацкага ваяводы, якую займаў да самай смерці. У 1577 г. стаў ваўкавыскім, шарашоўскім і лепельскім старостам. Быў дзяржаўцам велюнскім і байсагольскім, цівуном гондзінскім. Шырокую славу прынесла яму славутая перамога, здабытая ў 1577 г. над татарамі пад маёнткам Дарагастай у Луцкім павеце (Валынь). Адсюль і пайшло яго прозвішча Дарагастайскі. Прымаў актыўны ўдзел у Лівонскай вайне — у баях пад Полацкам, Вялікімі Лукамі, Псковам і ў іншых месцах, сваім коштам утрымліваў немалы атрад воінаў пад камандай палкоўніка Зака (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 126, 143, 171, 195, 233, 268, 274—278, 285, 328, 386, 494, 526, 577, 594, 595, 601, 602, 615, 671, 706, 710).

[279] Маецца на ўвазе Марцін з Абораў Ляснявольскі (? — 1593) — з 1581 г. падляшскі кашталян. Праславіўся ў другой палавіне XVI ст. як выдатны прамоўца. Быў добрым прыяцелем Яна Замойскага, які вельмі паважаў і высока цаніў Марціна з Абораў за сілу характару, вялікую дасведчанасць у навуках і за іншыя выдатныя якасці. Пасля выбрання на трон Сігізмунда III Вазы ездзіў паслом у Швецыю, каб паведаміць там аб выніках выбараў. Малады кароль спачатку знаходзіўся пад яго моцным уплывам, але потым у выніку прыдворных плётак і інтрыг езуітаў адхіліў М. Ляснявольскага ад сябе. Непрыхільныя да манарха вяльможы імкнуліся перацягнуць апальнага Ляснявольскага на свой бок, але ён не захацеў з імі аб'яднацца. Памёр у Кракаве. Пасля сябе пакінуў у рукапісным выглядзе цікавыя ўспаміны пра сваё падарожжа ў Швецыю.

[280] Ян Сімяон (? — 9.III 1592) — князь слуцкі і капыльскі, сын Юрыя II Юр'евіча і Кацярыны Танчынскай, апошні па мужчынскай лініі нашчадак вядомага роду Алелькавічаў. Жанаты на дачцы падольскага ваяводы Мікалая Мялецкага (гл. камент. 97). Па завяшчанню бацькі атрымаў у спадчыну Капыль і двары ў Цімкавічах і Савічах. У 1585 г. за няўплату ў дзяржаўны скарб доўгу з магілёўскай арэнды выклікаўся ў каралеўскі суд. У 1591 г. аддаў Цяльшоўскім Савічы ў заклад за 2000 коп літоўскіх грошаў. Ад шлюбу з Соф'яй Мялецкай у яго была адна дачка, якая памерла ў красавіку 1591 г. А ў наступным годзе памёр і сам князь. Пахаванне яго адбылося ў Любліне, дзе над трунай выступіў з прамовай мясцовы ксёндз Сімяон Высоцкі. Прамова гэта ў тым жа годзе была надрукавана на польскай мове ў Вільні. Пасля смерці мужа княгіня Соф'я Мялецкая (1567—11.V 1619) выйшла замуж за літоўскага падча-

шага Яна Кароля Хадкевіча, старэйшага сына Яна Ераніма Хадкевіча (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, с. 334—335).

[281] У гэтым выпадку Еўлашоўскі зноў дапусціў памылку, бо Мікалай Крыштоф Радзівіл (гл. камент. 72) тады быў трокскім кашталянам. Ваяводам ён стаў толькі 10.VIII 1590 г.

[282] «Мел при собе зэ двестя особ ланцужно» — меў пры сабе каля двухсот чалавек світы, якіх можна было паставіць у шарэнгу.

[283] Відаць, гаворка тут ідзе пра Мікалая Вольскага (1550—1630), які паходзіў з Падгая і быў сынам надворнага кароннага маршалка Станіслава Вольскага і Барбары Таркоўскай. Выхаванне атрымаў пры двары аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна Габсбурга ў Грацы і таму з'яўляўся прыхільнікам дынастыі Габсбургаў. У 1574 г. М. Вольскі атрымаў пасаду кароннага мечніка. Досыць часта падарожнічаў па Еўропе. У часы панавання Стэфана Баторыя жыў у Вене. На радзіму, у Вялікае княства Літоўскае, вярнуўся толькі пры Сігізмундзе III Вазе, які прыхільна да яго паставіўся і ў 1599 г. прызначыў сваім надворным маршалкам. М. Вольскі быў каралеўскім паслом да папы рымскага Клеменція VIII. У 1611 і 1613 гг. з'яўляўся паўнамоцным каралеўскім камісарам, вёў перагаворы з канфедэратамі пра выплату ім грошай за маскоўскі паход у час каралеўскай інтэрвенцыі. У 1615 г. М. Вольскі стаў вялікім каронным маршалкам. За якой паслугай да яго звяртаўся Аляксандр Хадкевіч, што яму каштавала 1800 коп літоўскіх грошаў, Еўлашоўскі, на жаль, не ўдакладніў.

[284] Кумалкі — вёска, па сцверджанню мемуарыста, знаходзілася недалёка ад Гнезна, г. зн. на тэрыторыі цяперашняга Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. Да нашага часу не захавалася.

[285] Пад «панятами троцкими» Еўлашоўскі меў на ўвазе дзяцей Мікалая Радзівіла Сіроткі (гл. камент. 72), у той час трокскага кашталяна, жанатага з Лізаветай Вішнявецкай (1569 — 9.XI 1596), дачкой валынскага ваяводы князя Андрэя Вішнявецкага. Яго шлюб з княжной адбыўся 24.XI 1584 г. Ад гэтага шлюбу ў Радзівіла Сіроткі было шэсць сыноў і тры дачкі: першы, Мікалай, памёр яшчэ дзіцем; Ян Юрый (8.I 1588—18.XII 1625) быў трокскім кашталянам; Альберт Уладзіслаў (16.I 1589—20.VII 1636); Крыштоф Мікалай (30.IV 1590 — 4.V 1607); Сігізмунд Кароль (4.XII 1591 — 5.XI 1642); Аляксандр Людвік (4.VII 1594 — 30.III 1654); блізняты Кацярына і Хрысціна памерлі малымі; Лізавета (15.IX 1585 — ?) была двойчы замужам — першым яе мужам быў ваявода люблінскі Габрыель Танчынскі (? — 1617), другім — віцебскі ваявода Крыштоф Кішка. Каго канкрэтна з «панят троцкіх» меў на ўвазе Еўлашоўскі, сказаць цяжка. Але калі прыняць пад увагу, што ў гэтым выпадку гаворка ва ўспамінах ідзе пра падзеі 1589 г., можна зрабіць вывад, што «панятамі» з'яўляюцца першыя тры сыны Радзівіла Сіроткі.

[286] Харомцы — паводле Еўлашоўскага, нейкая вёсачка, месцазнаходжанне якой ён не ведаў. Пад гэтай назвай існавала вёска недалёка ад Халопенічаў (цяпер тэрыторыя Крупскага р-на Мінскай вобл.). Але не выключана, што гаворка ідзе пра вёску, якая існуе і цяпер, але пад блізкай назвай — Хароміцкія. Яна знаходзіцца ў Уздзенскім р-не Мінскай вобл., ад Узды ў напрамку да Капыля, тады княжацкага ўладання Яна Сімяона Юр'евіча, пра якога якраз расказвае Еўлашоўскі.

[287] Маецца на ўвазе Ян Еранім Хадкевіч (гл. камент. 87).

[288] За каго з Дарагастайскіх была ў 1590 г. выдадзена замуж дачка Яна Ераніма Хадкевіча, устанавіць не ўдалося.

[289] Асобу Валянціна Чаркоўскага, суседа і прыяцеля Фёдара Еўлашоўскага, устанавіць не ўдалося.

[290] Верашчачын грунт — зямельнае ўладанне Аляксандра Хадкевіча, якое знаходзілася дзесьці недалёка ад Новай Мышы.

[291] Астроўскае — відаць, маецца на ўвазе вёска Востраў, цяпер цэнтр сельсавета ў Ляхавіцкім р-не Брэсцкай вобл. Яна знаходзіцца на адлегласці прыкладна ў 20 км на ўсход ад названай у Еўлашоўскага в. Дабрамышль (цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.).

[292] Пра Дабрамышль гл. камент. 174.

[293] Рыгор Уніхоўскі — навагрудскі шляхціц герба Астоя. З 1589 г. з'яўляўся зборшчыкам падаткаў у Навагрудскім ваяводстве. Яго род паходзіў з в. Унехава, якая цяпер знаходзіцца ў Карэліцкім р-не Гродзенскай вобл. У гісторыі яна вядома яшчэ з часоў вялікага князя літоўскага Сігізмунда Кейстутавіча (каля 1380—1440). Да 1568 г. вёска з'яўлялася ўласнасцю Ілінічаў, потым перайшла да Цімафея Крышлоўскага, а ў канцы XVI ст.— да Уніхоўскіх.

[294—295] Звестак пра Жабку і Багушэвіча, выбраных на ваўкавыскім трыбунальскім сейміку 1592 г. павятовымі дэпутатамі ў земскі трыбунал Вялікага княства Літоўскага, знайсці не ўдалося.

[296] Пра Яна Сімяона Слуцкага гл. камент. 280.

[297] Дадатковых звестак пра гарадзейскага шляхціца Каспара Кярсноўскага (? — 30.VI 1592) выявіць не ўдалося.

[298] Цяжка сказаць, якую Гарадзею мае на ўвазе Фёдар Еўлашоўскі, бо ў яго часы ў Навагрудскім павеце пад гэтай назвай існавалі два фальваркі, мястэчка на р. Гарадзейцы (цяпер гарадскі пасёлак Нясвіжскага р-на, 5 км ад аўтамагістралі Мінск—Брэст) і вёска ў некалькіх кіламетрах ад мястэчка Гарадзея.

[299] Ян Кароль Хадкевіч (каля 1560—1621) — старэйшы сын Яна Ераніма Хадкевіча і Хрысціны Збароўскай, выхаванец Віленскай езуіцкай акадэміі. Вылучаўся сваім красамоўствам і выдатным веданнем замежных моў, гісторыі і геаметрыі. Шукаючы ваенных прыгод, ён у юнацтве аб'ездзіў усю Еўропу — пабываў у Германіі, Францыі, Італіі, Іспаніі, Партугаліі, Нідэрландах. За ваенныя заслугі свайго бацькі ў 1581 г. разам з братам Аляксандрам атрымаў ад Стэфана Баторыя на вечнае карыстанне Свіслач на Гродзеншчыне. 23.VII 1593 г. Ян Кароль Хадкевіч ажаніўся з дачкой падольскага ваяводы Соф'яй Мялецкай, якая засталася ўдавой пасля смерці свайго першага мужа князя Яна Сімяона Алелькавіча. У 1594—1596 гг. падаўляў антыфеадальнае паўстанне Севярына Налівайкі. 27.V 1595 г., калі пасля Крыштофа Дарагастайскага засталася вакантнай пасада падчашага Вялікага княства Літоўскага, кароль Сігізмунд III Ваза аддаў яе Яну Каролю Хадкевічу, а 19 ліпеня 1599 г. апошні змяніў Станіслава Радзівіла на пасадзе жамойцкага старосты. У 1600 г. прымаў актыўны ўдзел у другім малдаўскім паходзе Яна Замойскага супраць валашскага ваяводы Міхаіла І Храбрага, які прэтэндаваў на малдаўскае гаспадарства. Рэч Паспалітая тады была зацікаўлена ў тым, каб на малдаўскі трон быў пасаджаны яе стаўленік Іерэмія Магіла. У тым жа годзе Ян Кароль Хадкевіч атрымаў пасаду польнага гетмана і быў прызначаны старостам велюньскім і любешаўскім, а ў 1603 г. стаў адміністратарам Інфляндыі. Дзве бліскучыя перамогі над шведскімі войскамі — у 1604 г. пад Белым Каменем у Лівоніі і ў 1605 г. пад Кірхгольмам — далі яму пасаду вялікага гетмана. Падаўляў шляхецкі мяцеж, узняты ў 1606 г. М. Забжыдоўскім і Я. Радзівілам. Хоць па

свайму перакананню Ян Кароль Хадкевіч быў прыхільнікам шляхецкай партыі Яна Замойскага, тым не менш ён ненавідзеў Замойскага, які ваяваў супраць Збароўскіх, блізкіх родзічаў Яна Кароля Хадкевіча па лініі маці. У часы рускай смуты прымаў удзел у інтэрвенцыі караля Сігізмунда III Вазы ў Расію, дзе ў 1612 г. пацярпеў паражэнне ад народнага апалчэння, якое ўзначальвалі Кузьма Мінін і кн. Дзмітрый Пажарскі. За ўдзел у гэтым паходзе пасля смерці Мікалая Крыштофа Радзівіла 20.VI 1616 г. атрымаў ад Сігізмунда III Вазы прывілей на віленскае ваяводства і стаў першым сенатарам Вялікага княства Літоўскага. У 1616—1618 гг. узначальваў ваенную інтэрвенцыю ў Расію каралевіча Уладзіслава, якога маскоўскае баярства выбрала ў 1610 г. сваім царом. У апошнія месяцы жыцця камандаваў арміяй Рэчы Паспалітай у баях з туркамі пад Хоцінам, дзе і памёр у 1621 г. Апекаваўся езуітамі, вёў працяглыя спрэчкі з магнацкім родам Радзівілаў з-за маёмасці княгіні Соф'і Юр'еўны Слуцкай, якая была замужам за Янушам Радзівілам.

[300] Цырын — калісьці мястэчка, цяпер вёска, цэнтр сельсавета ў Карэліцкім р-не Гродзенскай вобл. З XVI ст. Цырын з'яўляўся цэнтрам воласці і нейкі час знаходзіўся ў ліку каралеўскіх сталовых маёнткаў. Тут існавала сельскае староства. У XVIII ст. стаў уладаннем шляхецкага роду Несялоўскіх.

[301] Іван Маскевіч — сервецкі шляхціц, старэйшы брат вядомага мемуарыста Самуіла Маскевіча, удзельніка каралеўскай інтэрвенцыі ў Расію. Пасля падзелу бацькавай маёмасці ў 1614 г. ён атрымаў у спадчыну Ятру ў Навагрудскім павеце і Жабчыцы на Піншчыне. Быў жанаты з дачкой Багдана Храптовіча, які з 1589 да 1610 г. займаў пасаду рэферэндарыя Вялікага княства Літоўскага. Пазней Іван Маскевіч быў пінскім падсудкам.

[302] Анікей Уніхоўскі (? — 1595) — навагрудскі шляхціц. Магчыма, даводзіўся братам Рыгору Уніхоўскаму (гл. камент. 293). Загінуў увосень 1595 г. пад Магілёвам у час сутычкі з казакамі Севярына Налівайкі.

[303] Мікалай Падароўскі (? — 19.VII 1603) — шляхціц Навагрудскага ваяводства, паходзіў з в. Падароск, што знаходзіцца над р. Зэльвянкай у цяперашнім Ваўкавыскім р-не Гродзенскай вобл.— на шляху з Ваўкавыска ў Ружаны.

[304] «И выконалэм присегу на тот уряд мой на роках Трохкрольских стычня 7 дня року 1593» — і прысягнуў я на тую пасаду маю на трохкаралёўскай сесіі 7 студзеня 1593 г. (пра каталіцкае свята трох каралёў гл. камент. 166).

[305] Звестак пра Мікалая Тлухоўскага (? — 15.I 1593) — былога слугу Яна Ераніма Хадкевіча, сабраць не ўдалося.

[306] Маюцца на ўвазе сыны Яна Ераніма Хадкевіча і Хрысціны Збароўскай — Аляксандр і Ян Кароль Хадкевічы.

[307] Дадатковых звестак пра Яна Крачатоўскага, сына клецкага кальвінісцкага прапаведніка Тамаша, сабраць не ўдалося.

[308] Геаграфічныя каардынаты Сяльца, паводле звестак, прыведзеных Еўлашоўскім, вызначыць немагчыма, бо невядома, якую канкрэтна тэрыторыю меў на ўвазе мемуарыст, калі пісаў пра «маетность коштовну на Руси». Калі ён пад Руссю тут разумеў т. зв. Чорную Русь, дык гаворка, відаць, ідзе пра в. Чырвонае Сяло, што знаходзіцца ў Зэльвенскім р-не Гродзенскай вобл., з правага боку дарогі з Слоніма ў Ваўкавыск, або пра в. Старое Сяло ў тым жа Зэльвенскім р-не.

309 Вядомы дзве вёскі пад назвай Малкавічы: адна — у Мастоўскім р-не Гродзенскай вобл., другая — на беразе Цны, непадалёку ад гарадскога пасёлка Лагішын Пінскага р-на Брэсцкай вобл. Хутчэй за ўсё маюцца на ўвазе Малкавічы Мастоўскага р-на.

310 Цяжка сказаць, пра якія Канюхі тут гаворыцца, бо пад гэтай назвай вядомы тры вёскі: у Падароскім сельсавеце Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. (па дарозе з Ваўкавыска ў Ружаны), у Бераставіцкім р-не Гродзенскай вобл. (каля 40 км ад Гродна) і ў Грозаўскім сельсавеце Капыльскага р-на Мінскай вобл. Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра адну з дзвюх вёсак на Гродзеншчыне.

311 Мазуроўшчызна — назва, відаць, звязана з вёскай Мазуркі ў цяперашнім Ганчароўскім сельсавеце Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл.

312 Больш падрабязныя звесткі пра асобу зяця Е. Хадкевіча Жалінскага (? — 1602) устанавіць не ўдалося.

313 Гальшка (Лізавета) Хадкевіч — чацвёртая дачка віленскага кашталяна Ераніма Хадкевіча (? — 1562). Даводзілася роднай сястрой Яну Ераніму Хадкевічу, у якога служыў Еўлашоўскі. Першы раз была замужам за князем Шчэнсным Яраславічам Галаўчынскім, за Жалінскага ж выходзіла ўжо ўдавой.

314 «...попадла кго хороба дворска, указуючисе на кглове и на чоле» — апанавала яго прыдворная хвароба, якая пакінула сляды на галаве і на лбе. Прыдворнай хваробай шляхта тады называла сіфіліс.

315 Соф'я Аляксандраўна Хадкевіч (? — 15.X 1593) — дачка Аляксандра Іванавіча Хадкевіча, які з 1544 да 25.V 1549 г. займаў пасаду навагрудскага ваяводы. Даводзілася швагеркай Яну Ераніму Хадкевічу. Яе муж Еранім (Яраш) Карэцкі (? — 1566), будучы валожынскім і трабскім дзяржаўцам, у ліпені 1548 г. стаў канюшым Вялікага княства Літоўскага. Потым быў мельніцкім старостам, геранонскім і кнышынскім дзяржаўцам.

316 «Року 1595 о трех кролех рокисмы судили земске» — у 1595 г. на студзеньскай сесіі суда мы разглядалі земскія справы.

317 Севярын Налівайка (? — 11.IV 1597) — вядомы кіраўнік буйнога антыфеадальнага казацка-сялянскага паўстання на Украіне і ў Беларусі. Сын гусяцінскага мешчаніна. Нейкі час служыў у прыватным войску валынскага ваяводы кн. Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага і з гэтым войскам прымаў удзел у паходах на Малдавію і супраць крымскіх татар. Пасля малдаўскага паходу, помсцячы Марціну Каліноўскаму, багатаму ўладальніку Гусяціна, Гумінца, Няфёдаўкі, Дземаноўкі і іншых маёнткаў на Украіне, за забойства свайго бацькі, ён у 1594 г. узняў паўстанне. У маі 1596 г. быў абложаны каралеўскім войскам пад Лубнамі. Там, разлічваючы на амністыю для сябе, рэестравыя казакі-паўстанцы схапілі яго і выдалі кароннаму гетману Станіславу Жулкеўскаму. Гетман прывёз Налівайку ў Варшаву, дзе яго пасадзілі ў турму. Пасля жорсткіх і доўгіх катаванняў польскі ўрад прыгаварыў Налівайку да смяротнай кары. Пакаранне адбылося 11 красавіка 1597 г.— пасля Варшаўскага сейма, які засядаў з 10 лютага да 25 сакавіка.

318 Падолле — частка Украіны па рэках Днестр і Паўднёвы Буг, якую старажытныя грэчаскія гісторыкі называлі Вялікай Скіфіяй. Яна ўключала ў сябе тэрыторыю цяперашняй Тарнопальскай, Хмяльніцкай і значную частку Вінніцкай абласцей.

319 «... у Волошех, кусилсе был и о турецке замки» — у Валахіі спрабаваў нават напасці і на турэцкія замкі.

[320] Маецца на ўвазе Аляксандр-Валянцін Каліноўскі (? — 1620) — падольскі генерал, брацлаўскі і вінніцкі староста, сын польнага кароннага гетмана Марціна Каліноўскага (гл. камент. 317). Загінуў у баі з туркамі пад Цэцорай — румынскім сялом на правым беразе р. Прут (на паўднёвы ўсход ад г. Ясы).

[321] Луцк — старажытны ўкраінскі горад над р. Стыр, цяпер абласны цэнтр Валынскай вобл. Паводле летапісных звестак, вядомы з 1075 г. як умацаваны замак, што вытрымаў паўгадавую аблогу войск польскага караля Баляслава Храбрага. Да сярэдзіны XII ст. з'яўляўся «прыгарадам» Уладзіміра-Валынскага княства. У 1320 г. быў захоплены Гедымінам. У канцы XIV ст. стаў буйным гандлёвым цэнтрам. У 1428 г. сюды з'ехаліся еўрапеўскія манархі, каб дамовіцца пра сумесную барацьбу супраць нашэсця турак. На гэтым з'ездзе Польшчу прадстаўляў кароль Ягайла-Уладзіслаў, Свяшчэнную імперыю — Сігізмунд, Маскоўскае княства — вялікі князь Васілій II, Данію — кароль Эрык Памеранскі, Прусію — гросмейстар (архіепіскап) Тэўтонскага ордэна Штэрнберг, Валахію — ваявода Аляксандр, перакопскіх татараў — іх хан. Прыехалі на гэты з'езд таксама ўпаўнаважаныя паслы ад канстанцінопальскага патрыярха і рымскага папы.

[322] З успамінаў Ф. Еўлашоўскага цяжка зразумець, пра каго з луцкіх епіскапаў тут ідзе гаворка, бо ў Луцку ў той час іх было два: праваслаўны епіскап (з 1585 г.) Кірыла Сямёнавіч Тарлецкі, які потым стаў уніятам, і каталіцкі епіскап Бернард Мацяёўскі, які займаў луцкую епіскапскую кафедру з 1586 да 1600 г. Калі меркаваць па ўжытай мемуарыстам форме, дык, відаць, ён меў на ўвазе Мацяёўскага, бо «біскупам» называлі тады толькі каталіцкіх епіскапаў.

[323] Петрыковічы (зараз Петрыкаў) — старажытны беларускі горад на Палессі, пры ўпадзенні ў Прыпяць Убарці. Заснаванне горада адносіцца да X ст. і, паводле padання, прыпісваецца яцвяжскаму князю, якога ў хрысціянстве называлі Пятром. Тут у свой час існаваў княжацкі замак, які ў 1535 г. быў разбураны, цяпер Петрыкаў з'яўляецца раённым цэнтрам Гомельскай вобл.

[324] Маецца на ўвазе Еранім Юр'евіч Хадкевіч (1560—1617) — сын Юрыя Аляксандравіча і княгіні Соф'і Алелькавіч, які даводзіўся стрыечным братам Яну Ераніму Хадкевічу. Сваю службовую дзейнасць пачаў пры двары Стэфана Баторыя ў 1584 г. У 1588 г. атрымаў пасаду канюшага Вялікага княства Літоўскага, а 24.VI 1593 г. пасля Паўла Паца стаў мсціслаўскім ваяводам. У 1595 г. атрымаў каралеўскі прывілей на пасаду віленскага кашталяна, якую займаў да канца жыцця. 24.IV 1598 г. быў прызначаны старостам і генеральным адміністратарам Брэсцка-Куяўскай каралеўскай аканоміі, якую пасля яго смерці кароль перадаў канцлеру Льву Сапегу. Разам са сваімі стрыечнымі пляменнікамі Янам Каролем Хадкевічам, гетманам Вялікага княства Літоўскага і Аляксандрам Хадкевічам, трокскім ваяводам, Еранім Юр'евіч Хадкевіч служыў каралю Сігізмунду III Вазе, прымаў удзел у падаўленні шляхецкага мяцяжу М. Забжыдоўскага і Я. Радзівіла і ў вайне са шведамі. На Варшаўскім сейме 1616 г. быў выбраны камісарам па размежаванню зямель Падляшскага ваяводства, якое з 1569 г. знаходзілася пад юрысдыкцыяй кароннай Польшчы. Па лініі маці Соф'і Юр'еўны Еранім Юр'евіч Хадкевіч даводзіўся пляменнікам слуцкаму князю Юрыю II Юр'евічу (гл. камент. 165), стрыечным братам Юрыю III Юр'евічу і стрыечным дзядзькам яго дачцы Соф'і III Юр'еўне—апош-

няй спадчынніцы слуцкіх князёў, апекуном якой ён з'яўляўся. Вось чаму яго дзеці, пра якіх успамінаў Еўлашоўскі, знаходзіліся ў Слуцку (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 29, 80, 103, 204, 222).

[325] Гаворка ідзе пра Фёдара Скуміна Тышкевіча (?—IV 1618), які сваю дзяржаўную службу пачаў з пасады каралеўскага прыдворнага. Будучы маршалкам каралеўскага двара, у 1568 г. вазіў у Маскву ліст караля Сігізмунда II Аўгуста да цара Івана Грознага. 6.VII 1576 г. атрымаў прызначэнне на пасаду дворнага, г. зн. каралеўскага падскарбія. У 1577 г. зноў ездзіў у Маскву, але на гэты раз ужо як пасол Рэчы Паспалітай. З 1.VI 1586 г. займаў пасаду земскага падскарбія і адначасова з'яўляўся дзяржаўным пісарам Вялікага княства Літоўскага. У тым жа годзе па даручэнню караля Стэфана Баторыя разам з кн. Юрыем Сакалінскім праводзіў рэвізію Полацкага ваяводства. 13.III 1590 г. атрымаў «урад» навагрудскага ваяводы, які займаў да канца жыцця. Апрача таго, з 1581 да 1616 г. быў браслаўскім старостам, з 1581 да 1610 г.— аліцкім старостам, а з 1608 да 1615 г.— гродзенскім, юрборскім і новамысльскім старостам (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 37, 186, 191; Соловьев С. М. История России с древних времен, т. 14, с. 216, 217, 219; Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 136, 358, 377, 378, 382, 494).

[326] Клецк — старажытны беларускі горад, цяпер цэнтр раёна Мінскай вобл. Першыя пісьмовыя звесткі пра Клецк як цэнтр княства, што ўваходзіла ў склад Турава-Пінскай зямлі, адносяцца да 1128 г. З 1142 г. Клецк належаў чарнігаўскаму кн. Святаславу Вольгавічу. У XIII ст. аказаўся пад уладай Літвы. У пачатку XVI ст. горад належаў кн. Фёдару Яраслававічу, а ў сярэдзіне таго ж стагоддзя на правах дзяржаўнай маёмасці перайшоў да жонкі Сігізмунда I Старога каралевы Боны Сфорца. У 1558 г. Клецк стаў адным з уладанняў Радзівілаў, якія ў 1586 г. стварылі сваю ардынацыю. У 1560—1562 гг. тут жыў выдатны дзеяч Рэфармацыі, пісьменнік-публіцыст Сымон Будны, які ў 1562 г. выдаў у Нясвіжы на беларускай мове дзве кнігі — «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (апошняя з іх да нашага часу не захавалася).

[327] Капыль — старажытнае беларускае паселішча, у 125 км на паўднёвы захад ад Мінска; цяпер гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Мінскай вобл. Першыя летапісныя звесткі пра Капыль адносяцца да 1274 г. У 1395 г. быў пад уладай літоўскага кн. Уладзіміра Альгердавіча. На працягу XV—XVI стст. належаў яго нашчадкам — князям Алелькавічам. У 1612 г. як пасаг Соф'і III Юр'еўны ўвайшоў ва ўладанні Радзівілаў, якім належаў да 1832 г. Пачынаючы з 1652 г. Капыль меў Магдэбургскае права і ўласны герб.

[328] Гаворка ідзе пра Крыштофа Радзівіла Перуна (гл. камент. 189).

[329] «...з Клецка зэбрани панове куситьсе мели онь у Слуцку» — паны, сабраўшыся ў Клецку, мелі намер уступіць з ім (Налівайкам) у бой у Слуцку.

[330] Амговічы — старажытная беларуская вёска. Як уладанне кн. Уладзіміра Альгердавіча вядома ўжо з XIV ст. Знаходзіцца над Ніжняй Вясейкай (левы прыток Случы), у 20 км на паўночны ўсход ад Слуцка і ў 3 км ад магістралі Масква — Слуцк — Брэст. Цяпер цэнтр сельсавета ў Слуцкім р-не Мінскай вобл.

[331] Магілёў — старажытны беларускі горад на Дняпры. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1267 г. У XIV ст. аказаўся пад уладай Вялікага княства Літоўскага. У 1561 г. атрымаў права на гарадское кіраванне (войтаўства). У студзені 1577 г. быў надзелены

Магдэбургскім правам і ўласным гербам. На працягу XVI—XVII стст. часта быў арэнай ваенных сутычак. З 1616 да 1773 г. тут існавала брацкая друкарня, у якой у свой час працаваў Спірыдон Собаль.

332 Звестак пра Мікалая Буйвіда, якому Еранім Юр'евіч Хадкевіч, Фёдар Скумін і Крыштоф Радзівіл Пярун даручылі пагоню за Севярынам Налівайкам у час яго адступлення з Магілёва, сабраць не ўдалося.

333 Рагачоў — старажытны беларускі горад на Дняпры пры ўпадзенні ў яго Друці. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1142 г. З канца XIII ст. уваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага. Да XVI ст. належаў пінскім князям. Паводле духоўнага завяшчання апошніх іх нашчадкаў, у 1509 г. перайшоў у каралеўскае ўладанне Сігізмунда I Старога, а потым яго сына Сігізмунда II Аўгуста. Як пагранічны з рускай дзяржавай горад Рагачоў на працягу XVI—XVII стст. часта з'яўляўся арэнай ваенных дзеянняў. У канцы XVI ст. у яго ваколіцах дзейнічалі казацка-сялянскія паўстанцкія атрады Налівайкі і Дубіны.

334 «...за якимись практыками, припадл знову до Петрыкович» — па нейкіх невядомых прычынах падышоў зноў да Петрыкава.

335 Маецца на ўвазе Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка (гл. камент. 72).

336 Маецца на ўвазе Фёдар Скумін Тышкевіч (гл. камент. 325).

337 Шацк — вёска на р. Шаць (правы прыток Пцічы), цяпер цэнтр сельсавета ў Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. (па дарозе з Узды ў Мар'іну Горку).

338 «Там жа и наши с Копыля ехали». Пад «нашымі» Еўлашоўскі меў тут на ўвазе сваіх землякоў з Навагрудскага ваяводства, а таксама тых паноў, службовыя даручэнні якіх ён выконваў як падсудак.

339 Маецца на ўвазе Давыд-Гарадок — старажытны беларускі горад на правым беразе Гарыні (прыток Прыпяці), цяпер гарадскі пасёлак і рачная прыстань у Столінскім р-не Брэсцкай вобл. (каля 35 км на паўночны ўсход ад Століна). Заснаванне яго, паводле падання, прыпісваецца яцвяжскаму князю, які пры хрышчэнні атрымаў імя Давыда. Першыя пісьмовыя звесткі пра горад адносяцца да канца XIV ст., калі ён быў уласнасцю вялікіх князёў літоўскіх. З 1523 г. Давыд-Гарадок з'яўляўся дзяржаўным уладаннем каралевы Боны Сфорца, а ў 1551 г. перайшоў да Радзівілаў.

340 Высоцк — населены пункт на левым беразе Гарыні, цяпер у Дубровіцкім р-не Ровенскай вобл. (каля 15 км ад граніцы з Столінскім р-нам Брэсцкай вобл.). У старажытнасці на гэтым месцы, якое амываецца водамі Гарыні, Баламуткі і Серата, існаваў г. Вышгарад. У часы Вялікага княства Літоўскага належаў кн. Юрыю Гальшанскаму. У сярэдзіне XVI ст. перайшоў па спадчыне да Багдана Васільевіча Саламярэцкага (?—1565). У 1596 г., рухаючыся са сваім войскам з Беларусі на Валынь, Налівайка спустошыў мястэчка разам з яго аколіцамі. У 1630 г. яно было разграблена казакамі на чале з Топчыным і Шульшыным, а ў 1641 г. згарэла ад пажару, у полымі якога загінуў архіў князей Дубровіцкіх і Саламярэцкіх. Апошні нашчадак княжацкага роду Саламярэцкіх Ян Уладзіслаў Саламярэцкі памёр тут у 1640 г. Яго ўдава потым выйшла замуж за пісара Вялікага княства Літоўскага Казіміра Паца. У час нацыянальна-вызваленчай вайны Багдана Хмяльніцкага, у 1654 г., татары зруйнавалі Высоцк і знішчылі ўсіх яго жыхароў.

[341] Рыгор Лабада (?—VI 1596) — у 90-я гады XVI ст. быў гетманам запарожскіх казакоў. З'яўляючыся ўладальнікам с. Сошнікі на Кіеўшчыне і багатай рухомай маёмасці, Лабада выражаў інтарэсы заможнай часткі рэестравага запарожскага казацтва. У 1594—1595 гг. быў удзельнікам ваенных паходаў у Малдавію супраць татара-турэцкіх захопнікаў. У час паўстання Севярына Налівайкі займаў кампрамісна-згодніцкую пазіцыю ў дачыненні да ўрада Рэчы Паспалітай. У чэрвені 1596 г., калі войска паўстанцаў было аблажана за Сулой непадалёку ад Лубнаў арміяй кароннага гетмана Станіслава Жулкеўскага, Лабада ўступіў у тайныя перагаворы з ворагам. Аднак, западозраны ў здрадзе, быў забіты казакамі на адной з казацкіх нарад.

[342] Васіль Зянкевіч — відаць, сваяк ляхавіцкага пісара Фёдара Зянкевіча (гл. камент. 238), каралеўскі маршалак, пэўны час займаў пасаду суддзі земскага навагрудскага суда, у 1588 г. стаў павятовым маршалкам навагрудскай шляхты, неаднаразова выбіраўся паслом на сеймы Рэчы Паспалітай, у 1589 г.— паслом ад літоўскіх саслоўяў да караля Сігізмунда III Вазы. З'яўляўся пасрэднікам у багаслоўскім дыспуце ксяндза Сміглецкага з новахрышчэнцамі ў Навагрудку.

[343] Пра Падароўскага гл. камент. 303.

[344] «...на роки новэ громничнэ» — на новую, лютаўскую сесію суда.

[345] Пры адсутнасці імя цяжка сказаць, пра каго з Корсакаў тут ідзе гаворка. Гэты шляхецкі род быў вялікі і вядомы ў Вялікім княстве Літоўскім яшчэ з XIV ст. У канцы XVI ст. Корсакі перайшлі ў каталіцызм, у XVII ст. займалі дзяржаўныя пасады старостаў, кашталянаў, ваяводаў на ўсёй падуладнай княству тэрыторыі. Ад назваў сваіх маёнткаў атрымлівалі дадатковыя прозвішчы. А таму ўстанавіць, хто з Корсакаў быў жанаты на сястры навагрудскага земскага суддзі Васіля Зянкевіча і па жонцы даводзіўся шваграм Альбрэхту Бруханскаму, не ўяўляецца магчымым.

[346] Пасля гэтага слова ў рукапісе закрэслены словы: «зэбравши до себе».

[347—349] Звестак пра Віроўскага, Лахоўскага і Багушэвіча, якія ў той час былі прадстаўнікамі навагрудскага земскага суда, сабраць не ўдалося.

[350] Каін — біблейскі персанаж, сын Адама і Евы, першых людзей на зямлі. Біблія называе Каіна першым забойцам на зямлі, бо ён забіў свайго брата Авеля, кіруючыся пачуццём зайздрасці. Адсюль імя Каіна стала намінальным для ўсіх братазабойцаў. У гэтым сэнсе яно ўжыта і Фёдарам Еўлашоўскім.

[351] «И прето, чогом не рад мовил, мусялэм рэц,— если розумить не хцон моей пригоде, абых их то самых поткало»—і таму, чаго не меў намеру гаварыць, я мусіў сказаць, што калі яны не хочуць зразумець майго гора, дык каб іх саміх тое самае напаткала.

[352] «...же ми улжэ жалю Лыцыниуш» — што мне аблегчыць жаль Ліцыній.

Называючы гэта імя, Еўлашоўскі меў на ўвазе славутага арыяніна Яна Ліцынія Намыслоўскага, які быў родам з Сілезіі і з'яўляўся рэктарам школ віленскага кашталяна Яна Кішкі (?—26.VII 1592). З 1585 г. працаваў у Іўі, а з 1593 г. быў пастарам у Навагрудку, але ўпаў у алкагалізм і таму ў 1615 г. быў адхілены ад абавязкаў. Неўзабаве там жа памёр. Для свайго часу Намыслоўскі быў

добра адукаваным чалавекам: валодаў многімі мовамі, праславіўся ў дыспутах, якія праводзіў з езуітамі і кальвіністамі, напісаў некалькі палемічных твораў на лацінскай і польскай мовах супраць каталіцкага і кальвінісцкага веравызнанняў. З яго палемічных твораў найбольш вядомы: «Anatomia i Oekonomia człowieka chrześciańskiego» (Wilno, 1592); «Disputatio novogrodnensis cum Martino Smiglecio jesuita habita a 1594 conscripta per Jezephum Domaniewski»; польскі варыянт таго ж твора пад назвай: «Opisanie dysputacyej nowogrodzkiej, ktorą miał ks. Marcin Smiglecki z Janem Licyniuszem, ministrzem nowokrzeszczeńskim, dnia 24 i 25 januarii 1594 г.» (Wilno, 1594); «Katałysis, to iest skaza tarczej ks. Grzegorza Zarkowieckiego duchowną niesłusznie nazwanej». Апошні быў надрукаваны ў 1598 г. «коштам пачцівага мужа ў доме панскім пана Грыгорыя Вілянта». Як адзначана ў прадмове да гэтай кнігі, аўтар пісаў яе, «будучы ў гасцях у Пакунаве на Падлессі, супраць прыхільнікаў касцёла гельвецкага, які браў пад абарону арыян». Намыслоўскі хацеў таксама выдаць «Postylę polską podług Sandiusza» (тлумачэнне Евангелля, або зборник польскіх казанняў, якія тлумачаць Евангелле, паводле Сандзіуша), але гэты твор застаўся невядомы.

353 Саламон (1020—980 да н. э.) — трэці цар старажытнай Іудзеі, які, паводле Біблії, праславіўся сваёй мудрасцю і міралюбствам. Быў другім сынам Вірсавіі і цара Давыда-песнапеўцы, якому царква прыпісвае аўтарства Псалтыра. Царква лічыць Саламона аўтарам трох кніг Біблії — «Прытчаў», «Эклезіяста» і «Песні Песняў».

354 «... былэм в зафицэню шесть кгодин зекгаровых» — быў я ў захапленні (трэба разумець — у трызненні) шэсць гадзін па гадзінніку.

355 «...ехалэм был до Новгородка для роков марковских» — ехаў у Навагрудак на маркаўскія судовыя пасяджэнні. Пачыналася гэта судовая сесія напярэдадні дня св. Марка-евангеліста, якога хрысціянская царква ўшаноўвала 25 красавіка.

356 Валеўка — вёска, цяпер цэнтр сельсавета ў Навагрудскім р-не Гродзенскай вобл. Знаходзіцца на скрыжаванні дарог з Баранавіч у Навагрудак і з Наваельні ў Карэлічы.

357 Дадатковых звестак пра Рыгора Няміру, шляхціца Навагрудскага ваяводства, знайсці не ўдалося.

358 «И в том похибивши листку своего» — і ён не выканаў таго, што пісаў у лісце сваім.

359 «А я юж не корыстечи в том его седеню» — а я ўжо не маю ніякай карысці з таго яго сядзення.

360 Звестак пра Магільніцкага, які быў жанаты на дачцы Альбрэхта Бруханскага, знайсці не ўдалося.

361 Тут, відаць, гаворка ідзе пра Нікадзіма Францішка Касакоўскага (каля 1556—1609) — ротмістра каралеўскага войска, які ў 1578 г. атрымаў тытул двараніна ад караля Стэфана Баторыя. Быў паслом да татарскага хана Магмет Гірэя, служыў у атрадах каралеўскіх капейнікаў. У Лівонскую вайну пры панаванні С. Баторыя ваяваў пад Полацкам, удзельнічаў у бітве пад Гданскам. У 1600—1601 гг. у званні ротмістра казацкай харугвы Касакоўскі ваяваў пад Тарту — спачатку пад камандаваннем Яна Замойскага, а потым Яна Караля Хадкевіча. У час ваеннай кампаніі 1604—

1605 гг. выставіў уласным коштам харугву капейнікаў, якой сам і камандаваў у войску Яна Кароля Хадкевіча. Праславіўся ў бітве пад Кірхгольмам.

[362] «Не вем, чому ме подсудок зтонд выправуе, вшак тэраз зима» — я не ведаю, чаму мяне падсудак выпраўляе з гэтага месца, бо цяпер усё ж зіма.

[363] Маецца на ўвазе кн. Януш Аляксандравіч Порыцкі (?—1614) — іберпольскі староста, дэпутат на сейм 1607 г., у час якога ён з'яўляўся ўжо ротмістрам і прыдворным караля Сігізмунда III Вазы. Са сваёй харугвай прымаў удзел у маскоўскім паходзе таго ж караля і пэўны час знаходзіўся ў Маскве. Памёр у 1614 г. у чыне гарадоцкага старосты (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, с. 395).

[364] Здетэль — старапольская назва Дзятлава, цяпер гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Гродзенскай вобл. над р. Дзятлаўка (левы прыток Нёмана), па дарозе са Слоніма ў Вільнюс. У XV ст. тут было досыць буйное памесце, якое ў 1498 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр падараваў кн. Канстанціну Іванавічу Астрожскаму за яго ваенную службу гетманам Вялікага княства Літоўскага з правам заснавання тут горада. У сярэдзіне XVII ст. мястэчка ўваходзіла ў Слонімскі павет, было ўладаннем Сапегаў, ад іх як пасаг кн. Ганны Марыі Палубенскай (унучкі Казіміра Сапегі) перайшло да падканцлера Дамініка Радзівіла, а ад яго да надворнага маршалка Станіслава Паца. У 1831 г. з прычыны адсутнасці спадчыннікаў адышло ў царскую казну.

[365] Самуіл Валовіч (?—1626) — з 1603 г. быў старостам моўчадскім. Пасля смерці Яна Палубенскага 6.III 1608 г. атрымаў пасаду навагрудскага кашталяна і займаў яе да канца жыцця. Яго пераемнікам быў Васіль Капец (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 120).

[366] Як ужо гаварылася, дзень св. Марка-евангеліста прыпадае ў святцах на 25 красавіка.

[367] Звестак пра Марка Палонскага знайсці не ўдалося.

[368] «Мая 8, на дзень вьступеня панского» — у дзень каталіцкага свята, якое ў праваслаўных называецца ўшэсцем.

[369] Гаворка ідзе пра дачку Станіслава Петрашэўскага, якая была замужам за сынам мемуарыста Ярошам Еўлашоўскім.

[370] «Было дите над подобенство дети вшитких ростропнэ» — было дзіця ў адрозненне ад іншых дзяцей кемлівае.

[371] Цяжка сказаць, хто з князёў мантуанскіх маецца тут на ўвазе.

[372] Неапаль — старажытны горад у Італіі, заснаваны ў IV ст. да н. э. грэкамі. З'яўляўся сталіцай каралеўства так званых Дзвюх Сіцылій. З 1504 да 1701 г. гэта каралеўства знаходзілася пад уладай Іспаніі і кіравалася яе віцэ-каралямі.

[373] «Якон там велкон учтивость неаполчицы указовали княжати» — якую там вялікую пачцівасць жыхары Неапаля праяўлялі ў дачыненні да князя.

[374] «...хоть там иншых з моря мыто брало» — гаворка ідзе пра марскую хваробу, пры якой хворага трасе, нібы ў ліхаманцы.

[375] Маецца на ўвазе Соф'я Мялецкая (гл. камент. 280).

[376] Дэрпт (цяпер Тарту) — адзін са старажытных гарадоў у Эстоніі. Заснаваў яго ў 1030 г. князь Яраслаў Мудры, назваўшы Юр'евам. У 1224 г. нямецкія рыцары авалодалі горадам і перайменавалі ў Дэрпт. Меў сваё незалежнае епіскапства. З 1559 да 1582 г.

знаходзіўся пад уладай Івана Грознага, потым перайшоў пад уладу Рэчы Паспалітай, ад яе да Швецыі (1600—1603). Потым такі пераход паўтарыўся. Нарэшце ўвайшоў у склад Расіі.

[377] Рэвель (цяпер Талін)—старажытны эстонскі горад на беразе Фінскага заліва. У рускіх летапісах называўся Калыванем. Датай заснавання горада лічыцца 1219 г., а яго заснавальнікам — дацкі кароль Вальдэмар. З 1228 г. на працягу дзесяці год горад знаходзіўся пад уладай Ордэна мечаносцаў; пасля па дагавору адышоў да Даніі, у 1285 г. увайшоў у Ганзейскі саюз. З 1288 да 1551 г. тут зноў гаспадарыў Ордэн мечаносцаў. Пасля іх горад знаходзіўся пад уладай Швецыі, у 1700 г. увайшоў у склад Расіі.

[378] Нарва — старажытны горад у цяперашняй Ленінградскай вобл. Паводле нямецкіх хронік, быў заснаваны датчанамі каля 1223 г. і названы Ругадзівам. Пад іх уладай горад знаходзіўся да 1357 г., потым да 1558 г.— пад уладай Ордэна мечаносцаў, пасля — у складзе Расіі. У 1581 г., у час Лівонскай вайны, шведскі генерал Якаб Понтус Дэлягардзі (1583—1652) захапіў горад, і толькі 9.VIII 1704 г. Пётр I зноў вярнуў яго Расіі.

[379] Дзмітрый Палубенскі (?—13.II 1603) — збяднелы князь, з 1597 г. уладальнік маёнтка Зімавішкі ў тагачасным Мазырскім павеце. Дзмітрый Палубенскі належаў да слонімскіх князёў, радавым гняздом якіх быў Дзярэчын. Пасля сябе гэты князь пакінуў двух сыноў — Аляксандра, які ў 1616 г. загінуў на вайне ў Малдавіі, і Івана, жанатага з Гальшкай (Лізаветай) Падбярэскай (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy, c. 382).

[380] Міхал Францкевіч (?—12.III 1603) даслужыўся да пасады полацкага падкаморыя. Быў жанаты з сястрой Льва Сапегі Ганнай Іванаўнай. Іх сын Ян Францкевіч займаў пасаду харунжага Лідскага павета.

[381] Пра Яна Адахоўскага гл. камент. 262.

[382] Пра Паўла Віроўскага і Яна Высоцкага гл. камент. 268—269.

[383] Пра Мікалая Падароўскага гл. камент. 303.

[384] Дадатковых звестак пра гэту асобу выявіць не ўдалося.

[385] «... брат мой милый». Пратэстанты-евангелісты называлі сябе братамі па веры. Таму Еўлашоўскі так звяртаўся да нясвіжскага старосты В. Першкі, хоць па «крыві» гэта быў зусім чужы яму чалавек.

[386] Маецца на ўвазе граф Габрыель Танчынскі (?—1617), які спачатку быў каронным мечнікам, а потым стаў люблінскім ваяводам. Яго шлюб з кн. Лізаветай (Гальшкай) Радзівіл, дачкой Мікалая Радзівіла Сіроткі і Яўфім'і Вішнявецкай, адбыўся 25.VIII 1603 г. (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 186).

[387] Тэнчын — назва замка і гары ў Кракаўскім ваяводстве, быў родавым гняздом графаў Тапорчыкаў-Танчынскіх.

[388] Пра Крыштофа Радзівіла Перуна гл. камент. 187. За гарачую і моцную падтрымку, якую ён па-апякунску аказваў пратэстантам-евангелістам, Еўлашоўскі называў яго «стлупом панства Литовского».

[389] Ласосна—маёнтак, які належаў Лізавеце Радзівіл (гл. камент. 87). Сваю назву атрымаў ад ракі Ласосна, якая пачатак свой бярэ на тэрыторыі сучаснай Польшчы і ўпадае ў Нёман.

[390] Маецца на ўвазе Лізавета Радзівіл, жонка Льва Сапегі.

[391] Гаворка ідзе пра Яна Мікалая Мікалаевіча Нарушэвіча

(?—XI 1603) — сына літоўскага падскарбія Мікалая Паўлавіча Нарушэвіча і дачкі літоўскага канюшага Барбары Кунцэвіч. Сваю службовую дзейнасць Ян Нарушэвіч пачаў 23.VII 1582 г. з пасады лоўчага, якая яму дасталася пасля Мікалая Радзівіла, прызначанага тады навагрудскім ваяводам, а 10.II 1588 г. Нарушэвіч стаў жамойцкім кашталянам. На гэтай сенатарскай пасадзе ён быў пераемнікам Мікалая Тальвоша, які сам добраахвотна адмовіўся ад Трокскай кашталяніі. Ян Нарушэвіч з'яўляўся таксама ўспольскім і пеняньскім старостам. У 1591 г. быў выбраны дэпутатам на фіскальны літоўскі трыбунал. Двойчы з'яўляўся камісарам караля — у 1589 г. пры перагаворах паміж Сігізмундам III Вазай і яго канкурэнтам на трон Рэчы Паспалітай аўстрыйскім эрцгерцагам Максіміляна, а ў 1598 г.— пры вызначэнні граніц. У час вайны са шведамі Ян Нарушэвіч выставіў сваім коштам 100 гусараў. Жанаты быў на дачцы пінскага і сокальскага старосты кн. Марыі Збаражскай (?—1606).

392 Аляксандр Канстанцінавіч Астрожскі (1571—13.XII 1603) — князь, малодшы сын валынскага магната К. К. Астрожскага. З 6.V 1593 г. валынскі ваявода. На Брэсцкім царкоўным сінодзе 1596 г. разам з бацькам з'яўляўся апорай для той часткі праваслаўнага духавенства і шляхты, якая не прымала царкоўнай уніі з Ватыканам.

393 Краснае — населены пункт на Падоллі (каля 40 км на паўднёвы захад ад Вінніцы). У XV ст. князі Астрожскія мелі тут свой умацаваны замак, каб абараняцца ад татараў. У 1651 г. у Красным разам з 3000 казакоў загінуў гетман Нячай.

394 Беньямін Чаркоўскі (?—2.I 1604) — відаць, нейкі родзіч Валянціна Чаркоўскага (гл. камент. 289).

395 Льнянка (Льнянікі) — фальварак у тагачасным Навагрудскім ваяводстве, знаходзіўся ў чатырох кіламетрах ад мястэчка Гарадзішча на прытоку р. Сервеч. Цяпер гэта тэрыторыя Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.

396 Рыгор Уніхоўскі — евангеліст, сын Рыгора Уніхоўскага, зборшчыка земскіх падаткаў на Навагрудчыне (гл. камент. 293). Быў удзельнікам польскай інтэрвенцыі ў Расію. Як жывы ўпамінаецца ў 1614 г.

397 Гэтым сказам амаль на сярэдзіне старонкі дайшоўшага да нашых дзён рукапісу абрываецца тэкст успамінаў Фёдара Міхайлавіча Еўлашоўскага. Мемуарыст падвёў рысу пад пададзеным ім марцыролагам шляхецкіх імён за 1603 г., калі яму асабіста, паводле яго сцверджання, нічога больш невядома было, «што бы писаня годно было», апрача рэчаў «жалобных», бо тады ўвосень з прычыны страшэннай эпідэміі «морового поветря», якая ахапіла сталіцу Вялікага княства Літоўскага Вільню, г. Навагрудак і ўсё Навагрудскае ваяводства, памерла шмат «высакародных» людзей. Паміралі яны сем'ямі, і пералік іх ён даў толькі часткова.

Зараз цяжка сказаць, ці мелі ўспаміны Ф. М. Еўлашоўскага свой працяг пасля апошняга ў іх запісу за 2 студзеня 1604 г.

З пададзеных намі архіўных дакументаў (с. 22) і звестак Мацея Сякерскага (с. 65) вынікае, што навагрудскі падсудак жыў яшчэ, прынамсі, да 1616 г. А гэта быў час, калі ў Рэчы Паспалітай адбываліся досыць значныя падзеі грамадска-палітычнага жыцця. Такімі падзеямі былі шляхецкі мяцеж Мікалая Забжыдоўскага і Януша Радзівіла, ваенная інтэрвенцыя караля Сігізмунда III Вазы пад Смаленск 1609 г. і ваенныя канфедэрацыі ўдзельнікаў гэтай

інтэрвенцыі і іншых валанцёраў, якія служылі самазванцу Лжэдзімітрыю II і ўсвяцкаму старосту Яну Пятру Сапезе. Так што недахопу матэрыялу, вартага ўвагі мемуарыста, не было. Адсюль вынікаюць два праўдападобныя меркаванні: або канец успамінаў Ф. М. Еўлашоўскага, як і іх пачатак, да нашага часу не захаваўся, або мемуарыст знарок спыніў свае запісы, разлічваючы на тое, што далейшыя падзеі грамадска-палітычнага і бытавога жыцця Рэчы Паспалітай пачатку XVII ст. ужо добра вядомы яго нашчадкам, для якіх ён пісаў свае мемуары, бо яны ўжо сталі дарослымі, а паведамляць пра тое, што адбывалася на іх памяці, губляла свой сэнс.

Я, Ян Цадроўскі, нарадзіўся ў адну гадзіну з братам маім, панам Стэфанам Цадроўскім, ад бацькі пана Яна Цадроўскага[1] і маці пані Соф'і Цёлкаўны Камароўскай 3 сакавіка 1617 года ў Пагосце[2] мілі[3] тры за Слуцкам[4].

Бацька, дабрадзей наш, адправіў нас абодвух у 1631 годзе ў Кралевец[5] вывучаць нямецкую мову і навукі ў Кралевецкай акадэміі[6], дзе я неўзабаве зламаў сабе мармуровым сталом галёнку правай нагі і ляжаў, сам сябе лечачы, паўгода.

Для прадаўжэння навукі бацька, дабрадзей наш, паслаў нас абодвух у Кракаўскую акадэмію[7] ў 1635 годзе.

Аддаў мяне бацька, дабрадзей мой, у 1637 годзе на службу да князя ягамосці пана Багуслава Радзівіла[8], у той час вялікага харунжага[9] Вялікага княства Літоўскага, з якім я быў у чужых землях. Наўперад ехалі мы сушаю з Гданска[10] да Шчэціна[11] па Паморскай зямлі[12] і праехалі праз Гальштынскую зямлю[13], гарады гэтыя за Зундам[14], потым на Любек[15] і Гамбург[16] (там каля Рытвега мы напаткалі мужыкоў, якія размаўлялі на мяшаным нямецка-літоўскім дыялекце; сваё паходжанне яны вядуць ад ярулаў, продкаў літоўцаў) аж да Зунда[17], горада дацкага караля, дзе мы бачылі дацкага караля Хрысціяна IV[18]. Адтуль ехалі сушаю да Амстэрдама[19], а грузы ўсе плылі па моры.

Затрымаўся ягамосць князь у Фрызіі[20], іменна ў Гронінгу[21] і ў Франекеры[22], а потым ва Утрэхцкай акадэміі[23], да якой сем гадзін язды ад Амстэрдама.

Выехаўшы адтуль, мы ехалі сушаю да Мідэлбурга[24], а потым морам да Кале[25], французскай крэпасці. Адтуль сушаю дабіраліся да Парыжа, галоўнага горада Францыі. Каралём Францыі тады быў Людвік XIII[26], бацька цяперашняга караля Людвіка XIV[27], які, змовіўшыся з турчынам, губіць сваім бязбожным дагаворам нашу айчызну.

У Парыжы ягамосць князь знаходзіўся месяцаў сем, потым падарожнічаў па ўсёй французскай зямлі аж да італьянскіх граніц, і я з ягамосцем князем быў усюды, а другая моладзь заставалася ў Парыжы.

Вярнуўшыся з французскага падарожжа, ягамосць князь, наведаўшы караля Францыі і паручыўшыся за Яна Казіміра[28], пад той час польскага каралевіча, які быў французскім вязнем, паехаў сушаю аж да Кале, горада і французскай крэпасці над морам.

Адтуль жа праз марскі праліў ён накіраваўся ў

Дуўр[29], англійскі порт, дзе моладзь засталася з усім багажом. А я аж у Лондан, галоўны горад Англіі, ездзіў разам з ягамосцем князем. Там жа ягамосць князь быў у англійскага караля Карла[30], таго, якога потым яго ж падданыя судзілі і галаву яму адсеклі.

З Англіі князь зноў вярнуўся ў Галандыю і жыў ва Утрэхце. Потым ягамосць князь адправіў з Галандыі ў Літву частку моладзі, разам з якой паслаў для нагляду і мяне.

Морам прыплылі мы ў Гданск, а потым на батах[31] у Кралевец, і там перад самым замкам у Кралеўцы (у месцы амаль фатальным для мяне) я быў моцна паранены ў галаву пры сутычцы падпітай моладзі ягамосці князя, а дакладней, Самуіла Стаброўскага, сына Адама Стаброўскага[32], незнаёмым чалавекам — пісарам з замка. Вылечыўшыся з гэтага ранення, я прыехаў да маіх дабрадзеяў бацькоў і заспеў бацьку, дабрадзея майго, ужо хворага, які потым памёр 20 верасня 1640 года ў Айнаровічах[33] (пахаваны ў айнаровіцкай капліцы).

У 1640 г. адправіў мяне ягамосць пан Рэчыцкі[34], староста ўрандоўскі, які ў той час быў аканомам усіх маёнткаў ягамосці князя пана харунжага Вялікага княства Літоўскага, з грашыма да ягамосці князя ў Галандыю. Прыехаўшы ў Гданск, адправіўся да Зунда па моры на новым караблі нейкага Пятра Петэрсона[35], які і сам знаходзіўся на гэтым караблі. Калі мы адправіліся з Зунда ў Галандыю і ўжо мінулі Кільскі мыс, тады плыло ў гэтым флоце, не лічачы двух канвойных, восемдзесят галандскіх купецкіх караблёў. І калі на моры ўзнік моцны шторм, і калі гэты карабель, на якім я быў з часткай нашых людзей, а сярод іх і той пан Пшыпкоўскі[36], які потым стаў падпалкоўнікам пры ягамосці каралю Казіміру адрачэнцу[37] і быў забіты масквіцінамі пад Коўна, відаць, перагружаны збожжам, пачаў жахліва хіліцца на адзін бок, маракі адкрылі зверху палубу карабля і пачалі высыпаць у мора збожжа; але калі вадзяны вал накаціўся на карабель, дык ледзь не заліў яго.

Палубу закрылі зноў і, не маючы магчымасці ўжо плысці далей разам з іншымі караблямі, вывесілі на нашым караблі знак тапельцаў, гэта значыць чорную харугву, якая клікала на ратунак. Але ў такі вялікі шторм кожны думаў пра сябе.

Пайшлі тады ўсе караблі разам з канвойнымі цугам да Амстэрдама, а наш карабель павярнула ветрам назад

да Зунда. І калі мы ўжо набліжаліся да Кільскага мыса, паказалася некалькі караблёў піратаў[38], гэта значыць марскіх разбойнікаў з горада Дзюнкерка[39]. Убачыўшы іх у падзорную трубу, нашы маракі пачалі баяцца за сябе і зноў павярнулі і плылі туды, куды нас вецер нёс. А піраты, ад якіх мы ўцякалі два дні і дзве ночы, але не маглі пазбавіцца, гналіся за намі. Нарэшце на трэці дзень заўважылі нашы ў падзорную трубу бераг сушы, да якой гнаў нас вецер. Потым ён занёс нас між скал і калі пачаў калаціць аб іх карабель, мы ўсе кінуліся ў бот, што быў на караблі, і хутка высадзіліся на ютландскі бераг[40], які належаў дацкай зямлі, а карабель ушчэнт разбіўся. Піраты здалёк абмінулі нас. Потым вандравалі мы пехатою па беразе мора аж да Гальштынскай зямлі, потым наймалі для сябе рамізнікаў да Гамбурга* і Амстэрдама.

Грошы, што былі ў залатой валюце, у якой вёз я іх ягамосцю князю, вынес я на сабе, а на другія быў вексель, выдадзены ў Гданску. Іншыя рэчы, якія вёз я для ягамосці князя, а іменна шацёр турэцкі, віно венгерскае, з-за якога нас ютландцы ледзь не пазабівалі, калі мора выкінула бочку на бераг, усе пацанулі.

У 1642 годзе мяне зноў адправіў ягамосць князь з Галандыі ў Літву.

У 1643 годзе даў мне ягамосць князь пасаду ў Старой Вёсцы[41] на Падляшшы[42], міль дванаццаць ад Варшавы.

16 лютага 1648 года ажаніўся з паненкай Марыянай Швайкоўскай, дачкою навагрудскага харунжага Самуіла Швайкоўскага[43] і Ядвігі Самсонаўны Падбярэскай-Швайкоўскай. Вяселле было ў Мінску. Праз колькі дзён пасля маёй жаніцьбы выйшла замуж і маці, дабрадзейка мая, за ягамосця пана Філона Тышкевіча[44], мінскага земскага суддзю. Але нядоўга, толькі некалькі тыдняў, жыў з маёй маткай ягамосць пан суддзя, бо неўзабаве паехаў з Айнаровіч у Лагойск[45], маёнтак свой, упаў у нейкую меланхолію, пашкодзіў сябе шабляю, хоць і не страшна, аднак ад гэтага пашкоджання памёр. Усе людзі трымаліся думкі, што чары пэўных жанчын былі прычынаю гэтай смерці ягамосці. Судзі яго сам бог.

5 мая 1649 г. у Старой Вёсцы на Падляшшы памерла жонка мая Марыяна Швайкоўская бяздзетнаю. Пахава-

* У гэтым месцы ў тэксце прыпіска: «І за Гамбургам ёсць людзі, якія размаўляюць па-ярульску».

на яна ў вянгроўскім зборы[46] там жа, на Падляшшы, у горадзе ягамосці князя пана Багуслава Радзівіла, канюшага[47] Вялікага княства Літоўскага, 2 верасня 1649 г.

30 кастрычніка 1650 года ажаніўся з паненкай Ганнай Мірскай, дачкою стражніка[48] Вялікага княства Літоўскага і Кацярыны Капушчэўскай, дачкі мінскага стольніка. Вяселле было ў Капылі[49], горадзе і маёнтку ягамосці князя канюшага Вялікага княства Літоўскага.

12 верасня 1651 года а першай гадзіне пасля поўдня ў Атрубку[50] нарадзіўся мой сын першародны. Хрысціў яго ксёндз Якуб Хялхоўскі[51], прапаведнік мінскага збора. Імя яму далі дзеда яго, ягамосці пана стражніка Вялікага княства Літоўскага Рыгора. Сведкамі пры хрышчэнні былі брат мой, пан Стэфан Цадроўскі[52] са старэйшым сынам сваім Янам[53]; кумою была яемосць пані Алена Воўкава, жонка Станіслава Залескага[54].

12 лютага 1652 года ў Смалявічах[55] жонка мая ад перапуду скінула сына на трэцім месяцы цяжарнасці.

7 верасня 1652 года ў Атрубку зноў мая жонка скінула сына, ужо жывога, але не пражыў ён і паўчвэрці гадзіны.

24 кастрычніка 1653 года а сёмай гадзіне пасля палудня нарадзілася мне ў Айнаровічах дачка. Хрысціў яе ксёндз Якуб Хялхоўскі, прапаведнік мінскага збора, 30 кастрычніка на святым хрышчэнні далі імя ёй Кацярына. Сведкамі пры хрышчэнні былі брат мой пан Тамаш Цадроўскі[56], а кумою матка, дабрадзейка мая, з паняй жонкай брата майго Стэфана Цадроўскага.

29 ліпеня 1655 года ў Прамежы[57], маёнтку яемосці пані Раіны Тэафілі Мірскай Пакошавай, сястры маёй жонкі, калі мы ратаваліся там ад маскоўскага войска, нарадзіла мне жонка мая дачку паміж дзесятай і адзінаццатай гадзінамі перад поўднем, якую назаўтра ж ахрысціў ксёндз Якуб Хялхоўскі, прапаведнік у той час прамескага збора. На святым хрышчэнні далі імя ёй Тэафіля. Сведкамі пры хрышчэнні былі брат мой пан Тамаш Цадроўскі з яемосцю паняй Пакошавай і яемосцю паненкай Соф'яй Мірскай, дачкою стражніка Вялікага княства Літоўскага.

8 жніўня 1655 г. войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча[58] авалодала Вільняй, нам давялося тады падавацца на Жмудзь[59], дзе пад той час заступніцтвам ягамосці караля шведскага[60] ганарыліся.

У тым жа годзе 30 лістапада ў Шаўлях[61], дзе жылі

мы, уцёкшы ад Масквы, памерла з воспы любімая дачка мая Кацярына. Пахавана 9 снежня на цвінтары Краснатоліскага збора ў чатырох мілях ад Шаўляў, дзе прападнікам у той час быў ксёндз Станіслаў Мінкевіч[62]. Казанне пахавальнае прамовіў ксёндз Давыд Рэдэр[63]. Тэкст яго быў паводле Прытчаў Саламонавых[64], раздзелу 12, верша 5: «Бо чалавек ідзе ў дом свой вечны».

21 сакавіка 1656 года, будучы на выгнанні ў Шаўлях, жонка мая скінула дачку. Плод быў нежывы з прычыны гарачкі і ліхаманкі.

У красавіку 1656 года пачала Жмудзь узнімаць голас супраць шведаў, пасля чаго я разам з жонкаю і дзеткамі сваімі выехаў са Жмудзі дадому, куды прыехаў 28 мая. І ледзь толькі прыехаў, пачаў араць пад яравыя і агароды. Нічога я не пасеяў у гэтым годзе, толькі квартаў[65] 9 гароху, які ў Мінску купіў. Намалаціў яго болей за паўтары бочкі[66].

21 сакавіка 1656 года дапусціў пан бог у Мінскім ваяводстве на розных месцах і ў доме маім страшэнную колькасць палявых мышэй, якія спачатку на полі, а потым у пунях[67] і свірнах[68] і на азяродах[69] страшэнна псавалі збожжа. Пасля гэтага наканавання божага настаў вялікі голад[70], які працягваўся аж да жніва 1657 года так, што галодныя людзі катоў, сабак і ўсякую здыхляціну елі, а пад канец людзей рэзалі і целы іх елі, нават вылежацца ў дамавінах людскім трупам не давалі, чаго я сам, няшчасны чалавек, сваімі вачыма нагледзеўся. Гэта бедства лютавала ў Беларусі і ў Інфляндыі.

У 1656 годзе, не памятаю якога дня, накіравала мяне супраць маёй волі Мінскае ваяводства з чалабітнаю[71] да маскоўскага цара. Патрабаваннямі гэтай чалабітнай было: па-першае, каб нас мінскі ваявода, а ім пад той час быў Фёдар Юр'евіч Арсеньеў[72], не судзіў паводле пячатак. А сутнасць таго заключалася ў тым, што, калі хто абвінаваціць шляхціца перад ваяводаю, дык, выціснуўшы на воску пячатку, пасылалі яму яе праз маскаля, а калі шляхціц адразу ж не з'яўляўся ўслед сам, яго вязалі і прыводзілі.

Па-другое, каб ваявода не прымушаў нас, шляхту, будаваць і сыпаць замак у Мінску.

Заспеў я тады ягамосця цара маскоўскага ў Друі[73] над ракою Дзвіною[74], які накіроўваўся з вялікім войскам пад Рыгу[75], бо ўжо са шведамі ў варожасці быў. І там я разам з мноствам паслоў ад розных ваяводстваў і па-

ветаў княства Літоўскага цалаваў руку ягамосці цара, які ў карэце ўжо сядзеў. Слухаў маю гаворку ягамосць цар, а потым загадаў свайму думнаму дзяку Забароўскаму[76] прыняць чалабітную. Адправілі мяне пад старую Рыгу досыць міла, бо ягамосць цар дазволіў нам па-ранейшаму, гэта значыць судзіць саміх сябе нашым правам, і вызваліў усю шляхту ад судоў ваяводы, не загадаў нам, шляхце, ні вал насыпаць, ні замак у Мінску будаваць, на што я прывёз ваяводзе граматы ад ягамосці цара.

Не дало мне тады нічога ваяводства за маю працу, толькі 60 злотых. Зборшчыкам дазволенага мне падатку гэтага быў брат мой, пан Аляксандр Цадроўскі[77]. А што я выцерпеў і затраціў на гэтую дарогу, богу ўсявышняму вядома, ад яго я толькі чакаю ўзнагароды.

14 сакавіка 1657 года знасілі мы неймаверныя рабункі і наезды нашых уласных сялян, палкоўнікам якіх быў гультай Дзяніс Мурашка[78]. Ён звіў сабе ваеннае гняздо ў Камені[79]. Гэты бязбожны чалавек і яго гультаі не толькі сялян і падданых нашых падбухторвалі, але і чэлядзь, а іншых нават у свой рээстр[80] запісвалі і былі яны важнейшай прычынаю цяжкага голаду і ўцёкаў сялян. Аднак уціхамірыліся яны потым, калі іх разграмілі ў Прусавічах[81], дзе было забіта некалькі і маіх падданых, якія, было, пагультаіліся.

15 снежня 1657 года нарадзіла жонка мая ў Атрубку сына, але неданошанага некалькі тыдняў. Хрысціў яго плешчаніцкі святар праз некалькі гадзін пасля нараджэння; назвалі яго Самуілам. Памерла дзіцятка гэтае ў той жа дзень а першай гадзіне ночы; пахавалі яго ў айнароўскай капліцы ў нагах дзеда[82].

Восенню 1658 года, пасля замаразкаў, калі Далгарукі[83] паланіў пад Вільняй ягамосця пана Гансеўскага[84], польнага гетмана[85] Вялікага княства Літоўскага, сталі мы ўсім Мінскім ваяводствам у Мінску пад камандаю палкоўніка нашага ягамосці пана Юношы Кароля Падоскага[86], які хацеў быў зрабіць паслугу Рэчы Паспалітай і хітрасцю апярэдзіць у Мінску масквіцян, што ўмацаваліся былі ва уніяцкай царкве. Але масквіцяне заўважылі.

Мы ж тады, ратуючы жонак і дзяцей нашых ад маскоўскага войска, разбегліся па сваіх дамах. Затым, сабраўшы каля дваццаці чалавек шляхты і столькі ж плешчанскіх сялян, разбілі мы ў Камені Харэцкім[87] болей за трыццаць чалавек адборнай маскоўскай пяхоты, якія

адлучыліся ад войска Далгарукага для рабунку і спажывы ў наш кут. А сам Далгарукі ішоў на Лагойск і суправаджаў ягамосця пана Гансеўскага.

Пасля знішчэння маскоўскай пяхоты ў Камені я ўжо не мог больш сядзець дома з-за пагрозы з Барысава[88], адкуль масквіцяне раз-пораз нападалі і пагражалі мне. Тады я, пакінуўшы дом, выехаў з жонкаю і дзецьмі ў Слуцк да іхмосцяў паноў бацькоў маёй жонкі.

Толькі ў студзені 1658 года ледзь сунялося заразнае паветра, якое пачалося ў кастрычніку 1657 года і ў час якога звер наеўся людскіх трупаў у волю.

6 сакавіка 1659 года ў Слуцку жонка мая скінула дачку. Пахавалі яе на цвінтары каля слуцкага збора.

31 сакавіка 1660 года ў Слуцку ў сераду пасля вялікадня[89] за цяжкія грахі мае ўзяў бог мілую жонку маю, калі жыў я ў выгнанні ў доме дабрадзеяў бацькоў жонкі маёй. Не хварэла жонка мая, толькі, будучы паўтара дня ў цяжкім прыступе хваробы сваёй, ледзь-ледзь жывую дачку скінула. Пахавана жонка мая ў слуцкім зборы.

20 сакавіка 1661 года пасля дзевяці гадзін ночы прыйшоў у Слуцку да канца свайго жыцця ягамосць пан Рыгор на Каспплі[90] Мірскі, стражнік Вялікага княства Літоўскага, бацька жонкі маёй. З вялікай набожнасцю, пакуль яму духу ставала, гаварыў ён такія словы: «Прыйдзі, пане Езусе, і вазьмі маю душу ў рукі твае самыя святыя!»

6 чэрвеня 1667 г. ажаніўся я з паненкай Соф'яй Рымвідаўнай, дачкою ягамосці пана Ільі Рымвіда[91] і Ганны Кенстэртаўны. Вяселле было ў Вільні, бо я ў той час быў там дэпутатам галоўнага трыбунальскага суда ад Мінскага ваяводства.

16 чэрвеня 1670 года ў Айнаровічах памерла мацi, дабрадзейка мая, яемосць пані Соф'я Цёлкаўна Камароўская, жонка мінскага земскага суддзі Тышкевіча. Пахавана яна ў айнароўскай капліцы.

25 лютага 1672 года аддаў я замуж дачку сваю Тэафілю Цадроўскую за ягамосця пана Крыштофа Мацкевіча[92]. Вяселле маёй дачцы спраўляла яемосць пані Мірская, жонка стражніка Вялікага княства Літоўскага, у маёнтку сваім у Слуцку.

13 снежня 1672 года дачка мая, пані Мацкевічава, нарадзіла сына Яна.

Каб дзеткі мае ведалі, як служыў я майму ваяводству і мілай айчыне, я пакідаю ім гэта на памяць.

Два разы быў я дэпутатам ад Мінскага ваяводства ў галоўным трыбунальскім судзе Вялікага княства Літоўскага.

Адзін раз быў я таксама дэпутатам ад Мінскага ваяводства ў скарбовым[93] трыбунале.

Дзевяць разоў з'яўляўся паслом ад свайго ваяводства на сеймах. Дзесяты раз ездзіў на выбары караля ягамосця Міхала Карыбута Вішнявецкага[94].

Пасля перамогі над Хаванскім[95] і маскоўскай сілай пад Палонкай[96] і Ляхавічамі[97], у 1660 годзе, напярэдадні святога Пятра і Паўла[98], калі жыў я ў выгнанні ў Слуцку, выехаў я са слуцкай крэпасці з людзьмі, якіх сабраў плоцкі стольнік, ягамосць пан Клакоцкі[99], пераняць маскоўскіх уцекачоў. І калі мы з'ехаліся ў Свержані[100] над Нёманам[101] з ягамосцем панам Чарнецкім[102], ваяводам рускім, я, паводле парады ягамосці пана стольніка плоцкага, застаўся пры ягамосці пану Чарнецкім, каб пра сваю службу даведацца і войска ягамосці пана Чарнецкага аж да ракі Бярэзіны[103] праводзіў. Потым вярнуўся дадому, у якім абрабавалі мяне гультаі Русецкага[104] пры універсалах ягамосці пана гетмана Вялікага княства Літоўскага, гэта значыць ягамосці пана Паўла Сапегі[105] і ягамосці пана Чарнецкага, ваяводы рускага; і самога мяне ледзь не забіў Свяцкі[106], сын пана Хрызостама[107].

Неўзабаве пасля гэтага сабралася ваяводства наша і разам з ягамосцем панам Станіславам Залескім[108] выбралі мяне паслом да ягамосці пана гетмана Вялікага княства Літоўскага, якога мы дагналі аж за Шкловам[109], і да ягамосці пана Чарнецкага, ваяводы рускага, якога мы заспелі пад Барысавам, каб папрасіць аб павазе да ваяводства, якое пад час знаходжання тут масквіцян мела свае войска і варожа дзейнічала супраць іх.

Калі пасля разгрому маскоўскага войска пад Ляхавічамі ягамосць кароль Ян Казімір ішоў у Літву і выдаў універсалы, каб для войска правіянт збіралі, ваяводства зноў накіравала мяне да ягамосці караля вітаць яго і заявіць яму, які ад нас правіянт можа быць. Заспеў я ягамосця караля ў Новым Двары[110], у трох мілях за Гродна.

Пасля знішчэння Мурашкавых гультаёў у Прусавічах у 1658 годзе накіравала мяне ваяводства з ягамосцем панам Прычэўскім[111] да князя Шарамета[112], рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Барысаве немалы час, каб растлу-

мачыць яму, што мы грамілі не людзей цара ягамосці, а захопнікаў і разбойнікаў і што гэта не павінна адбіцца на ласцы да нас ягамосці цара. Князя Шарамета мы ўжо не заспелі ў Барысаве, бо выехаў ён у Маскву. Гналіся мы за ім аж да Шклова, але не дагналі. Аддалі мы інструкцыю нашу з подпісамі ўсёй шляхты барысаўскаму ваяводзе[113].

24 жніўня 1652 года памерла ў Вільні любая дабрадзейка сястра наша, пані Ганна Цадроўская, жонка віленскага стольніка Яна Сасноўскага[114]. Пахавана там жа, у Вільні, у капліцы каля віленскага збора за горадам.

У гэтым жа годзе, 26 лістапада, ажаніўся ягамосць пан Сасноўскі з паняю Маклаковай, народжанаю Кахлеўскай, зараз жа пасля пахавання, гэта значыць 7 снежня, хутка адшкадаваўшы былую жонку сваю і не зважаючы на перадкалядны пост.

12 жніўня 1654 года, калі зацьменне сонца страшнае было, у бітве з Масквою пад Шкловам быў забіты пан Еранім Мірскі, адзіны сын ягамосці пана Рыгора Мірскага, стражніка Вялікага княства Літоўскага; прастрэлены праз калчан, ён і паўгадзіны не пражыў.

31 снежня 1655 года памёр у Тыкоціне[115] князь ягамосць пан Януш Радзівіл[116], ваявода віленскі, гетман Вялікага княства Літоўскага; падазравалі, што яго атруцілі.

24 сакавіка 1667 года ў Кралеўцы памерла ад родаў княгіня яемосць Ганна Радзівіл, дачка Януша Радзівіла, ваяводы віленскага і гетмана Вялікага княства Літоўскага, жонка Багуслава Радзівіла, канюшага Вялікага княства Літоўскага, пакінуўшы дачку Луізу Шарлоту; памерла ва ўзросце 27 год.

18 красавіка 1669 года ў чысты чацвер[117] памёр у Заслаўі[118] за Мінскам, ніводнага сына не пакінуўшы, апошні Глябовіч Ежы Кароль, ваявода віленскі[119].

31 снежня 1669 года памёр у Кралеўцы князь ягамосць Багуслаў Радзівіл, канюшы Вялікага княства Літоўскага. Пахаваны ён там жа ў Кралеўцы 6 мая 1670 года побач са сваёй жонкаю. Гэтаму князю ягамосці, дабрадзею майму, служыў я трыццаць два гады. Гэта быў апошні Радзівіл з Радзівілаў Чорных[120]. 31 жніўня 1675 года пад Дзедзелавічамі[121] падданымі ягамосця пана Фёдара Валатковіча[122], мінскага земскага пісара, быў забіты мілы мой пляменнік пан Пётр Цадроўскі.

29 студзеня 1676 года памерла мілая былая жонка брата майго Аляксандра Цадроўскага, паводле другога шлюбу пані Азямблоўская[123], пакінуўшы пасля сябе трох сыноў і дзвюх дачок.

5 лютага 1676 года памёр у Далькавічах[124] прыгнечаны цяжкім жалем пасля забойства сына свайго мой мілы брат-блізнюк, пан Стэфан Цадроўскі, падчашы[125] мсціслаўскі.

15 кастрычніка 1676 года памерла жонка майго брата Стэфана Цадроўскага, падчашага мсціслаўскага, пані Хрысціна Кахлеўская з Фулькевічаў[126], дачка брэсцкага земскага суддзі[127].

15 верасня 1680 года памерла ў Слуцку дабрадзейка бабуля дзетак маіх, яемосць пані Кацярына Капушчэўская, дачка стольніка мінскага, жонка Рыгора на Касплі Мірскага, першага стражніка Вялікага княства Літоўскага. Пахавана яна 21 студзеня 1681 года ў слуцкім зборы.

У пятніцу 3 красавіка 1682 года ў выніку ўгаворвання лаялітаў[128], або айцоў езуітаў, і іх парады ягамосць пан Пац[129], ваявода віленскі і гетман вялікі[130] княства Літоўскага, дазволіў зняць крыж з евангелічнага збора ў прадмесці за Трокскай брамаю. Пасля гэтага зняцця прыведзеныя езуітамі студэнты з гарадской чэрню раптоўна напалі, разбурылі і раскідалі збор і дамы, у якіх ксяндзы евангелічныя жылі, кнігі папалілі. Ксяндзоў, якія ад страху пахаваліся пад трунамі памершых людзей, павыцягвалі і здзекаваліся над імі.

Немаўля нявіннае, якое ў пялёнках яшчэ было, яны ў агонь кінулі, так што яго ледзь жывога выхапілі, але яно потым памерла. Срэбра зборнае і званы яны пабралі і царкоўныя прылады, якіх нямала было, усё забралі.

Ні шпіталю (багадзельні.— *А. К.*), ні шаноўным жанчынам шпітальным не было ад іх ніякай літасці; усё, што знаходзілі, яны рабавалі, а потым шпіталь разбурылі і ўсю мураваную сцяну вакол цвінтара зруйнавалі. Трупы памершых з трунаў выцягвалі, без сораму здзекаваліся над імі, палілі. Мёртвых мужчын на памёршых жанчын клалі, кажучы: «Злучайцеся і памнажайцеся». Ад тых трупаў, якія на цвінтары спальвалі, быў смурод страшэнны па ўсім горадзе.

Язычнікі ніколі так не здзекаваліся над целамі хрысціян, як здзекаваліся яны там.

А з імі быў езуіт нейкі інкогніта, з тварам закрытым,

каб не пазналі яго. Але, вядома, пан бог не праміне аддаць ім, аўтарам гэтай яўнай злосці, належнае за такія здзекі страшэнныя.

Назаўтра пасля разбурэння збора ягамосць пан Пац, ваявода віленскі, гетман Вялікага княства Літоўскага, па якім тужыць ягамосць кароль[131] і ўся Рэч Паспалітая, засмуціўшыся, ледзь не раптоўна памёр*.

Выяўленне рукапісу успамінаў Яна Цадроўскага адносіцца да першай чвэрці XIX ст. Першым, хто пазнаёміўся з гэтым рукапісам, быў гісторык Літвы і Беларусі Тэадор Нарбут (1784—1864), які ў 1828 г. падарыў яго бібліятэцы Віленскага (цяпер Вільнюскага) універсітэта (пра гэта сведчаць матэрыялы, якія захоўваюцца ў Аддзеле дакументацыі Інстытута гісторыі Польскай Акадэміі навук, папка Уляноўскага, № 52). Але для шырокага кола чытачоў тэкст успамінаў Яна Цадроўскага быў невядомы яшчэ 27 год, да першай іх публікацыі, зробленай у часопісе «Временник императорского Московского общества истории и древностей российских» (1855, кн. 23, раздз. «Разное», с. 13—33). Ініцыятарам гэтай першай публікацыі помніка быў ксёндз Іосіф Малышэвіч, які з'яўляўся ў той час пробашчам у Нявадніцкім касцёле на Беласточчыне. Ён даслаў у рэдакцыю «Временника...» тэкст адной з копій успамінаў Яна Цадроўскага, якія, па сведчанню Тэадора Нарбута, былі шырока распаўсюджаны ў шляхецкіх дамах Навагрудскага павета. Але паколькі ўспаміны Я. Цадроўскага былі напісаны на польскай мове, а асобныя фразы і словы ў іх — лацінкай, рэдакцыя часопіса вырашыла даць іх публікацыю ў перакладзе на рускую мову, а тэкст копіі, дасланай Іосіфам Малышэвічам, змясціць у падрадкоўніку. Пераклад на рускую мову гэтага помніка быў зроблены С. Б. Шадурскім. Часопісная публікацыя тэксту мела такі загаловак: «Записная книга Яна Цедровского, собственноручно писанная, памятник исторический XVII в., найденный ксендзом Иосифом Малышевичем, магистром богословия, почетным корреспондентом Императорской публичной библиотеки».

У наступным годзе звесткі пра ўспаміны Яна Цадроўскага падаў Юліян Барташэвіч у часопісе «Biblioteka Warszawska» (1856, № 7), дзе пераказан змест помніка і ахарактарызавана ступень іх вартасці.

Праз тры гады віленскі гісторык Міхал Балінскі (1794—1864) зрабіў другую публікацыю ўспамінаў Яна Цадроўскага ў кн.: «Pamiętniki historyczne» (Wilno, 1859, с. 141—152). І хоць крыніца, па якой зроблена яго публікацыя, не агаворана, зверка яе з тэкстам Іосіфа Малышэвіча засведчыла іх абсалютную ідэнтычнасць — роз-

* Як сведчаць выдаўцы тэксту ўспамінаў Яна Цадроўскага, на арыгінале рукапісу пасля гэтага сказа ўнізе апошняй старонкі быў малюнак з подпісам: «Збор 1682 года». А збоку больш познім почыркам зазначана: «Праўнук вяльможнага ягамосці пана Цадроўскага Крыштоф Мацкевіч».

няцца толькі загалоўкі (у М. Балінскага тэкст успамінаў мае назву «Pamiętnik Jana Cedrowskiego własną jego ręką spisany w XVII wieku»).

Скарочаны варыянт тэксту ўспамінаў Яна Цадроўскага, паводле публікацыі М. Балінскага, быў надрукаваны ў нашым перакладзе на беларускую мову ў зборніку «Беларуская літаратура» (Мн., 1977, вып. 5, с. 156—167).

Яшчэ адна публікацыя ўспамінаў Яна Цадроўскага была зроблена Адамам Дрыбасем у кн.: «Dwa pamiętniki z XVII wieku» (Wrocław—Kraków: Ossolineum, 1954, с. 3—21). Як найбольш поўная яна ўзята намі за аснову для перакладу, змешчанага ў гэтай кнізе.

[1] Ян Цадроўскі (?—20.IX 1640) — бацька мемуарыста Яна Цадроўскага. У 1626 г. быў выбраны паслом на Варшаўскі сейм ад Мінскага ваяводства. На гэтым сейме ён быў прызначаны дэпутатам віленскага трыбунала для спагнання падатковых запазычанасцей. У 1632 г. прымаў актыўны ўдзел у элекцыйным (выбарчым) сейме, на якім каралём Рэчы Паспалітай быў выбраны Уладзіслаў IV Ваза, сын Сігізмунда III. Тады ж Ян Цадроўскі быў абраны суддзёй do judicum compozitum, гэта значыць такім, які мае права не толькі судзіць, але і выносіць канчатковы прыгавор. На дзяржаўным сейме 1634 г. быў вылучаны дэпутатам літоўскага скарбовага трыбунала.

[2] Пагост (Вялікі Пагост) — вёска ў Салігорскім р-не Мінскай вобл., знаходзіцца на ўсходнім беразе Салігорскага вадасховішча, за 10 км ад раённага цэнтра і ў 127 км ад Мінска. Цэнтр сельсавета. Раней Пагост быў мястэчкам Слуцкага княства Алелькавічаў і ўваходзіў у Навагрудскае ваяводства. Першае пісьмовае ўпамінанне пра гэта мястэчка сустракаецца ў грамаце 1499 г. З 1617 г. Пагост стаў уласнасцю кн. Радзівілаў, якім ён дастаўся як пасаг апошняй спадчынніцы слуцкіх князёў кн. Соф'і III Юр'еўны, што была замужам за Янушам Радзівілам (1579—1620).

Апрача Вялікага Пагоста ў тым жа сельсавеце Салігорскага р-на, на заходнім беразе Салігорскага вадасховішча, у 8 км ад раённага цэнтра існуе другая вёска Пагост — цэнтр саўгаса «Свабода». Гэта вёска таксама досыць старадаўняя. А таму дакладна вызначыць, з якога Пагоста паходзіў мемуарыст Ян Цадроўскі, сёння немагчыма.

[3] Пра мілю гл. камент. 219 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[4] Пра Слуцк гл. камент. 208 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[5] Кралевец — даўнейшая польская назва г. Кёнігсберг (з 1946 г. Калінінград). Быў заснаваны крыжакамі ў 1256 г. З 1457 да 1525 г. Кралевец служыў рэзідэнцыяй вялікіх магістраў Тэўтонскага ордэна. Потым стаў рэзідэнцыяй прускіх князёў, а з 1701 г.— месцам каранацыі прускіх каралёў. Цэнтр гандлю і прамысловасці. На працягу 700 год горад з'яўляўся асяродкам нямецкіх феадалаў і выкарыстоўваўся як плацдарм агрэсіі Прусіі супраць Польшчы і Расіі.

[6] Кралевецкі універсітэт быў заснаваны маркграфам Прусіі герцагам Альбрэхтам I Гогенцолернам у 1544 г. пад назвай Калегіум Альберціні. Яго першым рэктарам быў Георг Сабінус. Заснаванне універсітэта зрабіла Кралевец культурным цэнтрам Прусіі. Адсюль пачала распаўсюджвацца Рэфармацыя лютаранскага напрамку. Аб

папулярнасці гэтага універсітэта ў свой час сведчыць факт, што ў яго сценах у 1644 г. навучалася звыш 2000 студэнтаў.

[7] Кракаўская акадэмія — адна са старэйшых вышэйшых навучальных установ Еўропы. Заснавана ў 1364 г. каралём Казімірам Вялікім з дынастыі Ягелонаў і стала пазней родапачынальніцай цяперашняга Ягелонскага універсітэта. У час заснавання мела тры факультэты: юрыдычны, фізіка-матэматычны і свабодных навук. Дзякуючы намаганням жонкі Ядвігі польскі кароль Уладзіслаў Ягайла ў 1400 г. ператварыў акадэмію ва універсітэт і рэарганізаваў яго па ўзору Пражскага. Тады ж у ім быў адкрыты багаслоўскі факультэт. Граматай караля універсітэт быў падпарадкаваны кракаўскаму епіскапу, і ўсе яго дэканы, за выключэннем дэкана медыцынскага факультэта, павінны былі мець духоўны сан. Як адзіная вышэйшая навуковая ўстанова Польшчы універсітэт актыўна ўплываў на грамадскае жыццё. Асабліва прыкметныя поспехі тут былі дасягнуты ў матэматыцы і прыродазнаўчых навуках. Цэнтрам вальнадумства на працягу 150 год быў факультэт свабоднага мастацтва. На ім вучыліся не толькі палякі, але і выхадцы з Беларусі, Літвы, Чэхіі, Германіі, Венгрыі і нават з далёкай Англіі. З канца XV ст. пры Ягелонскім універсітэце існаваў літаратурны гурток. У ліку выкладчыкаў і навучэнцаў гэтай установы былі буйнейшыя гуманісты свайго часу — філосафы, пісьменнікі, паэты, матэматыкі. З сярэдзіны XVI ст. навучанне ў Ягелонскім універсітэце набыло рэлігійна-схаластычны характар. Выкладчыкі здавалі свае пазіцыі езуітам. Новага росквіту Ягелонскі універсітэт дасягнуў толькі пасля 1780 г., калі яго рэктарам Гуго Калантаем былі праведзены тут істотныя рэформы.

Браты Ян і Стэфан Цадроўскія сталі студэнтамі Кракаўскай акадэміі ў пачатку 1636 г.(пра гэта сведчыць «Album Studiosorum», t. IV, c. 170).

[8] Багуслаў Радзівіл (1620—1669) — сын Януша Радзівіла. Нарадзіўся ў Гданску, выхоўваўся ў кейданскай кальвінісцкай школе. Знаходзячыся пры двары караля Уладзіслава IV Вазы, ён у 1636 г. быў выбраны ашмянскім паслом на дзяржаўны сейм Рэчы Паспалітай 1637 г. Пасля заканчэння работы гэтага сейма выехаў за граніцу, каб наведаць краіны Заходняй Еўропы. Знаходзячыся ва Утрэхце, у 1638 г. атрымаў ад караля прызначэнне на пасаду харунжага Вялікага княства Літоўскага. У Галандыі наняўся ў войска кн. Генрыха Аранскага і мужна ваяваў пры асадзе крэпасці Ганд. У 1640 г. вярнуўся на радзіму і некаторы час служыў пры каралеўскім двары. Але хутка паехаў у Галандыю, дзе прабыў да 1648 г. У 1646 г. атрымаў ад караля Уладзіслава IV Вазы пасаду канюшага Вялікага княства Літоўскага. На выбарчым сейме 1648 г. горача падтрымаў выбранне каралём Рэчы Паспалітай каралевіча Яна Казіміра Вазу. У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага ваяваў супраць паўстанцаў. Пры шведскай інтэрвенцыі разам са сваім стрыечным братам Янушам, які тады быў гетманам Вялікага княства Літоўскага, Багуслаў Радзівіл перайшоў на бок непрыяцеля і пачаў ваяваць супраць суайчыннікаў. Потым служыў брандэнбургскаму курфюрсту. Злоўлены ў 1656 г. у Прусіі, быў зняволены, прасядзеў у турме год. У сувязі з заключэннем Веляўска-Быдгашчскага дагавору атрымаў ад Рэчы Паспалітай амністыю, а брандэнбургскі курфюрст прызначыў яго генеральным губернатарам княжацкай Прусіі. Будучы цесна звязаны з Брандэнбургам і пастаянна жывучы ў Кралеўцы, Багуслаў

Радзівіл некалькі разоў прысутнічаў на польскіх сеймах як літоўскі пасол і выступаў там у ролі апекуна літоўскіх кальвіністаў. Памёр у Кралеўцы ў 1669 г. На ім скончылася лінія біржанскіх і дубінінскіх кн. Радзівілаў. Радзівіл сабраў багатую асабістую бібліятэку, значную частку якой ахвяраваў бібліятэцы курфюрстаў у Кралеўцы. Яму належыць аўтарства некаторых евангелічных песняў, якія былі змешчаны ў канцыянале, выдадзеным у 1723 г. у Гданску. Значная частка яго эпісталярнай спадчыны захоўвалася ў варшаўскай бібліятэцы Залускіх (Kotłubaj E. Galerja nieświżska, c. 163—169).

[9] Харунжы — службовы тытул, у перакладзе з польскай мовы — сцяганосец. Аб існаванні ў Польшчы пасады харунжага ўпамінаў першы польскі летапісец Гал. Але афіцыйнымі крыніцамі яна ўпершыню засведчана ў часы панавання караля Уладзіслава Лакетка (1260—1333). На пахаванні яго сына Казіміра Вялікага (1310—1370) прысутнічалі 12 харунжых — па ліку «зямель», якія ўваходзілі тады ў склад Польскай дзяржавы. У канцы XV ст. пасада харунжага была толькі земскай, але пазней з'яўляюцца і каронныя харунжыя, якія падзяляліся на вялікіх і надворных. У Вялікім княстве Літоўскім у другой палавіне XVII ст. былі свае, асобныя харунжыя — як вялікія, так і надворныя. Прызначаліся яны пажыццёва і былі галоўнымі фігурамі сярод шляхты ў час паспалітага, г. зн. усеагульнага, апалчэння (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 322—333).

[10] Пра Гданск гл. камент. 146 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[11] Шчэцін — цяпер ваяводскі горад у Польшчы. Раней — Штэцін, цэнтр прускай Памераніі. Першапачаткова — славянскі рыбачы пасёлак Юлін (Волін). У XI ст. стаў хутка разрастацца. У 1124 г. епіскап Атон Брамбергскі ахрысціў тут частку жыхароў і пабудаваў два храмы. У XII ст. у горад прыйшлі з Ніжняй Саксоніі немцы. На працягу 1292—1464 гг. горад быў рэзідэнцыяй штэцінскай лініі Памеранскага княства. У 1552 г. тут пашырылася Рэфармацыя. У час трыццацігадовай вайны, у 1630 г., шведскі кароль Густаў Адольф Ваза заняў Памор'е і Штэцін у адпаведнасці з дагаворам з апошнім памеранскім князем.

[12] Паморская зямля (раней Памеранія) — гістарычная вобласць Польшчы ўздоўж паўднёвага берага Балтыйскага мора. У канцы X ст. увайшла ў склад старажытнай польскай дзяржавы. Заходняя частка Паморскай зямлі адчула інтэнсіўную германізацыю. Пасля трыццацігадовай вайны (1618—1648) Заходняя Памеранія апынулася пад уладай Швецыі, ад якой у 1720 г. перайшла ў большай частцы да Прусіі. Усходняя Памеранія разам з Гданскам у 1308—1309 гг. была захоплена тэўтонамі. Аднак у 1454—1466 гг. пры актыўным удзеле гаражан, сялян і шляхты яна была далучана да Польшчы і знаходзілася пад яе ўладай да першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г.

[13] Гальштынская зямля — вобласць на поўдні Шлезвіг-Гальштэйна, якая да 1945 г. была адной з пятнаццаці правінцый федэральнай Прусіі. У ранняе Сярэдневякоўе (VII—VIII стст.) заходняя частка Гольштэйна была заселена германскімі плямёнамі саксаў, ютаў, англаў, данаў, а ўсходняя, Вагрыя,— пераважна славянскім племем ваграў. Заходняя частка ў 1100 г. стала графствам Гольштэйн, якое ў другой палавіне XII ст. далучыла да сябе і Вагрыю. У пачатку XIII ст. Гальштынская зямля належала Даніі. У 1225 г. графы Гольштэйна вярнулі сабе ўладу над усёй зямлёй, а ў XIV ст.

яшчэ далучылі і Шлезвіг. У 1460 г. дацкі кароль Хрысціян I стаў герцагам аб'яднанага Шлезвіг-Гольштэйна. У сярэдзіне XVI ст. у герцагстве пашыралася княжацка-дваранская Рэфармацыя ў лютаранскай яе форме. На працягу XVI—XVII стст. княства дзялілася паміж рознымі родамі. З 1581 г. гальштынскія герцагі сталі незалежнымі ад дацкіх каралёў, а Шлезвіг быў паміж імі падзелены. У 1773 г. Данія зноў авалодала ўсім Шлезвіг-Гольштэйнам, які фактычна стаў яе правінцыяй, да 1806 г. Гольштэйн фармальна захоўваў залежнасць ад Свяшчэннай Рымскай імперыі.

[14] Зунд (цяпер Эрасун) — адзін з праліваў, які раздзяляе Скандынаўскі паўвостраў з дацкім востравам Зеландыя і злучае Балтыйскае мора з пралівам Катэгат у Паўночным моры. Гэты праліў мае шырыню ад 3,7 км на поўначы да 24 км на поўдні, а ў даўжыню працягваецца да 70 км. На заходнім яго беразе размешчана сталіца Даніі Капенгаген, на ўсходнім беразе — шведскі порт Мальмё.

[15] Любек — нямецкі горад у зямлі Шлезвіг-Гольштэйн, размешчаны ў 15 км ад Балтыйскага мора. З IX ст. тут існавала аднайменнае славянскае пасяленне. У 1137 г. яно было разбурана немцамі, якія ў 1143 г. заснавалі тут сваё пасяленне Любек. У 1170 г. яно атрымала права горада. З 1226 г. Любек стаў вольным імперскім горадам. Ён адыграў значную ролю ў стварэнні Ганзы, і ў канцы XIV ст. стаў яе палітычным цэнтрам. З заняпадам у канцы XV ст. Ганзы змяншаецца значэнне Любека.

[16] Гамбург — нямецкі горад, вядомы з пачатку IX ст. як крэпасць, што з'яўлялася фарпостам, скіраваным супраць славянскіх плямён. З 831 г. цэнтр каталіцкага біскупства. З 1190 г. Гамбург кіраваўся гарадской радай, пануючую ролю ў якой займалі патрыцыі. У 1241 г. Гамбург заключыў саюз з Любекам, які потым стаў асновай Ганзы. У 1510 г. атрымаў права вольнага імперскага горада.

[17] У гэтым сказе публікатары ўспамінаў Яна Цадроўскага, відаць, зрабілі нейкі пропуск, у выніку чаго ўзнікла супярэчнасць: у адным выпадку Зунд называецца пралівам, у другім — горадам дацкага караля.

[18] Хрысціян IV (12.IV 1577—1648) — кароль Даніі, Нарвегіі і герцаг Шлезвіг-Гольштэйна. Нарадзіўся ў Зеландыі. У 1580 г. быў абвешчаны афіцыйным наследнікам трона. Яго першая вайна са Швецыяй (1611—1613) была паспяховай, але ўмяшанне ў 1625 г. у трыццацігадовую вайну на баку антыгабсбургскай кааліцыі завяршылася ў 1629 г. няўдачай. Другая вайна са Швецыяй (1643—1645) прывяла да цяжкага паражэння Даніі. Хрысціян IV стварыў дацкі флот, пашырыў гандаль, падтрымліваў развіццё навук. Абмежаваў уплыў гарадоў Ганзейскага саюза.

[19] Амстэрдам — галандскі горад, адміністрацыйны цэнтр правінцыі Паўночная Галандыя. Узнік з рыбацкай вёскі ў 1204 г. У 1300 г. атрымаў гарадское права, з 1368 г. належаў да Ганзейскага саюза. Паступова Амстэрдам стаў галоўным гандлёвым горадам Галандыі. У першай чвэрці XVII ст. у ім налічвалася да 100 тыс. жыхароў. У 1632 г. тут дзейнічаў універсітэт.

[20] Фрызія (Фрызландыя) — гістарычная вобласць на пабярэжжы Паўночнага мора. У XIII ст. частка Фрызіі была захоплена графамі Галандыі, паўднёвая ж яе частка — епіскапам Утрэхта. Усходняя тэрыторыя заставалася самастойнай, і за ёй захавалася назва Фрызіі. У XVI ст. яе тэрыторыя (да р. Эмс) уваходзіла ў нідэрландскія ўладанні Габсбургаў.

[21] Гронінген—адміністрацыйны цэнтр аднайменнай правінцыі ў

паўночна-ўсходняй Галандыі. Размешчаны пры зліцці рэк Хунсэ і Аа. Вядомы з XI ст. У 1284 г. далучыўся да Ганзейскага саюза гандлёвых гарадоў. У 1614 г. тут узнік універсітэт.

[22] Франекер — горад у нідэрландскай правінцыі Фрысляндыя. Размешчаны на захад ад Гронінгена. У 1585—1811 гг. тут дзейнічаў універсітэт, закрыты Напалеонам Банапартам.

[23] Утрэхт — галоўны горад аднайменнай нідэрландскай правінцыі, з 696 г. рэзідэнцыя біскупства. Мясцовыя епіскапы набылі ва Утрэхце вялікія зямельныя ўладанні і доўгі час лічыліся тут галоўнымі прадстаўнікамі імперскай улады, але ў 1525 г. уступілі сваю ўладу Карлу V. У 1636 г. тут заснаваны універсітэт, які ў XVII ст. меў 52 выкладчыкаў і 750 слухачоў. У 1579 г. Утрэхт быў выбраны месцам падпісання дзяржаўнай уніі сямі нідэрландскіх правінцый, якая засведчыла незалежнасць Нідэрландаў ад Іспаніі.

[24] Мідэлбург — порт на галандскім востраве Валхерэн.

[25] Кале — партовы горад і крэпасць на поўначы Францыі. Знаходзіцца на беразе праліва Па-дэ-Кале ў яго самай вузкай частцы (насупраць англійскага порта Дуўр). У 1180 г. атрымаў гарадское самакіраванне. Пачынаючы з XIII ст. адыгрываў значную ролю ў гандлі Францыі з Англіяй. Уваходзіў у Ганзейскі саюз. У часы стагадовай вайны (1337—1453), у 1347 г., быў захоплены англійскім каралём Эдуардам III і знаходзіўся пад уладай англічан да 1558 г., пакуль яго не адваяваў Гіз. У час гугеноцкіх войнаў Кале часова захапілі іспанскія войскі.

[26] Людовік XIII (1601—1643) — французскі кароль з дынастыі Бурбонаў, сын Генрыха IV і Марыі Медзічы. На каралеўскі трон уступіў пасля смерці бацькі ў дзевяцігадовым узросце. Часы панавання Людовіка XIII, за выключэннем яго непаўналецця (1610—1617), характарызуюцца як перыяд умацавання французскага абсалютызму.

[27] Людовік XIV (1638—1715) — старэйшы сын французскага караля Людовіка XIII і Ганны Аўстрыйскай. На трон уступіў, калі яму было пяць гадоў. Да 1661 г. дзяржавай кіравала рэгентша — каралева Ганна Аўстрыйская, маці Людовіка XIV, і ўсемагутны кардынал Мазарыні. Цэнтралізацыя ўсяго кіраўніцтва, паўната і дэспатызм каралеўскай улады знайшлі сваё выражэнне ў словах, якія, паводле падання, ён выказаў: «Дзяржава — гэта я!» Палітыка меркантылізму, якая праводзілася ў той час Кольберам, адным з бліжэйшых памочнікаў Людовіка XIV, рэлігійная нецярпімасць, шматлікія войны прывялі да збяднення сялянскіх мас, аслаблення буржуазіі, глыбокага эканамічнага заняпаду, а ў выніку да масавых народных паўстанняў. У чым заключалася сутнасць дагавору Людовіка XIV з Турцыяй, пра які ўспамінаў Ян Цадроўскі, высветліць не ўдалося.

[28] Ян Казімір Ваза (1609—1672) у часы, пра якія піша Ян Цадроўскі, быў яшчэ польскім каралевічам. Сын караля Сігізмунда III і Канстанцыі. Зрабіў падарожжа ў Іспанію, куды накіраваўся на генуэзскай галеры. Калі з прычыны марскога штылю галера спынілася ля замка Тур-дэ-Буйэ, французы, западозрыўшы Яна Казіміра ў шпіёнскіх намерах, пасадзілі яго ў турму, дзе ён прабыў два гады. Урэшце за яго паручыўся перад каралём Людовікам XIII Багуслаў Радзівіл. Выпушчаны 25 лютага 1640 г. на волю, каралевіч вярнуўся ў Польшчу, а праз два гады выехаў у Італію, дзе ў 1643 г. уступіў у Ордэн езуітаў. Праз два гады выйшаў з ордэна. Атрымаў ад папы Інакенція X годнасць кардынала. Пасля смерці Уладзіслава Вазы

быў у 1648 г. выбраны каралём Рэчы Паспалітай. Яго панаванне было перыядам глыбокага палітычнага крызісу. У 1648—1654 гг. Ян Казімір Ваза падаўляў вызваленчую барацьбу ўкраінскага і беларускага народаў. Уцягнуў Рэч Паспалітую ў вайну з Расіяй. Усё гэта аблегчыла спусташальнае нашэсце шведаў на Польшчу ў 1655—1660 гг. Спробы Яна Казіміра ўмацаваць каралеўскую ўладу выклікалі рашучае процідзеянне магнацкай апазіцыі, якая выявілася ў мяцяжы Е. Любамірскага. Войскі апошняга ў 1666 г. нанеслі паражэнне каралю.

[29] Дуўр — англійскі партовы горад, звязаны з французскімі партамі Кале і Дзюнкерк.

[30] Карл Сцюарт (1600—1649) — англійскі кароль, сын Якава І. Нарадзіўся ў Дунферліме ў Шатландыі, пасля смерці старэйшага брата Генрыха стаў князем Валіі, а пасля смерці бацькі, у 1625 г., стаў каралём. Праводзіў рэакцыйную, феадальна-абсалютысцкую палітыку, якая супярэчыла інтарэсам буржуазіі і «новага дваранства», выклікала пратэст шырокіх мас насельніцтва. Нацыянальная буржуазія была незадаволена знешняй палітыкай караля, накіраванай на збліжэнне з каталіцкімі краінамі — Іспаніяй і Францыяй. Няўдачы ў вайне з Шатландыяй (1639—1640) прымусілі Карла Сцюарта склікаць у красавіку 1640 г. парламент, што з'явілася пачаткам англійскай буржуазнай рэвалюцыі. У грамадзянскіх войнах 1642—1646 і 1648 гг. кароль пацярпеў паражэнне, а 30.І 1649 г. па прыгавору вярхоўнага трыбунала яго пакаралі смерцю.

[31] Бат — лодка, якая выкарыстоўвалася ў марскіх портах для перавозкі тавараў або пасажырскага багажу з суднаў на кантынент.

[32] Гаворка ідзе пра невельскага старосту Адама Стаброўскага, які быў паслом на сейм 1626 г. Там яго прызначылі суддзёй трыбунала па разгляду спраў аб дзяржаўных маёмасцях і фінансах. У 1631 і 1633 гг. з'яўляўся дэпутатам гэтага трыбунала. У 1649 г. А. Стаброўскі прымаў удзел у падаўленні вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага ў складзе войск Януша Радзівіла, які ў той час быў гетманам Вялікага княства Літоўскага. Звестак пра яго сына Самуіла Стаброўскага знайсці не ўдалося.

[33] Айнаровічы (Эйнаровічы) — вёска ў Лагойскім р-не Мінскай вобл., у 15 км на паўночны ўсход ад раённага цэнтра.

[34] Юрый Рэчыцкі — палкоўнік каралеўскіх войск, староста ўрандоўскі.

[35] Асоба Пятра Петэрсона не высветлена.

[36] Маецца на ўвазе Багуслаў Пшыпкоўскі, сын віленскага харунжага. Вылучаўся выключнай храбрасцю. У чыне палкоўніка загінуў у 1658 г. пад Коўна ў бітве з рускім войскам. Пасля яго смерці нашчадкі атрымалі ад дзяржавы кампенсацыю ў 7200 злотых.

[37] Караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра Вазу Ян Цадроўскі назваў «адрачэнцам» таму, што той у 1668 г. добраахвотна адрокся ад трона і выехаў у Францыю, у сваё абацтва, якое купіў сабе раней, чым стаў каралём.

[38] Піраты — марскія разбойнікі.

[39] Дзюнкерк — французскі горад, цэнтр дэпартамента Норд і разам з тым крэпасць на граніцы з Бельгіяй. Упершыню ўпамінаецца ў 646 г. У 964 г. маркграф Фландрыі Болдзін абнёс горад мураванай сцяной. З XII ст. славіўся як гандлёвы порт. У 1556 г. Дзюнкеркам авалодалі французы. У XVII ст. кароль Людовік XIV загадаў пабудаваць тут новы порт і цытадэль.

[40] Ютландыя — паўвостраў, паўночная частка якога належыць Даніі, а паўднёвая — Германіі.

[41] Старая Вёска — населены пункт над р. Лівец у былым Венграўскім павеце Падляшскага ваяводства (цяпер тэрыторыя Польскай Народнай Рэспублікі).

[42] Падляшша — так калісьці называлася зямля па сярэдняму цячэнню Заходняга Буга. У 1340—1349 гг. знаходзілася ў руках кн. Кейстута. Паўночную яе частку да XIII ст. насялялі яцвягі, якіх потым асімілявалі мазаўшане і дрыгавічы. На тэрыторыі Падляшша існавалі старажытныя гарады Бельск, Нараў, Кнышын, Аўгустаў, Кляшчэлі, Сураж, Тыкоцін, Гонендз, Драгічын, Венграў, Цехановец, Мельнік, Лосіца і інш. З першай палавіны XIV ст. знаходзілася ў складзе Бельскай і Берасцейскай зямель і ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае: з 1413 г. адносілася да Трокскага ваяводства, а з 1520 г. стала асобным ваяводствам. У час Люблінскай уніі 1569 г. Падляшша было адарвана ад княства і перададзена пад уладу кароннай Польшчы.

[43] Самуіл Каспаравіч Швайкоўскі (Швыкоўскі) — шляхціц герба Агоньчык. Займаў пасаду навагрудскага харунжага. У 1696 г. быў абраны паслом на так званы канвакацыйны сейм (склікаўся ў часы бескаралеўя). Яго родны брат Стэфан Мікалай быў гарадскім віленскім суддзёй (Niesiecki K. Herbarz polski, t. 8, s. 367).

[44] Звестак пра Філона Тышкевіча сабраць не ўдалося.

[45] Лагойск — гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Мінскай вобл. У часы Цадроўскага адносіўся да Мінскага ваяводства. Першыя пісьмовыя звесткі пра Лагойск датуюцца 1078 г., калі ён быў захоплены Уладзімірам Манамахам. У 1128 г. кіеўскія князі зноў напалі на Лагойск і авалодалі ім. У 1186 г. тут княжыў Васілька Валадаравіч. У 1387 г. Ягайла, адабраўшы Лагойск ад Войшвіла, перадаў яго свайму брату Свідрыгайлу. У 1392 г. трапляе да кн. Вітаўта. Казімір Ягелончык падараваў мястэчка Аляксандру Чартарыйскаму. У 1505 г. Лагойск быў спустошаны татарскім ханам Мегметам Гірэем. У 1517 г. удава Сямёна Чартарыйскага выйшла замуж за Васіля Тышкевіча, які тады з'яўляўся падляшскім ваяводам. З таго часу Лагойск знаходзіўся ў валоданні Тышкевічаў. Васіль Тышкевіч устанавіў тут маярат па мужчынскай лініі. Каля 1571 г. Лагойскі замак заняў яго любімы сын Юрый. У 1603 г. уладаром Лагойска стаў Аляксандр Юр'евіч Тышкевіч. Гэта быў досыць адукаваны чалавек, які пераклаў на польскую мову лісты Льва Сапегі. У 1706 г. шведы дашчэнту разбурылі Лагойскі замак.

[46] Пачатак збору ў горадзе Венграў паклалі Кішкі, сям'я якіх горача падтрымала Рэфармацыю. Пастарамі венграўскага збору былі Марцін Кравіцкі і Пётр з Ганёндза (апошні потым стаў антытрынітарыем). У 1565 г. у Венграве адбыўся сінод літоўскіх і малапольскіх кальвіністаў. На ім разгарэліся спрэчкі пра тое, калі кальвіністы павінны хрысціць сваіх прыхільнікаў — у дзіцячым ці ў сталым узросце. Каля 1570 г. літоўскі крайчы арыянін Ян Кішка заклаў у Венграве друкарню і школу. Калі род Кішкаў вымер, Венграў разам з іншымі іх маёнткамі перайшоў у спадчыну да малалетняга тады Багуслава Радзівіла. У 1630 г., калі католікі адабралі ў кальвіністаў памяшканне збору, непасрэдны апякун Багуслава Радзівіла віленскі ваявода Крыштоф Радзівіл у 1634 г. пабудаваў у Венграве новую кальвініцкую царкву (збор). А каб утрымаць у кальвінізме даўніх прыхільнікаў і прыцягнуць новых, Багуслаў Радзівіл абяцаў ім усялякія палёгкі. У 1664 г. Венграў быў прададзены Кра-

сінскім, якія пачалі праследаваць пратэстантаў. У выніку рамеснікі сталі пакідаць горад. У 1680 г. храм кальвіністаў згарэў, каталікі доўгі час не дазвалялі яго аднаўляць. Чарговы пратэстанцкі сінод адбыўся тут толькі ў 1780 г.

[47] Канюшымі называліся сталыя наглядчыкі за каралеўскімі стайнямі. Усю іх работу, як правіла, выконвалі падканюшыя. У XVI ст. канюшыя лічыліся дворнымі, потым жа гэта вызначэнне звычайна апускалася (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 220).

[48] Стражнік — службовая асоба, у абавязкі якой у час ваеннага паходу ўваходзіла пільнаваць і абараняць лагер ад варожага нападу. У мірны ж час стражнікі звычайна засядалі ў вайсковых судах. Пасада стражніка была ў Рэчы Паспалітай уведзена пры Уладзіславе IV Вазе. Першым такім чыноўнікам Вялікага княства Літоўскага стаў кн. Рыгор Мірскі, прызначаны на новаўтвораны «ўрад» 10.III 1636 г. Праз дваццаць год ён вымушаны быў адмовіцца ад гэтай пасады, а праз пяць год 20.III 1661 г. памёр (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 322).

[49] Пра Капыль гл. камент. 327 да ўспамінаў Ф. Еўлашоўскага.

[50] Атрубак (Атрубок) — назва даволі пашыраная. У былым Мінскім ваяводстве існавалі тры паселішчы з такой назвай: над р. Чарніца (па дарозе з Беразіны на в. Чарніца), па дарозе з Плешчаніц на фальварак Петрыліна і ў Барысаўскім павеце (у 2 км на поўнач ад возера Дамашкаўскае). Пра які з гэтых трох населеных пунктаў ідзе тут гаворка, сказаць цяжка.

[51] Біяграфічныя звесткі пра Якуба Хялхоўскага адсутнічаюць.

[52] Стэфан Цадроўскі (3.III 1617—5.II 1676) — брат-блізнюк Яна Цадроўскага. Займаў пасаду мсціслаўскага падчашага, два разы быў дэпутатам скарбовага трыбунала Вялікага княства Літоўскага, выбіраўся паслом на сеймы. Яго жонкай была дачка брэсцкага земскага суддзі Хрысціна з Фулькевічаў Кахлеўская.

[53—54] Звесткі пра гэтых асоб выявіць не ўдалося.

[55] Смалявічы — цяпер раённы цэнтр Мінскай вобл. У XVI ст. кароль Сігізмунд I Стары падарыў іх гетману Вялікага княства Літоўскага Канстанціну Астрожскаму. Ад яго нашчадкаў перайшлі да Радзівілаў, а ад іх — да Вітгенштэйнаў. Радзівілы зрабілі Смалявічы мястэчкам і дазволілі тут сяліцца «прамысловым людзям».

[56] Звестак пра Тамаша Цадроўскага няма.

[57] Прамезь — фальварак над р. Пярчайка. Размяшчаўся непадалёку ад Бельверышак і з'яўляўся даўняй уласнасцю Пакошавых у Трокскім ваяводстве (цяпер тэрыторыя Літоўскай ССР). Тут быў кальвінісцкі збор, фундатарам якога з'яўляўся Тэафіл Пакош.

[58] Аляксей Міхайлавіч (19.III 1629—29.I 1676) — другі рускі цар з дынастыі Раманавых. На трон уступіў 14.VII 1645 г. Спачатку карыстаўся дапамогай свайго вопытнага дзядзькі Б. І. Марозава, а потым стаў кіраваць дзяржавай сам. Гэта быў разумны і адукаваны чалавек. У 1648 г. ажаніўся з Марыяй Ільінічнай Міласлаўскай. У 1651 г. зблізіўся з патрыярхам Ніканам, які стаў аказваць прамы ўплыў на дзяржаўныя справы. 1 кастрычніка 1653 г. Нікан прыняў на саборы рашэнне ўзяць запарожскіх казакоў пад сваю апеку, пасля чаго была абвешчана вайна Рэчы Паспалітай. 18 мая 1654 г. цар выехаў для вядзення вайны пад Смаленск. 30 ліпеня 1655 г. урачыста ўехаў у Вільню, потым заняў Коўна і Гродна. У лістападзе вярнуўся ў Маскву. Тым часам шведскі кароль Карл X авалодаў Варшавай і Кракавам. Гэта прымусіла цара выступіць супраць шведаў. 15 ліпеня ён рушыў у Лівонію, узяў Дынабург, Кокенгаўз і

асадзіў Рыгу. 26.X 1655 г. было заключана са шведамі перамір'е, якое ў 1667 г. закончылася Кардзінскім мірам. Пасля смерці Багдана Хмяльніцкага новы ўкраінскі гетман Іван Выгоўскі ў ліпені 1657 г. здрадзіў Маскве, у сувязі з чым казакі прагналі яго і абвясцілі гетманам Юрыя Хмяльніцкага, сына Багдана. Паколькі Рэч Паспалітая адмовілася прызнаць за Масквой яе заваёвы, пачалася новая вайна, якая працягвалася трынаццаць гадоў і закончылася 13.I 1667 г. падпісаннем мірнага дагавору ў в. Андросава (цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл.), паводле якога Расія вярнула сабе Смаленск, Северскую зямлю і левабярэжжа Дняпра. У час гэтай вайны цар Аляксей Міхайлавіч пабываў у Віцебску, Полацку, Магілёве, Вільні, Коўне і Гродне, дзе пазнаёміўся з мясцовым жыццём. Неўзабаве ў Расіі пачалася сялянская вайна пад кіраўніцтвам Сцяпана Разіна, які ў 1667 г. рушыў на Яік, а адтуль — на Астрахань. У маі 1670 г. Разін зноў накіраваўся на Волгу, захапіў Царыцын, узняў чарамісаў, чувашоў, мардву і татараў, але пад Сімбірскам пацярпеў паражэнне. Выдадзены казакамі, 6.VI 1671 г. быў пакараны смерцю. Пасля падаўлення сялянскай вайны пачалася вайна з Турцыяй, якая закончылася толькі ў 1681 г. Аляксей Міхайлавіч увёў некаторыя новыя цэнтральныя органы кіравання (Русский биографический словарь.— Спб, 1900, с. 23—35).

[59] Жмудзь (Жэмайція, Жамойць) — назва зямель і старадаўняга княства ў нізоўі Нёмана, а таксама літоўскага племя, якое насяляла гэтыя землі. Летапісная гісторыя Жмудзі і пачынаецца з XIII ст., калі па суседству з'явіліся тэўтонцы і пачалі заваёўваць літоўскія землі. У Жэмайціі знаходзілася свяцілішча Рамува, дзе хаваліся ад праследавання язычаскія жрацы. У 1259 г. Міндоўг аддаў Жмудзь Лівонскаму ордэну. Праз адзінаццаць гадоў яна вызвалілася ад лівонцаў, але барацьба з нямецкімі захопнікамі працягвалася. Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 г. Жэмайція выбавілася ад тэўтонскай небяспекі. Уладары Вялікага княства Літоўскага Ягайла і Вітаўт пачалі тут пашыраць хрысціянства. У 1492 г. князь Аляксандр канчаткова падпарадкаваў Жмудзь Літве.

[60] Каралём Швецыі, пра якога тут гаворыцца, быў Карл X Густаў, які панаваў у 1654—1660 гг. Гэта быў першы кароль Швецыі, род якога вёўся з пфальцкай дынастыі. Атрымаўшы добрую адукацыю, ён доўгі час падарожнічаў, прымаў асабісты ўдзел у трыццацігадовай вайне. У 32 гады стаў каралём Швецыі. К гэтаму часу Карл X Густаў быў ужо вопытным дыпламатам і воінам. Паколькі кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір Ваза тады прэтэндаваў на шведскую карону, Карл X Густаў паставіў сваёй мэтай абяссіліць Рэч Паспалітую і забяспечыць Швецыі панаванне на Балтыйскім моры. Летам 1655 г. шведы праз Памеранію праніклі ў Вялікую Польшчу. Тады, злучыўшыся з войскам, якое пад камандай самога караля ішло з Ліфляндыі, рушылі на Варшаву, якая адразу здалася шведам. Ян Казімір Ваза быў вымушаны ўцякаць у Сілезію. У 1657 г. Карл X Густаў напаў з невялікім атрадам на Данію і падышоў да Капенгагена; дацкі кароль Фрыдрых III вымушаны быў прасіць міру. Аднак вайна хутка пачалася зноў — на гэты раз без поспехаў для Швецыі. Агрэсіўная знешняя палітыка Карла X Густава прывяла да вайны з Расіяй. У выніку Швецыя пазбавілася сваіх уладанняў на поўдні Скандынаўскага паўвострава. Ваяўнічы па свайму характару Карл X Густаў рыхтаваўся да новых паходаў, але 13.II 1660 г. раптоўна памёр.

[61] Шаўлі (Шаўляй) — горад у Літоўскай ССР; у часы Цадроў-

скага — цэнтр павета. Першыя ўпамінанні аб ім датуюцца XV ст. Горадам стаў называцца ў XVI ст.; у XVII ст. быў уласнасцю польскіх каралёў і часта, калі казне патрабаваліся грошы, аддаваўся ў заклад. Так, у 1661 г. Шаўлі былі аддадзены на шэсць гадоў Яну Сапегу за 800 тыс. злотых, якія ён выплачваў каралеўскаму войску.

[62–63] Звесткі пра гэтых асоб адсутнічаюць.

[64] Казанні Саламонавы — адна з біблейскіх кніг, аўтарства якой прыпісваецца Саламону (пра яго гл. камент. 353 да Ўспамінаў Ф. Еўлашоўскага).

[65] Кварта — старая адзінка вымярэння вадкасці і сыпкіх рэчываў. У розных народаў была рознай па памеру. У сістэме мер Вялікага княства Літоўскага раўнялася 0,70577 л; чатыры кварты складалі гарнец, які ўмяшчаў у сабе 2,82308 л.

[66] Бочка — драўляная пасудзіна, якая да ўвядзення метрычнай сістэмы служыла эталонам меры сыпкіх рэчываў і вадкасці. У Вялікім княстве Літоўскім памер віленскай бочкі адпавядаў 406,7 л вады, або 19 пудам пшаніцы, адпаведна — 18 пудам жыта, 15 пудам ячменю, 10 пудам аўса.

[67] Пуня — драўляны будынак для перахоўвання сена, мякіны або для іншых гаспадарчых патрэб.

[68] Свіран — пабудова, у якой захоўвалася збожжа.

[69] Азярод — спецыяльнае прыстасаванне (некалькі высокіх слупоў, злучаных папярочнымі жэрдкамі) для сушкі снапоў і сена.

[70] Жахлівы малюнак, дадзены тут Янам Цадроўскім, нагадвае зробленае Іосіфам Будзілам у «Дыярушы» за 1612 г. апісанне голаду, які давялося перажыць асаджаным у маскоўскім Крамлі польска-літоўскім інтэрвентам, у часы рускай смуты (Русская историческая библиотека.— Спб, 1872, т. 1, с. 348—350).

[71] Чалабітная — пасланне з прыніжанай просьбай.

[72] Фёдар Юр'евіч Арсеньеў — выхадзец з дваранскага роду, пачынальнікам якога быў знатны татарын Аслан Мурза, што прыехаў у Расію з Залатой Арды, у 1389 г. прыняў разам з хрышчэннем праваслаўнае імя Пракопія і ажаніўся з дачкой маскоўскага стольніка Жытава. Ад старшага сына Пракопія Арсенія і пайшоў род Арсеньевых. У XVII ст. васьмёра Арсеньевых былі ў розных гарадах ваяводамі, сярод іх і названы тут Фёдар Юр'евіч Арсеньеў, які пры цары Васіліі Шуйскім абараняў Маскву ад польска-літоўскіх інтэрвентаў, а пазней з'яўляўся ў розных гарадах ваяводам і за верную службу атрымліваў ад цара Аляксея Міхайлавіча каштоўныя падарункі.

[73] Друя — гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не Віцебскай вобл. Знаходзіцца ў 30 км на паўночны ўсход ад Браслава, пры ўпадзенні ў Заходнюю Дзвіну р. Друйка. Спачатку Друя належала роду Масальскіх, а потым перайшла да Сапегаў і нейкі час называлася Сапежынам. У XVI ст. тут быў пабудаваны кляштар бернардзінцаў. У XVIII ст. горад славіўся ўмацаваным замкам. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Друя ўвайшла ў склад Расійскай імперыі як заштатны горад Віленскай губерні.

[74] Заходняя Дзвіна — адна з рэк басейна Балтыйскага мора. Бярэ свой пачатак з Валдайскага ўзвышша і цячэ па тэрыторыі Калінінскай, Пскоўскай, Смаленскай і Віцебскай абласцей, Латвійскай ССР. Са старажытных часоў была важным гандлёвым шляхам з «варагаў у грэкі». З XIV ст. басейн Заходняй Дзвіны знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай увесь аказаўся ў складзе Расійскай імперыі.

[75] Рыга — цяпер сталіца Латвійскай ССР. Размешчана ля ўпадзення Заходняй Дзвіны (Даўгавы) у Рыжскі заліў. Заснавана ў 1201 г. епіскапам Альбертам, які ў наступным годзе перанёс сюды сваю рэзідэнцыю. У 1282 г. Рыга ўвайшла ў склад Ганзейскага саюза, потым трапіла пад уладу Лівонскага ордэна. З канца XIII ст. гараджане вялі барацьбу з ордэнам, якая спынілася толькі з яго падзеннем. У 1561 г. яны прысягнулі на вернасць польскаму каралю Сігізмунду II Аўгусту. У пачатку XVII ст. з-за Рыгі пачалася вайна паміж Швецыяй і Рэчай Паспалітай. У 1621 г. пасля доўгай асады войскамі Густава Адольфа Вазы горад быў захоплены шведамі і ўмацаваны. У 1656 г. Рыга асаджалася рускім войскам Аляксея Міхайлавіча.

[76] У 1613 г. Сямён Забароўскі разам са Сцяпанам Ушаковым быў пасланы да імператара Свяшчэннай імперыі Мацвея з прапановай «міру і брацтва». Ад імператара паслы павінны былі ехаць у Галандыю, каб папрасіць там дапамогі супраць палякаў і шведаў. 1.V 1614 г. яны прыбылі ў Гаагу, дзе галандскі ўрад выдаў ім 1000 гульдэнаў, але ў дапамозе адмовіў. У 1615 г. цар паслаў у Гаагу новых паслоў (Энциклопедический словарь, 1894, кн. 23, с. 91).

[77] Канкрэтных звестак пра гэту асобу няма.

[78] Гаворка ідзе пра палкоўніка запарожскага войска казака Дзяніса Мурашку, які ўзначальваў сялянскае паўстанне. Называючы яго гультаём, аўтар выяўляе тым самым сваю шляхецкую класавасць.

[79] Камень — былы маёнтак у Барысаўскім павеце, над р. Каменка (прыток р. Чарніцы). З'яўляўся спадчынай Тышкевічаў. Тут у 1657 г., у час руска-польскай вайны, казацкі сотнік Дзяніс Мурашка, які бунтаваў навакольных сялян супраць іх паноў, нейкі час меў сваю рэзідэнцыю. У наступным годзе яго атрад быў разгромлены мясцовай шляхтай пад в. Прусавічы. У тым жа 1658 г. мясцовая шляхта разбіла пад Каменем атрад пяхоты кн. Ю. А. Далгарукага. У 1754 г. жмудскі біскуп А. Тышкевіч пабудаваў у Камені драўляную царкву.

[80] Рэестр — так называўся ўстаноўлены польскім каралеўскім урадам абмежаваны імянны спіс украінскіх казакоў, якім дазвалялася несці ваенную службу. Гэтыя казакі называліся рэестравымі.

[81] Прусавічы — цяпер вёска ў Лагойскім р-не Мінскай вобл.

[82] Гэты абзац з тэксту ўспамінаў Яна Цадроўскага адсутнічае ў публікацыях Іосіфа Малышэвіча і Міхала Балінскага. Пад «дзедам» мемуарыст меў на ўвазе свайго бацьку.

[83] Юрый Аляксеевіч Далгарукі (? — 15.V 1682) — адзін з буйнейшых рускіх дзяржаўных дзеячаў у часы царавання Аляксея Міхайлавіча. Нашчадак даўняга княжацкага роду, які вёў сваё паходжанне ад замучанага ў Залатой Ардзе чарнігаўскага кн. Міхаіла Усеваладавіча. Сваю дзяржаўную службу пачаў у 1627 г. з пасады стольніка. У 1643 г. быў ваяводам у Веневе (цяпер горад у Тульскай вобл.). У дзень каранавання на трон цара (28.IX 1645) стаў акольнічым. У 1646 г., стаўшы баярынам, прымаў удзел у складанні Зводу законаў («Соборного уложения»). Тады ж атрымаў прызначэнне на пасаду ваяводы ў Пуціўль. Як любімец цара атрымліваў самыя важныя дзяржаўныя пасады. У 1649 г. стаў першым суддзёй прыказа Вышукных спраў. У 1654 г. актыўна праявіў сябе ў вайне з Рэчай Паспалітай: узяў Мсціслаў і Шклоў, змагаўся пад Слонімам, Мірам, Клецкам, Мышай і Сталовічамі, за што 17.XII 1655 г. атрымаў званне суздальскага намесніка. У 1656 г. прызна-

чаны другім ваяводам у Ноўгарад. Адтуль з вялікім войскам рушыў у Ліфляндыю, дзе злучыўся з войскам, якім камандаваў сам цар. Прымаў удзел ва ўзяцці Нарвы і Дэрпта. У маі 1659 г. цар паслаў яго на Украіну на дапамогу кн. Трубяцкому, які ваяваў супраць татараў, а крыху пазней прызначыў камандуючым войскам, якое дзейнічала ў Беларусі. Тут Далгарукі нанёс пад Вільняй знішчальнае паражэнне войску Вялікага княства Літоўскага і паланіў гетмана Вінцэнта Аляксандра Гансеўскага. У 1661 г. нанёс паражэнне гетману Паўлу Сапегу. У 1664 г. узначальваў перагаворы пад Смаленскам з камісарамі Рэчы Паспалітай аб умовах мірнага дагавору. У 1667 г. стаў начальнікам Казённага прыказа. У 1670 г. камандаваў карным войскам, якое падаўляла сялянскую вайну пад кіраўніцтвам Сцяпана Разіна. У 1673 г. вёў перагаворы аб міры са шведамі, а ў 1674 г.— з пасламі Рэчы Паспалітай адносна вылучэння Аляксея Міхайлавіча на вакантны тады каралеўскі трон. У свой час адыграў значную ролю ў царкоўным судзе над патрыярхам Ніканам. Незадоўга да смерці цар прызначыў Далгарукага апекуном свайго старэйшага сына Фёдара. Пры новым цары фактычна згубіў сваё былое значэнне. У час стралецкага бунту Далгарукі быў забіты.

[84] Вінцэнт Аляксандравіч Корвін-Гансеўскі (? — 29.XI 1662) — сын смаленскага ваяводы Аляксандра Гансеўскага і Евы Пац. З 1646 г. з'яўляўся харунжым Вялікага княства Літоўскага. Вучыўся ў Вільні, Вене і Рыме. Вярнуўшыся на радзіму, служыў пры двары Уладзіслава IV Вазы, які па просьбе канцлера Альбрэхта Радзівіла зрабіў яго вялікім стольнікам. В. Гансеўскі прымаў актыўны ўдзел у падаўленні нацыянальна-вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Б. Хмяльніцкага. Удзельнічаў у бітвах пад Кобрынам, Лоевам, Пінскам і Мазыром. У снежні 1650 г. быў маршалкам сейма. У 1652 г. кароль прызначыў яго літоўскім падскарбім (казначэем). У 1654 г. В. Гансеўскі стаў польным гетманам Вялікага княства Літоўскага, а з 14 верасня 1654 г., пасля смерці Гедэона Міхала Трызны, яшчэ і пісарам. У жніўні 1655 г. трапіў у палон да шведаў, а тым часам кароль Ян Казімір Ваза аддаў булаву гетмана віленскаму ваяводзе Паўлу Сапегу. Уцёкшы са шведскага палону, у 1651 г. В. Гансеўскі ўзначаліў разгром шведаў у Прусіі, там жа захапіў у палон Багуслава Радзівіла. З Прусіі пайшоў на Жэмайцію, Біржы. 21.X 1658 г. быў захоплены Ю. А. Далгарукім у палон, з якога быў вызвалены па абмену. Вярнуўся ў Літву ў сакавіку 1662 г., у лістападзе таго ж года быў расстраляны літоўскімі жаўнерамі.

[85] Польны гетман — пасада, уведзеная ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палавіне XVI ст., калі дворны гетман пачаў называцца польным (палявым). Звычайна камандаваў войскам, якое ахоўвала дзяржаўныя граніцы. Адначасова з'яўляўся намеснікам вялікага гетмана, якому падпарадкоўвалася земскае войска. Вінцэнт Корвін-Гансеўскі быў па ліку дзесятым польным гетманам княства (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, c. 154).

[86] Карл Янавіч Падоскі — прадстаўнік старажытнага шляхецкага роду Падоскіх, якія ў розны час займалі высокія сенатарскія пасады, былі сеймавымі пасламі і дзяржаўнымі камісарамі па розных справах. Нарадзіўся ў Мінскім ваяводстве. У час, калі рускае войска заняло гэта ваяводства, Карл Падоскі быў палкоўнікам. Падпісаў чалабітную цару Аляксею Міхайлавічу як смаленскі чашнік. Загінуў у сутычцы з рускім войскам у Ваўкавыскім павеце (Niesiecki K. Herbarz polski.— Lipsk, 1841, t. 8, c. 351).

[87] Камень Харэцкі, ці Ханецкі (зараз в. Камена),— вёска ў Лагойскім р-не Мінскай вобл., цэнтр сельсавета. Знаходзіцца ў 42 км на паўночны ўсход ад Лагойска (па дарозе з Плешчаніц на Зембін). Каліcьці тут была крэпасць.

[88] Барысаў — горад, цэнтр раёна Мінскай вобл. Паводле звестак В. М. Тацішчава, быў заснаваны полацкім кн. Барысам у 1102 г. пасля яго паходу на яцвягаў. У летапісах упершыню ўпамінаецца ў 1127 г., калі быў заняты кіеўскім кн. Мсціславам Уладзіміравічам. Каля 1199 г. адзін з полацкіх князёў пабудаваў тут свой замак і ўмацаваў яго. У канцы XIII ст. Барысаў аказаўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1431 г. быў разбураны ў міжусобнай барацьбе князёў Ягайлы, Свідрыгайлы і Сігізмунда Кейстутавіча. У 1542 г. увайшоў у склад Віленскага ваяводства, а ў 1563 г. атрымаў гарадскія правы і стаў цэнтрам староства. Гэтыя правы пацвярджаліся каралеўскімі граматамі Стэфана Баторыя (1577), Сігізмунда III Вазы (1595), Уладзіслава IV Вазы (1640) і Станіслава Аўгуста (1792). Пасля Люблінскай уніі 1569 г. Барысаўскае староства было ўладаннем кн. Агінскіх, потым — Радзівілаў і ўваходзіла ў склад Мінскага ваяводства. У час трынаццацігадовай руска-польскай вайны, у 1655 г., Барысаў быў заняты рускім войскам, у 1662 г.— палякамі. Да другога падзелу Рэчы Паспалітай знаходзіўся пад яе ўладай. У 1793 г. увайшоў у склад Рускай дзяржавы як павятовы горад спачатку Мінскага намесніцтва, потым губерні.

[89] Вялікдзень — вясенняе хрысціянскае свята, якое не мае пастаяннай даты. Прымяркоўваецца да трэцяй квадры месяца, якая наступае пасля веснавога раўнадзенства.

[90] Касцля — левы прыток Заходняй Дзвіны. Выцякае з аднайменнага возера ў Смаленскай вобл. Пад той жа назвай існуе сяло, якое ў часы Цадроўскага было дзяржаўным і ўладальніцкім. Размешчана яно на беразе возера Касцля, у 41 км ад Парэчча. Да нашага часу за сялом захаваліся земляныя валы, насыпаныя смаленскім ваяводам Міхаілам Барысавічам Шэйнам. У 1652 г. кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір Ваза падарыў Касплю Рыгору Мірскаму.

[91] Шляхецкі род Рымвідаў паходзіў з Упіцкага павета (Жэмайція). Нейкі Ілья Рымвід у 1621 г. успамінаўся ў спісе шляхты Жамойцкага княства. Магчыма, якраз ён з'яўляўся лідскім падстолім, а потым навагрудскім і ладзейскім падкаморым і старостам. Ілья Рымвід неаднаразова выбіраўся сеймавым паслом, выконваў разнастайныя даручэнні, а ў 1678 г. стаў лідскім маршалкам (Niesiecki K. Herbarz polski, 1841, t. 8, c. 210).

[92] Звесткі пра Крыштофа Мацкевіча знайсці не ўдалося.

[93] Скарбовы трыбунал разглядаў справы, якія датычыліся грашовых даходаў і расходаў Вялікага княства Літоўскага.

[94] Міхал Вішнявецкі (1640—1673) — польскі магнат, сын Іераміі Вішнявецкага і Грызельды Канстанцыі Замойскай. Пасля адрачэння ад трона караля Яна Казіміра Вазы па прапанове канцлера А. Альшэўскага 19.VI 1669 г. быў выбраны каралём Рэчы Паспалітай. У сваёй палітыцы быў бездапаможны, аказаўся пад уплывам сваіх прыдворных — польнага гетмана Д. Вішнявецкага, К. Паца і А. Альшэўскага, якія арыентавалі яго на саюз з Аўстрыяй. У 1672 г. прыхільнікі французскай арыентацыі запатрабавалі адрачэння Вішнявецкага ад каралеўскага трона. У выніку феадальных міжусобіц Рэч Паспалітая ў часы яго кіравання пад націскам турэцка-татарскіх і казацкіх войск страціла г. Камянец-Падольскі. Пасля няўда-

лай вайны з Турцыяй заключыў з ёю ганебны Бучацкі дагавор (1672). Але ён не быў зацверджаны, і вайна з туркамі аднавілася. М. Вішнявецкі раптоўна памёр у Львове 10.XI 1673 г.

[95] Іван Андрэевіч Хаванскі «Таратуй» (? — 17.IX 1682) — кіраўнік стралецкага паўстання 1682 г. Сваю радаслоўную вёў ад нашчадкаў пінскага кн. Нарымунта Гедымінавіча. Дзяржаўную службу І. А. Хаванскі пачаў пры панаванні Міхаіла Фёдаравіча Раманава. У 1650 г. стаў ваяводам Тулы, у 1651 г.— Вязьмы, у 1656 г.— Магілёва, а ў 1657 г.— Пскова. Там ён прымаў актыўны ўдзел у вайне супраць шведаў і ў маі 1657 г. пад Гдовам разграміў шведскага графа Магнуса дэ Лягардзі. У 1659 г. прымаў удзел у вайне супраць Рэчы Паспалітай і каля Друі разбіў атрад Валовіча. У студзені 1660 г. спаліў Брэст, затым адышоў да Ляхавіч, якія ўзяў у аблогу. Войска Рэчы Паспалітай пад камандаваннем Паўла Сапегі, Стэфана Чарнецкага, Палубенскага і Кміціца 18.VI 1660 г. пад Палонкай разбіла войска Хаванскага, і ён вымушаны быў уцякаць у Полацк. Папоўніўшы свае сілы, Хаванскі перамог Кміціца і захапіў яго ў палон. У лютым 1661 г. перамог полк Лісоўскага, але ў тым жа годзе быў разбіты Жаромскім. У выніку такой няўдачы быў адкліканы з Пскова. З 1663 г. пачаў загадваць Ямскім прыказам. У 1666 г. І. А. Хаванскі быў прызначаны ваяводам Ноўгарада. У 1678 г., у час вайны з туркамі, быў пасланы абараняць паўднёвыя граніцы дзяржавы. У 1680 г. вярнуўся ў Маскву і ў 1682 г. узначаліў Стралецкі прыказ. Пасля першага стралецкага бунту схіліўся на бок Міласлаўскіх і царыцы Соф'і, ад імя якіх 23.V 1682 г. запатрабаваў прызнаць царамі Івана і Пятра. За ўдзел у стралецкім паўстанні І. А. Хаванскі разам са сваім сынам Андрэем, які ўзначальваў Судны прыказ, 17.XI 1682 г. быў пакараны смерцю.

[96] Палонка — вёска ў Баранавіцкім р-не Брэсцкай вобл., раней мястэчка Навагрудскага павета. Знаходзіцца над р. Палонка, у 51 км ад Навагрудка. У 1506 г. літоўскі гетман Станіслаў Кішка і Міхал Глінскі атрымалі ля Палонкі перамогу над крымскімі татарамі. 26.VI 1660 г. гетманы Павел Сапега і Стэфан Чарнецкі тут нанеслі паражэнне І. А. Хаванскаму і захапілі ўвесь яго абоз.

[97] Пра Ляхавічы гл. камент. 2 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[98] Дзень біблейскіх апосталаў Пятра і Паўла прыпадае, паводле святцаў, на 29 чэрвеня (12 ліпеня па новаму стылю).

[99] Вядома толькі, што стольнік Крыштоф Казімір Клакоцкі памёр у 1684 г., будучы мінскім харунжым.

[100] Пра Свержань гл. камент. 79 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[101] Нёман — адна з галоўных рэк Беларусі і Літвы. У часы Цадроўскага была суднаходнай, пачынаючы ад мястэчка Свержань.

[102] Стэфан Чарнецкі (1599—1665) — адзін з самых значных польскіх палкаводцаў таго часу. Нарадзіўся ў Сандамірскім ваяводстве ў сям'і каралеўскага дваранiна Крыштофа Чарнецкага. Ваенную службу пачаў радавым салдатам пры Сігізмундзе III Вазе. Пад харугвай гетмана Каняцпольскага ўдзельнічаў у бітвах са шведскім войскам Густава Адольфа Вазы. У 1632 г. прымаў удзел у ваенным паходзе Уладзіслава IV Вазы на Смаленск, за што атрымаў ад караля зямлю ў Старадубскім павеце на Браншчыне. У званні гусарскага ротмістра пад камандай Мікалая Патоцкага падаўляў у 1638 г. казацкае паўстанне на Украіне. У званні палкоўніка прымаў удзел у бітве пад Ахматавам (1644), дзе прымусіў адступіць

татарскае войска. У бітве пад Жоўтымі Водамі (6.V 1648) сам трапіў у палон да татараў, адкуль вызваліўся толькі пасля Збароўскага перамір'я 18.VIII 1649 г. За бітву пад Берастэчкам (цяпер Вінніцкая вобл.) у 1651 г. атрымаў узнагароду — мястэчка Свінюхі на Валыні. У 1652 г. быў прызначаны абозным кароннага войска. У 1655 г. дваццаць дзён абараняў ад шведаў Кракаў, але вымушаны быў капітуляваць. Пасля трохмесячнага перапынку зноў уключыўся ў барацьбу з інтэрвентамі. Стаў героем партызанскай вайны супраць шведскага, брандэнбургскага і венгерскага нашэсцяў. Ваенныя поспехі прынеслі Чарнецкаму не толькі славу, але і пасаду кіеўскага кашталяна. У 1657 г., пасля Станіслава Лянцкаронскага, стаў рускім ваяводам у Заходняй Украіне. У тым жа годзе накіраваўся ваяваць на шведскае Памор'е, дзе ледзь не захапіў у палон Густава Вазу. У лістападзе 1658 г. зрабіў славутую пераправу на падуладны Даніі востраў Алсен. Пасля заключэння ў 1660 г. міру са Швецыяй С. Чарнецкі ваяваў з рускімі войскамі І. А. Хаванскага пад Палонкай, Ляхавічамі. Перамог у бітвах над Друццю і Басяй пад Магілёвам, дзе захапіў 150 харугваў. За гэта сейм навечна падарыў яму Тыкоцінскае староства. Апошнюю бітву на тэрыторыі Беларусі Чарнецкі правёў пад Глыбокім у 1661 г. Затым ваяваў на Украіне. Памёр у 1665 г. ад ран, якія атрымаў пры штурме Ставішчаў.

[103] Бярэзіна — самы вялікі пасля Дзясны прыток Дняпра. Працякае па тэрыторыі Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

[104] Тут, відаць, гаворка ідзе пра Стэфана Русецкага, шляхціца герба Равіч. Быў лідскім стольнікам, з 15 студзеня 1663 г. змяніў мінскага кашталяна на пасадзе Стэфана Кендзяржаўскага і займаў яе да смерці (1671) (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 111—112). Называючы яго людзей гультаямі, аўтар выяўляе тым самым свае класавыя адносіны да паўстанцаў.

[105] Павел Ян Сапега (? — 1667) — сын усвяцкага старосты Яна Пятра Сапегі і Соф'і Вейгяроўскай, віленскі ваявода, гетман Вялікага княства Літоўскага. Вучыўся ў Брунсбергу, ваенную кар'еру пачаў гусарскім ротмістрам. Удзельнічаў у паходзе караля Уладзіслава IV Вазы пад Смаленск (1633). Стаўшы гетманам, падаўляў нацыянальна-вызваленчую вайну Багдана Хмяльніцкага. У часы шведскай вайны належаў да нешматлікіх магнатаў, якія не пакінулі Яна Казіміра Вазу. П. Я. Сапега паклаў пачатак выгнанню шведаў з Рэчы Паспалітай (выдаліў іх з Любліна і ў 1656 г. трымаў іх у варшаўскай аблозе да таго часу, пакуль туды падаспеў сам Ян Казімір Ваза). Пасля разбіў шведаў у Прусіі, пад Просткамі і ўзяў штурмам Тыкоцінскі замак. У 1660 г. разам са Стэфанам Чарнецкім разбіў армію І. А. Хаванскага. Ва ўнутранай палітыцы П. Я. Сапега быў прыхільнікам патрыярхальнага ладу. Памёр у 1667 г. (Niesiecki K. Herbarz polski, 1841, t. 8, с. 246—248).

[106] Звестак пра Свяцкага знайсці не ўдалося.

[107] Відаць, маецца на ўвазе Хрызастом Юндзіл, брат навагрудскага ваяводы Самуіла Юндзіла — абодва яны ў часы панавання Яна Казіміра Вазы прымалі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці (Niesiecki K. Herbarz polski, 1839, t. 4, с. 511).

[108] Пра Станіслава Залескага, з якім Ян Цадроўскі ездзіў з пасольствам ад Мінскага ваяводства да Паўла Сапегі, вядома толькі, што ў 1674 г. ён быў мінскім гарадскім суддзёй.

[109] Пра Шклоў гл. камент. 138 да ўспамінаў Фёдара Еўлашоўскага.

[110] Новы Двор — населены пункт на левым беразе р. Бебжа. Цяпер знаходзіцца ў Беластоцкім ваяводстве Польскай Народнай Рэспублікі.

[111] Звестак пра гэту асобу знайсці не ўдалося.

[112] Васіль Барысавіч Шарамецеў (каля 1622—1682) — сын ад першага шлюбу Барыса Пятровіча Шарамецева. У 1646 г. быў пасланы з вартавым палком у Ябланава, а адтуль — у Ялец. У 1648 г. прызначаны начальнікам Уладзімірскага суднага прыказа, а праз год — першым ваяводам у Табольск, дзе быў да 1652 г. У 1653 г. стаў баярынам; тады ж яму быў даручаны паўднёвы вайсковы атрад, з якім ён накіраваўся пад Ахматава разам з Багданам Хмяльніцкім. Там трапіў у акружэнне татарскага і польскага войска пад камандай С. Патоцкага. Пры дапамозе Багуна Шарамецеў і Хмяльніцкі вырваліся пасля трохдзённага бою з акружэння і адступілі да Белай Царквы. У сувязі з гэтым Шарамецеў трапіў у няміласць цара і ўвесь 1655 г. не ўдзельнічаў у грамадска-палітычных падзеях. У 1656 г. прызначаецца ваяводам у Смаленск. Затым яго накіравалі ў Вільню, на літоўскі сейм з даручэннем паклапаціцца аб выбранні цара Аляксея Міхайлавіча на польскі трон. Але паколькі ў Вільні якраз пачалася маравая пошасць, даехаў ён толькі да Барысава. У 1658 г. Шарамецева прызначылі ваяводам у Кіеў, дзе яму давялося весці ўпартую барацьбу з Іванам Выгоўскім. Закончылася яна выбраннем на гэту пасаду сына Багдана Хмяльніцкага Юрыя. У 1660 г. Шарамецеў два месяцы змагаўся супраць польска-татарскага войска. Тым часам прыйшло паведамленне аб здрадзе Юрыя Хмяльніцкага. Шарамецеў вымушаны быў уступіць у перагаворы з палякамі і падпісаць дагавор, паводле якога царскае войска атрымлівала права свабоднага выхаду. Але палякі парушылі ўмовы дагавору і дазволілі татарам напасці на рускіх. У выніку Шарамецеў быў узяты крымскімі татарамі ў палон, у якім правёў дваццаць год. Вярнуўшыся адтуль, у 1582 г. В. Б. Шарамецеў памёр.

[113] Маецца на ўвазе Кірыла Восіпавіч Хлопаў, які ў 1658—1662 гг. з'яўляўся ваяводам у Барысаве, а потым замяніў кн. Васілія Багданавіча Валконскага на пасадзе пераяслаўскага ваяводы.

[114] Ян Сасноўскі — мазавецкі шляхціц. Пераехаўшы ў Літву, з 1648 г. быў віленскім падстолім. 29.VII 1654 г. стаў полацкім кашталянам. Вызначыўся тым, што абараніў Слуцк ад казакоў. Памёр у 1660 г. (Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 127).

[115] Тыкоцін — падляшскі горад на левым беразе р. Нарэў (цяпер тэрыторыя Беластоцкага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі). У XV ст. належаў Яну Гаштольду, у 1542 г. перайшоў ва ўладанне трокскага ваяводы Станіслава Гаштольда, пасля стаў уладаннем караля. У 1569 г. кароль Сігізмунд II Аўгуст падарыў яго свайму сакратару і бібліятэкару Лукашу Гурніцкаму. З 1581 г.— месца правядзення земскіх судоў. У 1642 г. кароль Уладзіслаў IV Ваза сваім прывілеем пацвердзіў гораду Магдэбургскае права. У час шведскай вайны Тыкоцінскі замак быў асаджаны шведамі. У 1657 г. войска гетманаў П. Я. Сапегі і В. А. Гансеўскага аблажыла гэты замак і, узяўшы яго, абрабавала. З 1661 г.— уласнасць гетмана Стэфана Чарнецкага, які ўстанавіў тут больш 20 гармат, захопленых ім у І. А. Хаванскага пад Палонкай у 1660 г.

[116] Януш XI Радзівіл (1612—1655) — унук Крыштофа Радзівіла Перуна, віленскі ваявода, гетман Вялікага княства Літоўскага. З'яўляючыся самым буйным і магутным магнатам у княстве, імкнуўся праводзіць знешнюю палітыку, незалежную ад Рэчы Па-

спалітай. Арыентаваўся на Гогенцолернаў, з якімі быў звязаны сваяцкімі сувязямі. Апекаваў кальвіністаў. Славіўся шчодрасцю і пышнасцю прыдворнага жыцця. Выхаванне атрымаў за мяжой. Пасля выбрання на трон Уладзіслава IV Вазы ездзіў паслом у Англію і Нідэрланды, каб паведаміць там аб гэтай падзеі. У 1646 г. Януш Радзівіл атрымаў булаву польнага літоўскага гетмана. Пасля смерці Уладзіслава IV Вазы дапамагаў яго брату Яну Казіміру стаць каралём. У час нацыянальна-вызваленчай барацьбы украінскага і беларускага народаў ваяваў з войскамі Багдана Хмяльніцкага ў Беларусі; у 1650 г. увайшоў на тэрыторыю Украіны, заняў Кіеў, удзельнічаў у баях пад Белай Царквой. У 1654 г. кароль Ян Казімір Ваза прызначыў яго вялікім гетманам. Тады ж у баях з рускімі войскамі Януш Радзівіл атрымаў перамогу пад Шкловам, а потым быў разбіты пад Шапялевічамі. Калі шведскі кароль Карл X Густаў заняў частку Рэчы Паспалітай, падпісаў з ім у Кейданах дагавор, які прызнаваў шведскі пратэктарат над Вялікім княствам Літоўскім. Шляхта і войска асудзілі Януша Радзівіла за гэты ўчынак. Памёр ён у 1655 г. у Тыкоціне, асаджаным Паўлам Янам Сапегай (Kotłubaj E. Galerja nieświźska, с. 133—154).

117 Вялікі чацвер — апошні чацвер перад вялікаднем.

118 Заслаўе (Ізяслаўль, Жэслаўль) — цяпер гарадскі пасёлак Мінскага р-на, на р. Свіслач. Паводле ўскосных звестак, быў заснаваны ў канцы X ст. вялікім кіеўскім кн. Уладзімірам і аддадзены ім жонцы Рагнедзе і сыну Ізяславу, якіх ён выдаліў з Кіева ў 985 г. Ізяслаў валадарыў тут да 1001 г. У летапісных крыніцах горад упершыню ўпамінаецца пад 1127—1128 гг. у сувязі з паходам вялікага кіеўскага кн. Мсціслава Манамаха ў Полацкую зямлю. У той час Ізяслаўль быў ужо добра ўмацаваным горадам, з'яўляўся цэнтрам удзельнага Ізяслаўскага княства. З XIV ст.— у складзе Вялікага княства Літоўскага. З 1539 г. стаў уладаннем Глябовічаў, з 1678 г. перайшоў да Сапегаў, а з 1755 г.— да падканцлера А. Пшэздзецкага. У XVI ст. горад карыстаўся Магдэбургскім правам. Тут існавала друкарня, у якой Сымон Будны ў 1574 г. выдаў на польскай мове свой пераклад Бібліі. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Заслаўе ўвайшло ў Расійскую імперыю (Семенов П. Историко-статистический словарь Русской империи, 1865, т. 2, с. 258—259).

119 Ежы Кароль Глябовіч (? — 18.IV 1669) — сын віленскага кашталяна Мікалая Глябовіча, анікштанскі, радашковіцкі і мсцібаўскі староста. Грамадскую дзейнасць пачаў з падстолія. 19.II 1648 г. быў сярод шляхты, якая падпісвала выбранне караля Яна Казіміра Вазы. Удзельнічаў у падаўленні нацыянальна-вызваленчай вайны Багдана Хмяльніцкага. Вёў у Белай Царкве перагаворы з Цяцерай і Валоўскім адносна заключэння перамір'я. 14.VIII 1653 г. атрымаў ад караля прызначэнне на пасаду жмудскага старосты. У 1569 г. камісар на перагаворах з Масквой. У чэрвені 1668 г. стаў пераемнікам Радзівіла на пасадзе віленскага ваяводы. Е. К. Глябовіч прымаў удзел у падпісанні Андросаўскага перамір'я, якім 30.I 1667 г. закончылася трынаццацігадовая вайна Рускай дзяржавы з Рэчай Паспалітай. Памёр у Заслаўі 18.IV 1669 г. (Соловьев С. М. История России с древнейших времен, т. 6, с. 174; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, с. 53, 75, 94, 302; Niesiecki K. Herbarz polski, 1839, t. 3, с. 33, 34).

120 Невядома, кім у дадзеным выпадку дапушчана памылка, бо Багуслаў Радзівіл паходзіў з літоўскай, біржанскай, лініі Радзіві-

лаў, а таму не мог быць прадстаўніком нясвіжскай лініі, да якой адносіўся Радзівіл Чорны.

[121] Дзедзелавічы — вёска, якая калісьці была ўладаннем Тышкевічаў. Цяпер знаходзіцца ў Барысаўскім р-не Мінскай вобл.

[122] Падрабязных звестак пра мінскага земскага пісара Фёдара Валатковіча знайсці не ўдалося. Вядома толькі, што ў 1656 г. ён з'яўляўся намеснікам мінскага кашталяна па ахове маёнткаў шляхты-апалчэнцаў, а ў сакавіку 1657 г., калі ваяводам быў Якаўлеў, выконваў абавязкі мінскага суддзі.

[123] Звестак пра Азямблоўскага, другога мужа братавай мемуарыста, знайсці не ўдалося.

[124] Далькавічы — вёска на беразе р. Цна, у Акалоўскім сельсавеце Лагойскага р-на. Калісьці тут быў замак.

[125] Падчашы — службовая асоба. У час цырыманіяльных урачыстасцей наліваў каралю віно і адпіваў ад яго глыток, каб праверыць, ці не атручана яно. Пасля гэтага віно каралю падаваў чашнік. Спачатку паміж гэтымі дзвюма службовымі асобамі асаблівай розніцы не было, і таму падчашага часта называлі чашнікам. Доўгі час у Вялікім княстве Літоўскім падчашы быў адной з першых асоб пры двары, часта вылучаўся ў сенатары. Але ў часы кіравання дзяржавай Уладзіслава IV Вазы тытул падчашага згубіў сваё ранейшае значэнне (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 383—385; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze, s. 208, 288).

[126] Звестак пра вёску ці маёнтак Фулькаўчаны знайсці не ўдалося.

[127] Пётр Кахлеўскі (? — 1647) — паходзіў са шляхецкага роду, радавое гняздо якога знаходзілася ў Серадзкім ваяводстве ў Польшчы. Адукацыю атрымаў за мяжой. Меў маёмасць у Нурцы на Падляшшы. Спачатку быў намеснікам брэсцкага кашталяна, потым стаў брэсцкім земскім суддзёй. У 1638 г. з'яўляўся паслом сейма. Тады ж быў прызначаны камісарам па адмежаванню Падляшскага ваяводства ад Брэсцкага і Люблінскага. Добра ведаў лацінскую і польскую мовы. На лацінскай мове пісаў вершаваныя творы. Але яго творы пераважна не друкаваліся. Вядомы толькі адзін верш П. Кахлеўскага, напісаны ў 1621 г. з прысвячэннем Янушу Радзівілу і надрукаваны ў Любчы пад назвай: «Lachrymae in obitum illustrissimi principis ac Dni Janusii Radivilli, castelano vilnensis, capitanaei borysovensis etc».

[128] Лаяліты — пагардлівая назва езуітаў, узнікла ад прозвішча заснавальніка гэтага найбольш рэакцыйнага каталіцкага ордэна Ігнацыя Лаёлы (1491—1556).

[129] Міхал Казімір Пац (?—1682) — сын трокскага ваяводы Пятра Паца, удзельнік войнаў з ворагамі Рэчы Паспалітай у часы караля Яна Казіміра Вазы. У 1663 г. заняў пасаду смаленскага ваяводы і булаву польнага літоўскага гетмана. М. К. Пац граміў шведаў у Курляндыі, у 1660 г. адваяваў Вільню, якая на працягу шасці год знаходзілася пад уладай рускага войска. У 1667 г. атрымаў булаву вялікага літоўскага гетмана. У 1668 г. перайшоў на бок шляхты, якая выбрала каралём Рэчы Паспалітай Міхала Карыбута Вішнявецкага. Меў моцны на яго ўплыў і таму быў прызначаны віленскім ваяводам. М. К. Пац з'яўляўся зацятым ворагам вялікага кароннага гетмана Яна Сабескага. І калі Сабескі быў выбраны каралём, стаў праводзіць супраць яго апазіцыйную палітыку, дзеля чаго ўступаў у сувязь з Масквой, Аўстрыяй і Брандэнбургам. Як гетман Вялікага княства Літоўскага М. К. Пац вызначыўся тым, што выдаў

вайсковыя статуты і абнавіў артылерыю (Wolff J. Pacowie.— Petersburg, 1895, с. 123—137).

[130] Вялікі гетман — галоўнакамандуючы. Пасада вялікага гетмана ў Вялікім княстве Літоўскім была ўведзена яшчэ ў 1497 г.— пры панаванні вялікага кн. Аляксандра (1460—1506). У дзяржаўным сенаце вялікі гетман займаў месца пасля вялікіх маршалкаў (Лаппо И. И. Великое княжество Литовское, т. 1, с. 665—667; Senatorowie i dygnitarze, с. 148).

[131] З 1674 г. каралём Рэчы Паспалітай быў Ян Сабескі (1629—1696), вядомы пад імем Яна III. Сын кракаўскага кашталяна Якуба Сабескага і Тэафілі Даніловіч, унучкі польскага палкаводца Станіслава Жулкеўскага, Ян Сабескі выхоўваўся ў патрыятычнай атмасферы. Закончыў Кракаўскую акадэмію і два гады (1646—1648) разам са сваім братам Маркам падарожнічаў па Германіі, Францыі, Англіі і Галандыі, дзе вывучаў замежныя мовы і фартыфікацыю, знаёміўся з заходнееўрапейскай літаратурай і грамадскай думкай. Вярнуўшыся на радзіму, у 1649 г. стаў яворскім старостам. У 1654 г. разам з Беганоўскім ездзіў паслом у Стамбул. У 1656 г. ваяваў супраць шведаў і венграў. У 1668 г. Ян Сабескі стаў вялікім каронным гетманам. Пасля адрачэння ад трона Яна Казіміра Вазы ў час выбараў караля падтрымліваў кандыдатуру французскага прынца Кандэ (кн. Лонгівіла) і выступаў супраць кандыдатуры Міхала Вішнявецкага. У 1671—1672 гг. узначаліў паходы супраць татараў і казакоў. У 1673 г. нанёс знішчальнае паражэнне туркам пад Хоцінам, што ў 1677 г. адкрыла яму дарогу да каралеўскага трона. У 1676 г. Ян Сабескі заняўся падрыхтоўкай антытурэцкай кааліцыі. З гэтай мэтай у 1683 г. уступіў у саюз з Аўстрыяй і 12 верасня разбіў турак пад Венай. У сувязі з турэцкай небяспекай і недружалюбнымі адносінамі да Рэчы Паспалітай яе саюзнікаў па Свяшчэннай лізе 1684 г. і ў адпаведнасці з карэннымі інтарэсамі сваёй дзяржавы Ян Сабескі стаў праводзіць палітыку супрацоўніцтва з Расіяй і ў 1686 г. заключыў з ёй «вечны мір». Імкнуўся ўмацаваць каралеўскую ўладу ў Рэчы Паспалітай, увесці ў ёй спадчынную манархію. Але ажыццяўленне гэтых планаў сарвала моцнае супрацьдзеянне магнатаў, якіх падтрымлівалі Аўстрыя і Брандэнбург.

## СЛОЎНІК ДА «ЎСПАМІНАЎ» Ф. М. ЕЎЛАШОЎСКАГА

Абовем — бо, таму што
Абых — каб
Амэн (Амін) — сапраўды так; канец (малітвы)
Ано — ды, ну
Архидиакон — старэйшы дыякан (у хрысціянскай царкве)

Бавити — займаць, забаўляць, цешыць
Бавитися — затрымліваццa, загульвацца
Балэмсе — баяўся
Бардзей — больш, усё больш
Бардзо (Барзо) — вельмі, надзвычай, надта
Беатус вір — набожны муж
Блона — шыба, абалонка з пухіра, якая ўстаўлялася ў акно замест шкла
Бовем — бо, таму што
Братовая — жонка брата
Брона (Брама) — вароты, арка
Бронити — абараняць, забараняць
Бурда — скандал, дэбош
Бэнде — будзе

Вадити — перашкаджаць, шкодзіць
Важити — узважваць, прымаць пад увагу
Ваковати — быць свабодным, незанятым
Вакуючое — свабоднае, вакантнае
Вальный — генеральны, усеагульны, агульнадзяржаўны
Варовати—каравуліць, аберагаць; умацоўваць (горад, абарону); абумоўліваць, выгаворваць
Варунэк — умова
Васня — сварка
В дродзе — у дарозе
Ведети (Ведзети) — ведаць
Ведле — паводле
Веле — многа, шмат
Велкон — вялікае
Вельце — вельмі, дужа, надзвычай
Вем — ведаю
Венцэй — больш
Весь — сяло, вёска
Ветовать — пратэставаць
Вколо — навокал
Вкупе — разам
Внет — зараз, хутка; адразу
Водле — паводле
Воеводянка — дачка ваяводы
Волати — клікаць на дапамогу; крычаць, выклікаць, заклікаць; патрабаваць, дамагацца, прасіць
Вонтпити — сумнявацца
Впредпокой — прыхожая, пярэдні пакой
Вресень — верасень
Врыхле — у хуткім часе
Вшак — аднак, ва ўсякім выпадку
Вшехмоцный — усемагутны
Вшитко (Вшистко) — усё
Вшисцы — усе
Възывати — зваць, заклікаць; звяртацца
Въсказанне — паказанне, указанне, рэкамендацыя, парада
Выбавять — выратоўваць
Выбити — пабіць, адлупцаваць
Выкупно — выкупам, водкупам
Вымовити — выказаць, дакарыць, адмовіць, папракнуць
Вымовитися — адмовіцца, адгаварыцца
Выстерегати — падкаравуліць
Выстэмповать — выступаць
Вэдле (Ведле) — поруч, побач
Вэдлуг — паводле, згодна, у адпаведнасці
Вэспол — сумесна

Вядомасць — вестка, паведамленне
Вязенне — зняволенне, цямніца, турма
Вязень — палонны, астрожнік, раб

Гамовати — стрымліваць, уціхамірваць, супакойваць, утаймоўваць
Гвяздар (Кгвяздар) — астролаг
Гды (Кгды) — калі
Глова (Кглова) — галава
Глосы (Кглосы) — чуткі, плёткі
Го (Кго) — яго
Голубинец — галубятня
Гонец — пасыльны са спецыяльным заданнем
Горючка — гарачка, ліхаманка
Господа — карчма, заезд, пастаялы двор
Гость — купец, прыезджы чалавек
Грабя (Кграбя) — граф
Грош — дробная разменная манета
Грудень (Кгрудень) — снежань
Гузики (Кгузики) — тут у пераносным сэнсе: балячкі, гузакі
Гура (Кгура) — верх
Гурм — гурт, натоўп

Двадесте — дваццаць
Двакроть — двойчы
Дисейшый — сённяшні, цяперашні; сучасны
Добра — маёмасць
Добротливый — добразычлівы; ласкавы
Дойзрене — разгляд
Дойзрети — убачыць, разгледзець; пасачыць, панаглядаць
Дотечы — высветліць
Досвятчить — паспытаць, спазнаць, зведаць
Дродза — дарога
Друкгды — у другі раз
Дэцэмбэр — снежань
Дьяк — дзяржаўны пісар у Расіі

Е — яго
Едэнасте — адзінаццаць
Ездный — коннік, праезджы
Елекцыя (Элекцыя) — выбары на якую-небудзь пасаду
Есень — восень

Жаден (Жадэн) — ніхто, ніякі, ніводзін
Жем (Жэм) — што я
Живот — жыццё
Жолнер — наёмны салдат
Жолнерова — салдатка
Жэ — што
Жэбы — каб
Жэсьмы — што мы
Жэсь — што ты

Забавеный — заняты, затрыманы
Забавять — займаць, забаўляць, праводзіць час, затрымліваць, весяліць, пацяшаць, гасціць
Забранне — рабунак
Завартися — зачыніцца, заперціся
Завартце — заключэнне
Заведеный — закладзены, заснаваны
Завше — заўсёды
Задаваць — абвінавачваць
Зазрость — зайздрасць
Зазябитися — прастудзіцца
Заказовать — загадваць
Залецати — раіць, рэкамендаваць, прапанаваць
Зануриться — пагрузіцца, акунуцца ў ваду, нырнуць
Запаль — гарачка
Заповетренне — зараза, атрута, моравая пошасць, чума
Заповетриться — заразіцца, захварэць, атруціцца
Запомненне — забыццё
Запомнялый — забыты, пакінуты
Запомняться — забыцца, пазабывацца
Заправде — сапраўды
Заразем (Заразом) — разам з тым, заадно, адначасова
Застава — заклад нерухомай маёмасці, залог
Зась — а, жа
Зафиценне — захапленне, зачараванне; трызненне
Зацный — чэсны, сумленны, добры, высакародны, прыстойны, знатны, слаўны
Зашитый лист — запячатанае або схаванае пісьмо
Заюшоный — раз'ятраны; закрываўлены
Збор — пратэстанцкі храм, абшчына

Збытэк — раскоша, пышнасць, празмернасць; свавольства
Звабеный — зваблены; перацягнуты
Звада — сварка
Звлашча — асабліва, галоўным чынам, пераважна
Звлока — затрымка, адклад
Звыкле — звычайна
Згола (Зкгола) — зусім, цалкам
Здане — думка, погляд, меркаванне; прапанова
Здрове — здароўе
Здумявшисе — здзівіўшыся
Зимно — холад, сцюжа
Зле — дрэнна, пагана; агідна, брыдка
Злецать — даручаць, прадпісваць
Змешкать — прабыць, пражыць, правесці час
Змовити — засватаць
Змысленый — выдуманы, фіктыўны
Знагла — раптам, нечакана, неспадзявана
Зношоный — цярпімы, нядрэнны
Знэдивши — прымусіўшы
Знэндзнеть — збяднець, змарнець
Зупелность — цэласць, поўны аб'ём
Зупелный — поўны, увесь, суцэльны
Зфрасоваць — занепакоіць
Зэзнавать — паказваць, сведчыць
Зэгар — гадзіннік
Зэгаровый — гадзіннікавы
Зэмдлеть — самлець
Зэшлый — мінулы, былы; мёртвы чалавек
Зэштя з свята — памерці; смерць

Иж — што, бо, таму што
Издебка — пакойчык, каморка
Индей — у іншым
Инкубас — хвароба, гарачка, пры якой губляецца прытомнасць
Инстигаторство — судовае абвінавачванне
Инсымплио — у ардынарнай цане
Испуст — вадазліў, месца ў млыне, дзе льецца вада

Казнодей — прапаведнік
Каменица — цагляны будынак
Канцлерына — жонка канцлера
Капец — невялікі насыпны ўзгорак для абазначэння мяжы ці граніцы (звычайна з драўляным слупком у цэнтры)
Кветень — красавік
Кветневы — красавіцкі
Килькон — некалькі
Клотня — сварка, разлад
Кляштар — каталіцкі манастыр
Кольвек — як-небудзь
Конклюдовать — рэзюміраваць, рабіць вывад або заключэнне
Конституция — сеймавая пастанова
Конт — кут, вугал
Конюшина — жонка загадчыка каралеўскай канюшні
Копа — шэсць дзесяткаў
Копец — гл. Капец
Корыстити — мець з чаго-небудзь карысць
Кревкость — запальчывасць, гарачнасць, моц
Кроть — раз
Куситься — імкнуцца, спрабаваць
Кухмистр — кулінар, прыдворны кухар

Ланцужно — у ланцуг
Ленкатися — баяцца, палохацца
Липец — ліпень
Ложко — ложак
Лудити — маніць, ашукваць; вабіць, чараваць

Маетность — маёнтак, маёмасць, багацце; двор, зямельнае ўладанне, скарб
Малженство — шлюбная пара, шлюбнае сужыццё
Малжонка — жонка
Мандат — выклік у суд; каралеўскі ўказ, пісьмовае распараджэнне
Маршалковати — старшынстваваць; кіраваць
Машкара — вырадак, страшыдла, пачвара
Мдлети — млець, слабець, заміраць, губляць прытомнасць
Мдлый — слабы, кволы, чахлы, змарнелы
Ме — мяне
Мерзить — брыдзіць, выклікаць агіду, быць прыкрым
Место (Място) — горад, мястэчка

Мешкать — жыць, пражываць, знаходзіцца
Мешчаючы — жывучы, часова пражываючы
Мияти — мінаць, абганяць, аб'язджаць
Мней — менш, менш за ўсё
Мнеманье — меркаванне, думка
Мнемати — меркаваць, лічыць, думаць, уяўляць
Мнон — мною
Мысливство — паляванне
Мэнжне (Менжне) — мужна, храбра, бясстрашна
Мэнжны — мужны, храбры; рослы, статны
Мялэмсе — меўся, адчуваў сябе

Надэр — надзвычай, занадта, завельмі
Надто — звыш таго, апрача таго, у дадатак
Назаютр — назаўтра
Найвенцэй — больш за ўсё, найбольш
Найветшы — найбольшы, самы вялікі
Накгонять — прыдбаць, узбагаціцца
Накгродиться — узнагародзіцца, павялічыцца (у багацці)
Наклад — затрата, выдаткі
Намней — менш за ўсё, менш; нічога
Намнейшей розности—ніякай розніцы
Намова — падбухторванне, угавор, навучанне, пераконванне
Нань — на яго
На он час — у той час
Напомнеть — звярнуць увагу, зрабіць заўвагу, павучаць
Наютро — назаўтра раніцай
Небачный — неасцярожны, бяздумны, неразважлівы, бязглузды
Невчас — страта, нягода, гора, няшчасце; несвоечасова; недарэчы
Невыповеданый — невымоўны
Негдысь (Некгдысь) — некалі
Незапаметане — незабыўчывасць, увага
Незбожный — бязбожны
Немней — тым не менш, усё ж, нягледзячы на гэта
Необаченне — неасцярожнасць
Непагамованый — неўтаймаваны, гарачы
Неснаска — сварка, разлад
Неуставичность — няўстойлівасць, зменлівасць, бесперапыннасць
Нехуть — нежаданне, неахвота; непрыхільнасць, варожасць
Нецнота — нягоднік, лайдак, гультай, паганец; подласць, ганебнасць
Нецнетливый — недабрачынны, подлы, агідны, гнюсны
Никды (Никгды) — ніколі
Ниц — нічога; зусім, нікольні, нішто
Новембр — лістапад
Нурт — цячэнне, ход

Обесить — павесіць
Обетница — абяцанне
Обешене — павешанне
Облуда — крывадушнасць, ханжаства
Облудный — крывадушны, хітры
Облудник— падманшчык, манюка
Обмова — паклёп, нагавор
Обмовити — абгаварыць, плятkарыць; асудзіць
Обовятися — баяцца, асцерагацца
Обоз — лагер
Оброна — абарона
Обсервовати — назіраць, адзначаць
Обумерти — змярцвець, абмерці
Обфитый — багаты, шчодры
Ов — той
Огон (Окгон) — хвост
Оддатэк — ахвяраванне, аддаванне
Одтонд — з таго часу, з гэтага моманту, адсюль, з гэтага месца
Озор — язык
Ознайменне — абвяшчэнне, заява, паведамленне
Окрутный — жорсткі, люты, страшэнны
Омешкать — прамарудзіць, прамінуць, прапусціць
Онь — аб ім
Опатрене — агляд
Опатроване — апека
Орация — урачыстая прамова
Ослава — дрэнная слава, ганьбаванне

Отворены лист — незапячатанае пісьмо
Отмитка — помста
Ото — вось
Отуха — бадзёрасць, надзея, суцяшэнне
Очевисте (Очевисто) — відавочна
Очекивать — чакаць

Паздэрник — кастрычнік
Паль — кол, свая
Паньство — дзяржава, панове, муж і жонка
Парализ — параліч
Папеж — папа рымскі
Пенкне (Пекне) — цудоўна
Пенези — грошы
Пенкный — цудоўны, прыгожы, выдатны
Перелекненне — спалох
Пересторокга — засцярога, папярэджанне
Перси — грудзі
Пешня — лом
Пильновать — сачыць
Пляга (Плякга) — няшчасце, удар лёсу, бяда
Побор — падатак, збор падатку
Поваженне — павага, пашана, увага
Поведети — паведаміць, сказаць
Поветре — пошасць, эпідэмія
Повинный — абавязаны
Погласкивать (Покгласкивать) — пагладжваць, пагалубіць
Погреб — пахаванне
Поеднанне — мір, згода, прымірэнне
Пожэгнать (Пожэкгнать) — расстацца, развітацца
Позасядать — рассесціся
Позов — выклік
Покуса — спакуса, спакушэнне
Покрыть — схаваць, утаіць
Полрока — паўгода
Полтреть — два з палавінай
Полчварта — тры з палавінай
Помешкане — кватэра, жыллё
Понеконд — у пэўнай ступені, часткова, нейкім чынам
Поомешкать — затрымацца
Порватися — кінуцца, выступіць, адважыцца
Поровнане приятельское — прымірэнне
Порутить — кінуць
Порушене — хваляванне, абуджэнне
Порушить — зрушыць, перапыніць
цяжарнасць
Посполитый — звычайны, просты, агульны; публічны
Пострах — страх, жах
Потрафить — здолець
Потреба — неабходнасць, справа
Потужность — узмацненне
Потэнга (Потэнкга) — сіла, моц, магутнасць, дзяржава
Потэнжне— вельмі моцна
Пофрасовать — патурбаваць, панепакоіць, патрывожыць
Похибити — не выканаць абавязку, праявіць непашану
Похлебство — ліслівасць, падлізванне, падхалімаж
Почастить — прывітацца, аддаць чэсць
Правный — юрыдычны, прававы, законны
Практыка — таінства, маніпуляцыя
Практыковать — прадракаць, прадказваць, займацца чым-небудзь
Преднейшый — папярэдні; лепшы, выдатны, надзвычайны
Предэднем — на досвітку
Предсе — усё ж, аднак
Прееште — праход, праезд
Презентовать—прад'яўляць, прадстаўляць
Презрене (Прейзрене) — наканаванне
Презыск — выйграная судовая справа
Преложить — перакласці, растлумачыць
Преложоный — начальнік
Премовить — прамовіць
Премова — прамова, казанне, пропаведзь
Препрашати — прасіць прабачэння
Препхнуть — прапхнуць
Преставати — схіляцца на чыйсьці бок
Престрокга — гл. Пересторокга
Прето — таму
Прешлый— мінулы
Преязд — переезд
Превиль (Привилей) — даравальная каралеўская грамата

Прикгода — здарэнне, прыгода
Призволяти — дазваляць
Примире— перамір'е
Припадэк — здарэнне, выпадак
Припадать — здарацца
Припадлость — недамаганне, хвароба, немач, слабасць
Приповесть — павучанне, выслоўе, афарызм
Притомне — свядома, цвяроза
Пришлый — наступны
Пробатио — паслушэнства
Пробатус — сэнс, рацыя
Продковать — быць першым на атрыманне спадчыны
Пророковать — прадказваць
Протестация — пратэст
Прото — гл. Прето
Прошивати — запрашаць
Прудко (Прэндко) — хутка, скора, у хуткім часе
Прыгодне — выпадкова
Пшэпрашать — гл. Препрашати
Пыха — ганарыстасць, фанабэрыстасць, пагарда

Рада — парада; дзяржаўны савет
Радней — тым больш, хутчэй, мацней
Ражене — нараджэнне
Рачити — мець ласку, спрыяць, хацець, зычыць, дбаць
Ректи — сказаць
Респонс — адказ
Рецедив — аднаўленне, паўторнае праяўленне чаго-небудзь
Ркомо — як быццам, нібы
Робак — чарвяк
Робачэк — чарвячок; малы чалавек
Рок — год, тэрмін
Роки (Рочки) — судовыя сесіі (пасяджэнні)
Роскazанне — загад, распараджэнне
Ростропность — разважлівасць
Ротмистр — афіцэрскі чын у кавалерыі
Рукоданне — падарунак
Рутити — кінуць, шпурнуць
Рыхло (Рихло) — хутка
Рэнка — рука
Рэц (Ректи) — сказаць

Самотреть — сам трэці, адзін супраць двух
Свый — свой
Серпень — жнівень
Сестраница — пляменніца
Сестрынец — пляменнік
Сесь — гэты
Сивец — пажылы чалавек
Сила — мноства, безліч
Скутэчный — афектыўны, дзейсны
Слудзы — слугі
Снадней — зручней, выгадней; дакладней
Снать — відаць, відавочна
Сознане — прызнанне
Совитость — мноства, багацце, шчодрасць
Спарты — прыпёрты
Спикненне — змова, загавор
Списковать — змаўляцца
Споро — шмат, значна, спорна
Спленровать — абрабаваць, спустошыць, зруйнаваць
Сповиновацьэнне — сваяцтва
Справованне — здзяйсненне; паводзіны; выкананне абавязкаў
Спривроцать—вяртаць, аднаўляць
Спросьно — непрыстойна, распусна, разбэшчана
Спрудко — хутка, шпарка
Спысковать — даць аплявуху
Срокга (Сроrо) — жорстка, сурова
Став — запруда ў вадзяным млыне
Стадола — гумно; канюшня каля заезджага дома
Старастич — сын старосты
Стонд — адсюль, з гэтага месца; з гэтай прычыны
Стравити — дарэмна правесці час
Ступовати — гл. Стравити
Стычень — студзень
Стяти — абезгаловіць, адсячы
Сынова — нявестка
Сырница — сыраварня
Сэймовать — засядаць у сейме
Сэндзя — суддзя

Тамтэн — той
Тартисе — разыходзіцца ў поглядах, спрачацца
Твичене — гл. Цвиченне
Тесы — меткі на дрэве, зацёсы
Тлукти — трушыць, таўчы
Тогорочный — таго года, мінулагодні
Трактат — дагавор

Трафити — папасці, трапіць, наткнуцца, спаткцаь
Триб — парадак, лад, звычай
Тушить — жадаць, спадзявацца, мець надзею
Тэн — гэты
Тэраз — зараз, цяпер
Тэразнейшы — цяперашні, сучасны
Тэскнить (Тэнскнить) — сумаваць, тужыць
Тыйдзень — тыдзень

**У**безпечить — засцерагчы ад небяспекі
Ублагать (Ублакгать) — упрасіць
Угода — згода, прымірэнне
Удатися — накіравацца
Узгон (Узкгон) — наезд
Узычене — пазыка
Уймовать — брацца, трактаваць, вызначаць, выражаць; растлумачваць
Укновать — задумаць, арганізаваць змову
Улекнутися — спалохацца
Ульга (Улькга) — палёгка, ільгота
Умеетность — уменне, навука
Умацованы — даверааны, упаўнаважаны
Универсал — указ, цыркуляр
Уния — згода, саюз
Упатрить — убачыць, адшукаць, высачыць
Упоминать — рабіць заўвагу, пераконваць, раіць, павучаць, угаворваць
Упреймость — ветлівасць, пачцівасць, далікатнасць
Уприкненне — прыкрасць
Урода — прыгажосць, статнасць; знешні выгляд
Уряд — пасада
Усмирити — супакоіць
Уставичне — пастаянна, увесь час, няспынна
Устрецсе — уберагчыся
Уфольговать (Уфолькговать) — патураць
Учинность — спагадлівасць, чуласць, паслужлівасць
Учтивость — гл. Упреймость
Учта (Чта) — банкет, банкетаванне

Фебра (Фэбра) — ліхаманка, гарачка
Фрасовати — турбаваць, непакоіць
Фрасунак—клопаты, смутак, журба, жаль
Фримарк — гандаль, абмен, спекуляцыя

**Х**лоп — мужык, селянін; нявольнік
Хоругва — сцяг; вайсковая адзінка
Хруст (Хрост) — хмызняк
Хцэ — хоча

**Ц**виченне — навучанне, выхаванне, навука, трэніроўка
Цнатливый — прыстойны, дабрачынны, дабрадзейны
Цо — што
Цорка — дачка
Цось — штосьці, крыху
Цофнутися — адступіцца, падацца назад, вярнуцца
Цэдула — папера, скрутак, пісьмовае паведамленне
Цэсар — імператар; цар

**Ч**апка — шапка
Чапковать — вітацца
Частокроть — вельмі часта
Чвэртак — чацвер
Чили — або
Чирвец (Червец) — чэрвень
Чоло — лоб
Чта — гл. Учта (Чта)

**Ш**ата — плашч, верхняя вопратка, адзенне, убор
Шановать — ацэньваць; паважаць, шанаваць
Швакгер — швагер
Шванк — шкода, страта
Шванковать — мець недахоп, кульгаць
Шидити — здзекавацца, насміхацца, кпіць
Шик (Ших) — баявы парадак, строй
Шиковатися — рыхтавацца
Шпекги — шпіёны
Штрофовати (Страфовати) — адчытваць, рабіць заўвагу

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁН *



* Каралі, цары, вялікія князі, іх жонкі і асобы духоўнага стану даюцца ў паказальніку па імёнах, іншыя асобы — па прозвішчах.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

ЗМЕСТ

**ПАМЯТНИКИ**
**МЕМУАРНОЙ ЛИТЕРАТУРЫ**
**БЕЛОРУССИИ XVII в.**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар В. І. Савельева
Мастак С. Ц. Саўчанка
Мастацкі рэдактар Л. І. Усачоў
Тэхнічны рэдактар В. А. Віценка
Карэктар З. А. Гусельцава

ІБ № 1665

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 02.08.83. Падпісана ў друк 17.11.83. АТ 16918. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 5,5. Ум. друк. арк. 9,24. Ум. фарб.-адб. 9,4. Ул.-выд. арк. 12,1. Тыраж 1000 экз. Зак. № 1456. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.